№6 (115)
/лістапад-снежань/ 2021

# дзеяслоў

ЗМЕСТ

**Паэзія**

**Уладзімір Някляеў.**
Літвіны.
*Драматычная паэма ў дзвюх дзеях.* / 5
**Васіль Жуковіч.**
Memento mori. *Вершы.* / 95
**Валеры Дубоўскі.**
Чоў. *Вершы.* / 121
**Віктар Слінка.**
...Дзе спыняецца сэрца й гадзіннік.
*Вершы.* / 157

**Проза**

**Віктар Казько.**
Не ежа таленту, а наедак. *Аповесць.* / 64
**Барыс Пятровіч.**
Бунт на караблі, які плыве з нікуды ў нішто.
*З нізкі "Спецкар".* / 107
**Адам Глобус.**
Як той казаў, або Твары прыказак... / 135
**Міхась Булавацкі.**
Ляжаць сем год. Аповед. *(Працяг).* / 165

**Дэбют**

**Яніна Равяка.**
Незакрэсленыя радкі. *Вершы.* / 176

**Пераклады**

**О. Генры.**
Пакуль чакае аўтамабіль. *Два апавяданні.*
*Пераклад Кацярыны Смякаевай*
*і Аліны Нячай.* / 181
**Вечаслаў Казакевіч.**
Нітка. *Два апавяданні.*
*Пераклад Веры Лойка.* / 190

**Тэатр**

**Анастасія Лазебная.**
Мадыстка з Парыжа.
*П'еса ў трох дзеях.* / 202

**Запісы**

**Леанід Дранько-Майсюк.**
Старонкі з "Памятнай кніжкі". / 214

**Словы**

**Сяргей Чыгрын.**
"Трэба душы не даваць заснуць..."
*Гутарка з Міхасём Казлоўскім.* / 220

**Гедройц**

**Наста Грышчук.**
Некароткі тэкст пра кароткі спіс Гедройця: нататкі сябра журы. / 226

**Кнігапіс**

**Анатоль Брусевіч.**
Паміж святлом «ON» і цемрай «OFF». *Рэцэнзія на кнігу Стаса Ільіна «On – off».* / 238

## Уладзімір Някляеў



...Цячэ між двух высокіх берагоў
Літва да мора з назваю Любоў, –
Нам так яе вякамі не хапала!
Крыві было зашмат. Любві было замала...

# Літвіны

### *Драматычная паэма ў дзвюх дзеях*

**Дзейныя асобы:**

ГЕДЫМІН, вялікі князь літоўскі
ЕЎНА, трэцяя жонка Гедыміна
АЛЬГЕРД, на пачатак дзеі – 24 гады, сын Гедыміна ад другой жонкі (Вольгі)
КЕЙСТУТ, на пачатак дзеі – 23 гады, сын Гедыміна ад другой жонкі
ЯЎНУТ, на пачатак дзеі – 12 гадоў, старэйшы сын Гедыміна і Еўны
ВОІН, князь полацкі, родны брат Гедыміна
МАРГЕР, стрыечны брат Гедыміна
ДАНІЛА, каморнік Гедыміна
АНДРЭЙ, сын Альгерда
ДАВЫД, князь гарадзенскі, зяць Гедыміна
ЛУГВЕН, на пачатак дзеі – 18 гадоў, пазашлюбны сын Давыда
НАРЫМОНТ, старэйшы сын Гедыміна ад першай жонкі
ТАМАЗА ТУСКОЛА, легат папы рымскага
МАЦЕЙ, стражнік, давераная асоба Гедыміна
КАРНЕЙ, падчашы

ЛЮБАРТ, сын Гедыміна і Еўны (8 гадоў)
КАРЫЯТ, сын Гедыміна і Еўны (6 гадоў)
СТАСЬ, крэўскі ганчар
СТРАЖНІКІ
СТОЛЬНІК
СВЕДКА
КНЯЗІ, ВЯЛЬМОЖЫ, ГОСЦІ

## ДЗЕЯ ПЕРШАЯ
## ГЕДЫМІН

### ДЗЕЯ ПЕРШАЯ, СЦЭНА ПЕРШАЯ

Пачатак 1320-х гадоў. Паляўнічая зала ў новым замку вялікага князя Гедыміна ў Вільні. У зале *Гедымін*, ягоны стрыечны брат *Маргер*, сыны Гедыміна *Альгерд* і *Кейстут*.

ГЕДЫМІН
Нарэшце перабраліся мы з Трокаў
У новы замак на гары высокай.

МАРГЕР
Высокая гара...

ГЕДЫМІН
Высокая. Як слава,
Што нас чакае. Нашая дзяржава
Моц набірае. Будуць маскавіты
І крыжакі з палякамі пабіты,
Мы будзем шырыцца адсюль
ва ўсе бакі!

ДАНІЛА, *уваходзячы*
Да князя перабежчык.

ГЕДЫМІН
Хто такі?

ДАНІЛА
Не кажа ён. Адказ адзін: да князя
З сакрэтнай весткай.

ГЕДЫМІН
Хай вядуць сюды.

ДАНІЛА, *падаючы знак стражнікам за сцэнай*
Ён для сакрэтаў надта малады.
Хіба што пра дзяўчат...
*(Стражнікі ўводзяць Лугвена.)*

ГЕДЫМІН
Ва ўсякім разе
Паслухаем...
*(Да Лугвена.)*
Як зваць цябе?

ЛУГВЕН
Лугвенам.

АЛЬГЕРД
Ты нейкі ледзь жывы.
І нават пахнеш тленам.
Адкуль ідзеш?

ЛУГВЕН
З Масквы.

АЛЬГЕРД
Куды?

ЛУГВЕН
Да Вільні.
Да вас.

АЛЬГЕРД
Дык ты да нас дайшоў якраз.
Чаму ўсё ж выгляд у цябе магільны?

ЛУГВЕН
Бо я ў магіле быў...

АЛЬГЕРД
І доўгі час?

ЛУГВЕН
Нядоўгі, дзякуй Госпаду. Князь Юры,
Які з людзей жыўцом здзірае скуры,
Мяне ў магілу закапаў жывым.

МАРГЕР
Такое, кажуць, водзіцца за ім.

ГЕДЫМІН
За мной таксама.
*(Да Данілы.)*
Дай яму вады...
*(Да Лугвена.)*
Дык твой сакрэт у чым?

ЛУГВЕН, *п'ючы*
Вярнуўшыся з Арды
Таму паўгода... ад Узбека... хана...
Князь Юры брата роднага... Івана
З татарамі паслаў да крыжакоў
Для перамоў...

АЛЬГЕРД
Якія перамовы?
Каго і з кім? Ды толькі пень яловы
Паверыць, што з Масквою крыжакі
Сумовіцца захочуць! Сэнс які
Перамаўляцца моцным са слабымі?

ГЕДЫМІН
Татары не слабыя. Разам з імі
Маскоўскі князь таксама не слабы.

АЛЬГЕРД
Ён не слабы хіба што для гульбы,
Васал ардынскі! Ён свайго суседа,
Цвярскога князя, адалець не змог.

ЛУГВЕН
Клянуся Богам...

АЛЬГЕРД
Не маскоўскі бог
У нашым краі! Тут свае багі!
Не будзе ні маскоўскай тут нагі,
І ні крыжацкай тут нагі не будзе,
І ні ардынскай!..

КЕЙСТУТ *да Альгерда*
Ён у перапудзе.
Ты не крычы.

ДАНІЛА, *зноў даючы Лугвену папіць*
Слабы ўсё ж там народ.

ЛУГВЕН
Арда на вас рыхтуецца ў паход
У тайнай змове з рускімі князямі
І з крыжакамі, бо яны за вамі
Адчулі сілу. Вось у чым сакрэт.

АЛЬГЕРД *з'едліва*
Спрадвек не чуў такіх сакрэтаў свет!

ЛУГВЕН
І ёсць яшчэ адзін... Быў з Кракава пасол
У князя Юрыя...

АЛЬГЕРД
І што пілі?.. Расол?

КЕЙСТУТ
Альгердзе! Памаўчы хоць пяць хвілін!

ЛУГВЕН
Дык той пасол сказаў, што Гедымін
Прасталюдзін, што ён не княскі сын,
А конюх, які князю галаву
Адсек ды згвалціў князеву ўдаву,
І з ёю ажаніўшыся, стаў княжыць...

АЛЬГЕРД
Я галаву табе жывому адарву!..
*(Напружаная паўза.)*

ГЕДЫМІН
Ці мала што пра нас палякі кажуць...
*(Да Данілы.)*
Вядзі яго на кухню. Хай накормяць.

ЛУГВЕН
Я, князь, не з чэлядзі!..
                    І я не з вашай дворні.
Не за аб'едкі з вашага стала
І не за грошы з вашага куфэрка
Я столькі вёрст прайшоў...

МАРГЕР
А скуль твая магерка?
Хіба ў Маскве такія шапкі ёсць?

ЛУГВЕН
Я ў князя Юрыя паўгода быў як госць.

АЛЬГЕРД
Ты госцем князя быў? З якой жа ты
пароды?

ЛУГВЕН
Нальшанскі я. З Даўмонтавага роду.

АЛЬГЕРД
Таго Даўмонта, які збег у Пскоў?
Які забіў Міндоўга? Потым кроў
Пускаў такую ў Нальшы, што ўсе рэкі
Там скрывянелі, выйшлі з берагоў!..
*(Да Гедыміна.)*
Ты помніш, як Даўмонтаў сын навекі
Пракляты быў багамі? Крыжакам
Хацеў прадаць Літву! Стаў здрайцам!
І ты сам
Яго рассек у Троках напалам!
А зараз верыш ты нашчадку здрады?..

МАРГЕР *да Лугвена*
Ну... Што на гэта скажаш ты князям?

ЛУГВЕН
Я не чакаў, што тут мне будуць рады,
Бо сапраўды мой дзед Літву паліў,
Літвінам быў, а кроў Літвы праліў,
І сапраўды адзін з яго сыноў
Хацеў Літву і ўсіх яе багоў
Пад крыжакоў аддаць,
каб князем стаць... Ён здраду
Пусціў у сэрца – чорную змяю,
Якая атруціла кроў маю,
Кроў усяго даўмонтавага роду,
Што з рук не выпускаў мячоў і дзід!..
*(Да Гедыміна.)*
Ды здраднік быў Пялюза! А Давыд,
Другі Даўмонтаў сын, твой ваявода.
І бацька мой.

МАРГЕР
Вось гэта ў нас прыгода!
Князь гарадзенскі бацька твой?

ЛУГВЕН
Так. Ён.

ГЕДЫМІН
Дык ты Давыдаў сын?..
*(Да Данілы, які адразу выходзіць.)*
За князем наўздагон
Найлепшых нашых вершнікаў і коней!

МАРГЕР
Давыда не дагнаць. Няма такой пагоні...
*(Да Лугвена.)*
А маці хто твая?

ЛУГВЕН
Нальшанская князёўна
Купалінка.

АЛЬГЕРД
Хто-хто?..

ЛУГВЕН
Купалінка. Князёўна.

АЛЬГЕРД *з'едліва*
Дык ты з князямі ці з багамі роўны?

ГЕДЫМІН
Мы разбярэмся ў гэтай радаслоўнай...
*(Ківаючы на Лугвена)*
Ілжэ – з крывёй. А не ілжэ – бяскроўна.

АЛЬГЕРД
Не выйдзе без крыві там, дзе Даўмонт
ступіў...

ЛУГВЕН
Ён помсціў! Ён Міндоўгу кроў пусціў,
Каб змыць зняважу! Бо забраў Міндоўг
Падманам жонку!

АЛЬГЕРД
Не Літва ж забрала!

ЛУГВЕН
Але Літва яго, як воўка, гнала!

АЛЬГЕРД
І хай бы ён, як воўк, у лесе здох!
Каб на яго гнілое ўпала дрэва!

Не толькі Нальшу ён, не толькі Крэва –
Наваградак паліў! Літвы сталец!..
Канец размове!..

КЕЙСТУТ
Ну, чаму канец?
Ён не Даўмонт.

АЛЬГЕРД
Але яго радня!

КЕЙСТУТ
І што, калі радня? Радня і ноч для дня.
У кожнага, ва ўсіх было нямала
Такой радні, што лепш бы не бывала.

МАРГЕР *да Лугвена*
Скажы мне, хлопча... А ты любіш сала?
З цыбулькай, перцам, кмінам...
*(Да Альгерда.)*
Бачыш: аж
Звяло ўсе зубы хлопцу... Хлопец наш!
Маскаль бы сала так не захацеў,
Не мае ён да сала гэткай цягі.

АЛЬГЕРД
Цікавыя аднак пайшлі развагі.
Хто сала есць – той наш. А я кажу:
ён шпег!
І ён да нас засланы, а не збег!

ДАНІЛА, *вяртаючыся*
Паслаў пагоню. Але паскакалі
Так, быццам сена коням не давалі.

МАРГЕР
Ніколі не дагнаць Давыда ім...
Скажы, Лугвен, за што цябе жывым
Князь Юры пахаваў? Скажы нам, чым
Ты гэтак раззлаваў яго?

ЛУГВЕН
А тым,
Што быць не захацеў ягоным шпегам,
Бо сняцца мне засыпаныя снегам
Пагоркі Нальшы, і вішнёвым цветам
Замеценыя сцежкі па вясне,
Лясы з лугамі, што квітнеюць летам,
Мой край бацькоўскі,
Крэва сніцца мне,
Хоць я не быў на яве там ніколі,
Але штоночы бачу ў кожным сне
То васількі на Магеравым полі,
То замчышча сівыя валуны,
І ўсё ў мяне пытаюцца яны:
Лугвен, калі ты вернешся дахаты?
Я не хачу Літве крыві, вайны...
Вярнуўся я, каб збавіцца віны
За продка, што прад ёю вінаваты.

АЛЬГЕРД
Ты ўсё сказаў?

ЛУГВЕН
Усё. І нават лішне.

АЛЬГЕРД
Ну, мне таксама часам сняцца вішні,
А іншым часам сняцца васількі...
Але ўсе ведаюць, хто я такі.
А вось, хто ты, – нікому невядома.

ЛУГВЕН
Не важна. Я вярнуўся. Я ўжо дома.

ГЕДЫМІН *да Данілы*
Вядзі. І дай паесці. Дай напіцца.
*(Да Лугвена.)*
Пабудзе домам для цябе вязніца,
Пакуль Давыд не вернецца...

ДАНІЛА, *выводзячы Лугвена*
Пайшлі!

ГЕДЫМІН
З усіх размоў, якія мы вялі,
Я ўсё пачуў, што мне сказалі вы,
І вось што я зраблю дзеля Літвы.

Ці праўду нам Лугвен сказаў, ці не –
Вайне ці быць, або не быць вайне.
А як не быць вайне, калі на ўсе бакі
Палякі, маскавіты, крыжакі?
І што ім бачна? Што Літва ўжо стала
Мацнейшая за іх!.. Вось вам
і луста сала.
Захочуць з'есці, хоць там і татары.
Над намі пазбіраліся ўжо хмары,
А там, дзе хмары, там і хуткі гром,
І бліскавіцы там, і град з дажджом, –

І гэты дождж крывёй
на нас пральецца...
Я адчуваю гэта тут. Дзе сэрца.
А тут, дзе галава, і дзе вянец на ёй,
Я адчувую доўг перад зямлёй,
Якая ад вякоў Літвой завецца.
І кажа розум мне, і кажа сэрца:
Калі ў нас сіла ёсць, няма чаго чакаць,
А тое ўзяць, што можа сіла ўзяць!

Пакуль збіраюць хеўру крыжакі,
Ударым першымі! Пасля на Русь
павернем,
Засеем іх палі літвінскім зернем
Так глыбака, каб прарасло ў вякі!

Яны баяцца нас. Таму і чуткі, плёткі
Пра "конюха"... Ды гэта ўсё міне.
У свеце доўгі час...
А ў нас такі кароткі...
І я свой час прабуду на вайне.
Збіраем войска! Так, як мае быць,
Між морамі Літва паўстане грозна!
І мусім гэта сёння мы зрабіць.
Бо ўчора – рана. Заўтра будзе позна.

## ДЗЕЯ ПЕРШАЯ, СЦЭНА ДРУГАЯ

Ядальня ў замку вялікага князя *Гедыміна.* Каля стала падчашы *Карней,* за сталом трэцяя жонка Гедыміна княгіня *Еўна,* іх дзеці *Яўнут, Любарт, Карыят.* Уваходзіць *Стольнік.*

СТОЛЬНІК
Час падаваць...

КАРНЕЙ
Не час. Гаспадара чакаем.

ЛЮБАРТ
Тады чаго сядзець?
Мы пойдзем пагуляем...

ЕЎНА
Чакайце, дзеці! Зараз прыйдзе бацька.
Ён зноў кідае нас. Мы сёння з ім ядзім.

ЛЮБАРТ
А заўтра з кім?

ЕЎНА, *пляснуўшы Любарту па карку*
Ах ты брыда якая!

КАРЫЯТ
А калі ён пакіне нас зусім,
Нам застануцца цацкі?

ЕЎНА
Прыйдзе бацька,
Спытай яго.

КАРЫЯТ
Дык я цябе пытаю.

ЕЎНА
А я не знаю!

ЛЮБАРТ
Ты ж і ён – сям'я.

КАРЫЯТ
І мы – сям'я.

ЕЎНА
Яго сям'я – Літва.
Ён з ёй адной і днюе і начуе.
*(Да Любарта і Карыята, якія пачынаюць тузацца.)*
Ды што гэта за бойкі! Гэй, дзятва!..

ЯЎНУТ
Яго сям'я – вайна. Ваюе і ваюе.

ЕЎНА
Ён дзеля вас ваюе. Ён мацуе
Літву для вас. Вы будзеце ў Літве
Валадарамі...

ЯЎНУТ
Покуль ён жыве –
Не будзем.

ЕЎНА
Што ты кажаш!..

ЯЎНУТ
А загіне,
Або памрэ...

ЕЎНА
Яўнут!

ЯЎНУТ
Ну, што Яўнут?.. Па Гедыміне
Хто будзе княжыць?
Найстарэйшы сын?

ЕЎНА
Старэйшы – ты.

ЯЎНУТ
І ёсць яшчэ адзін.
І нават два старэйшых... Дзе статут?
Тэстамант дзе? Як будзем разбірацца,
Калі загіне заўтра?..

ЕЎНА
Змоўч, Яўнут!

КАРЫЯТ
Я буду княжыць. Той, хто маладзей,
Той пражыве даўжэй.
І будзе княжыць.

ЕЎНА
Паслухай, Карыят, князі сярод людзей
Жывуць, і ты запомні надалей:
Пры бацьку, пры жывым, ніколі так
не кажуць.

КАРЫЯТ
Дык я кажу пры маці. Пры братах.

ЛЮБАРТ
Мы роўныя амаль што па гадах,
І хто каго перажыве, пабачым.

ЕЎНА
Што за размовы! Сціхніце! Іначай...

ГЕДЫМІН, *уваходзячы*
Іначай што?.. Вітаю вас, сыны!

ЯЎНУТ, ЛЮБАРТ, КАРЫЯТ
Дзень добры, бацька!..
Добры дзень!..
Дзень добры!..
*(Стольнік і падчашы падаюць на стол.)*

ГЕДЫМІН *да Еўны*
А што такія змрочныя яны?..
І дзе мае лахудры? Выдры? Кобры?

ЕЎНА
Я выправіла ў Полацак дачок.
Да дзеда. На Дзвіну.

ГЕДЫМІН *незадаволена*
Паслала – і маўчок?..
*(Да сыноў.)*
Пра што размова?

КАРЫЯТ
Цацкі нам з вайны
Ты правязеш?

ГЕДЫМІН
Вярнуся я, сыны,
Не з цацкамі. Вярнуся з перамогай!

КАРЫЯТ
Яўнут сказаў, што не.

ГЕДЫМІН
Чаму?

КАРЫЯТ
Бо на вайне
Цябе заб'юць.

ГЕДЫМІН *да Яўнута*
Мой сын перад дарогай
Таго жадае мне?..

ЛЮБАРТ
Ён хоча князем стаць!

ГЕДЫМІН
Ён хоча стаць... А больш ніхто не хоча?

ЛЮБАРТ
І я хачу.

КАРЫЯТ
І я... Яўнут з мяне рагоча...

ГЕДЫМІН
Тады ён мусіць вас пазабіваць,
Каб князем стаць. І я жывы. Са мною

Як быць?.. Тут пахне не адной вайною,
На гэта трэба волю мець са сталі!..
*(Да Еўны.)*
Якія чэрці ў нашым сыне спалі!
А я ўсё думаў, што Яўнут салому
Не здольны напалам пераламаць.

ЕЎНА
Ды ён яшчэ малы! І хочацца малому,
Як дзецям ва ўсім свеце, пагуляць...
І ты б мог нагуляцца са сваімі.

ГЕДЫМІН
Як нагуляцца? Ну? Ты намякні...

ЕЎНА
Як быццам падзяліць Літву між імі...
*(Убачыўшы рэакцыю Гедыміна.)*
Як быццам, я кажу. Дзеля гульні.
Яны б тады гулялі дзень пры дні
І па табе не так бы сумавалі.

ГЕДЫМІН
А каб Альгерд і Кейстут гэта знали,
І Монтвід з Нарымонтам... Іх браты
Усе... Дык што б яны сказалі?
І што б маім сынам сказала ты?

ЕЎНА
Ды ўсе яны з былых тваіх сямей!
А я кажу пра нашу... Пра дзяцей
Маіх з табой! І найстарэйшы з іх
Яўнут...

ГЕДЫМІН, *перапыняючы Еўну*
Які ў фантазіях тваіх
Вялікім князем будзе ў той гульні?
Так, ці не так? Скажы мне... Намякні...
Маўчыш? Дык я скажу. Табе і ўсім:
Няма ў Літве закона, па якім
Перадаецца ўлада найстарэйшым.
А ёсць адзін няпісаны закон,
Які ў Літве спаўняецца спакон:
Улада дастаецца разумнейшым!

ЕЎНА
Дык і разумны самы тут – Яўнут!

КАРЫЯТ
А я і Любарт? Мы прыдуркі тут?

ЕЎНА
Вы не прыдуркі. Я так не сказала.
Малыя вы. І розуму ў вас мала.

ДАНІЛА, *уваходзячы*
Князь гарадзенскі!..

ГЕДЫМІН
Кліч яго! Чакаю...
Я сам сябе ў дзяцінстве ўспаміную,
Як вецер вольным, без ніякіх пут!..
І сёння ты мне глянуўся, Яўнут.

Паелі ўсе?.. Тады пакуль, сыны!
Я княства вам раздам,
калі прыду з вайны.

*(Еўна і дзеці, вітаючыся з князем Давыдам, які ўвайшоў разам з Данілам, выходзяць.)*

ГЕДЫМІН
Віна для князя! Хлеба і віна!
Ну?.. Колькі ты ў дарозе?

ДАВЫД
Ад цямна.

ГЕДЫМІН
Цябе дагналі?

ДАВЫД
Так. Дагнаў адзін.

ГЕДЫМІН
І хто?

ДАВЫД
Не ведаю. Хлапчук. Сказаў, што ён...
мой сын.

ГЕДЫМІН
Лугвен?

ДАВЫД
Ну, так... Назваўся ён Лугвенам.

ГЕДЫМІН *да Данілы*
Хадзі сюды... Я не мячом, паленам
Цябе заб'ю! Той хлопец у вязніцы
Павінен быць!

ДАНІЛА
Дык во ключы! Вазьміце!..
І паглядзіце... Там ён і сядзіць.

ГЕДЫМІН *да Давыда*
Дык два ў цябе сыны?

ДАВЫД
Каб мог я нарадзіць,
Дык ведаў бы... А так...

ДАНІЛА
Прызнайце, князь, што два,
Каб з плеч мая не ўпала галава,
Калі прад тым яна не звар'яцее.
Я стражніка паставіў там. Мацея.

ГЕДЫМІН
І дзе Мацей?

ДАНІЛА
Няма... З вязніцы той
Не выляціць і муха. Пад зямлёй
Вязніца. Праўда, дзверы ёсць.
Дык тыя
Былі замкнёныя. На тры замкі літыя!
Князь, злітуйся!.. Хай вінаваты я...
Але Лугвен... Ці крот ён... ці змяя...
Бо там для дыху дзірка ёсць... Такая,
Куды адна змяя і прапаўзае.

ГЕДЫМІН
А дзе ключы былі?

ДАНІЛА
Ключы былі ў мяне.

ГЕДЫМІН
Ну, значыць, гэта ты...

ДАНІЛА
Клянуся я, што не!
Ды і нашто мне гэта? Для чаго?
Ён мне ніхто. І што мне да яго?
Ну, пакарміў... Ну, даў яму вады.

ГЕДЫМІН
Ідзі і прывядзі яго сюды.
*(Да князя Давыда.)*
А ты чаго маўчыш?

ДАВЫД
Не знаю, што сказаць...
Дагнаў мяне. Сказаў, адкуль... Як зваць.
Сказаў, што сын...

ГЕДЫМІН
Ён сын табе ці не?
Чаго маўчыш?.. Давыд,
кажы ўсю праўду мне!
Бо калі не, тады хлапчук засланы!
І будзе так, як шпег, ён пакараны, –
Я люты да такіх!.. Хай нават да дзяцей...

ДАВЫД
Я сам за звера лютага люцей
Са шпегамі... Даўмонт ды Патрыкей –
Вось два мае сыны, што ад дачкі тваёй.

ГЕДЫМІН
І ўсё?.. Няма такіх... ну, рассыпных...
не з ёй?
Прызнайся, калі ёсць. Я смецце
з нашай хаты
Не вынесу. Сам трэці раз жанаты.

ДАВЫД
Аднойчы ў ноч купальскую, у святы
Я быў з Купалінкай. Але не так,
каб сын...

ГЕДЫМІН *весела*
А як? Так, каб дачка?..

ДАВЫД
Ды кінь!.. Мне на ўспамін
Адразу тая ноч прыйшла, калі
Убачыў я Лугвена. Як плылі
Па рэчцы зоркі, як яны іскрылі
На берагах, у росах на траве...
Той успамін плыве ўва мне, жыве,
Як самы светлы! Я такі шчаслівы
Ніколі потым у жыцці не быў!..

ГЕДЫМІН
Ты палюбіў яе?

ДАВЫД
Так, палюбіў,
І слалася зямля пад намі пухам,

Мы блізкія былі... Але не целам!..
Духам!..
Ну, як анёлы!.. І такі пусты
Я стаў, калі той дух мяне пакінуў,
Нібыта я... сам у сабе загінуў...

ГЕДЫМІН
Тады з ёй быў не ты.

ДАВЫД
А хто?

ГЕДЫМІН
Быў дух святы.
І ад яго Лугвен. А значыць, ён – месія!..
Адно што вочы гэткія ж касыя,
Як у цябе... Ты выпіў тады ў меру?

ДАВЫД
Ды я не піў... Хіба глыток-другі.

ГЕДЫМІН
Цвярозы быў?..
Вось чаму ў тую веру,
У хрысціянскую, нас хочуць заманіць!
Каб скрэнціць нам мазгі! Каб розум
замуціць!
У нашай веры як? Як звер належыць
зверу,
Таксама й чалавеку чалавек –
Ці ў шкоду сам сабе, ці ў дапамогу...
А там усё жыццё, а скончыцца
твой век,
Тады і ў смерці ты належыш Богу.

Бог – бацька ў іх, і сын, і святы дух...
Як гэта ўцяміць, га? Ну, без глытка,
без двух.

ДАНІЛА, *уваходзячы*
Лугвена я прывёў. Альгерд і Кейстут
з ім.

ГЕДЫМІН
Няхай заходзяць.
*(Да Давыда.)*
Нешта я зусім
З табой заблытаўся. Разблытацца б
з Лугвенам.
*(Да Данілы.)*
Чаго стаіш?

ДАНІЛА
Дык вы мяне паленам
Забіць збіраліся...

ГЕДЫМІН
Палена дзе? Прынёс?

ДАНІЛА
Падумаў, што не час пакуль. Не лёс...
Калі мы йшлі сюды, Альгерд і Кейстут
з намі,
Цікавую размову між братамі
Я выпадкова чуў... Альгерд усё пытаў,
Дзе Кейстут ноччу быў?..
Ён ці не начаваў,
Ці некуды выходзіў сярод ночы...
І хоць не бачыў я на свае вочы,
Хто злапаў стражніка, але яго няма...
А стражнік быў надзейны, як турма.

ГЕДЫМІН
Сказаў?..
*(Даніла ківае.)*
Забыў?..
*(Даніла ківае.)*
Вядзі братоў з Лугвенам.
*(Даніла выходзіць.*
*Уваходзяць Альгерд, Кейстут, Лугвен.)*
Чаго кульгаеш?.. Што з тваім каленам?

ЛУГВЕН
Зляцеў з каня.

ГЕДЫМІН
Так гнаў?

ЛУГВЕН
Інакш бы не дагнаў.

ГЕДЫМІН
А хто табе каня, мой хлопча, даў?
І хто з вязніцы выйсці дапамог?

ЛУГВЕН
Ніхто не дапамог. Хіба што Бог.

АЛЬГЕРД
Які з багоў? Пярун? Вялес? Ярыла?

ЛУГВЕН
Адзіны Бог. Нябёс святая сіла.
На аднаго Яго ў мяне надзея.
Ягонай воляй пранікаць я ўмею
Скрозь камень і зямлю. Так выбраўся
з магілы –
І так з вязніцы выбраўся.

АЛЬГЕРД
На вілы
Не падымай мяне! Скрозь камень ён
пранік...
Дык вось сцяна. Прашыйся... Можа,
цвік
Жалезны вырваць, каб не замінаў?
Ці ты і скрозь жалеза пранікаў,
Праз дзверы тыя, дзе замкі літыя?

ЛУГВЕН
Прашыўся лёгка я скрозь дзверы тыя.

ГЕДЫМІН
Ты дух святы?.. Тады і бацька дух.
*(Да Давыда.)*
Ты колькі маеш духаў?

ДАВЫД
Маю двух
Сыноў, вялікі князь... А духу вось
няма
Прызнацца ў трэцім...
*(Праз паўзу, рашуча.)*
Я даю імя
Яму сваё! Хай будзе трэцім сынам!

ГЕДЫМІН
А як жа быць з Купаллем?
З успамінам
Пра зоркі, што іскрылі і плылі?
Вы ж плоццю не з'яднаныя былі,
Не сплеценыя гэтак, як вянкі...

ДАВЫД
Вялікі князь!

ГЕДЫМІН
Вялікі князь?!. Які
Вялікі князь? Ды я малы, ніякі,
Калі мяне тут дураць, як дзіця!..

АЛЬГЕРД *да Лугвена і Давыда*
Ух, як вы ўдвух даліся бацьку ў знакі!..

ДАВЫД
Ніхто не дурыць вас, вялікі князь...
Хаця...

ГЕДЫМІН
Ну, што хаця?.. Калі ты прызнаеш
Яго за сына, значыць, забярэш
Яго ў Гародню?

ДАВЫД
Калі ён захоча.

ГЕДЫМІН *да Лугвена*
Ну, і чаго ты хочаш? Чуеш, хлопча,
Чаго ты хочаш?

ЛУГВЕН
Крэва я хачу.

АЛЬГЕРД
Чаго-чаго? Каб бацька смаркачу
Даў Крэва? Ды ты што?
Ды хто ты нам?..

ГЕДЫМІН
Давыд, а праўду кажуць: напалам,
Пры ўсіх яе паставіўшы на ганку,
Ты секануў нядаўна паланянку,
Якую падзяліць паміж сабой
Не мог твой стольнік і падчашы твой?

ДАВЫД
Так, я рассек яе. Абодвум па палове.

ГЕДЫМІН
Ва ўчынках цвёрды той,
хто цвёрды ў слове!
Князь гарадзенскі! За тваё цвярдзей
Не ведаю я слова. І людзей
Цвярдзейшых за цябе на свеце мала.
А, можа, і няма. Ніводная навала
Не збіла з ног цябе і не падмяла,
Ты ў бітвах быў мне праваю рукой,
І калі кажаш ты, што гэты хлопча твой

Духоўны сын, дык як узнагароду
Табе, як ваяру, як ваяводу,
У Крэва твайго сына на пасад
Я выпраўляю...

КЕЙСТУТ
Бацька!

ГЕДЫМІН
Там ён над
Усёю Нальшай княжыць будзе... Рады
Ты гэтаму, Лугвен?

ЛУГВЕН
Вядома, рады,
Вялікі князь... Я так удзячны вам...

ГЕДЫМІН
Не надта радуйся... Бо ты
не будзеш там
Нічога болей мець, апроч улады.
Што ж да зямлі, да ўласнасці на ёй,
То ўсё пакуль што пад рукой маёй!
І з Крэва я тады руку здыму,
Калі ты мне дакажаш, што яму
Ты сапраўды сын крэўны, родны,
годны,
Што ты гатовы за яго на бой,
На сечу йсці – і біцца з кім заўгодна,
Што там ты валададар такі ж,
як бацька твой,
І крэўны сын, і валадар Гародні!

На тым усё!.. Не, запытаць забыў:
А дзе ты, Кейстут, сёння ўночы быў?

КЕЙСТУТ
Я князя даганяў.

ГЕДЫМІН
І не дагнаў?

КЕЙСТУТ
Не змог.

ГЕДЫМІН
Выходзіць, аднаму адзіны Бог памог.
А стражнік дзе? Ці не спачыў ён
з Богам?

КЕЙСТУТ
Не ведаю. Ва ўсіх свая дарога.

ДАНІЛА, *вяртаючыся*
Знайшоўся стражнік.
Спаў у ложку свацці.
Прывязаны да свацці, каб не ўпасці.

ГЕДЫМІН
Што ж, моцнага я ўсім жадаю сёння
сну!
Бо заўтра не да свацці. На вайну.

*Выходзіць, за ім выходзяць усе, акрамя Альгерда і Кейстута.*

КЕЙСТУТ
Ну, што, Альгерд? Віншую!
Бацька ж Крэва
Хацеў табе аддаць. І так урэзаў злева!..

АЛЬГЕРД
Яшчэ і справа ўрэжа ён, напэўна...
Мне Любарт толькі што,
ён балбатлівым стаў,
На вуха, па сакрэце расказаў
Пра новую гульню, якую Еўна
Прыдумала...

КЕЙСТУТ
І што там за гульня?

АЛЬГЕРД
Такая, брат, што можа збіць з каня.
І ўрэшце можа скончыцца крывава...

Паслухай ты мяне... Улада – не забава.
У ёй няма ні добрых і ні злых,
Няма сяброў маіх або тваіх –
Ёсць толькі ворагі! І каб адолець іх,
Стаяць мы мусім, як адна сцяна!
Хай хоць чума з халерай, хоць вайна,
І нават калі смерць мяне абдыме,
Клянуся, Кейстут: нават і яна
Мяне ад майго брата не адыме!

КЕЙСТУТ
Альгерд!... Мы іскры аднаго агню...
І, як нікога, я цябе люблю,
І братнюю любоў я не аддам на страту!

АЛЬГЕРД, *абдымаючы Кейстута*
Ты кажаш тое самае, што я...

КЕЙСТУТ, *смеючыся, абдымаючы Альгерда*
Перш чым камусьці даць свайго каня,
Спытаю, ці патрэбны конь мой брату?

**ДЗЕЯ ПЕРШАЯ, СЦЭНА ТРЭЦЯЯ**

*Прыцемленая сцэна. Шум бітвы. Звон зброі. Галасы.*

ГОЛАС ГЕДЫМІНА
Альгерд, наперад!..
ГОЛАС АЛЬГЕРДА
Кейстут! Там засада!
Варочай конніцу!..
ГОЛАС ГЕДЫМІНА
Наперад, князь Давыд!
ГОЛАС ДАВЫДА
Вялікі князь, наперад!
ГОЛАС КЕЙСТУТА
Бі іх, гадаў!
Мы вас, сабак, адвучым ад нападаў!..
ГОЛАС АЛЬГЕРДА
Пабеглі крыжакі!..
ГОЛАС ГЕДЫМНА
Мы тут паставім шчыт,
Каб болей ні нагой яны да нас ніколі!..
Цяпер – на ўсход! Павесялімся ўволю!
Там сілы супраць нас ніякай
ні ў каго!..
*(Тупат конніцы.)*
ГАЛАСЫ
Гой-гой, Літва!.. Го-го!.. Го-го!.. Го-го!..
ГОЛАС
І толькі пыл... І толькі свіст па полі...

*(На сцэне святло.)*

Вільня, замак вялікага князя Гедыміна, зала прыёмаў. У зале накрытыя сталы, за якімі князі, вяльможы, госці – святкуецца перамога на захадзе над крыжакамі, пераможныя паходы на ўсход.

Уваходзіць *Гедымін,* усе яго вітаюць.

ГЕДЫМІН
За годам год мы гналі нашых коней,
На захад і на ўсход ішла пагоня,
І прырастала землямі Літва!
Так хутка нават не расце трава,
Як вырасла літоўская дзяржава.
Дык вып'ем за яе! За нас! За славу,
Здабытую ў бязлітасных баях,
За дух бясстрашны ў нашых ваярах,
За тых, хто лёг на межавых палях,
Каб сталі яны нашымі палямі,
За тых, хто ўжо віна не вып'е з намі,
Каму яно не ўскружыць галаву...
*Змаўкае, яму перахоплівае горла.*

ПЕРШЫ ГОСЦЬ
За князя Гедыміна! За Літву!

ДРУГІ ГОСЦЬ
За сэрца князя, што жыве ў Літве!

УСЕ
Жыве Літва!
Жыве Літва!
Жыве!
*(Выпіваюць, пяюць.)*

Гой, літвіны, гой,
Сонца над Літвой,
Калі сонца над Літвою,
Час жыта жаць.
Час жыта жаць,
У снапы вязаць,
І цапамі весела на таку скакаць.

Гой, літвіны, гой!
Хмары над Літвой!
Калі хмары над Літвою,
Час ваяваць.
Час ваяваць,
Конікаў сядлаць,
Шаблямі ды дзідамі хмары разганяць.

Гой, літвіны, гой,
Гора за гарой,
Калі гора за гарою, час баляваць.
Час баляваць,
Чаркі падымаць,
Жоначку на ложачку час пакалыхаць.

ДАНІЛА, *увайшоўшы, ківае на дзверы*
Легат... Ад папы рымскага...

ГЕДЫМІН
Прасі.

ДАНІЛА
Сюды? На п'янку?

ГЕДЫМІН
Тут не п'янка. Свята.
І будзем рады бачыць мы легата.

ТРЭЦІ ГОСЦЬ
Спяём яму! Нальём! Віна багата!
А ўжо яды – дык хоць у Рым нясі!

ДАНІЛА, *пацепнуўшы плячыма, выйшаўшы і зноў зайшоўшы, урачыста*
Легат ад Папы рымскага!

ГЕДЫМІН, *вітаючы легата*
Прашу!..
«Яшчэ не позна ўратаваць душу», –
Сказалі вы мінулы раз...

ЛЕГАТ
Я помню.
І самы час ступіць на гэты шлях
Усёй Літве! І Госпад у вяках
Усю Літву асвеціць Божым промнем.

ГЕДЫМІН
Прыгожа сказана.

ЛЕГАТ, *падаючы ліст*
Не мной. Так у лісце...

ГЕДЫМІН
А вы лісты чытаеце чужыя?

ЛЕГАТ
Мы ўсе цікаўныя, пакуль жывыя.
Хоць у паганстве мы, хоць у Хрысце.

ГЕДЫМІН, *узяўшы ліст*
Дасціпны жарт... А да яго скажыце,
Каб чулі ўсе: пра што тут?.. Пару слоў.

ЛЕГАТ
Я сам працяглых не люблю размоў...
Вы веру хрысціянскую прыміце –
А мы памірым з вамі крыжакоў.

ТРЭЦІ ГОСЦЬ
Што ён сказаў прыняць? Мы ўжо
прынялі...
Ці прынял*і*?.. А зрэшты ўсё адно...

ПЕРШЫ ГОСЦЬ
Мы тут якраз за Папу выпівалі!
Салодкае і горкае віно...

ЛЕГАТ
За Папу хрысціянскі свет не п'е.

ДРУГІ ГОСЦЬ
А што ён робіць?

ЛЕГАТ
Моліцца.

ДРУГІ ГОСЦЬ
А танцы?
А спевы як?..

ПЕРШЫ ГОСЦЬ
Легат, мы тут паганцы.
А калі нават ты ахрысціш нас,
Завабіш нас у хрысціянскі звяз,
І нават калі ўбачыш у касцёле,
Як Божая на тое будзе воля,
Дык не падумай нават і тады,
Што Рымам нам указана дарога!..
У той касцёл мы прыйдзем
не да Бога,
А прыйдзем да агню і да вады.

ЛЕГАТ
Я запярэчу вам...

ТРЭЦІ ГОСЦЬ
Легат, ты не пярэч!..
Вось я табе скажу такую рэч...
А ты паслухай... Думаю, ацэніш...
Не знаю, праўда, дзе ты гэта дзенеш...

Вось неба ёсць. Пад небам ёсць зямля.
Змяні на ёй хоць што! Хоць караля!
Хоць цэлы свет змяні! А нас ты...
*(Паказвае дулю.)*
Дулю зменіш!

ЛЕГАТ *да Гедыміна*
Скажыце, гэтак сустракаць паслоў
У вас традыцыя?..

ГЕДЫМІН
Дзяржава маладая.
Шукае сябе ў свеце.

ЛЕГАТ
Так шукае,
Што можа не знайсці...
На пару слоў
Мы можам адысці?

ГЕДЫМІН
Вядома, можам.
*(Адыходзяць.)*
Я думаў па-святочнаму, прыгожа
Сустрэць легата папскага...

ЛЕГАТ
Што ж, вам
Яно ўдалося... Папа крыжакам
Умову выставіў.

ГЕДЫМІН
І што ва ўмове той?
Калі яны падпішуць мір з Літвой?

ЛЕГАТ, *падаючы яшчэ адзін ліст*
Дамова ўжо гатова.

ГЕДЫМІН, *не беручы дамовы*
Што за змест?

ЛЕГАТ
Мір. Вольны гандаль. Летам будзе
фэст
У Рызе. Будуць з Ордэна легаты
З магістрам. Ён падпіша.

ГЕДЫМІН
Ну, а даты?..
На колькі мір?

ЛЕГАТ
Пакуль на тры гады.
Калі ж Літву пахрысціце, тады...

ГЕДЫМІН
Тады яшчэ на тры?.. Скажыце мне:
палякі
Хіба паганцы?

ЛЕГАТ
Не. Каталікі.

ГЕДЫМІН
Чаму ж тады над імі гвалт такі
На іх зямлі ўчынілі крыжакі
І дзесяць тысяч хрысціян забілі?
Хіба палякі Бога не любілі?
Хіба на храмах іх не гэткі ж крыж,
Які і ў крыжакоў на іх штандарах?..
Ці, можа, Бог не разабраўся звыш?..

ЛЕГАТ, *яшчэ раз падаючы дамову*
Вялікі князь! Ёсць хмары. Але ў хмарах
Прасветы ёсць. І гэты мір – прасвет.

ГЕДЫМІН
Легат, мне дзед пакінуў запавет.
У Полацку ён княжыў. Пэўна, чулі?

ЛЕГАТ
Вядома, чуў.

ГЕДЫМІН
Яшчэ гуляў я ў гулі,
Ён мне сказаў: пакуль цячэ Дзвіна,
Не скончыцца, не спыніцца вайна,
Бо ўсякі мір закончыцца вайною,
Таму заўсёды меч насі з сабою,
Хай меч не іржавее, а сячэ!..
Дык вось, легат: Дзвіна яшчэ цячэ.
Гэй, полацкія!.. Высахла Дзвіна?

ГОЛАС З ЗАСТОЛЛЯ
Не!.. Як цякла, так і цячэ яна!

ЛЕГАТ, *падаючы дамову ў трэці раз*
Дык подпісу не будзе?..

ГЕДЫМІН, *беручы дамову*
Падпішу!..
Як вы мінулы раз казалі: каб душу
Уратаваць... Хоць я не веру ў Бога,
Але на ўсякі выпадак. Дарога

Нязнаная на тым баку жыцця:
А раптам рай і пекла там... Хаця
Мне ўсё адно, што там чакае нас,
Я тут пражыў свой век, прабыў
свой час,
І ведаеце: я шчаслівы, рады...

ЧАЦВЁРТЫ ГОСЦЬ
Не, вы паслухайце! Ну, смешна...
Аж да ўпаду!..
Я морда ў морду сутыкнуўся з гадам
І стаў з мячом во так...
А так во стаў крыжак...
І так стаім. А ў нас татары ззаду.
Ці то на крыжака яны ў засаду
Заселі, ці заселі на мяне,
І на вайне яны, або не на вайне? –
Хто іх, татараў гэных, разбярэ...
І тут адзін з татараў лук бярэ
І цэліцца... Няведама ў каго:
Ці то ў мяне, ці ў крыжака таго?..
Страла ляціць! І крыжаку – у вока!
А гэта, брат ты мой, было далёка!..
Крыжак ляжыць, а той татар, зараза,
Рве валасы... І ў крык крычыць:
«Пра-ма-заў!»

ТРЭЦІ ГОСЦЬ
Паслухай! А ў мяне дык што было!..

ЛЕГАТ
Ну, тут у вас, татараў, весяло.
Пайду, бадай, да сумных крыжакоў...
Што ж, князь, бывайце. Мір вам
ды любоў!

ДАНІЛА, *уваходзячы*
Вялікі князь!..

ГЕДЫМІН
Чаго табе?

ДАНІЛА
Сыны...

ГЕДЫМІН
Скажы ім: не забыўся я.

ДАНІЛА
Яны...

ГЕДЫМІН
Хай пачакаюць! Часу дацямна
Хапае... І цячэ яшчэ Дзвіна.

ДАНІЛА
Не зразумеў...

ГЕДЫМІН
Ідзі. Скажы чакаць...
*(Чытае дамову.)*
Я абяцаў дамову падпісаць
І падпішу. Бо выгадна мне гэта.
Хай нават гэты мір з вясны да лета,
Няхай кароткі, але перадых,
І для Літвы яго я скарыстаю.

ЛЕГАТ
Умовы ўсе прымаеце?

ГЕДЫМІН
Прымаю.
Але Літва не прыме, як сваіх,
Ні ваяроў, ні святароў чужых,
Пахрысцімся мы самі, без прымусу.
А калі нехта будзе мець спакусу
Пад хрост скарыць літвінаў, крывічоў,
Дык крыж за крыж тады – і кроў тады
за кроў!

ЛЕГАТ
Так Папу і сказаць?

ГЕДЫМІН
Не, ветліва, прыгожа...
Так, як умееце...

ЛЕГАТ, *хрысцячыся*
Дапамажы нам Божа!

ГЕДЫМІН, *ведучы легата да дзярэй*
Вось мне, паганцу, Бог якраз памог
Збіць з крыжакоў ваярскі пыл
тым летам.

ЛЕГАТ
Яго Свяцейшэства вам напісаў
пра гэта.
Бог памагае ўсім. На тое Ён і Бог.

ТРЭЦІ ГОСЦЬ, *пераймаючы Гедыміна каля стала*
Вялікі князь!.. Хачу крыж-накрыж
з вамі!
На брудэршафт, як кажуць крыжакі...

ГЕДЫМІН, *паказваючы падчашаму, каб наліваў*
Мы па крыві ўжо сталі сваякамі,
Давай і па віну... Каб на вякі!

ТРЭЦІ ГОСЦЬ
Тады я з вашага, а вы з майго...

ГЕДЫМІН *да падчашага*
Наліў?..
*(Мяняюцца келіхамі, выпіваюць.)*

ТРЭЦІ ГОСЦЬ
Так соладка ніколі я не піў!

ПЯТЫ ГОСЦЬ, *з чаркай пераняўшы легата*
Э, не! Ні страмянной, ні аглаблёвай!..
Ні аглаблёвай і ні страмянной...

ШОСТЫ ГОСЦЬ, *з келіхам пераймаючы легата*
Не пойдзем мы да гэткай веры новай.
Ці пі – ці застаемся... у старой!
*Змушаюць легата выпіць, вядуць пад рукі вакол стала, пяюць:*
Гой, літвіны, гой,
Гора за гарой,
Калі гора за гарою,
час выпіваць...

ШОСТЫ ГОСЦЬ, *п'янавата*
Як гэта ў вас яно?.. Бог бацька,
дух і сын?
А ў нас віно! І з ім не ўстрашыцца літвін
Ні Божага суда і ні магільных пліт!..
*(З'яўляецца Воін, па якім відаць, што ён з дарогі.)*

ВОІН
Вялікі князь!.. Бяда!.. Забіты
князь Давыд!..

**ДЗЕЯ ПЕРШАЯ, СЦЭНА ЧАЦВЁРТАЯ**

Вільня, пакой у замку Гедыміна. У пакоі сляды застолля, на стале пустыя бутлі, келіхі...
Уваходзіць *Даніла*.

ДАНІЛА
Дзе пакаёўка?.. Што тут за гармідар?..
*(Бярэ званок, звоніць.)*
У горы князь. Шкада яму Давыда.
І не таму, што той радня, што зяць,
А проста ў нас прынята шкадаваць
Таго, хто ўжо памёр... А хто жыве,
Таго паленам! І па галаве!..
Ну, каб памёр і каб пашкадавалі.
*(Звоніць яшчэ раз.)*
Як перад смерцю ўчора пагулялі!
Легат напіўся... Ноччу стаў прасіць,
Каб на кастры яго жыўцом спалілі.
Дык хлопцы дровы пачалі насіць...
Ох, смех і грэх... На цэлы мех пацех...
А князя гарадзенскага забілі.
*(Зноў звоніць.)*
Ну, дзе яна?.. Не знойдзеш пры агні!..
*(Уваходзяць Гедымін і Воін.)*

ГЕДЫМІН
Чаго ты раззваніўся? Не звані.
І без таго ў вушах... Пакінь усё
як ёсць.
Госць у мяне. Ты бачыш?

ДАНІЛА
Бачу. Госць.

ГЕДЫМІН
І што?.. Не засталося ў нас віна?

ДАНІЛА, *выходзячы*
Што б святкаваў народ, каб не вайна?

ГЕДЫМІН
Што ў Полацку чуваць?

ВОІН
Лівонцы страшаць нас.

ГЕДЫМІН
Нічога, Воін... Наш прыходзіць час.

Так лупанём, што страшыць
не захочуць...
На меч ёсць меч.

ВОІН
Хоць трохі спаў ты ўночы?

ГЕДЫМІН
Дзе тут заснеш!.. Маглі Давыда тройчы
Забіць! А вось забілі ўпершыню...
Якую з немцамі ён вёў гульню?
Хто гэты рыцар польскі, гэты Гост,
Які засек яго? І як Давыда хтосьці
Засекчы мог?..

ВОІН
Дык біліся на мосце.
Пад Брандэнбургам недзе. А той мост
Быў гнілаваты. Князь і праваліўся
Амаль па пояс... Ну, а гэны Гост
Не разгубіўся...

ГЕДЫМІН
Я спалю той мост!..
Дык гэта быў двубой? Хто выклікаў
каго?..
Давыда Гост?

ВОІН
Не, брат. Давыд – яго.

ГЕДЫМІН
Давыд – яго?... Ты ведаеш, чаму?

ВОІН
Лугвен сказаў яму, што два гады таму,
Калі сям'ю Давыдаву забілі,
Быў Гост сярод забойцаў...

ГЕДЫМІН
І спалілі
Гародню!.. І маіх унукаў двух...
Дачку маю... Давыд тады аглух,
Аслеп ад болю, бо не мог заплакаць...
Я Брандэнбург спалю! Яны за ўсё
заплацяць!
Там толькі попел будзе! Прах і тлен!..

ВОІН
Я вось пра што ўсё думаю: Лугвен
Адкуль пра Госта ведаў? Ад каго,
Калі ў Гародні не было яго?
Хоць мусіў ён Гародню бараніць,
Пакуль Давыд на Пскоў
хадзіў з табою.
Што думаеш?..

ГЕДЫМН
Нічога. Бо баліць.
Смыліць. Але падумаю пра тое.

ДАНІЛА, *уваходзячы*
Вялікі князь, легат...

ЛЕГАТ
Вітаю вас!..

ГЕДЫМІН
На ранку
Легат глядзіцца так, нібыта ад звяроў
Уночы ўцёк... Ці ноч кахаў цыганку.

ЛЕГАТ
Учора дапіваць са мной
пайшлі ў альтанку
Чацвёра вашых лепшых ваяроў.
Я іх прасіў, маліў
спаліць мяне на ганку...

ГЕДЫМІН *да Данілы*
Чаму пасол не спалены? Гулянку
Так скончылі б тады,
што будзь здароў!..

ДАНІЛА
Пасол – вялікі госць!
Нам не хапіла дроў.

ЛЕГАТ
Дык я чаго прыйшоў?..
Каб болей так не піць,
Нам трэба ўсю Літву
сягоння ж пахрысціць.

ГЕДЫМІН
Хрысціце, калі так...

ЛЕГАТ
Вады няма.

ДАНІЛА, *наліваючы рэшткі з бутляў*
Віно
Затое ёсць яшчэ...

ЛЕГАТ, *беручы келіх*
Падыдзе і яно!
*(Пырскае з келіха.)*
У імя Айца і Сына
І Святога Духа
Хрышчу князя Гедыміна...
*(П'е.)*
Так у роце суха,
Нібы спалілі.
*(Дапівае келіх.)*
Досыць. Пахрысцілі.
*(Бярэцца за галаву.)*
Во нагуляліся... У галаве – разлом...
Усё-ткі лепш было б,
каб дроў вы навазілі...

ДАНІЛА, *выводзячы легата*
Наступным разам дровы падвязём.

ГЕДЫМІН
Што дакладзе ён Папу, не ўяўляю...

ВОІН
Ты папскі ліст чытаў?

ГЕДЫМІН
Не.

ВОІН
Можна... прачытаю?

ГЕДЫМІН
На, прачытай.

ВОІН, *чытаючы*
Ён піша, як паэт...

ГЕДЫМІН
На нашай мове піша?

ВОІН
На латыні.

ГЕДЫМІН
Вось жа памерла мова – і не стыне.
Бог памагае? Га?.. У чым сакрэт?
І ўвогуле: чаму адзін народ
Жыве, а іншы не?..

ВОІН
Бо род ідзе на звод.

ГЕДЫМІН
Дык я й пытаю: як ідзе?.. Чаму?..

ВОІН, *адклаваючы ліст*
Навошта ты паабяцаў яму
Хрысціцца?

ГЕДЫМІН
І табе паабяцаю,
Чаго захочаш!.. Я іх процьму маю –
Усякіх абяцанкаў. Абяцаць
Не цяжка, брат. Не камяні цягаць.

ВОІН
Таму ты і паабяцаў Яўнуту
Пасад вялікакняскі?

ГЕДЫМІН *раздражнёна*
Ты!.. Таму ты!..
Я сёння абяцаў, а заўтра мог забыць!

ВОІН
Але ж ты князь! Вялікі князь! І быць,
Як камень, цвёрдым мусіць тваё слова!.

ДАНІЛА, *вяртаючыся*
Вялікі князь, сыны...

ГЕДЫМІН
Ды што ім так карціць?!
Сказаў: чакаць! Тэстамант не гатовы.

ДАНІЛА
Але ж ты абяцаў ім...

ГЕДЫМІН, *падскочыўшы да Данілы*
Абяцаў!
Скажы, што на тэстамант кот насцаў!

ДАНІЛА
У нас няма катоў.

ГЕДЫМІН
Няма, дык завядзі!

Па замку мышы бегаюць! Глядзі:
Спаскудзілі ўсё тут!..

ДАНІЛА
Тут не мышэй сляды...

ЛЕГАТ, *прасоўваючыся ў дзверы*
Паў-Рыма за ваду... Нідзе няма вады...
Адно віно...

ДАНІЛА, *выпіхваючы легата*
Пайшлі, легат, у сад!
Там дровы ёсць...
*(Сам сабе.)*
Во прычапіўся, гад...

ГЕДЫМІН
Давыд як брат мне быў. І нават больш,
чым брат.
Даруй, што так кажу. Не больш,
чым ты...

ВОІН
Нічога.
Ты брат мне большы за мяне самога.
Ты б адпачыў. Давёў цябе легат.
Ён праўда мір прывёз нам
з крыжакамі?

ГЕДЫМІН
Ён?.. Мір прывёз?.. Пра што ты?..
Ды мы самі
Мір здабылі вайной!
Вось гэтымі рукамі,
Што меч не выпускалі сем гадоў!
Мы змусілі да міру крыжакоў,
Мы тройчы іх паклалі, як траву,
Каб не тапталі ботамі Літву, –
І зноў трава не хутка там узойдзе!..
Пасля на ўсход мы рушылі!
На ўсходзе
Русінаў тройчы мы перамаглі.
Пяць княстваў далучылі да зямлі
Літвінскай!..
Воін! Брат мой! Мір – у сіле!
У слабасці яго не можа быць!

ВОІН
Ну, крыжакоў мы не навек скасілі.

ГЕДЫМІН
Так. Не навек. Касіць яшчэ й касіць.
І ўвогуле яшчэ не здабылі
Мы той Літвы, якую я ўяўляю,
Якую я штодня ў сабе ствараю...
*(Падыходзіць да вакна.)*
Вунь вішні... слівы... грушы зацвілі...
Ва ўсім ёсць корань. Ён расце ў зямлі –
І так расце
Дзяржава
У Айчыне...
Калі яна ў пачатку, у зачыне,
Дык найважней памылкі не зрабіць
У тым, куды нам плыць,
куды мы рушым.
*(Паказваючы за вакно.)*
Каб нам самім паесці нашы грушы,
Калі яны саспеюць... Могуць быць
Наперадзе ў нас сцежкі, каляіны,
А шлях – адзін! І гэта – шлях краіны...
Мы крыжакоў як білі – будзем біць,
Але каб толькі межы бараніць.
Далей за Польшчу нас ужо не пусцяць,
Не наш там сад, не наш там агарод,
А вось на ўсход нам не закрыты ход,
Туды нам трэба мкнуць,
там недзе вусце
Ракі літвінскай!..

ВОІН
Каб не патануць
У той рацэ... Я лепш бы цёк у Рым.

ГЕДЫМІН
Ну, што ж... Калі патонем – не згарым!
Я выпіў бы з табой...
Ды бутлі нашы
Пустыя...
*(Звоніць. Уваходзіць Даніла.)*
Дзе віно?.. Дзе мой падчашы?

ДАНІЛА
На допыце.

ГЕДЫМІН
На допыце?..

ДАНІЛА
Вінам
Атручаны за ўчорашнім сталом

Той князь, што выпіваў крыж-накрыж
з вамі.
Ён келіх ваш узяў, а вы ягоны... Днямі
Падчашага заўважыў з крыжаком
Мацей, наш старажнік... Той быў
пад плашчом
Крыжацкім, і Мацей
не змог разгледзець,
Хто гэта быў...

ВОІН
Цікуюць нас суседзі.
Ім не дае спакою наш спакой...

ГЕДЫМІН
Чакайце... Ён мой сват, падчашы мой...
Ён Еўну сватаў... Я ні ў гэны час
І не пасля яго не западозрыў
Ні ў чым!.. Як у сям'ю ён увайшоў
у дом...

ДАНІЛА
Каб я не западозрыў, можа, позна
Пра гэта гаварыць было б... Якраз
Ён нёс віно.

ГЕДЫМІН
Для нас?

ДАНІЛА
Ну так. Для вас.

ГЕДЫМІН
Тады вядзі яго! І з тым віном,
Якое нёс ён нам!..
*(Да Воіна.)*
Не ведаем, з кім п'ём...
І з кім жывём...

ВОІН
Ты дажывеш да ста!
Як бацька наш дажыў...

ГЕДЫМІН
Каб з чыстага ліста
Жыццё пачаць, дык жыў бы я іначай!

ВОІН
Іначай – гэта як?..

ГЕДЫМІН
Вось я лячу, як качар.
За мною чарада. Ці з выраю, ці ў вырай
Ляціць, куды вяду я тую чараду.
Ляціць бяздумна. А мяне як вірам
Закручвае: куды яе вяду?!
Да ста гадоў я так не дажыву.
Мяне й труціць не трэба, сам сканаю...
*(Даніла з Мацеем уводзяць Карнея, падчашага.)*
Вось і падчашы мой...
*(Падыходзіць да падчашага, бярэ ў яго бутлю з келіхамі, ідзе да стала.)*
Карней! Я сёння наліваю –
Ты сёння п'еш!.. За князя! За Літву!
*(Напаўняе адзін келіх.)*
На!.. Выпівай!..

КАРНЕЙ
Я вып'ю. Але маю
Сказаць я князю тое...
*(Ківае ў бок Данілы і Мацея.)*
...што яны
Пачуць не хочуць! Быццам ад сцяны
Гарох адскоквае, усё, што ім кажу!..

ГЕДЫМІН
Кажы. Я слухаю.

КАРНЕЙ
Я, князь, табе служу.
А не прыслужваю. Бо я ў цябе паверыў.
І ты сказаў, што верыш у мяне.
Ты гэта помніш?

ГЕДЫМІН
Так.

КАРНЕЙ
Тады якой халеры
Падазраеш!?. Атрута не ў віне!
Яна ў табе!..

ГЕДЫМІН
Дык выпі, калі не...
*(Карней цягнецца да келіха, Гедымін спыняе яго.)*
Хоць пачакай... Навошта з крыжаком
Ты сустракаўся?

КАРНЕЙ
Князь, пад тым плашчом
Быў не крыжак. Лугвен. Прыйшоў ён па віно,
У нейкай кралі быў – віна ім не хапіла.

ГЕДЫМІН
А плашч чаму надзеў?

КАРНЕЙ
Бо вецер быў з дажджом!

ГЕДЫМІН
Быў дождж, Мацей?

МАЦЕЙ
Ну, так... крыху дажджыла.

ГЕДЫМІН *да Воіна*
Што ты пра гэта думаеш, мой брат?

ВОІН
Атруту, брат, падсыпаць мог легат...
*(На падчашага.)*
А мог Карней.

ГЕДЫМІН *да падчашага*
Мог і легат, і ты...

КАРНЕЙ
Вялікі князь! Твой келіх не пусты...

ГЕДЫМІН
А што ў ім?

КАРНЕЙ
Кроў да самых да краёў...
Калі крыві ты хочаш, выпі кроў.
*(Падсоўвае бліжэй да Гедыміна свой келіх.)*
Альбо віно са мною напалам.

ГЕДЫМІН
Ты гавары, Карней, ды ведай меру...

КАРНЕЙ
Князь! За табой Літва! Табе мы верым
Больш, чым сабе! І гэтаксама нам
Ты мусіш верыць, князь!.. Каб бачылі ўсе мы,
Што ты з Літвой – адно!..
Іначай нам не стаць
Тым кулаком, што можа прабіваць
Чужынцамі зачыненыя дзверы
У намі збудаваныя дамы!..
Калі ты верыш нам,
дык дакажы,
што верыш!

ДАНІЛА
Дарма мы прывялі яго з турмы...

МАЦЕЙ
Не піце, князь! Кажу вам: там цыкута!

КАРНЕЙ
А я кажу, што не!

ГЕДЫМІН
Што ж, ісціна ў віне
Нават тады, калі ў віне атрута.
*(Напаўняе свой келіх. Глядзіць на падчашага. Абодва выпіваюць... Доўгая паўза.)*

ГЕДЫМІН
Набраўся ўчора я... Цыкута не бярэ.

ДАНІЛА
Наш князь ад смерці нават не памрэ,
Дык што яму цыкута... Ці палена...

ГЕДЫМІН *да Данілы*
Пашлі Мацея ў Крэва да Лугвена.
І Маргер хай пад'едзе...
*(Даніла, Мацей і падчашы выходзяць.)*
Нешта, брат,
Лугвена ў Крэве стала ўжо зашмат.
А ты дахаты?

ВОІН
Так. Усё ж сям'я...
Даўно ўжо... больш за год дзяцей не бачыў я,
Усё маё жыццё – адны паходы...
Ды і тваё не лепш.

ГЕДЫМІН
Пра што ты?

ВОІН
Ты да згоды
Сыноў сваіх ніяк не давядзеш.
Па-мойму, Гедымін, ты не туды ідзеш...

ГЕДЫМІН
А ты куды? Туды?..

ВОІН
Паслухай! Памаўчы.
Я думаў: як табе дапамагчы?
Са мною меў размову Нарымонт,
Старэйшы твой...

ГЕДЫМІН *напружана*
Наконт чаго?

ВОІН
Наконт
Таго, што ён старэйшы сын. І першы
мае права
Прэтэндаваць на Вільню, на сталец...
Але адмовіўся! Сказаў,
што для яго дзяржава
Важней за ўладу...

ГЕДЫМІН
Ай ды маладзец!
Ну, сын... Ну, Нарымонт... Ці гэта
не канец?
А што ўзамен?

ВОІН
У Полацку вянец.

ГЕДЫМІН
Чакай... Ён твой – у Полацку пасад...
Я даў яго табе.

ВОІН
Я – твайму сыну, брат.

ГЕДЫМІН
Не знаю, што сказаць... У даўнія гады
Ты мне ўжо саступіў... Я думаў:
малады,
Без розуму... Не ведаў, што рабіў...

ВОІН
Ну, значыць і тады табе я братам быў.

ГЕДЫМІН
Расчуліў ты мяне... Крануў глыбока...
А дзе ты будзеш жыць?

ВОІН
Дазволь мне жыць у Троках.

ГЕДЫМІН
Бліжэй да Вільні... Гэта хітры ход...

ВОІН
Ты думаеш: у Полацк – Нарымонт,
А я – у Вільню?.. Слова, брат, даю...

ГЕДЫМІН
Прабач... Я нават сам сябе падазраю
У тым, што ўладу захапіць хачу я!

ВОІН
Чыю?

ГЕДЫМІН
Маю!

ВОІН
О, Божа! Што я чую?..

ГЕДЫМІН
Але за Полацк нешта ж хочаш ты?

ВОІН
Віна хачу! Налі... І вып’ем, як браты!
*(Гедымін налівае. Глядзіць, чакае, пакуль вып’е Воін. Выпівае сам.)*

### ДЗЕЯ ПЕРШАЯ, СЦЭНА ПЯТАЯ

Гедымінаў замак у Вільні, паляўнічая зала. Стол, каля стала крэсла. У зале *Альгерд* і *Кейстут.*

АЛЬГЕРД
Наш бацька, брат, тэстамант напісаў.

КЕЙСТУТ
Адкуль ты гэта ўзяў?

АЛЬГЕРД
Ад Любарта я ўзяў.
Ён жа маўчаць не можа, не трывае –

Так чэшацца язык яму... Такая
Для нас з табою, Кейстут, навіна.
Тэстамант Еўне князь аддаў, яна
Яго схавала...

КЕЙСТУТ
Ведаеш, пра што
Напісана ў тэстаманце?

АЛЬГЕРД
Ніхто
Таго не ведае.

КЕЙСТУТ
А Еўна?

АЛЬГЕРД
Еўна ведае, напэўна.
Яна і ўгаварыла... Дамаглася
Яна свайго...
Ты ў Крэве помніш Стася?
Старога ганчара, што цацкі нам ляпіў?
Дык вось ён Маргеру сказаў,
што ўчора быў
Яўнут у замку. І яшчэ Стась бачыў
Мацея. Той вынюхваў, цікаваў...

КЕЙСТУТ
Ну, калі бацька гэты нюх сабачы,
Калі шпіёна гэтага паслаў,
То ў нечым ён падазрае Яўнута.

АЛЬГЕРД
Або Лугвена. Ці абодвух іх.
Мацей – і бацькаў зрок, і бацькаў
слых,
Ён нешта выведаў...

КЕЙСТУТ
Дык у Мацея, брат,
Дазнацца можна...

АЛЬГЕРД
Пад нажом не скажа.
Язык прышые! Дротам рот завяжа –
І не развяжа аніякі кат.
А вось Яўнута можна ўвесці ў зман...

КЕЙСТУТ, *сядаючы на край стала*
Ты маеш нейкі план?

АЛЬГЕРД
Ды не, пакуль туман
У галаве, але ў мяне з туману
Заўсёды нешта лепіцца...

ДАНІЛА, *уваходзячы ўслед за Гедымінам і Маргерам*
З падману
Пачаў Лугвен, наш новы
крэўскі князь...

ГЕДЫМІН
Ты што на стол усеўся? Кейстут!
Злазь!
Стол не для дупы! Для яды! Для хлеба!

КЕЙСТУТ, *саскокваючы са стала*
Даруй! Не ведаю... як выйшла...

ГЕДЫМІН
Як не трэба!..
То госці напаскудзяць! То сыны!
Вось што скажу: няма на вас вайны!
Ідзіце!.. Пагаворым на абедзе.

АЛЬГЕРД *у дзвярах*
А праўду кажуць, што да нас прыедзе
Лугвен?

ГЕДЫМІН *раздражнёна*
І што?..

АЛЬГЕРД
Дык мы пагаварыць
Хацелі б з ім...

ГЕДЫМІН
Прыедзе – гаварыце.
Хто не дае? Ці, можа, лыч набіць
Вы хочаце яму? Дык без даволу біце.

АЛЬГЕРД, *выходзячы з Кейстутам*
Як скажаш, бацька...

ГЕДЫМІН, *трасучы дамовай*
Хто мне скажа, дзе я,
І хто я? Гэты мір – кату пад хвост!
Хацелі хрост? Ну, я зраблю ім хрост!..
Дарэчы, я прасіў пасланць Мацея

У Крэва. Каб ён глянуў, як умее...
Вярнуўся ён?..
*(Даніла ківае.)*
Няхай мне дакладзе...
А ты мне дакладзі пра крэслы. Дзе
Яны падзеліся?

ДАНІЛА
Прышоў Яўнут з княгіняй,
Сказалі скурай іх перацягнуць.

ГЕДЫМІН
Ужо камандуюць...
Хай крэслы прынясуць!

ДАНІЛА
Клей не застыў яшчэ.

ГЕДЫМІН
Пад дупамі застыне.
Сядзім, як на гарачым...
*(Да Маргера.)*
Ты, мой браце,
Сядай... Ты госць...
*(Да Данілы.)*
А дзе Мацей? Да сваццi
Прывязаны?

ДАНІЛА
Ды не. Ён тут.
*(Кліча.)*
Мацей!
*(Як зніадкуль з'яўляецца Мацей з двума крэсламі.)*

ГЕДЫМІН
А ты не мог як-небудзь... ну, прасцей
З'явіцца?.. Што прынёс?

МАЦЕЙ, *ставячы крэслы*
Вялікі князь! Абоз,
Які падаткі з Крэва ў Вільню вёз,
Лугвен спыніў.

ГЕДЫМІН
І што?..

МАЦЕЙ
Дагледзеў пільна.
Сказаў, што Крэва Вільні...
ніц не вінна!
Што Крэва – княства вольнае.

ГЕДЫМІН
Ого...
Ды я яго!.. Я сукінага сына...
Не, я не стану вешаць, забіваць,
Ён будзе ў Крэве камяні цягаць,
Пакуль не здохне! Я яго ўмурую
Жывога ў сцены замка... Ён такую
Здабудзе волю... ён уп'ецца ёй
Страшней, чым упіваюцца крывёй!
*(Раптам супакоіўшыся, да Данілы.)*
На тым усё?

ДАНІЛА
Амаль. У Крэве быў Яўнут.

ГЕДЫМІН
Чаго?

ДАНІЛА
Ну, пэўна, падабаецца той кут.
Прыгожы кут, дарэчы. Я б і сам
Туды паехаў, каб ты даў пакняжыць.

ГЕДЫМІН
Кажы адразу, што рабіў ён там?

ДАНІЛА
Вялікі князь, так цяжка словы важаць...
Як быццам камяні... Дык вось Мацей
У гэтай справе чалавек не новы,
Ён вылічыў, дзе цёмныя размовы
У замку могуць весці...

ГЕДЫМІН
Карацей!
А то, як Любарт, балбатлівы стаў!
*(Да Мацея.)*
Мацей! Кажы далей!..

МАЦЕЙ
Яўнут сказаў,
Што Гедымін тэстамант падпісаў
На княжанне, і што,
калі Лугвен паможа
Яўнуту як хутчэй вялікім князем стаць,
Бо гэта ўсё цягнуцца доўга можа,
Дык, сеўшы ў Вільні, можа ён аддаць
Лугвену Нальшу з Крэвам назусім...
*(Паўза. Даніла паказвае Мацею, каб выйшаў, той знікае.)*

ГЕДЫМІН
Ха!.. Гіцаль!.. Помню, ён яшчэ малым,
Ды і пасля, калі старэйшы быў,
Усё хацеў, каб хтось мяне забіў.

ДАНІЛА
Цяпер вянец яму, відаць, не аддасі?

ГЕДЫМІН
Табе аддам. Ты толькі папрасі.

ДАНІЛА
Не маю праў. І мець не захачу.

ГЕДЫМІН
Чаму?

ДАНІЛА
Давай пра гэта прамаўчу.

ГЕДЫМІН
Не, ты скажы, Даніла... Я прашу!

ДАНІЛА
Уладу ўзяць – гэта прадаць душу.

ГЕДЫМІН *праз паўзу*
Даніла, мы малочныя браты.
У гэты свет з'явіліся мы разам
І разам гадаваліся, раслі...
Ты ад мяне знявагі ці абразы
Меў? Чуў? Трываў? Яны былі?..

ДАНІЛА
Ні разу,
Вялікі князь.

ГЕДЫМІН
Чаму ж, Даніла, ты
Сказаў такое мне?.. Што я пусты,
Што я душу прадаў...
                А ты чым поўны?..
Калі забыўся, я табе напомню:
Ты не даглядчык тут маіх пакояў
І не наглядчык слуг маіх усіх, –
Адзіны сведка цёмных спраў маіх,
Ты іх саўдзельнік – вось што ты такое!
А, значыць, ты – як я.
Ды толькі я – не ты!
Я князь вялікі!.. Так, я не святы,
Я грэшны больш, чым ты,
                тут я з табою згодны, –
І я пачуў цябе... Цяпер пачуў мяне:
Мы можам д'яблу, ці каму заўгодна,
Прадаць душу, калі яна ў цане!..
Твая каштуе колькі?..

МАРГЕР
Гэта подла,
Вялікі князь...

ГЕДЫМІН
А мне казаць не подла,
Што я душу прадаў?..
*(Раптам да Данілы.)*
І ты ўгадаў!..
*(Б'е сябе ў грудзі.)*
І я ўгадаў!..
Што скрыўдзіў, выбачай...
*(Да Маргера.)*
Хто так уладу любіць – на адчай!
На смерць бацькоў! На подласць
                і на здраду! –
Дык той і будзе бараніць свой край,
Дзяржаву, без якой
                не будзе мець улады!
Яго не спыніць ні чужая кроў,
Ні кроў свая – няхай ракой сцякае!..

МАРГЕР
Ты так Яўнута любіш?..

ГЕДЫМІН
Што любоў!..
Хай Папа рымскі пра любоў вяшчае!..
А я люблю Літву!

МАРГЕР
Ты любіш сына...
Але Літва не мусіць, не павінна
Закладніцай тваёй любові быць.
Не можаш ты ляпіць з яе, як з гліны,
Усё, што табе хочацца зляпіць!
Пабачыш, князь! Яна таго не сцерпіць!..

ГЕДЫМІН
Вы мне радня... Скажыце, што рабіць?
Кажы, Даніла... Смела! Не дрыжы...

ДАНІЛА
Забіць таго, хто хоча тваёй смерці!

ГЕДЫМІН
Скажы яшчэ раз... раз яшчэ скажы
Мне гэта... з тым жа выразам
на твары –
І будзеш рады здохнуць на крыжы!
На дыбе! – каб маёй
пазбегнуць кары...
*(Раптам суцішыўшыся.)*
Сказаў?..
*(Даніла ківае.)*
Забыўся?

ДАНІЛА
Перш, чым так сказаў.
Свят-свят... Маўчаў бы лепш...

ГЕДЫМІН
А што ты крыж паклаў
На лоб?.. Хрысціўся?

ДАНІЛА
Не, так не напіўся...
А неяк прычапілася: свят-свят...

ГЕДЫМІН *да Маргера*
Во дзе атрута! Вось дзе – брат легат!..
*(Да Данілы.)*
А дзе наш брат Лугвен?

ДАНІЛА
Мяркую, у вязніцы.
З ім Кейстут і Альгерд.

ГЕДЫМІН
Даюць яму напіцца?..
Пакліч ты іх сюды... Хоць не... Чакай!
Не кліч.
Альгерд дазволу папрасіў, каб лыч
Набіць Лугвену – хай руку пацешыць,
Не трэба будзе ні паліць, ні вешаць,
Усё ж Давыдаў сын...
Давайце без мяне.

ДАНІЛА
Дык што: замураваць яго ў сцяне?

ГЕДЫМІН, *ідучы да выхаду*
Сказаў жа: без мяне!..
Ёсць і ў мяне сыны
На сына гэтага... Як вырашаць яны.

МАРГЕР
А як ты вырашыў з Яўнутам?..
Канчаткова?

ГЕДЫМІН, *выходзячы разам з Маргерам*
Бог ведае!.. Не чуў Яго я слова.

ДАНІЛА
Мацей!

МАЦЕЙ, *з’яўляючыся*
Я тут.

ДАНІЛА
Ты вызнай, дзе тайніца
Княгіні Еўны.

МАЦЕЙ
Чым там пажывіцца?

ДАНІЛА
Цыдулка там адна павінна быць,
Калі яе... ну, раптам не спалілі...

АЛЬГЕРД, *уводзячы перавязанага, з закручанай дзяругай галавой чалавека*
Вось і Лугвен... Мы з ім пагаварылі,
Як бацька папрасіў...

ДАНІЛА
Да смерці не забілі?

АЛЬГЕРД
Ды не, ты што... Размовы –
гэта ж словы...

ДАНІЛА
Мацей, ты паглядзі, які ў нас
рыцар новы!

АЛЬГЕРД
Цяпер у рыцараў такі вось адмысловы,
Бялюткі шлем... Такія вось даспехі...

ДАНІЛА
Што ж, не было б уцехі без пацехі...
Ён будзе жыць?

АЛЬГЕРД
Так... Кейстут, як заўжды,
Усіх шкадуе... Гэны малады,
А гэты не ўвайшоў пакуль у розум...
Калі увойдзе ў розум, будзе позна, –
Каторы раз я Кейстуту кажу!..
*(Выходзячы.)*
Пайду скажу Яўнуту, хай Яўнут
Пабачыць, які слаўны рыцар тут!

ДАНІЛА
Каторы раз пашэнціла смаўжу...
Паклікаць князя?... Можа, пажадае
Князь з ім пагаварыць... Не думаю,
што мае
Жаданне ён, але няхай... Мацей,
Сачы за ім. Ён звер усіх масцей,
Скрозь камень пранікае і жалеза...
*(У дзвярах.)*
І калі б нехта ўсё ж яго зарэзаў,
Было б някепска. І куды прасцей.
*(Мацей ківае, замыкае дзверы.)*

МАЦЕЙ
Даруй, Лугвен... Ты мне, Лугвен,
нічога
Благога не зрабіў... І я табе благога
Нічога не жадаў... Людзей
забіў я шмат,
Звычайна ўпотай, ціха, у засадзе,
Але не сам, Лугвен, а па загадзе...
Калі загад, дык я, Лугвен, не кат...
Калі я толькі зразумеў загад.
*(Дастаючы нож.)*
А калі нават не... Прасцей зарэзаць,
брат.
*(Грукат у дзверы.)*

ГОЛАС ЯЎНУТА
Дзе бацька? Дзе Лугвен?
І дзе мае браты?
Я князь Яўнут! Хто там? Гэй!
Адчыняй! Хто ты?
Ты хочаш, каб я дзверы? Сцены знёс?..

МАЦЕЙ, *хаваючы нож*
Ну, што ж... Калі не лёс, тады не лёс.
*(Адмыкае дзверы.)*

ЯЎНУТ, *урываючыся*
Мацей?!. О, Божа! Як яны Лугвена!..
*(Да Мацея.)*
Пайшоў адсюль!
Пад задніцу каленам!..
Лугвен! Лугвен! Хачу дапамагчы
Табе ўцячы... Хоць як тут уцячы?
Дык што ж рабіць? Лугвен, ты ім нічога
Пра нашу змову ў Крэве не сказаў?
*(Лугвен ківае, Яўнут сутаргава раскручвае дзяругу на ягонай галаве.)*
Сказаў?.. Скажы мне, што?
Каб я таксама знаў!
Ды не маўчы, Лугвен! Скажы мне,
дзеля Бога...
О, Божа... Кейстут... Дзе Лугвен?..
Якога...
*(Да ўвайшоўшага Альгерда.)*
Якога д'ябла выдумалі вы?!.

АЛЬГЕРД
Не быць табе валадаром Літвы.

МАЦЕЙ
Свят-свят... свят-свят...
Калі б я разануў,
Дык дзе б я быў?..

АЛЬГЕРД
Мацей, ты бачыў, чуў!
Ты будзеш сведкам.

МАЦЕЙ, *спінай выходзячы*
Буду, буду, буду...

КЕЙСТУТ
Альгерд... Я гэтага табе
ніколі не забуду!
Твой хітры план... з туману ў галаве!..
*(Мацае сябе.)*
Усё ўва мне змярцвела... Ледзь жыве.
Ён мог мяне зарэзаць! Я ж у скрутку!
Нібы дзіця ў пялюшках!

АЛЬГЕРД
Кейстут, я...

КЕЙСТУТ
Ты ёлупень!.. Калі б не гэтак хутка
Прыбег Яўнут –
прыйшоў бы мне капец!..

ЯЎНУТ
Табе – капец. А некаму – вянец.
*(Да Альгерда.)*
Вунь як прыдумаў ты...
Адразу нас удвох...

АЛЬГЕРД
Ты што вярзеш? Адкуль я ведаць мог,
Што ўздумае Мацей?..
Але якая мэта?..

ЯЎНУТ
Ды сам Мацей не мог пайсці на гэта!
Хтось загадаў...
*(Да Кейстута.)*
Альгерд адзін, хто знаў,
Што ў скрутку не Лугвен!..

КЕЙСТУТ, *супакоіўшыся*
Яўнут, я б зараз даў
У лыч табе...

ЯЎНУТ
Ты – мне? Таму, хто ўратаваў
Цябе ад смерці?..
Вось удзячнасць брата!

АЛЬГЕРД
Ты круцішся, Яўнут, нібы вужака...

ЯЎНУТ, *кідаючыся да Гедыміна, які ўваходзіць з Данілам і Мацеем*
Тата!
Альгерд наш звар'яцеў!
Ён Кейстута хацеў
Забіць!..

ДАНІЛА *да Мацея, які разводзіць рукамі*
Мацей...

ГЕДЫМІН
Была б цяжкая страта.
Хаця не надта, бо старэйшы сын
Пасля мяне ўладарыць застанецца...
Як ты збялеў, Яўнут! Ды што з табою?

ЯЎНУТ
Сэрца...

ГЕДЫМІН
Што, закалола?

ЯЎНУТ
Не, наскрозь баліць...

ГЕДЫМІН *да Альгерда з Кейстутам*
Вось так павінен брата брат любіць!
Што ёсць браты? Адзін з іх, як палова
Другога. І нібы сябе забіць –
Забіць яго!..

КЕЙСТУТ
Вялікі князь, тут змова.

ГЕДЫМІН
Якая змова? З крыжакамі? З кім?

КЕЙСТУТ
Яўнута і Лугвена...

ГЕДЫМІН
Ну, і ў чым?..
Супраць каго?.. Супраць свайго?
Чужога?..

КЕЙСТУТ
Тут быў Мацей. Ён чуў...

МАЦЕЙ
Не! Я не чуў нічога!

АЛЬГЕРД
Мацей, ты сведкам быў...

МАЦЕЙ
Калі і быў, забыў!
Я ўвогуле без памяці... Забіў?..
Ці не забіў?..
Зарэзаў... не зарэзаў... Я не помню.

ГЕДЫМІН
Не помніш?

МАЦЕЙ
Не.

ГЕДЫМІН
Сыны!.. Дык у каго мне
Дазнацца, як было?..
*(Да Альгерда і Кейстута, потым да Яўнута.)*
Вы скажаце адно,
А ён другое... Ну, і дзе яно,
Дзе тое, што не выдумка, а праўда?..

Сыны... Я вас люблю.
Шчаслівы з вамі. Рады,
Што ёсць вы ўсе ў мяне, што ёсць
каго любіць,
Усёй крывёй любіць, насмерць любіць,
зацята!..
І анікога з вас я б не хацеў згубіць.

АЛЬГЕРД
Вялікі князь...

КЕЙСТУТ
Даруй нам, бацька...

ЯЎНУТ, *кідаючыся Гедыміну на грудзі*
Тата!..

**ДЗЕЯ ПЕРШАЯ, СЦЭНА ШОСТАЯ**

Пакой у замку Гедыміна. У пакоі *Маргер*. Уваходзіць *Воін*.

ВОІН
Вітаю, Маргер! Што ў вас тут чуваць,
Апроч таго, што сёння будзе ў замку?

МАРГЕР, *вітаючыся з Воінам*
Не ведаю. Прыкрыта ўсё.

ВОІН
На клямку?

МАРГЕР
Не, на замок. І ключ не падабраць.
Як ты жывеш у Троках?

ВОІН
Ды нічога.

МАРГЕР
Скажы ты мне дзеля ўсяго святога,
Нашто ты Нарымонту Полацк здаў?

ВОІН
Што значыць здаў? Хіба ён нападаў
На Полацк?.. Гедымін рашыў пасад
Аддаць яму. А Гедымін – мой брат.

ГЕДЫМІН, *уваходзячы*
Дзень добры вам, браты! Вітаю вас,
Найлепшыя сябры мае! Дарадцы...
Вы свежыя, нібы гуркі наградцы!
Яшчэ й прыбраліся, як на паказ.

ВОІН
І ты не горш прыбраўся...

ГЕДЫМІН
Дык сама
Княгіня прыбірала...

МАРГЕР
Як яна?..

ГЕДЫМІН, *падыходзячы да вакна*
Малодзіцца... Зноў квецень,
зноў вясна...
Ах, як жыццё віруе і бушуе!..
А мне ўжо час суцішыцца... Зіма.

ВОІН
Твая дачка з вясной цябе віншуе!
У Трокі прыязджала...

ГЕДЫМІН
Я дарма
Аддаў яе ў Маскву. Яна ў Маскве
начуе,
Жыве ў Літве... Эх, радасці няма!..

ВОІН
Я б не сказаў... Вясёлай выглядала.

ГЕДЫМІН
Я, Воін, пра сябе... Пра сілу, што буяла,
Звінела ў целе, у крыві спявала,
Будзіла жарсць, не ведала спатолі!..

Скажы ты мне: чаму нічым ніколі
Не можам мы насыціцца? Глядзі:
Улада, слава, грошы... Іх даволі...

МАРГЕР
Як у каго...

ГЕДЫМІН
Ты зайздрасць не будзі.
Няхай паспіць. Яна сама прачнецца.

МАРГЕР
Нікому ад яе нідзе не дзецца –
І я зайздрошчу, так... Але не ўладзе,
Не гучнай славе на тваім пасадзе,
Тым больш не золату, а волату ў табе!

ГЕДЫМІН
Пра што ты, браце! Быў
ды выйшаў волат.
Я ўжо не адчуваю нават голад,
Не адчуваю смагу! Ну – ані!
І не гады я ўжо лічу, а дні,
І з кожным днём я ўсё старэй, старэй,
Як хлеб, што з кожным днём
усё чарсцвей,
Што ўжо не будзе таго смаку мець,
Які ён меў, калі дасталі з печы,
Такі духмяны! Сма-ка-та... Дарэчы,
Старэць не гэтак страшна,
як чарсцвець.
А мы чарсцвеем. Вось у чым бяда.
І калі можа размякчыць вада
Счарсцвелы хлеб, дык нам ужо нішто
Не верне свежасць...

ВОІН
Кінь! Табе ж не сто!
А бацька жыў да ста!

ГЕДЫМІН
Апошняя вярста
Перада мной... Я гэта адчуваю...
*(Раптам весела.)*
Хрысціцца мне ці не?..
Я тут усё гадаю:
Там з крыжам лепш ці без?
*(Да Воіна.)*
Парай ты мне...

ВОІН
Параю:
Спытай пра гэта ў тых,
хто там ужо ляжыць.

ГЕДЫМІН
Жартуеш, брат... Жартуй...
А мне ў грудзях смыліць:
Вось калі Бог адзін,
дык як з адзіным быць?
Усіх багоў змяніць на аднаго
І ў аднаго паверыць? У каго?
У Перуна? Вялеса? Ці ў Ярылу?
Як можна ў тое верыць, што праз сілу
Ты разумееш? Ну які з багоў
Быць можа ў нас адзін –
і ён жа ў крыжакоў?
У ворагаў!.. Ты можаш зразумець,
Як той жа Бог жыццё дае і смерць?
Я зразумець такое не гатовы...

Агонь нам смерць дае. Жыццё дае вада.
З багамі нашымі мы ў хованкі гулялі!
А хрысціянскі Бог – бясконцая нуда
І плач па тых, каго раскрыжавалі.
Ён – Бог пакут. Занадта Ён суровы...

МАРГЕР
Вялікі князь! Разумныя размовы
Усё ж не могуць розум замяніць.
Скажы нам: што збіраешся рабіць?

ГЕДЫМІН
Абрыдла, што ката цягну за хвост?
Вы пра вянец, а я пра крыж, пра хрост...
Ну, што ж... Бліжэй да спраў –
далей ад слоў.
Як бацька, я люблю маіх сыноў.
Усіх сямёх. Але з усіх адзін
Найблізкі мне, найдарагі мне сын.

МАРГЕР
Чаму адзін з сямёх?

ГЕДЫМІН
Бо не з шасцёх.

МАРГЕР
Як мудра...

ГЕДЫМІН
Апроч сыноў, я меў яшчэ лахудраў,
Якіх пааддаваў я за князёў
Суседніх... Эх, гуляў!..

Дык я ў адным з сыноў
Сябе самога бачу. Пазнаю...
Ён мае сілу, волю, жарсць маю, –
Ну, досведу майго пакуль не мае...

МАРГЕР
І розуму твайго!

ГЕДЫМІН
Дык розум набывае
З узростам чалавек! І ён яго набудзе...

МАРГЕР
Рабі, як хочаш. Мы табе не суддзі.
Ды розум не расце, як той лішай
На макаўцы Яўнута... Выбачай:
Як розуму няма, то ўжо яго не будзе.

ГЕДЫМІН
Бывала ўсяк...

ВОІН
Скажы мне: дзе бывала?..
Я б не дзяліў Літву, каб не прапала.
Яшчэ не ўсё зраслося ў ёй, не стала
Такім, каб не разняць, не разарваць!

ГЕДЫМІН
Што мне на гэта, брат, табе сказаць?..
Калі не падзялю, тады вайна
Пачнецца між сынамі, а яна,
Калі яшчэ й суседзі супраць нас,
Не ў час...

МАРГЕР
А што: вайна хіба бывае ў час?

ГЕДЫМІН
Бывае ў час! І я якраз вайной
Зрабіў Літву вялікаю Літвой!

ВОІН
Дык ты не з братам біўся. Не са мной...

ГЕДЫМІН
Вось я і не хачу, каб біліся сыны
Адзін з адным! Таму й дзялю!..

ВОІН
Дзялі!.. Якраз яны
І ўсчыняць бойку, калі ўсё падзеліш!
Не выйдзе, каб пароўну!
Дзе ты дзенеш
Іх зайздрасць, пыху?
Сам быў малады–
Хіба не помніш?..

ГЕДЫМІН
Быў... І калі б ты тады
Стаў біцца за вянец...

ВОІН
Дык ты б забіў мяне.

ГЕДЫМІН
Забіў бы, так!.. А, можа быць, і не...
Ды што цяпер гадаць,
што быць магло між намі!..
Я не Літву дзялю паміж сынамі,
Дзялю між імі землі, гарады,
Як іх дзялілі продкі ўсе заўжды...

ЕЎНА, *імкліва ўваходзячы з Яўнутам*
Вялікі князь!..

ГЕДЫМІН
А вы чаго сюды?
Вас клікалі?

ЕЎНА
У нас прапала тое,
Што ты пісаў...

ГЕДЫМІН
А я хіба прапаў?
Ці я ніхто? Нішто?
Я месца ўжо пустое?!.
Мяне не стала?..

ЕЎНА, *падціснуўшы губы*
Князь... я не чакала...
Пайшлі, Яўнут!

ГЕДЫМІН
Чакай... А дзе прапала?

ЕЎНА
Там, дзе схавала я...

ГЕДЫМІН
Яўнут, тады давай
Сюды Мацея!.. Не, Яўнут, чакай!
*(Да Воіна і Маргера.)*
Вы ўсе хвілінку пачакайце тут...
*(У дзвярах.)*
Усе супраць мяне...
Са мной адзін Яўнут!
*(Выходзяць.)*

ВОІН
Нявестка, як жывеш?
У Полацак не цягне
Душа?..

ЕЎНА
Ах, дзевер мой!.. Душа любові прагне!
І дзе яна, там я... Дзе муж мой,
дом і дзеці.

ВОІН
Жаночы лёс такі
спрадвек на белым свеце.

ЕЎНА
Чаму спрадвек? Быў іншы ён, калі
Не вы, а мы мужчынамі былі
І кіравалі вамі!..

МАРГЕР
І цяпер
Такія ёсць...

ЕЎНА
Ты плёткі чуў?.. Не вер
Ты плёткам, князь! Нікім я не кірую...
А вы са мной ваюеце!..

МАРГЕР
Калі я і ваюю,
Дык не з табой. Тым больш
не за сябе...
Ты не кусай губу! Вунь пена на губе!..
Усё жыццё я за Літву ваюю...

ЕЎНА
Усё жыццё адно і тое чую:
Ніхто не за сябе! А за народ! Дзяржаву!
А я вось за сябе! Я маю права
Любіць сябе? Любіць дзяцей маіх?

Вы толькі пальцам паспрабуйце іх
Крануць!.. Дык я вам яйцы пакалечу!

ВОІН
Усе мы за сваіх...
Ды ёсць, княгіня, рэчы...

ЕЎНА, *перапыняючы Воіна*
З часоў як род з'явіўся чалавечы,
Адна ёсць рэч: жаночая любоў!
Гэта яна стварыла з вас багоў,
Гэта яна герояў з вас стварыла,
Гэта яе няведамая сіла
Вас падымае! На руках нясе!

МАРГЕР
Няведама куды!..
Ты ўжо ва ўсёй красе
Нам паказалася!
Не строй з сябе нявіннай...
*(Да Воіна з'едліва.)*
Яна стварыла бога з Гедыміна!
Яна яго ўздымае і нясе!..
*(Да Еўны.)*
Ды вы нясухі ўсе! І ты – адна з нясух!
Ты знесла трох сыноў і дочак дзвюх,
І гэта ўсё, што можаш ты!..
Багіня...
*(Раптам падскочыўшы да Еўны, замахаўшы рукамі.)*
Ко-ко-ко-ко-ко-ко...

ЕЎНА
Як выступіў! Вялікі талент гіне...
А можаш знесці хоць адно яйко?
Не можаш? Паспрабуй. Бо хутка два
Табе спатрэбяцца.
*(Тыцкае пальцам у лоб Маргеру.)*
Бо гэта галава
Не думае пра захаванне цела...
*(Да Воіна.)*
Я, дзевер мой, у Полацку ўзляцела,
А там такая вышыня нябёс,
Што ўзнёс мяне да самых зорак лёс,

І ў высі той, у вечнай той, няспыннай
Я пакахала князя Гедыміна.

Я ведаю, што ў вас, як у братоў
Сяброўства ёсць, ёсць братняя любоў,
Але павер мне, што няма і блізка
Таго, што загараецца, як іскра
Вось тут, дзе сэрца, – і з яе пажар
На ўвесь нябесны і зямны абшар!

Вось гэта, князь, каханне... І яго
Я пранясу аж да крыжа майго.
*(Да Маргера.)*
А ты нясі яйко! З гнязда не злазь!..
Шкада, не чуў цябе вялікі князь,
Ён мордай бы цябе –
у гразь, у гразь, у гразь!..

ДАНІЛА, *уваходзячы*
А дзе вялікі князь?
Сабраліся ўжо ўсе...

ЕЎНА
Ён у куратніку. Там, дзе Мацей нясе
Яйко табе... Даніла! Ты – зладзюга!
І князь цябе заб'е!..
*(Выходзіць.)*

ДАНІЛА
Во ведзьма... Во змяюга...
Як-небудзь і напраўду джыгане...

ВОІН
Ну, можа, джыгане...
А, можа быць, і не.

МАРГЕР
Каб толькі нашы не скалечыла
джыгалы...

ДАНІЛА
Шаноўныя князі, прашу да залы!

ЯЎНУТ, *з'яўляючыся збялелы*
Дзядзькі... Даніла... Ён забіў Мацея...

ВОІН
Сівы!.. А праз каханне вар'яцее!..

## ДЗЕЯ ПЕРШАЯ, СЦЭНА СЁМАЯ

1338 год. Замак вялікага князя Гедыміна. Зала прыёмаў. У зале *Гедымін, Воін, Маргер, Даніла, Еўна, Яўнут, Нарымонт* і астатнія сыны і дочкі Гедыміна, папскі легат, князі, вяльможы, госці.

ГЕДЫМІН
Легат... Мой брат... Ах, як ляцяць гады!

ЛЕГАТ
Вы абяцалі нам яшчэ тады,
Калі мы вас мірылі з крыжакамі,
Што прымеце ад Рыма хрост святы.
Дык самы час.

ГЕДЫМІН
Тамаза! Мы на ты
Былі з табой...

ЛЕГАТ
На ты не быў я з вамі.
Вы тыкалі, а я пачціва слухаў.

ГЕДЫМІН
А я цябе не чуў...

ЛЕГАТ
Відаць, балела вуха?

ГЕДЫМІН
Не. Пуп балеў.

ЛЕГАТ
Вы сёння, князь, вясёлы...

ГЕДЫМІН
Легат, вам мала, што я тут касцёлы
Не замінаю ўзводзіць?.. Вунь стаіць!

ЛЕГАТ
Але ж і цэрквы ўзводзяць...

ГЕДЫМІН
Праваслаўным
Куды хадзіць?
Народ наш раўнапраўным
Заўсёды ў веры быў – і так таму і быць!

ЛЕГАТ
Дык хрост вы прымеце?
*(Паказвае ў залу.)*
Вунь Папа з Ватыкану
Вам святара прыслаў...

ГЕДЫМІН
Легат, я гляну,
Як пойдзе ўсё... Калі не наўскасяк,
Дык будзе гэтак. А як не, дык так.

ЛЕГАТ
Як гэтак?.. І як так?...
Я вас не зразумеў.

ГЕДЫМІН
Зноў пуп баліць. Не тое нешта з'еў.

ДАНІЛА, *падышоўшы*
Вялікі князь, вам пачынаць пара...

ГЕДЫМІН
А калі скончу ўсё – дык з плеч гара...
Легат, спытайце лекараў сваіх,
Чаму звязаны гэтак пуп і слых?..

*(Падымаецца на ўзвышэнне, дзе княскае крэсла і княскае ўбранства, Даніла дапамагае яму з убранствам, Гедымін сядае, азірае залу, устае.)*

Сягоння ў Вільні я сабраў усіх
Князёў літоўскіх і вяльмож
шаноўных,
Гасцей з Русі і Польшчы, не чужых
Для нас, і шчыра я вітаю іх,
Як валадар Літвы –
і роўны сярод роўных.

Як тое нам дыктуе даўніна
І звычаі, законы нашых продкаў,
Мы сёння столькі,
колькі маем сродкаў,
Зямлі і гарадоў, падзелім на
Сямёх маіх сыноў, сямёх братоў,
Якім жадаю жыць я сто гадоў
І мацаваць вялікую Літву!..

Я гарады і землі назаву,
Каму якія, і вы ўсе пасля
Пацвердзіце, як сведкі, што зямля
І гарады, падзеленыя мною,
Падзелены законна!.. І вайною
Сынам ніхто не стане пагражаць,
Бо можна больш ці менш іх паважаць,
Калі займеюць славу ці знеславу,
Але ніхто не можа пасягаць
На тое, што належыць ім па праву.

Ад жонкі Віды, пухам ёй зямля,
Я маю двух сыноў, і пакідаю я...
*(Глядзіць на Нарымонта.)*
Старэйшаму з усіх...

НАРЫМОНТ
Я саступіць гатоў
Правы на княжанне таму з маіх братоў,
Каго дастойным лічыць бацька мой!

ГЕДЫМІН
Хоць завядзёнкі ў нас няма такой,
Што да старэйшэга абавязкова
Улада пераходзіць, але слова,
Што Нарымонт сказаў,
як прыклад можа быць
Таго, як не сябе, а як Літву любіць!...
Для Нарымонта – Полацак і Пінск!..

Для Монтвіда я... Кернаў... Слонім...
Дзвінск
У спадчыну сямейную даю!..

Пазней я меў яшчэ адну сям'ю,
І жонка Вольга нарадзіла мне
Альгерда с Кейстутам...
Абодва на вайне
Са мной былі, абодва баранілі
Літвінскую зямлю і заслужылі...

Альгерд пасад у Крэве заслужыў!..
*(Хваля здзіўлення, Альгерд робіць спробу выйсці, Кейстут яго не пускае.)*

А Кейстут заслужыў пасад у Троках
І Берасце з Гародняй!..
*(Хваля здзіўлення, Кейстут схіляецца ў паклоне.)*

Я нажыў
З княгіняй Еўнай трох сыноў... Глыбока
За іх я ўдзячны ёй... Малодшы, Карыят,

Якому найдалей ад вусця да вытока,
Які нібы злучыў пачатак і канец...
Яму – Наваградак, Літвы першасталец,
Дзе кроў літвінская кіпіць, бурліць,
не стыне!..

Сярэдні, Любарт...
*(Да Любарта.)*
Мець табе пасад,
Тваім нашчадкам княжыць на Валыні!..

Застаўся наш
*(адной рукой да Еўны.)*
старэйшы сын...
*(другой рукой да Яўнута.)*
Яўнут...

Яго пасад, сталец ягоны... тут!
Пасля мяне ён валадар Літвы!..
*(Альгерд зноў спрабуе выйсці, Кейстут зноў стрымлівае яго.)*

Альгерд!.. І Кейстут! Я хачу, каб вы
Цяпер і тут, перада мной і ўсімі
Князямі і гасцямі дарагімі,
Прад Богам пакляліся, што руку
На брата не пыдыміце ніколі,
Не пойдзеце супроць бацькоўскай волі,
Не ступіце ў крывавую раку
Братазабойства!..

КЕЙСТУТ
Клятву даць гатоў,
Што не ступлю я ў братавую кроў.

АЛЬГЕРД
І я гатовы... І клянуся ў тым...
Але чаму ты нам, а не братам усім
Сказаў паклясціся?.. Не Карыяту?
Не Любарту? Ці ім руку на брата
Падняць ты дазваляў?..

ГЕДЫМІН
Я сказаў
Усё, што я хацеў... І гэтаксама
Я ўсё пачуў, што я хацеў пачуць.
Хай ні на кім, хто тут, не будзе плямы,
Якой вякі з імён іх не сатруць,
Не саскрабуць!.. Хай праз вякі вядуць
Вялікую Літву валадары такія,
Якія вартыя Вялікае Літвы,
Такія, як сыны мае, як вы,
Хто паважае звычаі святыя
І запаветы продкаў, што былі
І будуць сілай гэтае зямлі!
Жыве Літва!..

УСЕ
Жыве!
Жыве!
Жыве!

ГЕДЫМІН
Яе штандары ветрам не парве,
Адкуль бы ён ні дзьмуў!
Ад захаду ці ўсходу...
Жыць у вяках літвінскмаму народу!
Жыве народ!

УСЕ
Жыве!
Жыве!
Жыве!

ГЕДЫМІН
На тым усё!
*(Заўважае легата, які недаўменна разводзіць рукамі.)*
Хоць не...
*(Рукой да легата.)*
Яшчэ ёсць гэта...
Ёсць звычаі дзядоў,
ёсць продкаў запаветы,
І вось што я скажу напрыканцы...
Ці таф'і носім мы, ці княскія вянцы,
Час працякае праз усіх пароўну,
Нікога не абыдзе, не міне,
І тое, што мы роўныя прад смерцю,
Адзінае, што справядліва ў свеце!..
Смерць ані з кім не сыдзецца ў цане,
Каб адкупіцца, хоць ты грошай поўны
Кашэль ёй дай... Вось тут
пасол шаноўны
Ад Папы рымскага. Ён прапануе мне
Памерці ў новай веры... Так ці не?..
Легат?..

ЛЕГАТ
Я прапаную вам хрысціцца,
Не прапаную паміраць... Каб збыцца

Таму, што пажадалі вы сынам,
Панам вяльможным
і ўсім грэшным нам,
Не лішняй будзе дапамога Бога.

ГЕДЫМІН
Багоў я маю столькі, што замнога
На аднаго... Ды я да іх прывык.
Так, як да хлеба мой прывык язык,
Як вусны да вады і як да зброі рукі,
Як да бацькоў сыны і да дзядоў унукі.
На тым жыццё маё стаяла і стаіць.

Як я магу мінулае змяніць?
Ніяк!.. Усё, што мусіла аджыць,
Яно само сабою аджывала,
Танула ў водах, у кастрах згарала,
І каб хутчэй, дык на агонь я дзьмуў...
Ды тое, што жыло,
я пальцам не крануў! –
Калі яно было хоць некаму ў патрэбу...

Ты кажаш, што душа ўзляціць у неба,
Калі я хрост прыму... У неба я малым
Глядзеў і думаў: як мне жыць у ім?
Мяне ж лятаць без крылаў не вучылі!..
І калі дзеда на кастры спалілі,
Я ўбачыў: узышоў у неба дым.

Дык вось мой запавет сынам маім:
На капішчы, калі зямныя жарсці
Мяне пакінуць на шляху зямным,
Касцёр раскласці. На агонь пакласці
Мяне... у той апратцы, што любіў.
Даць шаблю мне... каня... каб не забыў,
Як я скакаў на ім!..
Як маладым я быў...
У полымя мне кінуць сагайдак,
Рагацінцу і дзіду... Словам, так
Усё зрабіць, як гэта продкі нашы
Рабілі, і крывёй маёю з чашы
Касцёр заліць...

Легат, як звык я жыць,
Так буду паміраць. Не маю я намеру
Развітвацца з Літвой,
зямлёй маёй і верай!..
Прашу гуляць!..
Сталы паўсюль накрыты!..

ЛЕГАТ, *падыходзячы да Еўны і Яўнута*
Вялікі князь нібыта
У той Літве жыве, якая ўжо забыта.
Віншую вас, княгіня! Князь Яўнут...

ЯЎНУТ
Не ведаю... Надзець такі хамут...

ЕЎНА
Мы не чакалі...

ЛЕГАТ *прытворна*
Ну, а хто ж чакаў!..
Мяне здзівіла, што не паказаў,
Не зачытаў тэстамант ён, і хтосьці
Сумневы можа мець
у спадчыне са слоў.

ЕЎНА
Тэстамант ёсць! Напісаны!

ЛЕГАТ
Гатоў
Паверыць вам, княгіня... Але госці...
Вунь колькі тут князёў,
вяльможаў ды паслоў!
Я б не хацеў, каб нехта з іх даклаў...
*(Да Яўнута.)*
Вы, князь, гатовы
да дзяржаўных спраў?

ЕЎНА
Гатовы ён!..

ЛЕГАТ
Мы ў Ватыкане сочым...
Ваш сын, княгіня, можа каралём
Сапраўдным стаць, калі таго захоча...
Пра гэта пагаворым заўтра днём?

ЕЎНА
Так, пагаворым. Дзякую вам, ойча.

ЛЕГАТ
І вам, княгіня. Гэта ўсцешыць Папу...

ГЕДЫМІН, *праходзячы міма, легату*
Яшчэ ў касцёр кладуць мядзведзя лапу
І лапу рысі...

ЛЕГАТ
Гэта для чаго?

ГЕДЫМІН, *ідучы далей да выхаду*
Не ведаю... Кладуць...

КЕЙСТУТ *да Альгерда*
Ты зразумеў яго?..
Што ён сказаў?

АЛЬГЕРД
Сказаў яго спаліць.
На капішчы. Крывёй касцёр заліць.
Дык спалім і зальём.

КЕЙСТУТ
Альгерд, нам абвясцілі...

АЛЬГЕРД
Ну, абвясцілі!.. Каб мы не забілі
Яўнута...

КЕЙСТУТ
Я сябе, мой брат, забіць гатоў.

АЛЬГЕРД
Э, не! Нам нельга забіваць братоў.
А вось пасунуць іх... мы маем права.
*(Абдымаючы і выводзячы Кейстута.)*
Ха!.. Злева ўрэзаў нам –
і ўрэзаў справа!

ЕЎНА *да Яўнута*
Мой сын – вялікі князь! За ім Літва!
Дзяржава!
Цяпер яго ніхто і пальцам не кране!

ЯЎНУТ
Ну, як сказаць... Браты ёсць у мяне...

ЕЎНА
І клятва ёсць! Я ў князя дамаглася,
Каб змусіў іх паклясціся...

ЯЎНУТ
Па часе
Мы забываем клятвы. На пяску
Яны напісаны, які змываюць хвалі.

ЕЎНА
Мой сын – вялікі князь! Дай мне руку...
*(Цалуе.)*

ЯЎНУТ
Ты што!..

ЕЎНА
Табе руку яшчэ не цалавалі,
Як князю ўсёй Літвы, –
я першая цалую!
Дасць Бог, не толькі князю. Каралю...

ЯЎНУТ
Ды што ты!..

ЕЎНА
Дык легат сказаў...

ЯЎНУТ, *азіраючыся*
Не чую!
І слухаць не хачу!..

ЕЎНА
Не бойся... Я з табой...
Я ўсіх жыўцом спалю,
Усіх дзеля цябе пазабіваю!..

ЯЎНУТ, *выходзячы пад руку з Еўнай*
Не ведаў я, якую маці маю...

МАРГЕР, *гледзячы ім услед*
Прыходзіць слава – і сыходзіць слава...
Не разумею я... Такі цяжар... Дзяржава...
А ён аддаў найслабаму яе.
Сказаць, што розуму ў яго
ці волі не стае.
Не скажаш... Дык у чым тады прычына?

ВОІН
Тут, князь, гісторыя, вядомая здаўна...
Дзе не відаць прычыны, там жанчыну
Шукайце... А калі яшчэ яна
Штоночы побач з вамі засынае,
Калі начной зязюляю кувае,
Дык можаце хоць салаўём спяваць,
Мець горла срэбнае, ці нават залатое,
Начной зязюлі не перакуваць...

Ніколі не ўдавалася такое
Ніякім ваярам. І гэтым разам зноў
Перамагла жанчына... Ці любоў... –
Што з веку на зямлі адно і тое.
*(Выходзяць, на сцэне застаецца толькі Сведка.)*

СВЕДКА, *сядаючы ў княскае крэсла, да залы*
Вы пасядзіце там, а я прысяду тут,
У крэсла, у якое сеў Яўнут,
Калі ў Літве не стала Гедыміна,
Але аб тым – наступная карціна...
*(Устае.)*
Вы помніце, якія гарады
Дзяліў вялікі князь?.. Забыліся?.. Тады
Я нагадаю.
Пальцы загінаю:
Наваградак, Літвы першасталец,
Дзе каралеўскі прымяраў вянец
Вялікі князь Міндоўг... Пінск... Ліда...
Слонім...
Вядома, і пра Вільню ўсе мы помнім...
Гародня, Крэва, Берасце... Дык дзе
Была Літва?..

Я сведка тых падзей.
Літва – як сэрца, што з маіх грудзей
Спрабуюць вырваць, але б'ецца сэрца!..
Я сведка і народзінаў, і смерці
Краіны той, названаю Літвой,
Што на Дняпры і Нёмане паўстала
З маёй крывёй і моваю маёй,
Якая для мяне Айчынай стала,
Якую хітра выкралі ў мяне!..
Але ўсё вернецца.
Бяспамятства міне.

На Прыпяці, на Сожы, на Дзвіне
Было, як лесу, нас!.. Па часе –
лес радзей,
Бо высеклі. Я сведка тых падзей:
Як высякалі, памяць карчавалі,
Яе спальвалі, каб не застаўся след, –
Ды след застаўся!..
Ёсць літвінскі свет!

Ён тут. Дзе мы. Дзе край наш.
Дзе вякамі
Жылі літвіны, што свой шлях прад намі
Прайшлі, па рэках лёсу праплылі
Туды, дзе межы неба і зямлі,
Ды нават тыя межы не паклалі
Сцяны між намі, нас не раз'ядналі!..

Няхай не так, як нас завуць, іх звалі,
Але і ў нас, і ў іх адна і тая кроў,
Бо гэта продкі нашы!.. Іх любоў
Стварыла нас!.. І мы аддаць не мусім,
Хоць як заўгодна называюць хай
Наш край: Заходнім краем...
Беларуссю... –
Не мусім мы ні ў радасці, ні ў скрусе
Ні сёння, ні праз век,
ні праз вякі вякоў
Аддаць камусьці памяць пра бацькоў!

## ДЗЕЯ ДРУГАЯ
## АЛЬГЕРД І КЕЙСТУТ

### ДЗЕЯ ДРУГАЯ, СЦЭНА ПЕРШАЯ

1341 год. Узлесак паблізу ордэнскага замка Баэрбург.
Гукі бойкі. Галасы.

ГОЛАС КЕЙСТУТА
Загадана было сядзець усім у схове!
Хто бойку распачаў?
ГОЛАС
Палякі!
ГОЛАС
Не, панове!
Мы ні пры чым!
ГОЛАС МАРГЕРА
Літвіны! Тут засада!
ГОЛАС КЕЙСТУТА
Яўнут! Засада ля твайго атрада!
Скачы, Яўнут! Сячы!
ГАЛАСЫ
Літвіны! Здрада! Здрада!
ГОЛАС ВОІНА
Лугвен! А дзе Лугвен?
ГОЛАС
Ён у сваім атрадзе!
ГОЛАС МАРГЕРА
Вялікі князь паранены ў засадзе!..
ГОЛАС ВОІНА
Забіты Гедымін!!!..
ГОЛАС КЕЙСТУТА
Назад! Усім назад!

ГОЛАС ВОІНА
Альгерд паранены!..
ГОЛАС КЕЙСТУТА
Альгерд!.. Трымайся, брат!..
ГОЛАС ВОІНА
Адкуль тут крыжакі?
Іх быць не мусіць тут!
Яўнут! Ты дзе, Яўнут?
ГОЛАС
Ды вунь ён! Над ракой!
ГОЛАС ВОІНА
Чаго ён там стаіць?
ГОЛАС КЕЙСУТА
Альгерд! Ты будзеш жыць! Мацуйся,
браце мой!
ГОЛАС АЛЬГЕРДА
Як бацька наш?..
ГОЛАС МАРГЕРА
Канец. Сцёк Гедымін крывёй...

*(Святло на сцэне.)*

Гедымінаў замак у Вільні. Пакой з абразамі, малельня княгіні Еўны.

ГОЛАС ДАНІЛЫ *за сцэнай*
Спалілі Гедыміна! Што яму
Цяпер да нас!..

ЕЎНА, *увайшоўшы*
О, Божа мой!.. Чаму
Ты не пачуў ніводнае маёй
Малітвы, Божа!.. Хай не быў ён твой
Ні раб, ні вернік, але ж я твая
Раба, мой Божа!.. Ці зграшыла я
У нечым так, што гэтак пакараў
Мяне?.. Што Ты ў мяне яго забраў!..
Што ж мне цяпер рабіць?..

Ну, досыць выць
Ваўчыцай па ваўку...
Мой воўк жалезны быў...
Каханы воўк мой, воўк мой
сівагруды!..
Ён слёз не ліў. І я іх ліць не буду.
*(Гукае за сцэну.)*
Даніла!..
*(З'яўляецца Даніла)*
Слухай, што табе скажу...

ДАНІЛА
Княгіня, я ужо ў замку не служу.

ЕЎНА
А што ты робіш тут?

ДАНІЛА
Ды вось збяру манаткі –
І прэч дахаткі.

ЕЎНА
Аніякай хаткі
Няма ў цябе!.. Так што жыві, дзе жыў.
Служы таму, каму ты тут служыў.

ДАНІЛА
Нябожчыку?

ЕЎНА
Даволі дурнаты!
Служыць, Даніла, князю будзеш ты
Вялікаму.

ДАНІЛА
Яўнуту?

ЕЎНА
Фу-ты ну-ты!
Яму не падабаюцца Яўнуты!

ДАНІЛА
Я думаў...

ЕЎНА
Што?

ДАНІЛА
Што не даруеш мне...

ЕЎНА
А хто табе сказаў, што даравала?
Калі злаўлю на здрадзе, на мане,
Зраблю з табой усё, што абяцала!
Ты хоць чытаў тэстамант, грамацей?..
Хто з вас спаліў яго?.. Ты сам?
Ці твой Мацей?

ДАНІЛА
Ды не! Мацей аддаў тэстамант князю.

ЕЎНА
Калі аддаў?

ДАНІЛА
Як толькі ўкраў. Адразу.

ЕЎНА
І князь яго забіў?.. За што?..
*(Даніла пацепвае плячыма.)*
Ну, Гедымін!.. Зараза!
Тады ў каго тэстамант можа быць?
*(Даніла зноў пацепвае плячыма.)*
Ён мог перапісаць яго, змяніць...
Пакліч Яўнута!

ДАНІЛА
Ён цяпер якраз
З братамі...

ЕЎНА
Хай вядзе сюды братоў!
*(Даніла выходзіць. Еўна ідзе да абразоў.)*
О, Божа! Колькі Божых абразоў!..

ДАНІЛА, *зноў з'яўляючыся*
Калі я тут служу, тады легат да вас...
*(Выходзіць, прапускаючы легата.)*

ЕЎНА *насустрач легату*
О, як вы ў час!

ЛЕГАТ
Ды мы заўсёды ў час.
Я рады бачыць вас
укленчанай прад Богам.

ЕЎНА
Ягоная мне трэба дапамога!
І ваша!..

ЛЕГАТ
Чым служыць магу, княгіня?

ЕЎНА
Дапусцім, нехта недзе не пакіне...
Ну, запавету... Але не сакрэт,
Каму якая спадчына... Вось гэта, –
Казаў ён, – будзе гэтаму, а гэта
Таму... Дык дастаткова запавету
На словах, каб спаўняўся запавет?

ЛЕГАТ
Ці дастаткова гэтага для Рыму? –
Цікавіць вас?

ЕЎНА
Ну, так! Калі наўпрост.
*(Уваходзіць Яўнут. Еўна, стоячы спінай да сына, не бачыць яго.)*

ЛЕГАТ *не столькі да Еўны, колькі да Яўнута*
Літва пры новым князі прыме хрост?

ЕЎНА, *укленчыўшы перад легатам, перахрысціўшыся*
Усё пры ім Літва ад Рыму прыме!
Клянуся, як прад Богам прад святым!..

ЛЕГАТ, *паказваючы на абразы*
Княгіня, я не Бог!

ЕЎНА
Але за вамі Рым!

ЛЕГАТ
Рым будзе і за вамі, калі з ім
Дамовіцца ваш сын... Вітаю вас, Яўнут!
*(Еўна ўскоквае з каленяў.)*

ЯЎНУТ
Пра што вы тут?

ЛЕГАТ
Пра ўсё! Пра Страшны суд,
Што грэшнікаў чакае, круцялёў!..

ЕЎНА *ніякавата*
Яўнут... Сынок... Легат наш
з намі зноў..

ЯЎНУТ *да Еўны*
І ты... укленчыўшы...
а каб са мной прыйшоў
Альгерд? Ці Кейстут? Каб яны пачулі!..
Убачылі!..

ЛЕГАТ
Вы, князь, сваёй матулі
Павінны ногі мыць і цалаваць,
А не вучыць яе, як жыць!

ЯЎНУТ
І паміраць...
Вы чулі, што ўсе кажуць?... Гедымін
Забіты сынам... Здрадзіў бацьку сын...

ЕЎНА
Яўнут! Не вар'яцей!..

ЛЕГАТ, *робячы выгляд, быццам бы развітваецца*
Мне час... Было мне міла...

ЕЎНА, *затрымліваючы легата*
Смерць бацькі моцна сына падкасіла!
А так ёсць воля ў ім, і розум ёсць, і сіла,
Сам Гедымін казаў пра гэта ўсім!

ЛЕГАТ
Пра розум я не помню... Зрэшты, з ім
Пра гэта я не размаўляў ніколі,
Бо розуму ў яго было даволі.
З разумнымі пра розум размаўляць –
Як дурнем перад імі выглядаць.
Сярод усіх князёў і каралёў
Такіх, як Гедымін, я бачыў мала.
Ён вакол пальца так мяне абвёў,
І так пасля ад Папы мне папала,
Што буду помніць, мусібыць, па скон.
За рымскіх папаў не дурнейшы ён.
Ды толькі ёсць няпісаны закон:
Прырода на сынах адпачывае!..

ЕЎНА
Яўнут! Прашу цябе... Нам Рым
дабра жадае!

ЯЎНУТ
Жадае мне дабра?..
*(Да легата.)*
А што мяне чакае,
Калі адмоўлюся ад вашых прапаноў?

ЛЕГАТ
Нічога не чакае.

ЯЎНУТ *праз паўзу*
Не знайшоў
Я ў вашых словах для сябе адказу,
Сіньёр... Дарэчы, як вас зваць?..

ЛЕГАТ
Сіньёр Тамаза.
Я вам казаў, што бачыў каралёў,
Цароў, князёў, зямных валадароў,
Ды валадарылі яны не самі!
А валадарыў Бог! І Бог быў з намі!

ЯЎНУТ
І з крыжакамі.

ЛЕГАТ
Так. І з крыжакамі.
Яны ў саюзе з намі, крыжакі.

ЯЎНУТ
Мой бацька з імі меў саюз такі.
Яны яго забілі.

ЛЕГАТ
На вякі
Няма саюзаў, князь.
Усё ў жыцці часова.
Вось бацька ваш даў слова...

ЯЎНУТ
Бацькі слова
Не адмяніць! Нікому не пасмець
Нават падумаць так!

ЛЕГАТ
Ну, могуць захацець
І не падумаўшы. Такое тут бывае.
І вам тады якая-ніякая
Падмога, князь, спатрэбіцца...

ЯЎНУТ
Мы самі
З братамі разбярэмся!

ЛЕГАТ
Вы з братамі?
Ва ўладзе, князь, нямашака братоў.
Ні сёстраў, ні бацькоў. Ва ўладзе
толькі кроў,
І хто чыю пралье, магу сказаць наперад.
Вы, князь, у нераце, і гэты нерат
На бераг цягнуць двое рыбакоў.
І выцягнуць! Не зараз, дык пазней.
Яны мацней за вас. Яны за вас смялей,
А вы тут баіцёся крок зрабіць,

Каб жыць! А ўжо вялікім князем
быць,
Дык гэта не для вас... І каралём
не стаць
Ніколі вам!..

ЕЎНА
А як ён можа стаць?..

ЛЕГАТ
Па-рознаму... Каб вас да Рыму ўзяць,
Літву і Польшчу можна аб'яднаць...
*(Да Яўнута.)*
Паслухайце: мы вам дадзім карону!
Мы за руку вас правядзем да трону –
І ўбачыць вас на ім Еўропа ўся!..
Размова, князь, пра гэта! А пасля
Пра ўсё, што толькі ўмесціць галава,
Пра ўсё астатняе!

ЯЎНУТ
Астатняе – Літва?..
Скажыце, што з Літвой, калі я
здраджу ёй
І вам яе прадам, у той Еўропе будзе?

ЛЕГАТ
А што з ёй можа быць? Жыць будзеце,
як людзі!
Вы ж дзікуны! Глядзець жа страх
на вас!
Тут будзе новы лад і новы час!

ЯЎНУТ
Час з новым Богам, лад
з чужым загадам...
Скажы мне, маці: а не пракляне
Літва мяне, калі я дух яе,
Дым капішчаў яе змяню
на рымскі ладан?

ЕЎНА
Не! Я не пракляну! І ўсю тваю віну
Вазьму я на сябе!.. Сівую даўніну
Мы будзем помніць,
цешыць сэрцы ёй!
Ды хопіць жыць у даўніне сівой,
Як бацька твой... Сын,
не шукай прычыну
Адмовіцца!..

ЯЎНУТ
Я тут не пра жанчыну.
Не пра цябе пытаўся. Пра Айчыну.

ЕЎНА
А хто табе Айчына? Што, сынок?
Пясок? Дык ён паўсюль, сынок, пясок,
Каб хату будаваць, ці засыпаць труну...
А маці маеш толькі тут... Адну...
І я – твая Айчына!
Твой выток –
Любоў мая!..
Астатняе – пясок.
*(Да легата.)*
Ён будзе каралём! Ён духам не аслаб!..

ДАНІЛА, *уваходзячы*
Альгерд і Кейстут патрабуюць, каб
Яўнут ішоў да іх.

ЕЎНА
Ён хто? Слуга ім? Раб?..
Мой сын – вялікі князь!
Ніхто патрабаваць
Нічога ад яго не можа!..
*(Да Яўнута.)*
Сядзь
На сваё месца! Не туляйся тут,
Як Гедыміна цень, вялікі князь Яўнут!

ЯЎНУТ
Я Гедыміна сын! І што мне скажа ён?
Ды пракляне! І будзе той праклён
На мне, пакуль жыве літвінскі край!..

ЛЕГАТ
Паганцу ў пекла! Верніку – у рай!
Вам не сустрэцца больш!.. Не пракляне.
Падпішаце, ці не?

ЕЎНА, *падаючы на калені*
Малю цябе! Прашу!..

ЯЎНУТ
Бог не даруе мне. Я прадаю душу...

ЛЕГАТ
Пясок...
*(Дастаючы дамову.)*
Падпісвайце...

ЯЎНУТ
Я з д’яблам падпішу.

ЛЕГАТ
А ў вас сустрэцца з ім жаданне ёсць?

ЯЎНУТ
Я ўжо сустрэўся з ім.
І вы ягоны госць.

**ДЗЕЯ ДРУГАЯ, СЦЭНА ДРУГАЯ**

Зала прыёмаў у замку князя Гедыміна. У зале *Альгерд, Кейстут, Воін, Маргер.*

МАРГЕР
Калі схавалі ў лесе коней, змрок
Рассейваўся, і князь паскорыў крок,
Каб перайсці раку, а крыжакі
Ужо чакалі нас на тым баку ракі.
Забілі князя. Болей анікога.

КЕЙСТУТ
Нашто была нам гэтая аблога!
І замак той! Зімой! Калі дарога
Суцэльны лёд. Цалік без каляін...
Я не пакіну ў замку тым руін!

МАРГЕР
Паспеў за меч схапіцца Гедымін,
А болей не паспеў зрабіць нічога.

АЛЬГЕРД
Мая віна. Бо ён мяне прыкрыў!..
Як я наперад бацьку прапусціў?..

ВОІН
Альгерд, не трэба... Кінь сябе вініць!
Хто Гедыміна мог кудысьці
не пусціць?
А што зімой... Ён раіўся са мной.
На тое і разлік быў, што зімой.
Не выйшла. І не выправіць ніяк...

КЕЙСТУТ
Там дуб зламаны быў. Дык я падумаў:
знак.
І паламалі! Павалілі дуба!

ВОІН
Літва такой яшчэ не знала згубы.
Але як ёсць, так ёсць.
І разабрацца трэба,
Чаму так сталася? А не глядзець у неба,
Казаць, што лёс па лёдзе так панёс...

КЕЙСТУТ
Ды нехта ім данёс! Вось вам і лёс.
Відаць жа, што не спалі крыжакі,
І што ў засадзе той каля ракі
Яны ўсю ноч чакалі Гедыміна!

АЛЬГЕРД
А я схаваўся за ягонай спінай...
*(З’яўляюцца Яўнут і Лугвен.)*

ВОІН
Альгерд, паслухай! Ні пры чым ты,
чуеш?
Ужо не разабраць,
каго ты тут шкадуеш:
Ці бацьку, ці сябе...
*(Да Кейстута.)*
А ты спыніў бы брата!..
*(Яўнут моўчкі праходзіць да вялікакняскага крэсла. Сядае.)*

ЛУГВЕН
На людзях, напаказ пра гэтакія страты
Найбольш шкадуе той, хто вінаваты.

ЯЎНУТ
І я так думаю...

АЛЬГЕРД
Ты права дакажы
На гэтым месцы думаць! Пакажы
Тэстамант нам, Яўнут... І не дрыжы,
Калі ўжо княжыць сеў!

ЯЎНУТ
Я не дрыжу!
Маё тут месца, брат! Тваё – я пакажу.
Я валадар Літвы! На тое ёсць князёва,
Прамоўленае тут, на гэтым месцы,
слова!
Ці вы яго не чулі?..

КЕЙСТУТ
Чулі, чулі...
Ты сакалом вярнуўся ад матулі.

АЛЬГЕРД
Ды певень ён. Які з яго сакол?

ЯЎНУТ
Які ні ёсць, не застануся гол!
Здзяўбу, што мне насыпана на стол,
Што па законе мне пакінуў
бацька мой!..

КЕЙСТУТ
Ты ўжо стаяў з атрадам за ракой,
І я табе крычаў, махаў рукой,
Каб ты скакаў да бацькі на падмогу...

ЯЎНУТ
Куды было скакаць?
Ты бачыў там дарогу?
Суцэльны лёд! А коні без падкоў!

КЕЙСТУТ
Зноў тыя ж словы... Апраўданні зноў...
Калі б ты на падмогу паскакаў,
Дык Гедымін бы жыў!..
А ты чакаў, чакаў...

ЯЎНУТ
Калі б я паскакаў,
дык быў бы мне капут!

КЕЙСТУТ
Ці быў бы, ці не быў, а бацька б жыў,
Яўнут...
А, можа, ты, чакаючы, хацеў,
Ягонай смерці? І цяпер ты сеў...

ЯЎНУТ, *ускокваючы*
Ты што вярзеш?!.
Даніла!..
*(Уваходзіць Даніла са стражнікамі.)*
У цямніцу
Альгерда з Кейстутам!

АЛЬГЕРД
Чакай... За што мяне?
Яшчэ не заслужыў...
Калі мы сталі біцца,
Лёд праламаўся. І ў рацэ на дне
Я ўбачыў зорку з месяцам. Герб Крэва.
Ён што: упаў аднекуль? З неба?
З дрэва?
І ўспомніў я, Лугвен, што ты яго
Паўсюль вазіў с сабой, усім хваліўся,
Што ты пад гэтым гербам
нарадзіўся,
Што гэта месца княжання твайго!
А гэтай восенню, калі я ў Крэве быў,
Ты мне сказаў, што недзе герб згубіў.
Дык вось, знайшоўся ён...
Ты мне сказаць гатоў,
Чаго ты паскакаў да крыжакоў
Напярэдадні зімовага паходу?..
*(Дастае і паказвае герб.)*
Тады на рэчцы не было йшчэ лёду.
Падумай, што сказаць...
Бо могуць пырснуць словы
Крывёй...
Даніла! Ну, а ты гатовы
Сказаць пра змову крэўскую?..
Ці змовы
У Крэве не было?..

ДАНІЛА
Была.

АЛЬГЕРД
Скажы, якая?..
Чаго маўчыш, Даніла?

ДАНІЛА
Прывыкаю
Ды новай службы...

ЯЎНУТ
Рот заткні свой! Сенам!..

ДАНІЛА
Яўнут тады дамовіўся з Лугвенам,
Што той яму як-небудзь дапаможа
Хутчэй са свету бацьку звесці...

ВОІН
Божа!.. Божа... Божа...

АЛЬГЕРД *да Данілы*
Ну дык каго ў цямніцу возьмеш ты?!.

ДАНІЛА
Яўнут – вялікі князь...
*(Праз паўзу, жэстам пасылаючы стражнікаў да Альгерда і Кейстута.)*
Пайшлі са мной, браты...
*(Выходзяць. Кейстут, выходзячы, кладзе нешта ў кішэнь Воіну.)*
ВОІН *да Яўнута*
Зняволіў ты на бацькавым пасадзе
Братоў сваіх... Не быць табе ва ўладзе!
Яна цябе самога задзяўбе!

ЯЎНУТ
Пабачым, хто каго!..
Што Кейстут даў табе?

ВОІН
Ён мне аддаў ключы.

ЯЎНУТ
Чые?

ВОІН, *паказваючы ключы*
Мае. Заўсёды іх хаваю
У Кейстута, калі я тут бываю...
*(Да Лугвена.)*
Лугвен, ты не маўчы... І ўважліва сачы
За кожным словам! На маім мячы
І без крыві тваёй
крыві хапае!

ЛУГВЕН
Ды што за змова? Дзе? Калі? Якая?
Я слухаў – проста зубы мне звяло!
Данілы й блізка ў Крэве не было!
А што Мацей наплёў –
дык князь забіў Мацея
За гэны нагавор!..
У нас казна пусцее!
Нам грошай не хапае ўжо на порткі,
А мы тут чуткі слухаем ды плёткі!

МАРГЕР
Альгерд і Кейстут, значыць,
плеткары?..
Я слухаў і маўчаў пра гэта да пары,
Але я сам быў сведкам той размовы
Пра змову крэўскую. Вялікі князь
да змовы
Паставіўся цікава...

ВОІН
Як цікава?..

МАРГЕР
Нібы Яўнут на змову мае права.

ВОІН
Якое права?

МАРГЕР
Зараз....Пачакай...
Успомніць дай... Сказаў ён так, бадай:
“Той, хто... уладу любіць на адчай,
На смерць бацькоў, на подласць
і на здраду, –
Дык той і будзе бараніць свой край,
Дзяржаву, без якой не будзе
мець улады!
Яго не спыніць ні чужая кроў,
Ні кроў свая – няхай ракой сцякае!..”
Цяпер я бачу: праўда. Не спыняе.

ВОІН
Ён так сказаў?

МАРГЕР
Амаль што слова ў слова.

ЯЎНУТ
Вось веліч Гедыміна! Вось аснова
Таго, што называецца Літвой,
Дзяржавы ўсёй!.. Вялікай ці малой:
Трымай уладу ў ёй любой цаной!
І Гедымін трымаў! І праўдай,
і няпраўдай –
Аберуч ён яе, як меч, па скон трымаў!..

ВОІН
Ён тым мячом Літву нам здабываў!
А ты што ім здабыў, апроч пасаду?..

ЛУГВЕН
А што, апроч улады, здабываць?
З ёй можна ўзяць усё,
што ў свеце можна ўзяць!
Я і ў Маскве, і тут пабачыў, як
Улада людам круціць!.. Гэтак! Так!
Жыўцом людзей закопвае ў магілу!..
І закапаю я жыўцом Данілу!

МАРГЕР
Такой улады хочаш ты?

ЛУГВЕН
Такой!
І так, што зубы зводзіць!

МАРГЕР
Як на сала?..
Пачуў бы зараз гэта бацька твой!..
Няўдзячны ты, Лугвен! Цябе Літва ўзлюляла
І, калі ты вярнуўся, прыняла,
Паверыла табе, пасад дала!

ЛУГВЕН
Мне мала месца, князь, было на тым пасадзе!

МАРГЕР
Нішто так хутка не расце, як здрада ў здрадзе.

ЛУГВЕН
Я крыжакам Літву не прадаваў!

ВОІН
А што ты ў іх рабіў?

ЛУГВЕН
Мяне легат паслаў
Як пасярэдніка між імі і Масквою.

ВОІН
Дык ты з Масквой таксама...

ЛУГВЕН
Я з Літвою,
З Масквою, з чортам лысым – ды хоць з кім!

МАРГЕР
Ты чуў, Яўнут? І ты ў хаўрусе з ім?
Якога табе сала не хапала?

ВОІН
Ёсць розніца паміж уладаю і салам:
Нажэрці салам можна так жывот,
Што ўжо назад яно палезе ў рот,
А ўлады будзе мала, мала, мала...

ЯЎНУТ, *перапыняючы Воіна*
Я ўсё пачуў, што вы мне тут сказалі!
А дзверы – там!..

ВОІН
Што ж, пойдзем... З гэтай залі
Так груба нас яшчэ не выпраўлялі...
Яўнут! Не шмат людзей у свеце балявалі.
Расінку вып'юць. Крошкай заядуць.
Але жылі, не задыхаліся, спявалі...
А падыхалі тыя, што хапалі
Такі кавалак, што не прыглынуць!

ЯЎНУТ
Даволі ўжо вучыць мяне! Я здольны
Вялікім князем быць без нянькаў! Без дзядзькоў!..

МАРГЕР
Ці так пражыць жыццё, ці гэтак – кожны вольны.
Хоць у бацьках і дзецях тая ж кроў,
Бацькі дзяцей бываюць недастойны,
І дзеці – недастойныя бацькоў.

ЯЎНУТ
Чаму я недастойны? Га?.. У чым?

МАРГЕР *у дзвярах*
Ты недастойны
У сабе самім.
Я усё сказаў. Больш сілы не стае...
***(Выходзіць услед за Воінам.)***

ЛУГВЕН *да Яўтута*
Не глянуліся мне дзядзькі твае!
Ім месца там жа, дзе твае браты.

ЯЎНУТ
Як холадна... Які палац пусты...

## ДЗЕЯ ДРУГАЯ, СЦЭНА ТРЭЦЯЯ

Альгердаў замак у Крэве. Пакой у Княскай вежы. У пакоі *Альгерд* і *Кейстут.*

АЛЬГЕРД
У Крэве хоць не замак Гедыміна,
Ды можна жыць...

КЕЙСТУТ, *лепячы нешта з гліны*
Альгерд! Якая ў Крэве гліна!
Найлепшая!.. Нідзе такой няма.

АЛЬГЕРД
І ў замку тут, бадай, найлешая турма.

КЕЙСТУТ
Маглі мы нават з горшай не ўцячы,
Калі б не даў я Воіну ключы
Нябожчыка Мацея, у якога
Яшчэ тады забраў, калі дапамагаў
З вязніцы ў Вільні выбрацца Лугвену...
І ты глядзі, якія перамены,
Якім зігзагам ходзіць дапамога:
"Дапамажы яму!" – сказаў мне Бог,
І вось цяпер Лугвен, як мог,
нам дапамог.
Не сам, але ён з намі ў ланцужку,
Усе мы ў звязку на адным вяку.
Так знітавана ў свеце ўсё, звязана!..
І ўсё таемна, хоць усё названа.
Вось ты Альгерд... Я Кейстут...
Мы з гурмы
Князёў... Валадароў...
А хто такія – мы?..

АЛЬГЕРД
Ты нешта лепіш, брат...

КЕЙСТУТ
Ляплю я герб турмы,
Які згубіў Лугвен у крыжакоў.
Мы на турму яго павесім зноў,
І калі ў Крэве будзем мы сядзець,
Дык будуць зорка з месяцам глядзець,
Як мы сядзім. Прыгожа? Паглядзі!

АЛЬГЕРД
Ідзі ты, Кейстут!..

КЕЙСТУТ
А куды "ідзі"?
І з кім "ідзі"?.. Пакуль ніхто з князёў
Нам не азваўся.
*(Падыходзіць да байніцы, глядзіць.)*
Тут глыбокі роў...

АЛЬГЕРД
Дык абарончы замак. Не палац.

КЕЙСТУТ
Ну й добра... Хоць не будзе так палаць,
Гарэць не будзе гэтак, як палацы...
А колькі поту тут! А колькі працы!
А колькі стогнаў чуў і слёз пабачыў ён...
Не, нездарма прыдуманы праклён:
Бадай бы ўсё жыццё табе не паміраць,
На Крэўскі замак камяні цягаць!
Цяпер тваё ўсё тут. І хаты ўсе з дымамі,
І камяні, і стогны з камянямі.
*(Узіраецца ў байніцу.)*
І госці ўсе твае!.. Нарэшце нехта нас
Асмеліўся наведаць... Значыць, час!

АЛЬГЕРД
Стась! Хто там, Стась?

СТАСЬ, *уваходзячы*
Ды нейкі пскоўскі князь.
І кажа, што твой сын...
Напёрлася сыноў
Да нас з усіх краін, з усіх бакоў.

АНДРЭЙ, *увайшоўшы, да Стася*
Ты што, ганчар? Забыў мяне, стары?
Не помніш, як катаў мяне з гары,
На гушкалках гайдаў
пад замкавай сцяной?..

СТАСЬ
А, Божухна! Андрэйка!..
Хлопчык мой...

АНДРЭЙ
Вітаю, бацька!.. Дзядька, добры дзень!

АЛЬГЕРД
Здароў, Андрэй, здароў!
Было табе не лень
Скакаць ад Пскова,
каб мяне пабачыць?

АНДРЭЙ
Я з Вільні зараз. Ад Яўнута...

АЛЬГЕРД *да Кейстута*
Значыць,
Саспела нешта...

АНДРЭЙ
Чуткі па Літве
Пайшлі ад Вільні і дайшлі да Пскова.

КЕЙСТУТ
І што за чуткі?

АНДРЭЙ
Што Літва гатова
Пад Рым пайсці, каб насаліць Маскве.

АЛЬГЕРД
Усё?..

АНДРЭЙ
Не ўсё. Яшчэ Яўната слова,
З якім у Крэва ён мяне паслаў:
Ён выбачаецца за тое, што сурова
Паставіўся да вас, і перадаў,
Што больш чыніць не будзе праследу
І вас чакае заўтра да абеду.

КЕЙСТУТ
А што ў меню... – табе ён не сказаў?

АНДРЭЙ
Мяне ён на абед не запрашаў.
Я зразумеў з размовы, што ён змовы
Супраць яго баіцца, што вы ўдвух
З яго аднойчы выпусціце дух.
Ён кляўся, што вас любіць...
Біўся ў грудзі!..
Дык што яму сказаць?..

КЕЙСТУТ
Скажы: а-ба-вяз-ко-ва будзем!

СТАСЬ, *уваходзячы*
Мне з гэтымі гасцямі хоць памры,
Хоць чорта ў памагатыя бяры!
Яшчэ адзін.

КЕЙСТУТ
Папёрлі... Паскакалі.

СТАСЬ
Ён страшны, як той чорт,
якога абскубалі.
*(Упускае падчашага Карнея. Падчашы ўвесь чорны. У сажы, у попеле.)*

КАРНЕЙ
Дзень добры вам, князі! Хай Стась
прапаліць лазню...
Так не адмыюся...

АЛЬГЕРД
Ты што: у пекла лазіў?
*(Да Кейстута.)*
Падчашы. Не пазнаў яго?

КЕЙСТУТ
Падчашы!..
О, Госпадзі! Даруй грахі нам нашы!
Ты скуль такі засмажаны, Карней?

КАРНЕЙ
Я з капішча.

АЛЬГЕРД *да Стася*
Ідзі ўсю рэчку грэй!
Адмыць такога цэбра будзе мала!..

СТАСЬ, *беручы пад руку Андрэя*
Табе калісьці гладыша хапала.
Такі маленькі быў... Як некалі, сынок,
Пайшлі са мной! Пад венік! На палок!
Пагрэю, як раней!..
*(Выходзяць.)*

АЛЬГЕРД
Скажы ты нам, Карней,
Што за халера на цябе напала,
Загнала ў пекла?.. Што ты натварыў?
Не так віно наліў?..

КАРНЕЙ
Усё жыццё служыў
І верным быў я князю Гедыміну...

КЕЙСТУТ
Мы помнім, як ты з ім атруту піў!

КАРНЕЙ
І гэткім верным перайшоў да сына.
Яўнут мяне на капішча паслаў!
Каб я пагробся там, каб пакапаў...

АЛЬГЕРД
Чакай, чакай... На капішча якое?

КАРНЕЙ
На наша... На Ярылава... На тое,
Дзе мы спалілі князя Гедыміна.

АЛЬГЕРД
І што на капішчы
знайсці ты быў павінны?

КАРНЕЙ
Тэстамант.

КЕЙСТУТ
Што?..

КАРНЕЙ
Князь у апратцы быў,
Якую ён любіў... І, можа быць, у ёй
Насіў тэстамант...

КЕЙСТУТ
Ён жа стаў зямлёй...
Стаў попелам...

КАРНЕЙ
І я яму пра тое!
А ён сказаў, што не гарыць святое.

СТАСЬ, *увайшоўшы*
Святое не гарыць, але згарае!
Гатова лазня!..

АЛЬГЕРД *да Карнея*
Дурата якая...
І што ты накапаў?

КАРНЕЙ
Што бачыце на мне.

КЕЙСТУТ
Мог Бог! Хай смерць мяне не абміне,
Але абыдзе розуму зацьменне!..

СТАСЬ
Дык розныя здараюцца здарэнні
У Крэве. Я малы быў, дык вада
У рэчцы загарэлася... Жуда
Была такая, Божа мілы мой!
Бо як памыцца вогненнай вадой,
Або гарод паліць? А пачалі тушыць,
Дык быццам толькі падлівалі масла!..
Што ж, думалі, рабіць?..

КЕЙСТУТ
І што?..

СТАСЬ
Само пагасла.
(*Да Карнея.*)
Даўно чарцей не мыў я!
Мыць дык мыць!
Я ў печ не дровы накідаў, бярвенні!

КАРНЕЙ, *выходзячы са Стасем*
А замак разам з лазняй не згарыць?..

АЛЬГЕРД *услед*
У Крэве розныя здараюцца здарэнні...

КЕЙСТУТ
Не толькі ў Крэве...

АЛЬГЕРД
Ты цяпер у Трокі?

КЕЙСТУТ
Ну так, калі ўжо скончана вайна...
Будую новы замак там. Высокі,
З яго ўся Вільня будзе мне відна,
Як усё Крэва з гэтага вакна.
Эх, колькі ў нас прасторы, колькі волі!
І, можа, больш не трэба? Га?..
Нашто нам болей?
Мы тое, што ў нас ёсць,
не можам ускапаць,
Засеяць так, як трэба, і пажаць.
Ваюем! Б'ёмся! Землі далучаем!..
Нібы не хопіць нам зямлі, што маем,
На дзве магілы.

АЛЬГЕРД
На тваю з маёй?

КЕЙСТУТ
Ці на маю з тваёй. Падзелімся зямлёй.

АЛЬГЕРД
Дык вось давай дамовімся дзяліцца.
Як біўся я, так я і буду біцца!
Я гэта Гедыміну абяцаў!

І абяцаў яшчэ,
што дзе б зямлю ні ўзяў,
І колькі б я ні ўзяў,
аддаць палову брату.

КЕЙСТУТ
Ты гэта да чаго?

АЛЬГЕРД
Ты можаш браць лапату!
Бяры! Капай! Увесь літвінскі край
Перакапай!.. У ім, як на пагосце,
Скрозь косці й чарапы!
Скрозь чарапы і косці!
Ён нам дастаўся гэтакай цаной!
І за яго, за продкаў, за нашчадкаў,
Каму, брат, біцца, як не нам з табой?..

КЕЙСТУТ
Ты так усё сказаў, хоць стаў пячатку
І подпісы пад тым, што ты сказаў.
Чаго цябе забрала так? Не спаў?

АЛЬГЕРД
Сон бачыў страшны.
Двойчы сніўся ён.
Ты стаў вялікім князем...

КЕЙСТУТ
Файны сон!

АЛЬГЕРД
А сына майго ў Крэве ты ў цямніцы
Трымаў і катаваў... І задушыў...

КЕЙСТУТ
Андрэя?

АЛЬГЕРД
Не, Ягайлу... Можа збыцца,
Што двойчы сніцца!..

КЕЙСТУТ
Так. Але наадварот,
Як кажа пра такія сны народ.

АЛЬГЕРД
Дык, значыць, ён цябе...

КЕЙСТУТ
А сын твой кім
У сне тым быў?

АЛЬГЕРД
Ён сынам быў маім.

КЕЙСТУТ
Такія жахі сняцца толькі ў Крэве.
Тут чэрці з ведзьмамі
сядзяць на кожным дрэве,
Вунь колькі іх! Ты паглядзі з акна...

АЛЬГЕРД, *падышоўшы да вакна*
Літва ў вакне... Літва...
Ад краю ў край адна.
І будзе нехта з нас у ёй вялікім князем.
Пытанне: хто?..
СТАСЬ, *з'яўляючыся з венікам у руках і Сведкам за спінай*
Князі! Хадзем у лазню!
*(Паказваючы на Сведку.)*
Староста абяцаў,
што ў лазні будуць кралі!
Даўно ўжо мне пупок яны не шаравалі,
Дык я гатовы!..

АЛЬГЕРД
Стась! Ну, ты і зух!..

СТАСЬ
Такія ў Крэве ўсе!
Адзін тут варты двух!
*(Выходзяць, размінаючыся са Сведкам.)*

СВЕДКА
Я сведка тых падзей. Я часу таго сведка.
Ішлі гады, круцілася рулетка –
І выпадала кожнаму сваё,
І ў круг, дзе смерці ставілася метка,
Няўмольна біла лёсу вастрыё!

І збыўся сон, які Альгерд прысніў.
Ягоны сын Ягайла задушыў
У Крэве Кейстута, Альгердавага брата,
Які Ягайлу родным дзядзькам быў...
Тут смерць на смерці. Тут на страце
страта.

Мне сведкам быць
у гэтым замку горка.
Я ў свет з'явіўся тут – і тут
на ўсіх пагорках
Майго маленства босыя сляды...
У торбачцы бабулінай тады
Гарэхі мне прыносіла вавёрка.

Па тых пагорках час сцякае дымам.
Плыве, плыве
паміж Масквой і Рымам
Таксама, як пры Гедыміне плыў,
Як плыў пры ўсіх забітых Гедымінам,
І плыў над тымі, хто яго забіў.

Тут голая зямля
скрозь дым глядзела гола,
Як за вайной вайна на ёй круцілі кола,
Ішлі, ішлі – і не маглі сысці,
Тут нават камяні перамалола
Так, што ад іх пясчынкі не знайсці!

Усё было тут... Ды не ўсё збылося...
Тут людзі так жылі,
як пад сярпом калоссе,
І калі знесла іх, як ветрам зносіць пыл,
Не толькі іх саміх не засталося –
Не засталося нават іх магіл.

Як дрыжыкі з вады, сышлі яны
з зямлі,
І ўсе б забыліся, кім тут яны былі,
Князямі, воямі, сваімі ці чужымі, –
Але ёсць край, дзе ўсе яны жылі,
І ёсць народ, які ствараўся імі!

Ад плуга іх – глыбокая ралля.
Яны ўзаралі поле – на пасля,
Пасля сябе – для нас, для тых –
хто йдзе за намі,
Таму іх помніць тут сама зямля
Адвечнымі сівымі курганамі.

Са сцэны свету нас не ссунуў час,
Літвінскі зьніч гарыць на ёй, не згас,
Мы ўсталі з попелу, мы падняліся
з тлену,
І як бы ні штурхалі ў спіну нас,
Мы ўжо ніколі не пакінем сцэну!

**ДЗЕЯ ДРУГАЯ, СЦЭНА ЧАЦВЁРТАЯ**

1345 год. Вільня, гарадская брама.

ГАЛАСЫ
Літвіны! Вільня! Каля вашай брамы
Князь Кейстут з войскам!

Кейстут? Князь?

Ён самы!

Сын Гедыміна?

Гедыміна сын!

Ён з кім? З Альгердам?

Не! Пакуль адзін!
Але Альгерд ужо на падыходзе!
Яўнуту годзе княжыць!

Годзе! Годзе!

Дык адчыняйма браму, каб не біць
Адзін аднога! Горад не паліць!
Каб не бурыць наш дом!..
*(Рыпенне брамы.)*
Вітаем князя Кейстута!
Чалом!..
Заходзь, наш князь, у дом гаспадаром!

*(Святло на сцэне.)*

Замак Гедыміна ў Вільні. Зала прыёмаў. У зале *Яўнут* у княскім крэсле. З ім *Лугвен.* У дзвярах стражнікі.

ЯЎНУТ
Дзе ваявода? Войска наша дзе?
Даніла! Дзе Даніла?.. Мы ў бядзе!
Дзе той легат? Казаў, што дапаможа!..

ДАНІЛА, *уваходзячы*
Цяпер нам дапаможа толькі Божа.
У Вільні Кейстут. Вільня за яго.

ЯЎНУТ
А хто за нас?

ДАНІЛА
Нікога, апроч Бога.
Але і Ён сягоння за нікога.

*(Стражнікі, паклаўшы зброю на падлогу, выходзяць.)*

ЯЎНУТ
Пабеглі, пацукі!..

ДАНІЛА
І вы, пакуль ёсць час,
Збягайце, князь.

ЯЎНУТ
Куды?

ДАНІЛА
Лугвен праводзіць вас.
Ён месца ведае.

ЯЎНУТ
Лугвен прадасць мяне,
Як прадаваў усіх!

ЛУГВЕН
Ці ты ідзеш, ці не?

ЯЎНУТ
Пайшлі!
*(Ідзе за Лугвенам, цягнучы за сабой крэсла.)*
Што стаў? Вядзі!..

ЛУГВЕН
Там з крэслам не пралезці.

ДАНІЛА, *забіраючы крэсла*
Пакінем тут яго. Там ёсць,
на што прысесці.
І ўбранне княскае здымі,
каб не пазналі.
Вазьмі маё...
*(Пераапранаюцца, Яўнут і Лугвен выходзяць.)*
Ну вось... Адзін я ў залі.
У свеце ўсім адзін. Каб нават сын,
Або дачка была,
дык што б яно змяніла?..

Памерла Еўна – і з Яўнута сіла
Зусім сышла. Цяпер яму – магіла.
Але туды не я Яўнута пакладу,
Не я аддам яго расправе ці суду...
*(Сядае на крэсла.)*
Ні разу за жыццё я не прысеў
На гэта крэсла. Нават не хацеў.
*(Ёрзае на крэсле, падскоквае.)*
Ну во... І пада мной не падае яно.
Відаць, любому крэслу ўсё адно,
Якая на ім задніца сядзіць,
Хто шоўк на ім пратрэ і прапярдзіць.
А за яго змагаюцца насмерць...

Вось я зірну назад – такая кругаверць,
Такая мітусня – не разабраць, хто дзе,
Хто скуль ідзе і хто каго вядзе,
Куды вядзе: на блуд, на Страшны суд?
Калі на суд, што будзе на судзе,
Хто будзе пад судом,
хто будзе над судом? –
Садом з Гамораю, Гамора і Садом!..

Здаецца, яшчэ ўчора быў дзіця,
А сёння ўжо стаміўся ад жыцця.
Цяпер нібы я не ў жыцці, а ў тым,
Што, можа быць, за ім, ці перад ім, –
Але не ў ім самім... Каля яго дароў
Сяджу, як каля мяса без зубоў...
*(Падымаецца, распраўляе на сабе княскае ўбранне, прымярае вянец.)*

Няхай шчаслівы той, хто доўга жыў,
Хто сто гадоў на пальцах налічыў,
Ды шчаслівейшы той,
хто не лічыў гадоў,
І хто сышоў раней, чым час яго сышоў.
Мой час маім быў толькі міг адзін:
Калі ў маім жыцці быў Гедымін...
Пара сыходзіць. Бо сышоў мой час.
*(Цягне крэсла ў глыбіню сцэны, сядае спінай да залы.)*

ГОЛАС КЕЙСТУТА *за сцэнай у тупаце, які нарастае*
Яўнут! Ты дзе, Яўнут? Хадзі да нас!

АНДРЭЙ, *урываючыся з мечам у руках*
Яўнут! Ты тут? Ты на пасадзе?.. Злазь!..
Ты не вялікі! Ты маленькі князь!
Паменшым мы цябе на галаву!..
*(З узмахам мяча.)*
За тое, што прадаў вялікую Літву!..

КЕЙСТУТ *у дзвярах*
Стой! Не сячы! Кінь меч!..

*(Андрэй збівае вянец з галавы Данілы.)*

А каб забіў?!

АНДРЭЙ
Я і хацеў забіць!.. Але нібы схапіў
Хтось за руку і ўверх падкінуў меч!..
А так бы галава зляцела з плеч.
Яна й не падыходзіла яму.

КЕЙСТУТ
Ды я табе, шчанюк, сам галаву здыму!
Ён брат мой! Ён твой дзядзька!
Бацькі брат!

АНДРЭЙ, *кідаючыся на Кейстута*
Я не шчанюк!.. Я пскоўскі князь!..

КЕЙСТУТ, *выбіваючы меч з рук Андрэя*
Ну, гад!..
У бацьку ўвесь...

*(Падыходзіць да Данілы.)*

Яўнут, ты з крэсла злезь...
А то нібы прырос...
Ды гэта ж не Яўнут...
Даніла тут...

АНДРЭЙ, *абышоўшы крэсла*
І праўда не Яўнут...

КЕЙСТУТ
Даніла... Эй... Даніла... Ты жывы?..
Памёр...

АНДРЭЙ
Ну, не вялікі ж князь Літвы!
І страта невялікая.

КЕЙСТУТ
Андрэй...
Я з ім прыжыў жыццё... Не смейся...
Не дурэй...
Я мог бы не казаць, але, бадай, скажу...
Людзьмі, якіх люблю, я гэтак даражу,
Што каб тут быў Яўнут,
і ты б яго засек,
На гэтым, можа быць,
і скончыўся б твой век.
Я і Данілу гэтак жа любіў...

АНДРЭЙ
Каб я забіў яго, дык ты б мяне забіў?..
Але ў мяне з табой адна і тая кроў!..

КЕЙСТУТ
Так, кроў перадусім.
А над усім – любоў.
Яна ўвайсці павінна ўглыб крыві.
Туды яе ўпусці і з ёй жыві.
Інакш не зразумець, нашто і для чаго?..

АНДРЭЙ
Ну, не забіў жа я... І мне шкада яго...
Хоць, як па мне, дык хітры быў,
крутлівы,
І ўрэшце сам сябе перахітрыў.

КЕЙСТУТ
Неспасцігальныя жыцця
і смерці звівы...
Ён нас перахітрыў.
Даніла сведкам быў,
Адзіным сведкам здрадніцтва Яўнута...
Не князя! Гедымінавага сына!..
І сведчыць супраць сына Гедыміна
Не захацеў...
*(За сцэну.)*
Гэй, хто там?..

АНДРЭЙ, *падымаючы з падлогі меч*
Князь, што мне рабіць далей?..
*(Уваходзіць Карней.)*

КЕЙСТУТ
Чакай... У нас нябожчык тут, Карней...
Здымі з яго князёвую апратку...

КАРНЕЙ
Тут нейкая папера пад падкладкай...

КЕЙСТУТ
Ты ведаеш, куды прапаў Яўнут?

КАРНЕЙ
Яшчэ нядаўна быў з Лугвенам тут.
Удвух пабеглі на гару праз сад...

КЕЙСТУТ *на шум за сцэнай*
Што там яшчэ?..
*(Уваходзяць стражнікі. Бяруць кінутую імі зброю. Выходзяць і ўводзяць Яўнута з Лугвенам.)*

ПЕРШЫ СТРАЖНІК
Абодвух, князь, злавілі...

ДРУГІ СТРАЖНІК, *паказваючы на Лугвена*
Яны... вось гэты... стражніка забілі...

ЯЎНУТ
Зусім я ногі замарозіў, брат...

ЛУГВЕН
Дык я і павярнуў яго назад,
Каб не замерз...

КЕЙСТУТ *да Яўнута, паказваючы на Лугвена*
Ты збег... а ён цябе дагнаў?

ЯЎНУТ
Нас твой атрад злавіў...
Лугвен мяне прадаў.

КЕЙСТУТ *да Андрэя, паказваючы на Лугвена*
Вось што табе рабіць!
*(Андрэй бярэцца за меч.)*
Ды не цяпер, пасля...
Лугвен, Лугвен... І носіць жа зямля...
Скажы, каб пра цябе
на свеце не забылі,
Што напісаць нам на тваёй магіле?

ЛУГВЕН
Я б напісаў: “Пакінуў ён Маскву.
Любіў Літву і ўратаваў Літву!”

КЕЙСТУТ
Во яно як... Любіў і ўратаваў!

ЛУГВЕН
А як яшчэ? Калі б я не сказаў,
Не папярэдзіў вас яшчэ ў той час,
Калі Літва ледзь на нагах стаяла,
Што йдзе на вас ардынская навала,
Дзе б вы былі?.. І хто, калі не я,
Даводзіў крыжакам, што гэтая зямля
Не мусіць знішчыцца, а быць мяжой,
сцяною
Між імі і ардынскаю Масквою!
Я гэта ўсё зрабіў! Вось так і напішы.

КЕЙСТУТ
Я б напісаў... Але не ад душы.
Не шчыра гэтак будзе. І няпраўда...
А праўда – так: “Яго любіла здрада!
Ён цвёрды быў у прынцыпах сваіх:
Калі ўжо прадаваць,
дык прадаваць усіх!”
*(Да Карнея.)*
Што за папера там?..

КАРНЕЙ, *аддаючы паперу*
Тэстамант.

ЯЎНУТ
Божа мой...
Што там напісана?..

КЕЙСТУТ, *чытаючы тэстамант*
Што ты ды мы з табой...
Цяпер ужо не важна...
*(Не вытрымлівае, рагоча.)*
Ну а ты!
Пагнаў Карнея ты ў агонь святы,
Дзе не гарыць папера!.. Ой, Яўнут...
Які яшчэ ў маленстве быў ты чмут,
Такім застаўся...

ЯЎНУТ
Самі вы чмуты!..
Дык што ў тэстаманце?

КЕЙСТУТ
Тэстамант – не скрыжалі.

ЯЎНУТ
Калі б па-хрысціянску пахавалі,
Дык, можа б, адкапалі...

КЕЙСТУТ
Ты здурэў!
Вось ён, тэстамант! Ты на ім сядзеў!..
*(Стражнікам.)*
Абодвух у цямніцу!..

АНДРЭЙ
Мне пара.

ЯЎНУТ, *упіраючыся ў дзвярах*
Не! Я хачу ў Маскву! Там Насця!
Там сястра...
*(Стражнікі выцягваюць Яўнута і Лугвена.)*

КАРНЕЙ
Калі ён больш не князь,
апратку дзе падзець?

КЕЙСТУТ
Ды тут пакінь...
*(Карней накідвае апратку на вешалку за крэслам.)*
А бацька твой сядзець
У Віцебску збіраецца?

АНДРЭЙ
Ён браў
Мажайск учора. Спіць. Адпачывае.

КЕЙСТУТ
І колькі будзе спаць?..

АНДРЭЙ
А чутка йдзе такая,
Што з Віцебску ён ноччу паскакаў.
І ўжо пад Крэвам недзе.

КЕЙСТУТ
Значыць, едзе...
Ды нешта доўга. Ці не заблукаў.
Давай у Крэва, князь!
Хачу, каб ты сказаў,
Што Кейстут без крыві
сталец літоўскі ўзяў,
Яўнута выгнаў... Выгнаў, не забіў...
І што, не дачакаўшыся Альгерда,
Сябе вялікім князем абвясціў.
Во ён прыскача хутка! Да абеда!

АНДРЭЙ
Я сам з такою весткай не паеду!
Пашлю ганца. Ды толькі вось каго,
Каб не шкада было?..

КЕЙСТУТ
А ты пашлі Лугвена.
Кудысьці нам пара паслаць яго.
*(Развітваюцца, Андрэй выходзіць.)*
Ну што, Даніла? Жылы ўсе і вены
Ты выцягнуў з сябе... А для чаго?

КАРНЕЙ
Служыў князям.
Памёр на месцы княжым.
Так скажам, не дарма...

КЕЙСТУТ
Ну, што ж... Давай так скажам.
Вынось яго. Вынось яго жыццё.

КАРНЕЙ
А вы пасад Альгерду аддасцё?

КЕЙСТУТ *у дзвярах*
Аддам Альгерду.

КАРНЕЙ
Але ж гэта вы
Зрабілі ўсё...

КЕЙСТУТ
Зрабіў дзеля Літвы.
*(Выходзіць.)*

КАРНЕЙ, *выцягваючы за сцэну крэсла з нябожчыкам*
І ты дзеля Літвы ўпіраўся на вяку...
І што?.. Калі жыццё,
як дым на скразняку.
*Сцэна пустая. Толькі бліскаюць у глыбіні сцэны князёва апратка на вешалцы ды ссечаны Андрэем з галавы Данілы княскі вянец.*

АЛЬГЕРД, *выбягаючы з мечам з другога боку сцэны*
Дзе Кейстут?.. Дзе ты, здрайца?
Засяку,
Як толькі што ганца твайго засек!
Ты болей мне не брат!
Чужы мне чалавек!
Чужая кроў! І на маім мячы
Чужую кроў хачу я запячы,
Былому брату знёсшы галаву!

Ты не мяне прадаў! Прадаў Літву!
І Гедыміна! Бацьку ты прадаў!

КЕЙСТУТ, *выходзячы з мечам*
А ты дзе быў, калі я прадаваў?!.

АЛЬГЕРД
Я пад Мажайскам быў!
Мажайск я браў!

КЕЙСТУТ
А калі ўзяў, дзе быў?
У Віцебску чакаў,
Як тут усё павернецца?

АЛЬГЕРД
Я спаў!
Я проста спаў, стаміўшыся насмерць!
Паслаў Андрэя ў Вільню! Дзе Андрэй?
Ты і яго прадаў? Агнём табе гарэць
На капішчы Ярылы!..
*(Кідаецца на Кейстута.)*

КЕЙСТУТ, *адбіваючыся*
Не звярэй!..
Паслухай ты мяне!

АЛЬГЕРД
Наслухаўся па горла
Я ўжо цябе!

КЕЙСТУТ
Во як табе прыпёрла
Вялікім князем стаць!
Ну, а чаму не мне?

АЛЬГЕРД
Бо мы дамовіліся!

КЕЙСТУТ
Не!

АЛЬГЕРД
Як гэта не,
Калі дзяцінствам нашым
ты пакляўся!..

КЕЙСТУТ
А як з мяне ў дзяцінстве ты смяяўся,
Забыўся?..

АЛЬГЕРД
Дзе? Калі?

КЕЙСТУТ
А калі ў дзядзькі ў Мінску
Зацірку нам давалі ў адну міску,
І так на міску зверху клаў ты лыжку,
Так міску падзяляў,
нібы мне больш даваў,
А сам, дзе менш, сярбаў –
І ўсё з'ядаў!.. Так і Літву з'ясі,
Нібы мне больш зацíркі той дасі!

АЛЬГЕРД
Ты пра зацірку тую сто разоў
Ужо казаў! А я кажу пра кроў!..
*(Параньвае Кейстуту руку.)*

КЕЙСТУТ
Ты што, Альгерд! Я брат твой!.. Гэта я!..
*(Утыркае меч у падлогу.)*
Усё, Альгерд! Зацірка ўся твая...
*Сядае на падлогу, адрывае рукаво кашулі, перавязвае рану.*

АЛЬГЕРД, *сеўшы спіна ў спіну з Кейстутам*
Пасёрбалі... Давай дапамагу...
*(Кейстут маўчыць.)*
Дык што?.. Выходзіць, я ў цябе ў даўгу?
Кашулю... хочаш дам? Апошняя...
Ты й сам
Таксама вінаваты!.. Помніш, нам
На свята нейкае... не помню, на якое
Люстэрка падарылі... Ну, такое,
На два бакі... І бок адзін такі,
Калі ў яго глядзець,
дык морда во такая!..
А ты ў другі глядзеў...
Ну... Брат... Усё бывае...
Ну, морда я такая! Што рабіць?
Што тут пішчыць?.. Глядзі,
камар лятае...
Ты можаш мечам камара забіць?
Маўчыш... А я магу... Вось нават
пасадзіць
На нос табе яго, дык нос не адсяку...
Во так я за жыццё набіў руку...
Што я нясу?.. Што я за чалавек?..

КЕЙСТУТ
Маю руку ты ледзьве не адсек.

АЛЬГЕРД, *падымаючыся сам і падымаючы Кейстута*
Дык ледзьве ў нас не лічыцца!
Забыў?..
Ты што, забыў, як я цябе любіў,
Як я цябе люблю, ты што, забыў,
Як ты тануў, як за табой я плыў,
Як сам тануў, і як ты плыў за мной,
Як мы ўжо захлыналіся вадой,
Як мы былі на дне – і ўжо на дне
Я ратаваў цябе, а ты мяне!
Таму і ты жывы, і я жыву...
*(Стаяць, абняўшыся.)*

КЕЙСТУТ
Давай Яўнута мы адпусцім у Маскву.
Да Насці, да сястры...

АЛЬГЕРД
Як ты прыдумаў гожа!
Няхай Маскве нашкодзіць,
колькі зможа.
Яўнут!.. Гэй, хто там!.. Люд!..
*Уваходзіць падчашы Карней. Сцэна паступова напаўняецца персанажамі драмы, гасцямі.*
Падчашы! Дзе віно?..
Атруты я з табой не піў даўно!
Даніла дзе? Давыд?
Чаму той стол пусты?..
Здарова, Любарт! Як дабраўся ты?
Я рады цябе бачыць, Карыят!
Здарова, Нарымонт, старэйшы брат!
А бацька дзе?

НАРЫМОНТ
Мацей яго зпавіў...

ГЕДЫМІН, *з'яўляючыся з Мацеем*
Даруй, Мацей, што я цябе забіў.
Я не хацеў. Улада так хацела.

МАЦЕЙ
Магла б пашкадаваць.

ГЕДЫМІН
Магла. Але не ўмела.

МАЦЕЙ
А сам ты – што? Хіба не ўладай быў?

ГЕДЫМІН
Яна была – душа. Я для яе быў – цела.

ЛЕГАТ *да Гедыміна*
Вітаю, князь!..

ГЕДЫМІН
Легат! Каб я так жыў!..

ЛЕГАТ
Сказаць вам праўду, як жывуць легаты?
Няма ў іх ні дзяцей, ні жонак,
нават хаты
Не маюць, каб па-чалавечы жыць...

ГЕДЫМІН
Тады скажы, легат, нашто
легатам быць?
Вам, можа, нешта нейкае такое
Даюць у кампенсацыю прастоя?..

ЕЎНА *да легата*
Вы абяцалі, ойча, што Яўнут
Карону будзе мець!..
Вы слова не стрымалі!

ЛЕГАТ
Ці мала вам мужчыны абяцалі,
Калі жадалі вас?

ЕЎНА
Што?.. Вы ж манах, легат...

СТАСЬ
Манах то ён манах, але ў суседаў сад
Залезці рады, чмут!

АЛЬГЕРД *да Стася*
І ты, распуснік, тут?..
Як нашы кралі там?

СТАСЬ
Нагамі дагары!

АЛЬГЕРД
На той гары, стары, скачы,
ды не памры!

СТАСЬ
Калі б хацеў я смерці, дык такой!

АЛЬГЕРД *да Андрэя*
Андрэй! Даўно не бачыўся з табой!..
*(Да Еўны.)*
Вітаю цябе, Еўна!.. Каралеўна!..

ЕЎНА
Ты дзе Яўнута дзеў?

АЛЬГЕРД
Ён у Маскве, напэўна.
*(Да сёстраў.)*
Альдона!.. Ганна!.. Сёстры! Рады вас
Абняць, убачыць... Насця, тут якраз
Яўнут сабраўся да цябе на госці...

*Яўнут уваходзіць з крэслам, ставіць яго на месца, адыходзіць да Настассі. Абдымаюцца.*

*Маргер і Воін падносяць княскае ўбранне, Альгерд апранае, сядае на крэсла.*

ГАЛАСЫ
Тост!.. Кейстут!.. Тост!..

КЕЙСТУТ
Што ж мне сягоння ў тосце
Сказаць, чаго б вы заўтра не забылі?..

АЛЬГЕРД
Чакай! А дзе вянец?

ЕЎНА
Ды вунь ляжыць у пыле!
Так ён патрэбны вам!..
*(Андрэй падымае і падае бацьку вянец.)*

АЛЬГЕРД
Яго і мечам білі,
І секлі, як Літву – і хоць бы што яму!..
*(Надзявае.)*
Ну, што ж... Вось так...
*(Да Еўны, развёўшы рукамі.)*
Як кажуць: што каму...

КЕЙСТУТ
Я гэты келіх сёння падыму
За край літвінскі наш, які ў агні і дыме
Паўстаў, і пры вялікім Гедыміне
Дзяржавай стаў, вялікаю Літвой!
Альгерд!.. Ад сёння пад тваёй рукой
Вялікая Літва! І я – твая рука
Другая, брат!.. І хай, нібы рака,
Цячэ між двух высокіх берагоў
Літва да мора з назваю Любоў, –
Нам так яе вякамі не хапала!
Крыві было зашмат.
Любві было замала...
Дык за яе! За нас!.. Вітай, Айчына,
Альгерда! Сына князя Гедыміна!..

ГАЛАСЫ
Літвіны!
За Літву!
Хай любіць Бог яе!..
Жыве Літва!

УСЕ
Жыве!
Жыве!
Жыве!

*Заслона.*

*7 верасня – 7 кастрычніка 2019,*
*Швецыя, Лунд.*

Віктар Казько



...Грыб жа нагадвае іншаземца, касмічнага прышэльца. Іншапланетніка, з якім чалавецтва трызніць сустрэцца і баіцца гэтай сустрэчы...

# Не ежа таленту, а наедак

***Аповесць***

Ужо і не помню, ці то недзе чытаў, ці нехта расказаў. Хутчэй за ўсё і тое, і другое. Чытаў і чуў ад прыкметлівага, чулага да свету і з незамыленым вокам чалавека. Чыстае і неўдаванае амаль заўсёды ўваходзіць у нашую памяць, як Божы дар, якім усё жывое асвячона, кожнаму асабіста ніспасланы хаця б дзеля таго, каб ты мог перадаць сваім дзецям, унукам: ёсць, ёсць на свеце цуды і дзівосы, падгледжаныя, бачаныя ці не трэцім нашым вокам – вось і са мной, клянуся, так было... І гэта “так было” пераўтвараецца ўжо ў неаспрэчную жыццёвую праўду, створаную з дзіва і здзіўлення – адзінае, што мае сэнс у бяссэнсавасці нашага існавання – праўда немагчымая, уяўная – творчая і творцы, маны і ашуканства. Так і ў мяне: сумнеўна, але ведаю, ведаю, веру – хай і не было, прымроілася, але магло ж і быць. Урэзалася, назаўжды адбілася ў памяці, як мядзведзь пасля вясновай майскай навальніцы ў сасновым бары іграў сам для сябе. Іграў,

нібыта на скрыпцы, на адной адзінай струне, дранцы – расшчэпленай маланкай, зламанай хвоі.

І нібыта я ўжо сам быў тым мядзведзем, бо выразна ўсё ўяўляў. І мне карцела быць каля той хвоі, карцела дакрануцца да створанай нябесным творцам хвойнай струны, што стагнала зямным болем. Адчуць яе гук, абудзіць яго ў сабе, назаўсёды зліцца з ім. Самому пераўтварыцца ў гук і паплыць, пайсці з ім у звонавую сінь нябёс, умытых шолахам сасновага бору, што асірацеў на адну хвою, яе колкае дыханне. Пайсці хадою вольнага звера, як ходзяць тыя ж мядзведзі, растуць дрэвы, займеўшы гук і жыццё.

Сасна, як і тагасветны ўжо чалавек, легла спачынна, навыцяжку. Упала і мо не толькі ад удару маланкі, як ад цяжару назапашанай у ёй музыкі, дараванай хвоям ад нараджэння. Упала, але не цалкам і, пэўна, не адразу, трывала трымаючыся за апошнюю ў ёй ноту. Карані, паветра і зямлю, ад якіх мо і насычалася песеннасцю. Але не ўтрымалася – творчасць, талент смяротныя, самазабойныя. Надарвалася, трэснула па жывому на вышыні росту мядзведзя і чалавека. І на гэту вышыню, а мо крыху і большую, паўстала, узнялася ў неба вялізнай струннай стрэмкай. Так велічна і бела ўзвысілася перарваная памяць яе адвечнага музычнага ляснога жыцця. Такім белым смуткам журбы абарвалася яе песня.

Ці не аб гэтую журбу і памяць, а мо яны былі і ягонымі, і спатыкнуўся касалапы таптыгін – усе яны на гэтым у свой час спатыкаюцца, надта ж багата ў іх нашага, чалавечага. Нездарма здаўна яшчэ ідзе пагалоска пра тое, што калісь мядзведзь быў створаны як і чалавек. Быў ці не папярэднікам яго, таму звычкамі, паводзінамі дый розумам так падобны да нас. Урэшце рэшт – не дурней за нас. Таму і здольны спатыкацца.

Вось і гэты мядзведзь спатыкнуўся, здзівіўся крохкасці, здавалася б, вечнага, непарушнага дрэва, з макаўкі якога ён яшчэ з маленства спазнаў тое, што зямля круглая і хісткая, кружыцца, люляе яго. Створанага яму ў асалоду дрэва, каб набліжацца па ім да неба. Бачыць неба. А яшчэ – рабіць борці, ставіць калоды і напаўняць іх мёдам, як узнагароду ім, медаль, а мо і ордэн. Вось чаму ўсе мішкі свету ўпадабалі лазіць па дрэвах сасновага бору, аб чым адзін добры, спагадлівы чалавек нават намаляваў надта ж гожую карціну.

Мядзведзь задумліва крануў лапай узнятую ў неба лопіну – стрэмку, бела-жалобную, яшчэ не астылую плоць былога жыцця. Пацягнуў да сябе, да самага вуха. І зусім не таму, што, як звыкла хлусяць, быў тугі на яго. Навальніца, якая паваліла хвою спелай, мінулагодняй яшчэ шышкай, што засядзелася ў голлі, цюкнула яму, пацэліла ў цемечка. Пацягнуў, адпусціў. І заўчасна ўпалая хвоя з таго ўжо свету пазнала яго, адгукнулася і загаварыла з ім. Загаварыла ці не мовай скрыпкі, якой з яе не атрымалася. А магло ж, магло. Палескіх хвояў на курганах белага пяску і баравым моху не бывае без спеўнай і маўляльнай жывіцы: сляпыя гусляры здабылі песню і слова з баравых хвой яшчэ да нас з вамі. Хвойная жывіца – гэта жывы бурштын. Ацалелая, схаваная ў пракаветнасці мова ўсіх нашых бароў. Мяkенькі і пяшчотны матчын голас.

І гэта напалову ўжо тагасветная хвоя стрэсла збалелую жывічную слязу, усхліпнула і заспявала матчынай калыханкай. Мёдава, бурштынава, як можа спяваць толькі баравая хвоя. Заспявала чыста і высока – небу і сонцу, бору, зверу і пчале. Гукам нагадваючы нават пчаліны, божых дзетак, голас.

Дзячыла і лашчыла наваколле, у склянь назапашаным і яшчэ захаваным у ёй цёкам сокаў, заляцаннем да ўсяго жывога, закладзенага пчалінымі

ношкамі і з нічога народжанага. Ад уласнага лятучага і трапяткога зярняткі, якое абудзілася адначасова ў глыбіні і на паверхні яе парасткам і коранем, вышэйшай музыкай сусвету, няведамых планет і галактык. Раскошай і харастом сонечнага праменя, месячнага святла, усхліпам птушкі ўначы, гудам заклапочанага чмяля. Цяпер жа водгукі той музыкі імкнулі да Зямлі, што яе нарадзіла, у яшчэ некранутыя паміраннем карані. Некранутыя, але ўжо прасякнутыя прадчуваннем сумнага ведання зямной непазбежнасці. І таму гэтая музыка была не толькі развітальнай, рэквіемам, – зваротам да будучыні. Развітаннем і бласлаўленнем абуджанай да жыцця і родаў першай майскай навальніцай заўсёднай спадарожніцы дрэва, бору – грыбніцы, што ўжо прачыналася сярод тых каранёў. Мовіла напутнае слова маёваму баравічку-каласавічку. Як вядома сапраўдным грыбнікам, першыя баравікі зачынаюцца на Палессі ў першы маёва-навальнічны дождж, а аказваюць сябе, працюкваюцца падчас калашэння, красавання жыта. А гэта, як заведзена, адбываецца напярэдадні ці крыху пазней за Міколаў дзень.

І няхітрая лясная песня мядзведзю была звеставаннем будучыні. Празрыстая, светлая і, здаецца, нават духмяная, як слязінка, згубленая маладой хвойкай, ужо загусцелай у патаемнасці прадвечаровага бору, смолка-жывіца, што нагадвала, пэўна, нешта да болю знаёмае і юрлівае: дзеўцы – *уж замуж невтерпеж*, тое ж і хлопцу. Само сабой – і грыбу. І мядзведзь рупіўся, баючыся падману сваёй памяці, спужаць абяцанае вясной, маланкамі і громам мая, прадчуваючы імгненнасць свайго маявання і раявання. Адзіную вечную ноту, якая заўсёды ў ім і з ім – з кожным, хто і што пад сонцам. Нават у недаверлівага сугнея дуба, справядліва абазванага малымі палешукамі глухім за тое, што ён вясной пазней за ўсе іншыя дрэвы пускае ліст – калі ўжо ўсе вясковыя дзеці насуперак яму выклікальна купаюцца ў рацэ, што, як гавораць, яшчэ не выхварала зіму.

І было відавочна, што гэта хлусня зайздроснікаў, нібыта мядзведзь касалапы, можа наступіць сапраўднай музыцы і музыку на вуха, што яму нехта недзе і некалі наступіў на вуха. Толькі паспрабуй яму наступіць – сваіх вушэй дакладна ўжо не пабачыш. У сапраўднай песні ёсць надзейная абарона, як і ўва ўсім – ад дурня. Гэта толькі бочку мёду з дурноты можна сапсаваць лыжкай дзёгцю. Хвацкую ж песню спаганіць немагчыма. Непадробнасць і шчырасць спеўнай душы, чуйнага сэрца – самае вялікае і высокае мастацтва, таму што ў іх радасць і жальба, і шчымлівае, без падробкі, адчуванне мінулага і будучыні. Цяпер і назаўжды ўсяму існаму. Таму нават утоены яшчэ зямлёй, толькі пазначаны ў матчыным улонні баравічок-мікалайчык неасэнсавана пачынае трапятка адгукацца ёй. Прыроду не падманеш папсой, што раскашуе паўсюдна сёння. Яна сама – песня, м*у*зыка і муз*ы*ка.

І з таго часу, як я ўведаў пра мядзведзя-музыку, зусім інакш, чымсьці раней, заходжу ў лес. Проста так, і па якой бы там ні было патрэбе, у тыя ж, як гавораць у нас на Палессі, грыбы. І гэта “ў грыбы” для мяне, амаль цалкам пазбаўленага музычнага слыху, тут ужо дакладна мядзведзь наступіў на вуха і добра на ім патаптаўся – самая чароўная на зямлі музыка і чаравальнае, амаль незямное дзіва. Вечная асалода чалавека-шукальніка, здабывальніка. Мо не столькі таго ж грыба, як самога сябе ў першастворанасці бароў, дуброў і гаёў бацькаўшчыны, апаганенай і скрадзенай намі ў сябе ж высакароднай пракаветнасці.

Музыка, якая гучыць ужо ўва мне, бясспрэчна глухім на яе, што не

дадзена, таго не дадзена, набірае сілы, калі я схіляюся перад бясконца зямным стварэннем, што ні дыхам і ні слыхам пра сваю зверхнасць, адвечную непаўторнасць – перад баравіком, падасінавікам ці нават някідкай, у нечым падобнай да паганкі курачкай, у нашым балотным краі – подбалаткай. Грыб ёсць грыб – стварэнне зусім не нашага, абмежаванага карысцю панылага розуму, які мы выдаем за гаспадарчасць і нават веліч. Па справах і паводзінах нашых гэтага не скажаш – веліч і розум наш калі не вар'ята, то малпы, што збегла з вар'яцкага дому і не жадае туды вяртацца. А варта было б, варта вярнуць. Не назаўсёды, а каб апрытомнеў.

Грыб жа нагадвае іншаземца, касмічнага прышэльца. Іншапланетніка, з якім чалавецтва трызніць сустрэцца і баіцца гэтай сустрэчы. А я ўжо з ім сустрэўся. Па сваёй ахвоце, памылкова ці прымусова ён прызямліўся на Палессі ў нашым бары. Я вітаю яго, здымаю шапку, кланяюся яму. Як мой дзед і прадзед пры сустрэчы з кожным, нават незнаёмым яму чалавекам: дзякуй за тое, што не мінулі, наведалі нашу вёску. А тут не першы ж стрэчны-папярэчны. Гэта выбітное, лепшае са створанага на нашай планеце, на шчасце, а мо і на жаль, не выключана, зусім не мітуслівасцю нашых рук, падманнасцю нашага стваральна-разбуральнага розуму. Пан, але не той пан, што пан, а той што валадарыць лесам і вадой, чыстай і нячыстай у іх сілай, тленнай і нятленнай – таму і бессмяротнай.

І мы ў большасці выпраўляемся не столькі па гэтае поклічнае дзіва, колькі ў пошуках адкрыцця саміх сябе ў першаснасці таго, што пад намі і над намі. Мы ж на Зямлі таксама прышэльцы з далёкіх светаў, голас якіх неўсвядомлена, але ж загадна, мройна гучыць у нас. Мы чуем, трызнім і знаходзім ці не колішніх, а мо і будучых сябе аціхла маўклівых у блакіце адвечных нашых верасоў, ніца прыпалым да зямлі моху, на гале ці пад хвойкай, трывала зрошчанай з мінулым пад ёй. А ў той мінуласці – упёртага ўжо ў сусветнасць грыба, баравіка. Схіляемся перал лепшым сваім я, выдзіраем, выкручваем ці дастаем нож. Хаця гэтага мо якраз і нявартa імгненню нашага адчування раю, таму што ў ім стогне і плача маці-грыбніца, што не ацуралася свайго сына, пайшла з ім і за ім у чужчужаніну невядомай ёй Зямлі.

Тое ж, як я ўжо выказаўся, грыбы ці не нашы браты па розуму, іншаземнага таксама паходжання, пачынае ўводзіць ужо ў вушы і сённяшняя навука: гэта не абы-якая плесень, цвіль, нават лекава-пеніцылінавая – невядомая да гэтай пары чалавецтву цывілізацыя. Адна толькі з паралельных цывілізацый нашай планеты. А іх мноства. У нашым краі – падобна, крэмніевая – не дзеля ж забавы столькі гэтага каменя раскідана, пасеена на нашых палетках. Асабліва на Берасцейшчыне, і пераважна крэменю чорнага, найбольш прыдатнага пасля падзення Зоркі Палыну водам, лекавым чалавеку і край патрэбнага радыёэлектроніцы, без якога яна сёння і непамысная. Увогуле нешта містычнае хаваецца за знаходжаннем гэтага не белага і блакітнага, а менавіта чорнага крэменю на Беларусі. Ці не вынік гэта касмічнай катастрофы, крушэння касмічнага карабля над нашай Айчынай. Карабля крэмніевай цывілізацыі. Як запэўніваюць нас сёння, такая цывілізацыя ёсць. Ці не адбылося гэта крушэнне не без удзелу нашага дабрадзея Пана: пажадаў займець у сваёй хаце нейкага космасу, цацку нябёс, атрымаў. Паны – яны такія, добрыя-добрыя, але не без мух у носе. І ці не адсюль, з нечых мух у носе, бярэ пачатак грыб, той жа, як куля, порсткі і крамяны баравік. Хараство, прыгажосць нашых бароў і дуброваў.

Таму зноў жа, давяраючы і аспрэчваючы афіцыйную навуку, грыб

старэйшы за ўсё жывое, існае і сутнае на зямлі. За ім столькі рафінаванай непрадказальнасці і нечаканак, дабра і пошасці, што мімаволі сведчыць аб яго вытанчаным, нават надчалавечым розуме, таксама не без мух – цывілізацыі, якая павінна змяніць гома сапіенса на нашай планеце. Што доказна ўжо адбываецца на нашым вяку. Ці не знакавае сведчанне і пазначэнне гэтага – атамны грыб над усім прасцягам планеты: з кім павядзешся – ад таго і зацяжарыш. Апошняе – бачнае, а ёсць жа і патаемнае, схаванае ад людскога вока, бласлаўляльны і знішчальны вынік ад маючага намі грыба, які зваротна мае і нас. Ці не лепшае сведчанне таму ўжо згаданы тут пеніцылін. Папраўдзе, дзякуючы яму мы пазбавіліся мноства невылечных хваробаў. Але сёння ў ім, у пеніцыліне, абудзілася і пайшла па свеце другая яго сутнасць. Бойлерныя кураняты, якіх вырошчваюць на наступніках пеніцыліну, біягармонах, нясуць чалавецтву наркатычную залежнасць, прывыканне да іх. І, як гавораць, не столькі кормяць і лечаць, як выракаюць у будучым на жабрацтва і голад, калечаць нас, а больш – нашых нашчадкаў. Пагражаюць стратай імунітэту, дэбілізмам. Ці не таму з такой хуткасцю папаўзлі апошнім часам па зямлі раней невядомыя вірусы і эпідэміі. Так званы рак. Рачок з метастазамі накшталт грыбніцы. Сёння да гэтага дададзены і каранавірус, адразу ці не звёўшы, далучыўшы чалавецтва да сабак, сабача-намордніквага існавання. Ды так, што гаўкаць хочацца. І ўжо гаўкаюць многія краіны і народы страйкамі і бунтамі, прызнаннем і адмаўленнем навалы.

Даўнавата, яшчэ напрыканцы мінулага стагоддзя, у час гарбачоўскай перабудовы, калі язык быў без костак, языковая каўбаса з касцямі, ці яе зусім не было, у сродках масавай інфармацыі праблiснулі звесткі пра зламысную самасвядомасць грыбоў. Вынік той самасвядомасці – вынішчальны чалавецтву: звядзенне яго да пячорнасці, канібалізму. Павальныя эпідэміі, паўстанні, бунтоўнасць як самога чалавека, так і звяроў. Узаемнае азвярэнне, – птушак, крывавасць рэвалюцый, грамадзянскіх, брат на брата, войнаў. З'яўленне плоймаў месіяў-збавіцеляў, дабрадзеяў, дойлідаў, за плячыма якіх кашчавая баба з касой. У прыватнасці, за плячыма правадыра і змагара за нашу долю, рухавіка Кастрычніцкай рэвалюцыі У.І. Леніна, якога ў мінулым яшчэ стагоддзі далучалі да сваяка грыбоў, нібыта і ён не зямной, не людскай пароды. Тэлебачанне напрыканцы мінулага стагоддзя доказу гэтага прысвяціла нават цыкл сваіх перадач. Я сам таму сведка.

Але ж, як гавораць у нас, не памінай ліха і будзе ціха. Ёсць, ёсць нешта і неблагое ў яднанні, повязі чалавека з грыбам. Любае воку і духу спазнанне ціхай радасці толькі ад таго, калі малады баравічок падміргвае нашаму да яго набліжэнню з зялёнага моху рудзенькім сваім вочкам: здымай, чалавеча, капялюш, падай наўколенцы і кладзі паклоны бубну маёй галавы, а сонца няхай ужо праменем з нябёсаў б'е ў бубен тваёй. Ці не сакральны, знакавы гэта зварот да непадробна добрага, што тоіцца ў кожным з нас, нават апошнім злодзеі і гвалтаўніку. Ці не сведчанне жадання таго, што звыкла завецца добрым, разумным, вечным. Ці не запавет і наказ грыбу і грыбніцы нашых продкаў з таго свету. Усё ж бярэ пачатак з тагасветнасці, ад забытага і згубленага намі на Млечным шляху і вясковых кладах: зерня, плода, кветкі, ягады. А грыб што – у Бога цяля ўкраў і з'еў.

Ён памятны. Яшчэ які памятны. Ніва, поле ўжо ашчасліўлены плугам Мацэпуры. Быў такі сейбіт і дойлід-меліяратар. Асушальнік балот. Помнік яму быў – у выглядзе брыдотна вялікага плуга на ростані дарог пад Салігорскам, на пачатку знішчаных ім тарфянікаў Палесся. Чаму і стэп

ды стэп навокал, куды ні зірні. Адзіны толькі дуб, як старэчы, збалелы, але трывалы зуб, на тым полі. Такі вячысты і магутна старадаўні, што і трава няздольна прабіцца ля яго ўзножжа. Ацалеў таму, што трактарысту ці камбайнёру пад яго шатамі можна перавесці дух. Квасу папіць, яблык згрызці, добры сон прыгадаць. І ўсё. Толькі трызненне былым ды спрахлым ужо. Але ж, але ж пад тым дубам у спрыяльнае летам сонца і цёплы грыбны дожджык паўстае неверагоднае. Абуджаецца колішняе. Цуд з цудаў. Не бачыў бы на свае вочы, ніколі б не паверыў. Сам у летнюю пору браў пад тым дубам трыццаць тры баравікі, як трыццаць тры багатыры, волаты з валатоўкі каля старажытнага гасцінца. Не хлушу і не пахваляюся. Сарочку з плеч прыйшлося зняць, каб іх упарадкаваць, бо вельмі ж мажныя, раскрылена губастыя, хаця маладыя. Адзіны толькі раз мне так паталаніла. Пазней, да канца лета, я кожную раніцу бегаў, правяраў, спадзяваўся і чакаў паўтарэння – нічога, як снілася. І ў грыбное лета з тае пары няма мне спакою – сняцца, трызняцца ў шэрагу адзін за адным, як паўсталыя з небыцця, з нашага зноў жа мора Герадота, трыццаць тры багатыры пад шатамі глухога дуба на пустым стэпавым полі – смяротна меліярыраваным. Морак, насланнё. Але не толькі на мяне.

Не адзін я спатыкаўся і губляў галаву на такім цудзе і дзіве. Сябра мой, ужо нябожчык, зямелька там яму пухам – смяротна любіў ён яе: зямлю ваду, звера і птушку – Саша Танчынскі. Недарма ў вёсцы Вільча меў ён званне Начальнік ракі. Кожную выдру на Случы, кожнага бабра ведаў у твар, як і ўсіх буслоў – белых, чорных, будучы да скону пазаштатным чальцом і карэспандэнтам Таварыства аховы птушак Бацькаўшчыны. Яму, як і мне, выпала пры жыцці тое ж самае. І яшчэ аднаму чалавеку. Настаўніцы і выхавацельцы ў нашым дзіцячым доме Ніне Рыгораўне Сароцы. Не адно лета гублялі яны галаву пад тым адзіным у полі дубам, збіраючы ці не паўсталыя з таго свету баравікі.

Памяць, памяць у грыба, у адрозненне ад шмат і шмат якіх людзей, пракаветная, нашчадкавая. Дзе ў свой час убачылі святло, праклюнуліся, прараслі, раслі і гадаваліся, пайшлі, леглі ў зямлю самі і іх бацькі, там, як птушка Фенікс, насуперак навале, ліхалеццю, злыбядзе паўставалі і паўстаюць з таго ўжо свету, з небыцця. Баравік за баравіком. Грыб за грыбам, як немаўляты шматдзетнай вясковай сям'і. Паўстаў і ён, мой адзіны запаветны. Абудзіўся неаддымнай памяццю, нязгаслай і нязкоранай пракаветнасцю ў подыху сонечнага святла, як дазваляльнага яму светлафора: ідзі, кіруй і валодай.

Там, дзе я нарадзіўся, рос і браў першыя грыбныя ўрокі, праходзіў сваю грыбную першапачатковую школу, а было гэта ў палескіх барах Каленкавіч, іменна Каленкавіч, а не сённяшніх Калінкавіч, рачулка там Каленка і калена чыгуначнага вузла – Адэса, Ленінград, Гомель, Масква, Рыга – у падпрыпяцкіх, случанскіх барах і дубровах на Жыткаўшчыне, пад Нароўляй. Дык вось, там гонар лічыцца і звацца грыбам – толькі баравік. Усе астатнія – казлякі. Ад беспадстаўна, на маю думку, пакрыўджанага маслюка, а больш – непагляднага і нягеглага нават у сваю сакаўную пару спеласці, амаль паўсюдна прырослага рашэтніка, якім паважаючыя сябе грыбнікі грэбуюць – а гэта ўсё Палессе і ўсе палешукі, асабліва ў прызнаных нават усюды пранікальнымі масквічамі і ленінградцамі, расіянамі, украінцамі грыбных сталіцах – тых жа Каленкавічах, Жыткавічах і назаўсёды страчанай, мечанай мірным атамам Нароўлі.

Мо некаму гэта падасца і спрэчным. Але, ах ды вох, такія на маім

Палессі песні. А ім жа, песням, сонца не засціш і на горла не наступіш. Асабліва калі гэта тычыцца не аднаго цябе ці мяне, а нашага радаводнага – бора, дубровы і грыба. Рашэтнік – знізу як рэшата, у дзірачках, хоць муку сей – нібыта прадчуваў, што ім грэбуюць. Варта было падняць яго, як ён кісла моршчыўся і нязлосна сінеў. Маслюкоў абыходзілі бокам, хаця яны, пстрычкі, гузікі на салдацкім шынялі, самі прасіліся ў кош, чарадой, шэрагамі забягалі наперад, заступалі дарогу. Не бралі больш з-за іх смаркатасці, плеўкасці, усыханні пры сушцы да чарнаты, вугалю. І дух ад іх быў тады ці не казліны, з-за чаго пэўна і нараклі, лічылі казлякамі з казлякоў. На смажанне яшэ нічога, як кажуць, пасаліўшы можна есці. А ў супе ці баршчы – адна каламуць. Ні наедку, ні паху ляснога – кірзавыя вайсковыя чобаты ўсмятку. Абыходзілі бокам, не даючы сабе нагнуцца, лісічкі, паўсюдна раскіданыя, нібы залатыя грошыкі царскай яшчэ чаканкі, ў раскошы зялёнага моху падбаравых нізін і каляровым сполаху асіннікаў.

З лісічкамі, як на мой сённяшні розум, не ўсё проста. Прамашку далі. Хаця, калі шчыра – мутны грыб. Есці можна двойчы: пасля смажання ці варкі і потым па выхадзе са страўніка. Лісічкі ў нас яшчэ далікатна звалі яўрэйскімі грыбамі. І мо не беспадстаўна, ведаючы, у якой яны пашане і гонары сёння. Але зноў жа, не ў палешукоў, больш у іншаземцаў, у пралётных і залётных па нашых асфальтаваных і бетанаваных трасах гараджан, расейцаў ды іншых гурманаў, ласых, як гавораць, на нашы каўбасы, да прыкладу, тых жа палякаў, немцаў і іншых шведаў. Хаця ў гэтых іншых шведаў і сваіх грыбоў хапае, касой касі, ды толькі яны іх не бяруць, целепукаватыя. Стары анекдот, ці застануцца габрэі пасля канчатковай пабудовы камунізму? Гэныя выжывуць. Як пацверджанне, лісічкі – адзіны грыб, не крануты і не пазначаны мірным атамам пасля аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Чысты сам і садзейнічае вывядзенню радыяцыі з арганізму чалавека. Праўду кажуць: у сваёй айчыне пракокаў няма, тым болей – на Беларусі. І стаяць па ўскрайках бетонак заматаныя ў шэрыя хустачкі палескія дзевачкі з даёнкамі і кошыкамі залатых чырвонцаў у чаканні скразнякова пралятаючых міма на сваіх панскіх легкавушках расейцаў, палякаў – аптовых скупшчыкаў і спажыўцоў нашых бароў і дуброў. А паны ўсё міма і міма. Хаця не ўсе. У каго ёсць густ на палескі грыб, не мінаюць яго і на шашы. Толькі дзевачак, паляшучак, на гэтай шашы чамусьці шкада. Шчыміць сэрца.

Зрэдзьчасу ўстаялы, сапраўдны паляшук дазволіць сабе схіліцца перад маладзенькім свежаўмытым расой падасінавікам – старыя, спелыя ўжо завуцца краснюкамі, а то і проста – губа, нарасць, падыме маладзенькую, кроў з малаком, сыраежку, а той-сёй і прыселую ў алешніку подбалатку-курачку. Першая хрусткая ў смажанні, другая – салодкая, накшталт курацінЫ, якой мясцовыя людзі да пэўнага часу не надта песцілі сябе – усё больш на базар ды на базар. Гронкамі навісу на адным матузку, з бяльмата-блякла закочанымі вачыма. Без здагадкі, што яна, мясцовая безгаловая хатняя кура, стане дзяржаўнай, бойлернай, таннай, найбольш ужыванай народам. У меру атрутнай з-за дзікай колькасці гарманальных дадаткаў.

А вось грыбамі ў той колішні час, здаецца, зусім не гандлявалі. Хіба толькі сушанымі, адборна цяжкімі, звонкімі. Здавалі каралевымі нізкамі нарыхтоўшчыкам – перцам, грыбаварам – больш для замежжа і замежнікаў ды каб набыць сабе ў дзяржаўнай краме паркалю, саціну ці так званай чортавай скуры на штаны мужыку, альбо пераводную карцінку дзіцяці, глінянага пеўніка, якому ў ср...ку дзьмуць, а ён свішча-дрышча. Тавару

якога ў свабодным продажы днём з агнём не знайсці. Непрыстойна, ці як сёння гавораць, западло было палешуку мець навар з грыба. Гонар мелі, боскі: грыб – ён жа што трава, не лянуйся толькі вярэдзіць ногі ці спіну, нагнуцца. Малітоўна схіліцца перад ім. Падняць, зрэзаць ці выкруціць. І колькі і дзе я не гнуўся па яго. Ён мяне гнуў. Толькі ў гэтым бясконца любым мне згінанні, асабліва на чужыне, у маёй памяці няма, прабачце, чужых баравікоў. А я свет добра абышоў, дзе толькі ні давялося ціха паляваць за белай маёй баравой спакусай. Толькі няйнакш, містыка дый годзе. Чужы лесавік адводзіў мяне ад свайго цуда.

Нашто ўжо папахадзіў па сібірскай тайзе непасрэдна ў Кузбасе каля ракі Том пад Кемерава і Новакузнецкам, па Шор-тайзе ў Горнай Шорыі, Мар-тайзе пад Марыінскам. Усякія розныя грыбы браў. А каб баравіка – не. Тое ж *не* і каля Волгі пад Валгаградам, паблізу Астрахані, каля Табола пад Цюменню, на Урале і нават за морам-акіянам – у Амерыцы, у самім Нью-Ёрку, у яго гарадской паркавай зоне. Лухта гэта савецкая, што там усё вынішчана, забруджана і загазавана. У парку пад Нью-Ёркам пад курлы-курлы ці не нашых эмігрантаў, палешукоў-жораваў – наш гарэза ўсюды пралезе – бласлаўлёна растуць пралетарскага колеру капялюхаў капіталістычныя чырвоныя падасінавікі. А вось баравік не спадобіўся, не пралез. Пэўна, занадта наш, свойскі і хатні. Не схацеў мо быць у прочках, у калгас, хаця і заморскі – калгас жа і на тым свеце калгас. Ці то ўжо ў яго і ў мяне мо такая доля.

Дзіўна згуляла яна са мной на Урале ў тайзе каля Табола пад Цюменню. На вотчыне ссыльных дзекабрыстаў паміж Ялутараўскам і Заводаўкаўскам на сумна вядомым Уладзімірска-Сібірскім кандальным тракце. Якія гістарычна гучныя мясціны. Якія прозвішчы. Якая пакутлівая гераічнасць. А ўражанне і сёння жаласлівае. Уральскіх гор, здаецца, увогуле не існуе – каменныя пазначэнні, гарушкі скальныя. Табол забіты – ні лускавінкі, ні рыбнага хвосціка. Ніводнай паклёўкі за два дні рыбалкі. Адзіны прасвет – побыт ссыльных дзекабрыстаў у Ялутараўску. Дваране заставаліся людзьмі ў дзевятнаццатым стагоддзі і на катарзе. Але гэта так, да слова ці спадарожна не без горычы аб нашым суверэнна, духоўна дэмакратычна-калгасным сёння.

Сібір, Урал, як, дарэчы, і Паволжжа багатыя на адметны ў Расіі грыб – грузд. І пад Таболам мы з жонкай без напругі нарэзалі два вядры тых груздоў за гадзіну ці дзве, у экспартным выкананні – свежых, уральскім дажджом старанна вымытых, уральскай тайгой ахрышчаных, чысцюткіх – ад ордэна ці медаля да маленькага сподачка пад каву. Але, як гэта заўжды ўласціва нашай натуры – свінню за стол, дык яна і ногі на стол – хацелася нечага такога-сякога надзвычайнага ці незвычайнага.. Іншага, другой грыбной пароды, разнастайнасці. Ці не духу і паху роднага баравіка-палешука.

За разнастайнасцю, поклічам свайго мы выбраліся ў грыбы ўжо недзе а другой палове па-восеньску скарочанага наступнага дня. Адразу ж ўразіў бор, у які мы тады патрапілі, як у старажытны стараверскі храм. Такіх здзекліва-гонкіх, прырослых да нябёс соснаў я нідзе да гэтага не бачыў. Пазней нешта трохі падобнае сустракаў толькі ў Белавежскай пушчы, пад Верамейкамі на Магілёўшчыне ды паблізу возера Белае на Жыткаўшчыне. Відавочна, вельмі сталага веку, вартых і годных свайго баравога прызначэння, свайго радаводу. Парода, паходжанне расліны, дрэва, як і ў людзей, не толькі захоўваюцца, але і перадаюцца з пакалення ў пакаленне. Дарослая, не падсочаная, не абяскроўленая хвоя да скону захоўвае вартасць і гонар.

Заўсёды здольна паказаць характар і пад сінім каўпаком неба пастаяць за сябе. Як прыклад гэтаму, бары Магілёўшчыны недзе, здаецца, пад тымі ж Верамейкамі, дзе ў час акупацыі ішлі жорсткія партызанскія баі з карнікамі. З гарматамі, мінамётамі, не выключана, і танкамі. Хвоі былі моцна параненыя асколкамі снарадаў, мін, кулямі. Але выстаялі, не леглі. Пакласці іх бензапіламі намерыліся ўжо ў мірны час. Толькі ў апрацоўцы на тартаках і лесапілках гатарам яны абламалі зубы. Хвоі былі абярэжаны. браніраваныя вайной, непрыдатнымі сучасным дойлідам кулямі, асколкамі снарадаў, гранат.

Вось такія натурыстыя, ганарліва, зацята непадатныя пажадлівым чалавечым рукам і вачам шляхетныя сосны ахапілі і нас на могілкава-заняпалым ужо канадальным Уладзімірска-Сібірскім тракце, вечнасць, шапка падала ад іх узвышанасці, гонару і смутку. Усе яны былі карабельна-мачтавыя, станава-гонкія і адначасова мацёра, у некалькі абдымках, клубавыя. Але без звыклай Палессю пахмурнасці, прысадзітасці і каржакаватасці. Ззялі і шапацелі бронзай і золатам нябачных пры сонцы стужкавых ветразяў. А на баравіка пад імі і намёку не мелася. Адны толькі азадкава цяжкія на нізкіх ножках і маленькай галоўцы ў смарагдзе моху махавікі. За няйменнем другога мы захапіліся імі. Нарэзалі як панесці. І адразу ж былі пакараныя. Заблукалі. Чужы лес, чужое сонца, якое ўжо пахавальна адыходзіла. І без канца і краю зялёны прасцяг сібірска-ўральскай тайгі. Толькі, пэўна, махавікова-малахітавы бог зжаліўся на намі. Невядома адкуль і ў поўнай бездаражы, больш таго – хлябях ужо балотных, як з таго свету паслаў нам загнаную і замурзаную лесавозную, гружоную хлыстамі, машыну. Падобна, такія ж пякельныя лесавікі кіравалі ёй. На ўральскім хмелі, качагарава-брудныя, як і трэба пякельнікам і лесавікам. І мы, убачыўшы іх, радасна, непадробна захмялелі.

Дома, у прыгарадзе Заводаўкаўска, нас ацвярэзілі, апусцілі з нябёс на зямлю. Асцераглі і папярэдзілі:

– Атрутныя, атрутныя вашы грыбы. Мы такіх не бярэм і не ядзім.

Але ж я яшчэ па Палессі ведаў, што атрутных грыбоў няма. Апроч бледнай паганкі. Усе іншыя можна смела есці, нават мухаморы. Справа толькі ў тым, як прыгатаваць. Сахатыя, ласі, ядуць іх сырымі, шаманы поўначы – пры камланні сухімі і варанымі. Ад пэўных жа хвароб у адмысловай сумесі на Палессі ведзьмы і ведзьмакі лекава спажываюць і паганкі. Наколькі вядома, ніхто яшчэ з таго свету ні пісьмова, ні вусна не жаліўся. Сыходзячы з палескага вопыту, я быў упэўнены: нашы махавікі першага, нават вышэйшага гатунку. Пачалі варыць. Жонка сказала:

– Ты не еш. Я адна паспытаю. Застануся жывою, дазволю і табе

Я пагадзіўся, таму што да такой умовы цішком добра паласаваўся нашымі атрутнымі грыбамі. Застаўся жывы і яшчэ хацеў. І жонка выжыла. А крыху пазней атрутныя махавікі разам з высакароднымі груздамі ў рэдакцыі газеты “Камсамолец Кузбаса” пайшлі за мілую душу – насы ўпрысядкі. Хаця і не без суму і шкадобы: добры, смачны ўральскі грыб махавік, грузд, але не параўнаць яго з родным нам баравіком.

Прысушыў. Прыгаварыў ён мяне да бацькаўшчыны, да Палесся. Зачараваў, як гэта прырабляе дзеўка ці маладзіца з хлопцам. мужам, з якімі толькі марыць назаўжды сысціся. Прырабляе не толькі нагаворам, травой, але і грыбам. Ёсць, ёсць нешта чаравальна-чарадзейнае ў нашым баравіку. Кожнага са сваіх, паднятых у родным лесе, я помню ці не ад першага і апошняга, у твар. Хаця апошняга, упэўнены, яшчэ не было. Ён

толькі яшчэ абяцальна праразаецца ў прадбачанні мяне, прамывае вочкі, слепашары мой галубок.

З першым сутыкнуўся, пасвячы карову ў дубняку пад так паіменаванай намі вартай, дзе немцамі быў расстраляны ляснік, бацька майго сябра, таксама пастуха. І быў той першанец вельмі падобны на нас, сірот-пастухоў з ускраіннай вуліцы Падольскай. Русявы, пад колер сваіх маладых яшчэ дубкоў, з якіх, пэўна, і выйшаў, з упалых, як і яго галоўка, шурпата акаўпачаных жалудоў. Прыўзняты на дыбачкі насустрач мне, майму воку, сіваваты там, дзе на ім абярэжна прылеглі ахоўныя травінкі. У хвацкім капелюшы з бялюткім падкладам. Мацак, як мы гаварылі пра велікоднае яйка, гуляючы ў біткі. Нага, што ў спраўнага мерына капыт. Паласатажылавая і, падобна, выпрабавальная: ну-ну, пагляджу, хто ты і які з цябе паляшук.

Без набліжэння яшчэ, але ўжо і не здалёку, мы прымерыліся, пагля-дзелі адзін на аднаго. І, пэўна, спадабаліся. Далі адмашку на паразуменне. І пайшло, і паехала. Спачатку выпадкова, больш пры карове, пасвячы яе па тых жа дубняках, не зацягнутых хмызамі. Абармот дуб пра сябе ўсё ў галаве мае. Падрост не прынаджвае, вабіць яго сонца. І ў дубняках заўсёды прасторна і светла, як у дзявочай святліцы. Каровы ўсе як на далоні, ім няма куды шыцца. І трава, абярэжаная шатамі разбеглых волатаў, ніштаватая. Таму пастушкам і сабой заняцца можна.

Пад Каленкавічамі такіх менавіта дуброў ажно тры. Праўда, толькі дзве нашы, падольскія. Трэцяя ж – дэпоўская: маёмасць суседніх з намі вуліц, набліжаных да паравознага дэпо. Вуліц таксама бядотных, але крыху інакш, чым нашы. Першае – работнаму люду да працы бліжэй. А другое, раней за нашых бацькоў гэты люд вымеўся з вёсак у горад. Раней атабарыўся ў ім. Адбудаваўся, стала асеў вуліцамі. І таму ён больш прафесійна-майстравіты. Больш ганарлівы, хаця і больш, глыбей замурзаны паравозным мазутам: раней пачалі – раней і ўляпаліся. Іх парасткі, нашыя равеснікі, нос перад намі задзіралі, як певень на седале хвост. Ні яны на наш бок, ні мы да іх не патыкаліся. Пасвілі кароў паасобку, на сваіх пашах. Хаця самі і не пасвілі, пастухоў наймалі. Што не шкодзіла падольскім з дэпоўскімі жыць у стане прымірэння і ўзаемнай цярпімасці. Але нябачная мяжа існавала, больш у дробязях.

У адрозненне ад нашай, іх, чужая нам, дуброва здавалася таксама трохі замурзанай, змрочнай. Баравік, падобна, яе цураўся. Затое горад, чыгуначнікі, упадабалі там ладзіць маёўкі – на Першае мая і Дзень чыгуначніка. На іх святкавалі і мы. Ламалі чаромху і смарката збывалі закаханым парачкам. А потым распярэзвалі жываты і ласаваліся марожаным у папяровых шкляначках. Ад таго марожанага ў кожнага з нас саладзелі нават жываты – іх можна было лізаць. Усё гэта вясной, а ў жніўні, у Дзень чыгуначніка – шнырылі па кустах, збіралі пустыя бутэлькі.

Мо таму і не раслі там грыбы. На жабраках і жабрацтве толькі вошы плодзяцца і раскашуюць. Хаця нашы дубровы дзячылі нам. І не толькі грыбам. Яны цалкам ахапілі, ахуталі і агарнулі нас ласкай і ціхім клопатным шэптам, дабрынёй, што ўласціва сапраўднай дужасці. Але апроч гэтай бясспрэчнай дужасці ў дуброве мелася і нешта больш адметнае, што мы па-паганску падсвядома адчувалі і тады, хаця былі цалкам глухія і сляпыя на гэта, кастрыраваныя падобна калгасным валам. Кастрыраваныя клопатам аб хлебе надзённым, занятасцю яго здабываннем, часам, што хібіў нам набрацца духу. Пра што, калі ў місцы было нешта гарачае, а даць астыць і

падзьмуць не хапала цярпення, перацінала горла, казалі: мачыха дух выбіла. Сірочы дух мачыхі-эпохі з нас быў выбіты, як ува ўсіх і паўсюдна. Не да духу, дый шкодна было прынюхвацца – есці вельмі хацелася.

Але і праз перацятасць духу і дыхання мы адчувалі нашы дубнякі, на цяперашняе разуменне як нешта храмавае, як вернікі падчас службы ў царкве. Мімаволі, калі не прымусова, няведама чаму нямелі. Сцішваліся, зноў жа, як тыя ж вернікі падчас чакання царкоўнай службы. І адухоўленая сцішанасць, а на самой справе галаснасць самых розных нявыказаных пачуццяў, азораная шматфарбавымі вітражамі заценены вокан, мігценне ў белым пяску пчаліна-васковых свечак за здароўе жывых і спачын памерлых, пад наглядам суровых лікаў святых асвячае ўсіх, хто ў мностве, але як адно адзінае, малітоўна, моўчкі павернуты да таго, хто ўжо над імі. У залатым купале паднябесся – у столі храма. Хто рассоўвае спакоем святла і міру над імі. Высокім смуткам і надзеяй пад сполахі выцягнутых увысь тонкіх, але не надта хісткіх агеньчыкаў свечак, павевы ялею, курчавага featuresабаковага дымлення панікадзіла ад птушкава-разлётных рухаў адзенняў святара.

Нешта падобнае адбывалася з намі і нашымі каровамі сярод нашых дубнякоў пад featuresагалоссе, як чамусьці здаецца мне сёння, нябачных птушак. Але яны былі. Толькі высока і ў абярэжнасці лістоты. І гэта іх нябачнае шчыраванне, як услаўленне, надавалі валатоўнай велічы дубам. Мы пантаналі ў гэтай велічнай валатоўнасці. Губляліся разам са сваімі каровамі. Мякчэлі вокам і млелі да галавакружнасці. Прагнулі ўчынку і грашылі ім – вучыліся курыць, упэўненыя, што так набліжаемся да сваіх бацькоў. Сталеем і расцем.

А што расло папраўдзе праз нашую малітоўную грэшнасць, аняменне і галавакружнасць, перахоп дыхання, духу – баравікі. Раслі дужыя, як Ілля Мурамец на ўгрэве печы, магутныя, як і іх дубы, глыбока ўкаранёныя ў іх прыдрэўны прадвечны чарназём. Выкруціць, як іншы, не дуброўны, баравік з таго чарназёму было амаль немагчыма. Толькі зразаць. У адрозненне ад грыбоў баравых. Тыя на пачатку не надта зрасталіся з хвойнікавым падзолам, больш урасталі ў белы, падобна магілкаваму, пясок, як і людзі на схіле сваіх дзён. А маладзенькія, нібыта ландскнехты ці прэтарыянцы, крамяна ірдзелі галоўкамі ў касках па не надта ўчэпістым ласіным белым моху. Каранёў на пачатку сваёй існасці амаль не мелі. Карэньчыкі. Белыя, кволыя. Лёгка сыходзілі, без нажа, са свайго стойбішча і таксама лёгка, радком ды ладком, клаліся ў кошык. Яны мне, грэшна, і падабаліся больш за іншых.

Пра смак жа і дуброўных, і баравых, і верасовых грыбоў маўчу. Няхай прабачаюць – усе смачныя. Калісь, у дзяцінстве, дык і надта смачныя. Адчуванне і разуменне гэта ўжо сённяшнее. А ў маленстве, як гавораць у нас, ні да галавы, ні да ср...кі. Ёсць чым чэрава ўлагодзіць, каб на ім, як на бубне, барабаніць можна было ці вошай біць, і цудоўна. А сёння і жыватом, і ср...кай паразумнеў. З-за горычы. Немагчымасць пайсці ў свае дубровы і падняць пастушковага баравіка. Згадзілі мае два дубнякі. Паставілі паблізу Падольскіх вуліц выбітны мясакамбінат. А ў дубняках утварылі яму фільтрацыі. Ужо ў сталасці я ўцякаў, бег ад іх хутчэй, чым Напалеон з Масквы. Такі смурод – куды мацней, чым у прывакзальнай прыбіральні. А невядомага, неапазнанага гнюсу, за*е*дзі – нібыта я не на нашай планеце. На тым свеце ўжо, гоняцца за мной злыдні і пранцы, прагнуць недапітай імі ў маім маленстве крыві.

Шмат гадоў таму, пакідаючы гэты край, я апошні раз прайшоўся па сваіх дубняках. Мінуў першы, вузкай гарлавінай, як былым рэчышчам, далінай аддзелены ад другога. З усіх бакоў, нібыта дзявочым карагодам, укруга ахоплены маладымі бярозкамі, што, пэўна, зімой і ўлетку мроілі пабрацца з дубровай. Ды не шчасціла, рабінкі перайшлі дарогу, спакусілі волатаў да млоснасці чырванню ягад, карункамі лістоты і прыроджанай арабінава-жаночай пяшчотай ды ласкавай пакорай.

Прайшоў як праз казачна-патаемныя ўлетку сонечныя сенцы, дзе ўсё праменева-празрыста і летуценна-прытушана. Увайшоў, нібыта сапраўды ў храм, у дуброву другую, што стрымлівала наступ прылеглага да яго балота. І таму было яму не да гуляў і заляцанняў. Сур'ёзныя там стаялі мужыкі. Але каля іх, бліжэй да зяўрастай цьмянасці дрыгвы, я нечакана напаткаў россып маленькіх баравічкоў. Вельмі маленькіх, як смочкі дуба і зямлі, з якой руса яшчэ, сарамліва аказалі сябе свету. Нібыта выбеглі на мяне апошні раз зірнуць і развітацца, хаця я добра ведаў, што грыб, асабліва баравік пазбягае свае вочы каму б там ні было паказваць і іншых на сябе зырыцца. Як немаўляты да аднаго году, схільныя да сурокаў. Таму іх, немаўлят, да году і пазбягаюць фатаграфаваць, каму-небудзь, апроч сваякоў, паказваць і нават стрыгчы і выкідваць на вецер валасы. Нядобрае вока ўчэпіцца – прыкінецца да дзіцяці гарачка, ліхаманка, волас на плечыкі ці ў плечыкі. І малое губляе спакой і сон, заходзіцца ад енку і крыку. Нешта падобнае адбываецца ад нядобрага вока і з грыбам. Ён чэзне, калі кінеш на яго вокам і не падымеш, хварэе, паддаецца гнюсу, пошасці, якія да пары да часу зводзяць грыбоў дарослых.

Я, хаваючы свае вочы, тупячы іх убок і ў зямлю, быццам і не гляджу на смочак-баравічкоў, прысыпаў іх некім скошаным сенам, маючы ў галаве: я яшчэ да вас вярнуся. Мы яшчэ сустрэнемся, убачымся і абдымемся. Расціце, расціце і чакайце мяне. Я прыду.

І вось прыйшоў, з падсвядомай дзіцячай надзеей, што мае баравічкі-смочкі, хоць і станіліся, але дачакаліся ўсё ж мяне. Стары дурань і пень – да сівых валасоў розуму не набраўся. Але што тут паробіш: пакуль жывем, дыхаем – спадзяемся. На тое мы і людзі. Спатыкаемся, падаем, падыемся і не губляем веры – усё лепшае там, наперадзе. У вяртанні ў сябе і да сябе колішняга. І як жа мы горка памыляемся – вяртання няма. Толькі горыч, шчымлівае нараканне на падман, незваротнасць: замест сонечнасці памяці – смуродныя палі фільтрацыі ды панская раскоша крывапіўцаў.

Не верыцца, што яшчэ некалькі дзесяцігоддзяў таму я быў на гэтым месцы, на гэтым белым дуброўным свеце, басанога хадзіў і бегаў па гэтай жа зямлі. На ўсё жыццё пакусаны, пазначаны ёй збітымі пазногцямі, зарубінамі, рубцамі і шрамамі, вывіхамі і пераломамі, што сёння ныюць і ныюць на непагадзь у свечкай запаленай боскай памяццю свядомасці. Прызнаны, прызваны і асвячоны прайшоўшымі тут маімі дзядамі і прадзедамі, нават маёй рагатай каровай.

Колішні ваенны гарадок. Цяпер занядбаны і памерлы, як і колішнія яго насельнікі, на самоце ў лесе пад Каленкавічамі з усіх чатырох бакоў абкружаны ўзаранай да вайны яшчэ траншэяй, ужо ўдзірванелай. У тым дзірване, траншэйным кіліме і чакалі мяне ўсё яшчэ цалкам у вайне мае падпольшчыкі, лясныя салдацікі-баравікі, што пазачасна разышліся па брацкіх магілах. А сёння, наведзеныя фантомна родавой памяццю, навабранцамі паўставалі на роднай зямлі, гатовыя даць часу і мне пад казырок. Трошкі наструненыя, акселератна, эпохава цыбатыя – на дыбачках жа чакалі, –

але не вераскова-даўгалыгія і не бочкава-каржакаватыя, як у далінавым моху ці на жвіравых узлобках, – моху ягельнага.

Акурат пад мяне-жэўжыка, каб мне з імі не размінуцца, але трошкі пагуляцца. Усцешна абодвум. Каленкавіцкая так званая Жараўка-пажараўка, дзе ішлі партызанскія баі. Бары што хавалі нас у куранях разам з нашымі маці ад фашытоўцаў-карнікаў. Азарыцкія нетры, колішні неруш каля дрыгвы і балацінаў, дзе ў свой час месціўся жахлівы Азарыцкі канцлагер са спецыяльна заражонымі немцамі на тыфус жанчынамі, дзецьмі і дзядамі, праз які прайшоў і я – дзіўна, як абірае і пазначае сабой грыб, баравік пакутлівыя, кроўю і слязьмі мечаныя куткі. Але што ёсць, тое ёсць. Мяне як нехта наводзіў на іх. Думаю, упэўнены, не толькі мяне. Кроў продкаў указальна, за руку цягне нас, вядзе, надае зроку і мудрасці ў часе і асяроддзі. Паўсюдна з сіроцкага маленства я быў ці не сакральна, знакава, як і мае равеснікі, скіраваны на зямны і чалавечы боль, рэхавы стогн і кроў, чаканы і спазнаны там маім баравіком, што здольны не толькі цешыць, але і выкрываць, казаць апошняе слова падсуднаму колішняму дню.

Непадкупляльныя сведкі гэтага лясы і зямля Жыткаўшчыны – Случы і Прыпяці, у водах якіх безыменна назаўсёды ляглі ў вайну матросы да апошняга часу амаль мала каму вядомай Дняпроўска-Прыпяцкая флатыліі, пра гераізм якой выпакова даведаліся і загаварылі толькі напрыканцы дваццатага стагоддзя. Вада падмыла бераг, зарослы лесам, паваліла яго і выкрыла свету смертнікаў. Людзі адкапалі і па-людску пахавалі. Родная зямля, лес прынялі. Аддзячылі, прараслі грыбам, таму што самі стаяць на крыві: з праху ты прыйшоў – у прах ты і пойдзеш. Такі ўжо нясмачны ці смачны, але неаспрэчаны і неспасціжны наказ і закон непарыўнай вечнасці, што адорвае нас чалавечнасцю, дае нам шанец быць і заставацца людзьмі: людзьмі звацца.

Не пашанцавала мне на грыб толькі на чужыне. У Заходняй Сібіры, Урале, Паволжжы, Прыдоншчыне. Чужына ёсць чужына. Не маё там было: на чужы каравай – рот не разяўляй. Усё вярнулася пасля звароту з бегаў за чужым жоравам без сваёй сініцы ў руках. У барах і гаях каля Мінска, Ласёў, Баяраў, Гацука, Караліна, Талькі, Вялібару. І ў даваенным укрэпраёне с захаванымі там бетанаванымі дотамі, дзотамі пад Ракавам. Так званай лініяй Сталіна, праз якую фашысты, не цямячы, што гэта нешта абарончае, накшталт лініі Манергейма, прайшлі як нож праз масла, і якія сёння брахліва адраджаюцца.

Усе гэтыя куты, мясціны на той, сёння ўжо далекаваты час былі тады яшчэ праходна-чыстымі. Не закрытыя зараснікамі караслівага кустоўя, хмызамі, дывановым покрывам здзічэлай травы, лесапавалавым сценавым буралломам. У той чысціні і ходнасці працягвалася маё навучанне грыбам. Пазнаванне яго. Там я пазнаёміўся з тужлівасцю чорнага грузда і ўдаванай святасцю грузда белага. Апошні на самой справе аказаўся зусім не груздом, падкінутай мне пад ногі зацята падробнай пад яго скрыпіцай, якую на Палессі не ведалі і браць у рукі, падымаць не хацелі. Не надта ж, па-сібірску, сапраўдным аказаўся і грузд чорны – падабенства толькі на яго, хаця і не благое, прыдатнае да засолкі, прыймальна спажыўнае: на бязрыб'і ці бязгрыб'і і рак – рыба, і грузд чорны – грыб.

Грузд жа белы, сапраўдны, як я ўведаў у Сібіры, зусім інакшы. У бялютка-белай карункавай спаднічцы і зверху белы. І з малаком накшталт таго, якое дае божая кароўка. Калі папросіш. А тут і прасіць не трэба, толькі дакрануўся да сыспаду, ужо доіцца. І саромеецца, пэўна, свайго

хуткага даення, мо таму малачко гаркавае. Ад гаркавасці пазбаўляюцца вымочваннем. На Беларусі грузда белага не надта. Я сыходзіўся з ім толькі барах Талькі ды пад Ласямі, і то не шмат, больш напаказ. На Палессі пра яго нічога не ведаюць. Хаця не выключана, што ведаюць, ды не хочуць крыўдзіць сваё роднае дзіцятка – баравіка. А ў Сібіры, дый па-за Сібірам, белы грузд лічыцца першаком, лепшым за баравіка. Хаця апошняе, зноў жа, мне, як палешуку, сумнеўна. Толькі – не сунь носа ў чужое проса. Ці не таму ў сібірскай тайзе гэты белы грузд помсціў мне, не падпускаў да мяне майго братняга і крэўнага баравіка. А ён, мой баравік, пазбягаў сустрэч з ім, раўнаваў да грыбоў чужых, таёжных, кедравых ды піхтавых. Старанна захоўваючы сябе, музыку свайго бору, моху, няўчасна спляжанай хвоі, якая струнавай стрэмкай, рэхам старадаўняй скрыпкі, што колісь была ў вялікай пашане ў вёсках Палесся. Дзед яшчэ мой іграў на скрыпцы. А бацьку, унукам не перадалося. Хаця мо мядзведзік, які праціў мяне скрыпкавай жалобай не толькі па хвоі, але і страчанай мінуўшчыне, пераўвасобіўся ў майго дзеда. Па сведчанні ж навукі, чалавек пайшоў зусім не ад малпы, ад таго ж мядзведзя. Таму і вялікай нагоды пераўвасабляцца не было. Па былой памяці прыйшоў да хвоі, з якой мелася быць скрыпка, а яна спляжана. Адна струна, і тая абарваная. Ці не таму, падобна мне, мядзведзь не дзед, сышоў з паляшуцкіх бароў, дуброў і гаёў. Хаця апошнім часам сведчаць, як і я, вярнуўся ў родныя палесціны. Па дарозе нават збіў легкавік, што хацеў заступіць яму вяртанне. Збіў, але сам не надта пацярпеў. Сваім ходам падаўся ў некалі родны яму бор.

У маім жа маленстве – сышоў з яго ў сібірскія таёжна-кедравыя нетры і прагнаў, нечым ці некім угнечаныя, а мо ў прадбачанні вяртання не павёў за сабой свайго і майго баравіка, па якім я бязмежна сумаваў на чужыне. І ён, адзіна-запаветны мой баравік, адчуў гэты мой і мядзведзя сум, дараваў здраду і пацёг нас на радзіму. Дамоў, да хаты, як цягне кожнага з нас на схоне нашых дзён родны кут, зямля, якая нарадзіла нас. Запаведанае, загаворанае і наканаванае старажытнасцю, што бярэ пачатак у непарыўнай вечнасці. Ад прысушлівай і чаравальнай сон- ці разрыў-травы, інакш яшчэ у нашых мясцінах падснежніка – вясной сіне-блакітным ці жоўтым, пры не расталым нават яшчэ снезе, заплеценай у зялёныя косы травы-дзеразы на Сёмуху. Той самай дзеразы, што дзяруць у бары пад свята і нясуць да жытла, развешваюць па брамках, варотах, дзвярах у хлеў і хату, боронячыся ад нячыстай сілы. Цягне да сябе наш нараджальны і пахавальны пачатак – ад крыжа на ростанях дарог і на могілках да коласа ў полі, зерня на далоні, кавалка хлеба, картопліны-бульбіны. Усяго існага і сутнаснага, звыкла, пракаветна свойскага. Адраджальнага і смяротна-збытнага.

Ці не таму на Палессі здаўна так і казалі: наш чалавек ніколі не галадаў і галадаць не будзе, пакуль у яго ёсць лес, балота, вада і поле. Не ўродзіць поле – дапаможа вада, маецца на ўвазе рыба. Перасохне рэчка – дасць лес, грыба, разумеецца, але не толькі. Самі ведаеце, што тут лішне нагадваць. Дрэва чалавеку, яго хаце, гаспадару і гаспадарцы галава. Яно само не без галавы, і думкі ў ёй, дбайнай і вечнай, як матухна яго зямля. Не дазваляюць хадзяіну ўзяць, ночы цёмныя – і ўкрасці са згоды з імі ж можна. Балота, дрыгва, багна вартыя не толькі праклёну. Рукі, ногі правільна растуць, кацялок варыць – ягад, тых жа дурніцаў-галубіцаў, малінысмародзіны навалам. Кораб на тры вядры – колісь на Палессі жонкам мужыкі такія толькі і ладзілі – на плечы і, як на кірмаш, на выпасы ў лес. Пад Баранавічамі вёска, калгас ці саўгас “Заря” некалі быў. Мо ёсць

і сёння. На кожным падворку – легкавушка. І гэта пры савецкай яшчэ ўладзе. Лес, вада, балота далі. А яшчэ рыбы – уюноў, карасёў, шчупакоў. І нават стронгі. Стронгу салдаты бліжняга гарнізона нагавіцамі ў ручаях лавілі. Пакуль не збрыдзелі і не абляніліся ўшчэнт: пачалі вапнай з бочак труціць. Было-было, ды сплыло і быллём зарасло.

Сёння даводзіцца толькі адно – разводзіць рукамі ды горка ўздыхаць: куды ўсё гэта падзелася, якія злыдні і пранцы пабралі, знішчылі ўсё гэта. Хто звёў нашыя паўнаводныя рэкі разам з балотамі і прыбалацямі і вёскамі Вадовічы, Узбалацці, Забалацці ды Гаці з Загаццямі? З ручаямі і крыніцамі, заліўнымі абалонямі-сенажацямі, сажалкамі, поўнымі качак і рыбы – уюноў і карасёў. Карасёў менавіта прыўкрасных, красных – чырвоных, ад якіх сёння амаль і знаку няма. А раней, як чырвонае золата, плавілася ў водах і плавала. У сенакос пры далінах і па абалонях заліўных сенажацяў, дзе яшчэ не сышла вада, бралі рукамі. А ўлетку ў межань па балках, старыцах, завадзях ціхіх рачулак – баўтушамі-таптухамі, крыгамі, кабыламі. Зімой, калі ў маразы пачынала сніцца лета і не спайманая ў сваю пору рыба, рабілі пелькі пад мудроную, чыста палескую прыладу, плеценую з гнуткай яшчэ вясновай лазы. Верх – на паветры – закрыты, у донцы, што ў вадзе, гарлавіна. Для заплыву рыбы. Надта ж мудрая прылада. Палешукі мо самі не разумелі, што вынайшлі, і ахрысцілі яе ці не з уловістасці, немагчымасці выйсця па-свойску звыкла і проста – пі...да. Надта ж прыцягальная і здатная на ловы асабліва крутлівых уюноў, што прапалі сёння разам з чырвоным карасём.

Дзе ўсё гэта, без чаго свет палешука не толькі няпоўны, але і пусты, чужы і адчужаны ад яго. Дзе нашыя спелыя лясы, бары, дубровы, гаі і нікольки яшчэ не горкія, не асвячоныя зоркай Палын воды. Няўжо да капейкі і за капейку ўсё спляжана, пераўтворана ў адно бясконцае меліяраванае поле, якое ніяк не можа задаволіць нашае ненажэрнае чэрава. Чаму чалавек так зачарсцвеў мазгамі, так па-свінску абрухацеў, ацяжэў, пайшоў, літаральна, у ср...ку.

З уюнамі мне больш-менш усё ясна. Прадчуваюць сухое лета – свідруюць глебу, дно вады сваімі праточкамі. І знікаюць у іх – у сваіх паралельных светах ці працілеглых нам Амерыках. Хітруны, амаль як цяпер афыканскія мігранты. А ўсе астатнія, аседла-дамавітыя і працавітыя. Ці не ў так званыя тартарары. У апраметную на радасць качагарам пекла праваліўся наш торф, тарфянікі нашы. На радасць нячыстай сіле і чарцям. Дык іх ужо і на пагляд няма. Звяла савецкая атэістычная ўлада, ці яны кончылі жыццё самагубствам разам балотамі, багульнікавымі гаючымі ягадамі дурніцамі. Што – дурніцы, дурніцы, але розум маюць. Залатыя дурніцы – дваццаць, трыццаць рублёў за кіло. І натуральных, сапраўдных, а не штучна выгадаваных, якія ні багуном, ні балотам, нават балотным кулікам і цыбатай чапляй не пахнуць – буйная, выбітная фігура – ды дура. Без дурняў ужо – ні для хворых, хто пакутуе на страўнік, ні ратавання апрамененых мірным атамам пазначаных. Дзікія балотныя дурніцы, як і лісічкі, лякуюць апраменьванне мірным атамам.

Хто той ненажнажэрны і ненаедны, высмяглы жлукта, пузень, які выжлукціў пітную бочку Еўропы, як называлі наша Палессе. Няўжо ўсё імгненна накрылася медным тазам, белым пясочкам меліяраванага, бясконцага, як Барабінскі стэп, сухавейнага поля. Дзе той кожны шосты кусок хлеба, чарка і скварка са спляжаных тарфянікаў, якія чорнай віхурай, пылавымі буравеямі пайшлі ці не на Месяц і Марс, пэўна, карміць месяцоўцаў і марсіянаў.

Але ўсё гэта так, спадарожна, да слова. Хаця не толькі да слова, але і з адчаю, горычы і з горыччу, да стала, хаты, сумлення. Да тых жа, што ў рэшце рэшт амаль канулі ў небыццё танных кропак грамадскага харчавання – сталовак і так званых забягалавак, вясковых клубаў, бібліятэк, фельчарска-акушэрскіх вясковых пунктаў, што сплылі разам з вадой, уюном, карасём, сышлі з грыбам. З чым мы сёння, відавочна, развіталіся. Могілкава разышліся назаўсёды.

У дзяцінстве мне чамусьці падабалася заходзіць у тыя ж клятыя забягалаўкі – чайныя, рэстараны "Бабскія слёзы", сталоўкі. Цішком прытуліцца ў куточку, лыпаць вачыма, вачыма рабіць усё тое, што робяць іншыя ў сапраўднасці. Бясконца карцела нешта купіць, самому разлічыцца, даць касірцы капейчыну, узяць і паставіць на паднос нешта не хатняе, куплёнае. Але кішэні мае дзіравыя, а каб не спакушалі, не абнадзейвалі і дзіркамі – наглуха зашытыя суворымі ніткамі. І я любіў безнадзейна глядзець, як купляюць іншыя, як гэтыя іншыя ядуць. Мяне зачароўвала гэтае грамадскае харчаванне: як чыста есць рабочы люд, беражажліва, у тры пальцы збірае нават крошкі хлеба са стала.

Аднаго толькі не мог зразумець, чаму гэты люд, што харчуецца грамадой, навідавоку, бессаромна адзін перад другім, так прыпадае да дубовай бочкі з марынаванымі ці салёнымі баравікамі. Тая бочка заўсёды месцілася ў цёмным куце сталовых і чайных, у якіх, дарэчы, амаль не ўжывалі тады чаю. Вялізная, большая за піўную, бочка. Мне здаецца цяпер, што за грыбы амаль ніхто і не плаціў. Пыталіся пра іх у касіркі, тая хітала галавой у бок бочкі. Падыходзілі да той бочкі з талеркай і чэрпалі вялізным драўляным апалоўнікам, каму колькі трэба, сядалі за стол і елі. Вось гэта якраз мяне і дзівіла, чаму яны бяруць казённыя пакупныя баравікі. У іх што, дома іх няма? Ці лета не было ў лес зайсці? Які ўвогуле ў казённым грыбе смак, слізкія, кіслыя нават і на пагляд. Ды так, што і ў носе адразу ж кісла. Не, трэцяя Падольская вуліца на такую распусту і дурноту грошай не траціла. І капейкай не пракідвалася нават на закусь.

Сам хадзіць у лес, у грыбы, у баравікі, я ўпадабаў яшчэ зусім малым. Між іншым гэта была не забава, абавязак. Хаця мо і не абавязак – покліч грыба і леса. Патрэба шукаць і знаходзіць там самога сябе. Далучанасць да дарослых, бацькоў. Занятак з прысутнасцю спаборніцтва, мо і не асэнсаванага яшчэ суперніцтва і жарсці, з чаго, як з яйка, павінен вылупіцца сапраўдны паляшук. А разумення грыба і дзіва яшчэ не было, хаця нейкая загадкавасць і прыцягальнасць ціхага палявання – адвечнага і благаслаўлёнага стану сялянскай мужыцкай душы ўжо абуджалася. Абуджалася і набывала вышыні звычайна яшчэ напярэдадні, у чаканні будучага разам з дарослымі паходу ў "дарослы" ўжо лес.

Але раніцой жаданне гэтае меркла, калі не знікала зусім. Таму што з хаты выходзілі часам яшчэ ў прыцемках, калі баравік толькі-толькі пачынаў аказваць сябе ў змаганні за сваё існаванне з апраметнай цемрай, распіхваць зямлю, пакрысе расці. Недарэмна ж мовяць, расце як грыб, нябачна. Па нашаму ж вулічнаму разуменню гэта адбывалася толькі ў цемры, уначы, пры жоўта-парадзіхавым святле Месяца і срэбранага падахвочвання зорак.

Чалавечага ж вока, як я ўжо казаў, грыб перасцерагаецца. Баравік трэба знайсці і зрэзаць, пакуль яго, хаця б і незнарок, чалавек не ўбачыў. Зверу ж, птушцы забароны няма – адной з грыбам пароды, з якой некалі на сваім пачатку, а потым і ў паганстве паходзіў і чалавек, падпарадкаваны і аддадзены толькі небу, зямлі, вадзе і дрэву – волі. І больш нікому.

Вынаходлівы розум, агонь і кола падламалі яго. Грыб жа, звер і птушка не даўмеліся да гэтага і захавалі сябе, стыхійную повязь з наканаваннем Творцы, з пазнаннем тагасветнасці і сусвету, носьбітамі чаго былі самі. Чалавек жа абакраў, абвузіў сябе, нічога пра гэта не ведаючы нават. Так толькі часам нешта роспачна, фантомна абуджалася ў ім, у яго лішнім, як ён лічыў, нікчэмным гене. Але і тады ён не здраджваў абвужанаму розуму і працягваў удасканальваць вынайдзенае ім кола – прыдумляў веласіпеды. Грыб жа заставаўся верным сябе і таму свету, які наказаў яму быць, заставацца грыбам. Таму такі недатыкальны ў сваёй далікатнай, магутнай прыгажосці.

І каб толькі ў аднога грыба такое. З усім жывым, раслінным і плодным, паўзучым і лётаючым. І сам вянец прыроды, цар яе – не выключэнне. Хаця і пнецца аспрэчыць гэта. Але варта толькі яго тры-чатыры разы назваць свіннёй, як былая яго сутнасць акажа сябе. Ён пачне рохкаць. Таму ў хаце адной гаспадыні ўсё спорыцца, а ў другой – з рук падае і кату пад хвост. Хаця абедзве аднолькава дбаюць, рупяцца. Так іх наставілі, такое рознае на іх вока, такая розная рука. Ад прыроды, ад натуры і пароды.

Грыбу ж невядомы такія перакіды і пярэймы. Ён быў і застаецца звярына-чуйным да праўды і чалавека, нават яго хады, дыхання. Яго не надурыш і не задобрыш, ліслівасцю не возьмеш. Ці не таму апошнім часам ён, а больш за яго лес ужо не любяць чалавека, не спрыяюць яму, як калісь. Нават знацца з ім пазбягаюць. Нешта прадчуваюць у нас, відавочна цураюцца, як грэбуюць. І чым гэта скончыцца, невядома – пакуль што паўсюдна гараць і гараць, нішчацца, адыходзяць на той свет нашыя бары, дубровы і гаі, цягнучы за сабой і чалавека, зводзячы ўсё жывое, ачалавечанае.

Але вернемся да таго, як гэта яшчэ было калісь, калісь: чалавечы век таму назад. Ранішняя пабудка – толькі адзін бок нашага дзіцячага нежадання вылазіць з цёплага ложка і хаты. І тут ужо дзейнічаў прымус, а потым і штосьці неўсвядомленае, таямнічае і чаравальнае дзіцячай душы: гэта ж без нас пабяруць усе нашы грыбы. А яны яшчэ з вечара прадралі вочкі, світальнай расой прамылі ў чаканні нас.

Нашыя ж бацькі мелі зусім іншую рацыю. Яны выпраўляліся ў лес у ахвотку – мо адсюль і пайшла назва “тихой охоты” – ціхага палявання. Ішлі ў лес, жадаючы адкінуць усе будзённыя хатнія клопаты. І на голас ішлі, на голас баравіка, які ўладна гучаў ужо ў бары. І клікаў, клікаў, уздымаючы рудым капялюшыкам зялёны ці сівы мох над сваёй палудавасмаленай сонцам галоўкай яшчэ немаўляці. І яны ішлі на яго народзіны, як хросныя бацькі на хрышчэнне, куміцца з ім. Толькі з ножыкам. Але то не кума, што пад кумам не пабыла. Ішлі нібыта ў царкву, не толькі з патрэбы свайго стала і жывата, хаця яно, канечне, баравік у любую пору як па мерцы. І свежы, і смажаны, і салёны, і сушоны. Але забаве час, а справе абшар. Да таго, як раз’ясніцца дзень, неабходна было вярнуцца з лесу, дагледзець жывёлу, прыбрацца ў хаце і на падворку, выбраць хвіліну і збегаць на сенажаць, паварушыць сена. А да ўсяго, каб печ не ачахла. Інакш грыбное паляванне не мела сэнсу. Аўчынка не варта вырабу.

Вось таму ў лес трэба было патрапіць да ўзыходу сонца, калі ад зямлі, падлеску і траў пачынае адскокваць лёгкі парны туманок. Увогуле ў тым туманку, начным прыпарку, была асаблівая карысць. У парныя ночы грыб, як цеста ў дзяжы, раздаецца ўшыркі, добра ідзе ў рост, раскашуе, як некалі панства. Сёння такія, прыдатныя ўсяму існаму ночы боскага

паходжання, калі ў адной сарочцы, без кухвайкі можна было прабаўляць начлег, пасвячы коней ад зары да зары, амаль звяліся. У згвалтаванай меліярацыяй, зводам балот і лясоў прыроды збітае дыханне, прырода помсціць чалавеку і адмаўляецца ад працягу, а тым болей тварэння новага, а папраўдзе, старога – існага, спрадвечнага. Дарэчы, як адбываецца гэта і са стомленым ад барацьбы з прыродай, ад сваіх вялікіх перамог над ёй чалавекам. Прырода і чалавек увогуле паядналіся ў гароце і помсцяць адно аднаму спусташэннем і перакосам сумеснай будучыні. Адмаўляюць уласнаму працягу – раству. Імкнуць на крыж і пад крыж.

Перадранішні, яшчэ не абуджаны пахмурны бор навісаў над дзіцячай свядомасцю, як жывы і не заўсёды добразычлівы да галаногай галоты так, што лыткі гарэлі і чугунелі пяты. Сонца яшчэ толькі-толькі ледзь-ледзь пазначылася ў далёкіх барвах даляглядаў. Менавіта гэта імгненне, ранкавы мірг, калі зямля соладка пацягвалася і пазяхала туманком, што ўжо адскочыў ад далінаў, хмызоў і падросту, трэба было не ўпусціць грыбніку. Пакуль раса яшчэ была малочна-каламутнай і не блікавала, не давала водбліску, не пускала люстраных зайчыкаў, не сляпіла раскошай фарбаў. Зямля бачылася пуката і выразна, уся пад нагамі, ад травінкі да прасвідраванай ці то жуком, ці то дажджавым чарвяком кропкі ўглыб і дарожкі ўсцяж, у набрынялай і распаранай глебе, шыгаллём, сасновымі іголкамі не прыцярушанай, шышкамі і адмерлымі галінкамі не засыпанай. Усё для вока пазначана. Здалёку яму на пагляд. Іменна ў гэтай падножнай пазначанасці баравых даляў мы, дзеці, і мелі найвялікшы поспех.

Хаця, па шчырасці, грэх яго ставіць толькі нам у заслугу. Усе мы, дзеці майго часу, былі прыраслымі да сваіх бацькоў. Былі ім, ацалелым у вайне, у партызанцы і на фронце, што змагаліся тут за сённяшні іх і наш грыб, як тыя ж грыбы. Яны цікавалі кожны наш лясны – дуброўны і баравы крок. Таму што можна было натрапіць на снарад ці міну. Парэпанымі босымі нагамі мы адчувалі ў гэтых абшарах пралітую імі кроў. І гэта не толькі словы. Мы дыхалі мінулым нашых бацькоў, сваім будучым, што прабівалася пасляваенным ужо грыбам.

І бацькі, пасміхаючыся, наводзілі нас на свае былыя, урадлівыя на грыб мясціны:

– А ці не зазірнуў бы ты ў той малады верасовы ці мохавы хвойнічак. Не абміні і тую далінку. Зазірні маладымі нагамі. А раптам...

Я, ці нехта з маіх хаўруснікаў, зазіралі. Пуста. Звычайна пуста. Яны, нашыя бацькі, добра, пільна прайшліся там сваёй вясковай маладосцю і дапрызыўнай яшчэ сталасцю. Наш жа здабытак праз іх памяць і кроў хаваўся зусім у іншым месцы. Месцы толькі нашым. Куды нас зазыўна клікалі толькі нашыя грыбы. У іх ужо прарэзаліся на нас голас, вока, слых, абуджалася пазнаванне нас, невытлумачальнае, як тагасветнае. Узаемнае. Палессе вучыла нас быць палешукамі, што потым дзівіла нашых знаёмых гарадчукоў, з якімі неяк выйшлі з бору з поўнымі кошыкамі. Ідзем па пустой дарозе, абапал якой і мухамору не прыдацца. Але як хтось пад коленцы б'е. Вымушаны нырок на абочыну. І мімаволі галасны крык. Здзіўленне сяброў:

– Ты што, як коршак кружыш, ашалеў, з глузду з'ехаў?

Кружу, ашалеў, з глузду з'ехаў. Ды і як не з'ехаць. То татары на гэты глузд наязджалі. То ляхі. Не кажучы ўжо пра немцаў, французаў – пранцаў па нашаму – расейцаў ды іншых шведаў. І сваіх пранцаў і злыдняў хапала. Мае равеснікі і сёння помняць па школьных падручніках гісторыі партрэт

дагістарычнага хлопчыка – шклоўскага выкапня. Жахлівы і жудасны партрэт. Але гэтая дагістарычная пячорная жуда і жах ажылі і ўсселіся на Беларусь і беларусаў. Як тут захаваць не толькі галаву, але і порткі.

Звіхнуцца, галаву скруціць можна. Добра, што ў нас ёсць ратавальнікі – бор, дуброва і пракаветны ў іх баравік. Таму насуперак нашаму памяркоўнаму глузду ў маіх руках злёгку прыпарушаны дарожным прыскам і хвойным шыгаллём паблажліва крывіцца беленькім ротам на мой хаўрус ладны баравік. І не адзін, з меншым брацікам. Сядзелі ў непрыдатнасці пад скрып калёсаў у няўтульнасці бойкага месца. Знарок выбеглі з бору, чакалі палешука з ножыкам: "Я маўчу, маўчу, трываю. Але скора загукаю: стрэльбы, хлопчыкі, бяры..."

Але спачатку пра ножык. Паказальнае і выкрывальнае сведчанне натуры чалавека: як ён сустракаецца з грыбам, бярэ яго. Тут усё, што нельга схаваць, кім прыкінуцца. Выдаць сябе за некага больш вартага, чым ты ёсць. Выкрыццё выпрабаваннем на характар, праўдзівасць, хлуслівасць і прагнасць беспамылковае – накшталт сёння распаўсюджанага дэтэктара хлусні. Мой сябра, якога я тут ужо ўзгадваў, Саша Танчынскі, ідзе да грыба нібы ў госці, у адведкі. Са зрокам у яго не вельмі. Але ён пазнае яго яшчэ здалёку, на парозе. Як выйшлі яны насустрач адно аднаму. Сыходзяцца, што на вясковай сялянскай сябрыне па храмавых восеньскіх святах, калі ўсё прыбрана і спарадкавана ў хаце і полі. Зжата, выкапана і ўзарана – самы час пацешыць душу. Грыб адчувае гэта і не пазбягае яго не надта відушчых вачэй. Пазнае і прызнае па-свойску. Радасць шчырая і ўзаемная.

Таксама паводзіць сябе ў грыбах і яго маці, Лідзія Людзвігаўна. Былая нявольніца фашысцкага канцлагера, франтавічка, калгасная даярка, пенсіянерка. Хадзіла ў лес з невялічкай даёначкай – прафесійная звычка мець пры сабе свой працоўны інструмент. У дуброве, бары, гаі каля рэчкі Случ, здаецца, яна на адпачынку. На сонечным прыпёку сярод верасоў нібыта яшчарка шчыруе, а не вышуквае нешта ці некага. Не надта завіхаецца і доўжыцца. Гадзіна, другая – даёначка ў склянь. А ёй больш і не трэба. Сустрэлася з лесам, дабрадзеем-баравіком. І да новага спаткання. Грыб жа брала без каранёвага падрэзу, ашчадна выкручваючы з яго кубельца. Потым ачышчала тоненькай стужкай ад зямлі. Стужкі, вобразь, хавала ў верасе, каб нешта ад іх і на будучы год завязалася, грыбніца заставалася плоднай, цяжарнай.

Зусім інакш паводзіць сябе ў грыбах сусед маіх вясковых сяброў. Неяк пайшлі разам з ім у лес. Колькі ішлі, жаліўся, сляпы, сляпы ўжо на ўсё лясное і нават хатняе. Не ўдасца мне, пэўна, і грыба падняць, баравіка ўбачыць. Убачыў, ды як, пад зямлёй яшчэ. Здаля на ўсю дуброву ласём зароў:

– Гэны мой. – І амаль па-кітайску: – І вунь той мой. І вунь, вунь той таксама мой. І наперадзе, убаку ад яго – мой.

– Ды ўбаку нічога ж няма, – паспрабаваў я пярэчыць яму.

– Ага. Гэта здалёку на твой погляд. А зблізу на мой ужо погляд – якраз можа і быць...

Нешта падобнае адбылося і са знаёмым гараджанінам, маім начальнікам, з якім у выходныя мы наладзіліся на ціхае паляванне. На рагу пры дарозе, каля маладых пасадак хвоі наскочыў на ладны россып усіх узростаў баравікоў. Не вытрымала душа, гукнуў свайго напарніка. Той адразу ж прыбег. Зірнуў, ацаніў, прысеў каля маіх ног і пачаў рэзаць, тыркаючыся мне ў калені. Прыбраў усе да адзінага, толькі пянькі з долу на сонца тужацца.

А я толькі лыпаў вачыма і маўчаў. За што крыху пазней быў адзначаны баравікамі, відавочна абуранымі хціўвасцю майго начальніка. Яшчэ больш ураджайна маўклівым іх россыпам.

Ціхмянасць, ураўнаважанасць і маўклівасць грыбніка ўвогуле надта ж даспадобы баравікам. Маладым, старым, баравым, дуброўным, беразняковым, мохавым, асаковым. Асабліва ж верасовым. Ці не таму, што ён, схаваны ў одуме раскошы квецені верасу, сам аб нечым думае. Яго трэба браць, адрываць ад зямлі, выцягваць з задуменністага блакіту верасоў з паклонам, ціха, больш вачыма. Вачыма сысціся, паяднацца з яго думкай. Сугучнасць з грыбам ці не галоўная ў ціхім паляванні. Баравік не трывае хапатлівасці, гукання, галёкання. Як на мяне, знайшоў грыб – адзіна толькі пошчак чаранком нажа па дрэву. Гук перадаецца зямлёй яго брацiку, сястрычцы, бацькам. І яны цугам ідуць на мяне. А так баравік на злом галавы бяжыць ад галаснасці, тлуму мітуслівага грыбніка ў мох, асаку, верас, пад зямлю, як на той свет, за пазуху маці-грыбніцы, нават афарбоўку змяняе. Косіць пад абабка, падбярозавіка.

Разумнік. І, не ў крыўду яму – прыстасаванец. Наўпрост як чалавек: хочаш жыць – умей круціцца. Хто круціцца – той жыве. Таму і ён такі вёрткі, па-сялянску шматаблічны. Стойваецца і паказваецца на свет, родзіць ці не адзін раз у чатыры гады – звычайна высакосныя, калі на роздум яму і чалавеку выпадае адзін лішні дзень. У высакосны год на пачатку вясны пасылае казачка разведаць, як там сярод людзей і ў лесе, ельніку, дуброве. Праведаць, паглядзець на свайго хапатлівага і штогадовага родзіча смарчка, нібыта абачлівы кот лапай малако ў сподачку, выпрабоўвае час, зямлю і неба пад сонцам. Прыдатная яго з'яўленню пара, калі пачынае красаваць жыта. Напрыканцы траўня ён запускае ў выведку так званых каласавікоўмікалайчыкаў. І толькі пасля іх яўляе сябе сам. І тое, у пэўны, грыбным лёсам прадвызначаны час – на поўні. Зямное, але ён і месячнае, нябеснае стварэнне. Мо толькі так мне мроіцца, але на маладзіку нават сярод лета і восені ён у заняпадзе. Прыпадае да яго ўсё паверхнева-паветранае: слімакі, жучкі, мухі адкладваюць свае лічынкі, ядуць яго, балююць чарвякі. Мо ён па сваёй ахвоце аддаецца ім, каб упасці, пайсці ў зямлю – на маладзіку, пачынаючы коранем выцягваць сыціць нячыстае, тагасветнае. А на поўні, калі верх бярэ тое, што паверх зямлі, апладніць, ацяжарыць яе і праз чатыры леты па высакосным годзе становіцца на панства.

Але ў гэтым высакосным годзе нешта не зладзілася ні то ў чалавека з грыбам, ні то ў грыба з чалавекам. Увогуле, як ужо казаў, апошнім часам паміж намі ўсё больш і больш прыкметна насцярожанасць і адчужэнне. Баравік не аказаў сябе ў самых сваіх запаведных мясцінах. А лета ж, здаецца, было самае спрыяльнае яму. Сонца і дажджоў у меру, і ночы грыбныя з туманковым прыпарам. Поле ўрадзіла жытам і бульбай. Дый агароды не падвялі з гуркамі і памідорамі. А вось лес разам з садам як чужыя. Мо і праўда чужыя, не родныя. Па планеце раз'юшана гуляў каранавірус. Зганяў і зводзіў чалавека. Чалавек пячорна дзічэў і звярэў.

Ці не гэта, звярынае, а мо і наадварот, чалавечае, людскае, перадалося лесу, дрэву і баравіку. Што ні кажы – у адной повязі яны з усім існым і сутным у сусвеце. Грушы, яблыні, усе костачкавыя пад разбойны салаўіны посвіст, жулікаватае скварчэнне шпакоў адцвілі дружна і ў сваю пору. Але завязь адразу пачала старэча-жоўкнуць і ападаць, чарнець і гніць, не кранутая нават падальшчыцамі-восамі. Ліст кропкава, пляміста загарэўся чырванню, згарнуўся дудачкай для зберажэння тлі – корму

мурашак. Лясныя дрэвы ад раптоўных залеў стволава браклі. Зямля ж пад імі надзіва прыкарэнна заставалася сухой і пылава-шэра ўспучанай. Ялавай, не даўшы плоду пасля адыходу глебавых вод. Абясплоджаная, абяскроўленая, абязводжаная, пераўтварылася ў прах, тлен. Садовыя дрэвы сарамліва насыцілі слодыччу тлі мурашак. Лясныя бясслёзна паплакалі па грыбніцы, што адмовілася радзіць. Прыгаворaны баравік заўчасна канаў у ёй. Зрэдку толькі тужліва і не самавіта трухлявым коранем прабіваўся на божы свет. Адны імхі былі пазалочана-зацяжараныя лісічкамі.

Такі вось высакосны год, карасліва каранавірусны, выпаў зямлі, лесу, чалавеку і грыбу. Настроены на грыба, узгадаваны ціхім паляваннем грыбнік, сіроча, падобна самотнаму Хрысту ў пустыні, з кіёчкам-посахам разгублена блукаў па пустым лесе. Сноўдаў, чыкільгаў па сухадолах, буграх і прыбалаццях, з цяжкасцю несучы па іх свой сум збеглай здабычлівай маладосці. Журыўся, але ўсе ж спадзяваўся: няма сёння – будзе заўтра. Але заўтра ўжо не было ні ў яго, ні ў яго баравіка.

У іх некаранаваным яшчэ ўчора ў прызначаны час прыйшлі і адышлі смарчкі-веснікі, кавалеры-мікалайчыкі, адбыўся парад сталых баравікоў. Гаі і дубровы пажоўклі лістам, хвойнікі пабурэлі і скінулі долу лішнія ім зімой іголкі і шышкі. Жоўта-бурымі капелюшамі выхапіліся з іх зялёнкі і падзеленкі – адраджальна-далярава пафарбаваныя сыспаду. Прымерзлі да сатлелай вечнасці, спрахлых пнёў апенькі. Лес пайшоў у запуск, як ялавая карова. Медузава-брыдка леглі долу на зімовы спачын стойкія мухаморы. Шэрыя і чырвоныя кардыналы, якія ішлі ў першых шэрагах грыбнога лета, вартыя не наракання, а добрага паміну беспамыкова адданыя і вартыя служкі лесу, птушцы, зверу і чалавеку. У свой час, нібыта Вясёлы Роджэр карсараў, апавяшчальны сцяг грыбной цывілізацыі: іду на вы, і ідзіце ўсе вы... Але прымусілі пайсці іх: не ўзнося і не жадай благога другому...

Хаця мухамор не такі злы, шкодны і атрутны, як лічыцца, лекавы нават. Не верыце – спытайце ў лася, у шаманаў, якім мухамор надае трэцяе вока, здольнасць суадносіцца з космасам. Ён нібыта вызваліўся з цямніц, пячор, амвонаў касцёлаў і цэркваў. Забег нам наперад, паўстаў на нашым шляху, расхінена ззяючы дабрынёй, шчырасцю і ўсмешлівасцю. Прадвеснік свайго ж брата, баравіка, мо і ахоўнік яго і стваральнік. І я ніколі не б'ю яго носцакам у зубы – грэх. Мроіцца мне ў яго каляровай расчыненасці нешта непрыкаянае, сваяцкае. Першароднае, як першародны наш грэх. На які пакутуем усе мы. А больш за іншых – беларусы, палешукі.

У нейкай неагалошанай замове з імі, кідкімі зухамі-мухаморамі, цыбаты блакітнавокі цыкорый, каляплотавы расходнік, што жоўценька ачомваецца, зацяжарыў прадбачаннем маючай быць грыбалкі, як увогуле ў апалове лета ці не ў прадчуванні таго ж зацяжарвае і зямля, пачынае даіцца малаком. І нават цыганскі грыб-порхаўка не застаецца ўбаку, без змовы з усім існым. Смуглявым вершнікам-канакрадам ускідваецца ў лёгкім падзоле дарог і сцежак. Адчуваюць тэрмін свайго апеву трутавікі і чагі, зладзейкавата акупаваўшы дрэва, звекаваўшы там і апошнюю сённяшнюю зіму, распачаўшы высакосны год – зразумелі – цяпер ці ніколі. Апошні шанец далучыцца да сутаварышаў. Яны, канечне, не чужыя ім, хаця і прыжывалы, халяўшчыкі-паразіты. Мардуюць, знясільваюць дрэва, сваіх бацькоў. Заўчасна зводзяць на той свет – але тут нічога новага. Наведайце кожную свежую магілу, прачытайце ад чаго мруць нябогі: ад жонкі, дзяцей, любімага свайго калектыва.

Вешчаванне, валхаванне і гаючыя здольнасці замоўлены грыбу разам з усім існым на нашай зямлі, калі карыстацца ім у сваю пару. Нішто, як і ніхто, не трывае заўчаснасці і, зразумела, набеглай пошасці, накшталт таго ж каранавіруса. Уся зямля пакутуе на адны і тыя ж, уласцівыя свету, хваробы і лякуецца тым, што маецца побач. Чага на гарэлцы, а лепей на спірце – ад сямі хваробаў. Нават невылечныя, ужываючы гэты настой, спадзяюцца і здаравеюць. Трутавік жа, па ўсім, іншай пароды. ці не ад нячыстага, лесавіка, яго галава ўссаджаная на пень. І ні Богу свечка, ні чорту камяня. Гэта з аднаго боку. А з другога – і вашым і нашым. Усё ад Бога і дзеля Бога. Ні чорту ў пекле, ні чалавеку ў яго зямным раяванні без яго было не абысціся. Чорта – распальваць печы пякельнаму качагару-падпальшчыку. Па такой жа патрэбе і чалавеку, каб куродыміў, чадзіў, спажываў сваю атрутную табаку і памятаў аб пекле. Стагоддзі, вякі і вякі чалавек, здабываючы праметэяў агонь, карыстаўся высушаным да пораху трутам з дапамогай пасланца космасу крэмня-крэсала. Знаходзіў і высякаў іскру Божую. І гары, касцёр, палай, агонь на тым і гэтым свеце, куры курылка, пакуль самога цябе чэрці не прыбралі.

Але вернемся да любых мне грыбоў. За фанабэрыстымі піратамі-мухаморамі сарамліва пачынаюць пазнаваць зямлю летнія апенькі, лугавыя, крапіўныя. Не на пнях і дрэве, а пасярод травы, найбольш крапівы. І самі, хаця і маленькія, але крапіўна-пякучыя. Па ўсім, летняя лугавая апенька не інакш як збегла з нейкага тагасветнага рэстарана, пякельнай кухні. Столькі бруіць у ёй агню, водараў і пахаў-прыпраў, і парфумаў, на год-два ў пограбавым захаванні ў саленні ці марынаванні хопіць. З цягам часу, як добрае віно – толькі мацней і смачней. Але не бракуе доўгай памяці і таму, хто па нізкіх лугавых крапівах выкалупваў гэты гузікавы цуд. Мае рукі не забыліся апёкаў і за паўстагоддзя. Толькі падумаю пра летнія лугавыя апенькі, як рукі пачынаюць смылець і гарэць агнём.

Чаго няма за апенькай восеньскай. Шчодрай, непахісна стойкай нават у прымаразкі. У роднай мне Вільчы неяк напрыканцы ўжо лістапада, калі ўсё навокал елкава, навагодне-срэбрана, наскочыў на іх раскошу. Пні як пад абрусам. А на ім выпівохі – п'юць дзень і закусваюць сонцам мажныя дзяцюкі, паны і падпанкі, пані і паненкі. У навагодніх строях, адчаканеных марозам уборах, з весялосцю караляў, са звонамі бразготак, калярова, іскрыстаззяючымі на сонцы елачнымі шарамі. Мімаволі войкнуў: калі столькі закусі, колькі ж пад яе можна спажыць гарэлкі. А на мой густ, апенька асабліва смачная не на патэльні, не ў гаршку, а пад выпростваючую зубы халодную гарэлку з заінелай бутэлькі. Яна набірае лесава-пнёвага, апенькава-настальгічнага ў касмічнасці свайго паходжання каля пляца сваёй высадкі на абрусе, разасланым на стале пня, узножжы хвоі, што прытуліла яго, асіны. Але здольная прысесці, лазіць па дрэве і высока. Асабліва па бярозе, калі яна ўжо адчувае, што век яе заканчваецца.

Толькі пры ўсім гэтым у маёй памяці застаецца адчуванне, што і апенек, як і казлякоў, мы не бралі. Мо не давала вяскова-сялянскае: карыстайся ўсім толькі ў сваю пору і каб гэта не шкодзіла, не замінала звыкласці побыту. У завяршэнні сельскагаспадарчага года грэшна было на апеньку расходавацца. І ці не таму, як мроіцца мне, надта ж неахайна абыходзіліся мы з ёй. Адразу з лесу, як ёсць сырцом ссыпалі ў трох-пяцівядзёрную дубовую ці асінавую бочку. І толькі зімой – як знойдзеш. Апенька нагадае табе і твой лес, і дарогу, па якой ты ішоў па яе, на здзіўленне звычайна, калі г*а*ды, змеі і вужы, гатовы ўжо былі разысціся па сваіх хатах, норах.

Залегчы ў зямлі. І амаль развітальна кідаліся пад ногі. І зімовым вечарам пад чарачку і спевы цвыркуна нібыта сам Бог босым па душы прайшоў. Як ён жа хадзіў па ёй, калі твой баравік у бары ці дуброве знаходзіў цябе. Менавіта – ён цябе, а не ты яго.

Але шчодрым апенькавым падарункам паганскае баляванне чалавека, зямлі і нябёс не заканчваецца. У восеньскай перадзімовай журбе і сненнях, у неадскочыўшым яшчэ цёплым дыханні згуртаваных верасоў растуць цыбатыя баравікі. Уначы прамярзаюць амаль да кораня. З усходам сонца ў мораку апошняй квецені верасу адраджаюцца і бяруцца зноў расці. Пакуль на іх не натрапіць хворы на галаву, да доктара не хадзі, звар'яцелаапантаны аматар-грыбнік. І абодва яны, грыб і грыбнік, касцяна грукаючы ўсёй сваёй істотай, з радасцю аддаюцца адзін аднаму.

Гэтаму апошняму майму баравіку папярэднічаюць цнатлівая прынцэса, кружылкава-смарагдавая сыспаду, цыганова-смуглявая зверху – сапраўды вачэй зачараванне – зялёнка, з сястрычкай-папялушкай падзялёнкай. З сямейства ведзьмаў, так званых радовак. Прыпазніліся на летні шабаш. Але якраз патрапілі на восеньскае развітальнае гулянне. Распусту і разбэшчанасць адыходу лета, калі ім, ужо развядзёнкам і перастаркам, усё дазволена – аднова жывем. І абодвум, засядзелай у прынцэсах зялёнцы і падзялёнцы-папялушцы, хораша нявесціцца ў іх ступках, што пасадкава глыбока закапаліся ў зямлю капытліва-неахопнай нагой. Учэпіста трымаюцца той нагой за дол – не выдзерці. Толькі зрэзаць, так духам і коранем зліліся, зрасліся з борам і ельнікам. Таму надзвычай смачныя ў засолцы, нібыта бочачкі, напакаваныя духам і водарам адстаялага лета.

Невядома кім, пеклам ці раем, тагасветнасцю ці нябёсамі ніспасланы зямлі, фаласападобна паўстае на пясчаных узлобках кольчаты гнаявік, не надта даўгачасны, але фанабэрысты, кідкі і заўсёды на дыбачках. Напагатоў у кошык грыбніка. Жанчын цешыць, але тыя чамусьці пазбягаюць яго брацць. Мужчыны – адны бяруць, другія грэбуюць. Пабойваюцца. Пад чарку нягодны. Наадварот, закусіўшы ім – увогуле пра чарку забудзь. Не трывае ён алкаголю і алкашоў. Хто навёў на яго такую пошасць? Незразумела – ад Бога ці д'ябла гэта. Як на маё цвярозае разуменне – ад д'ябла.

Шмат і шмат чаго ў нашым грыбе яшчэ неспазнанага, чаравальнага і вядзьмарскага. Нездарма адны з іх, у большасці пласцінчатыя, радоўкі, тыя ж зялёнкі і подзеленкі, грузды растуць ведзьмінымі кругамі, як сапраўды зляцеліся на шабаш. Мешаніна рас, народаў і часоў – белыя, чорныя, чырвоныя, бэзавыя, зялёныя і вельмі зялёныя, аж да пасінення. Маладыя чараўніцы-ведзьмачкі зазыўна, прывабна смачныя на патэльні. Лясныя кругавыя, хаця і ведзьмы, не шкодзяць чалавеку. Чаго не скажаш пра маленькія, з гузік – нарката – галюцынагенныя. Хаця гэта не адназнакава. Творца і тут на два гадаў: што рускаму здорава, немцу – смерць.

Узяць тыя ж рыжыкі. Якая неўтаймавана-ярая пралетарска-рыжая ў іх сіла, асабліва ў пахмурным яловым лесе. Сама ж елка ў народзе здаўна лічыцца нядобрым дрэвам: на Новы год дык калі ласка, а каб на падворак – не і не. Раскапусціцца, разляжацца голлем і каранямі – высмакча і агарод, і сад. Але бяда не ў гэтым, елка – дрэва, якое само сабе наўме. І ў яе вум-розум чалавеку няма ўваходу. Вартасна ж спелы, мажны рыжык схільны да елкі. Чаму, пэўна, яшчэ пры Пятру Першым, а мо і да яго асцярагаліся прымаць на службу рыжых людзей. Не так сабе і сёння пры здарэннях радзяць: шукайце рыжага. Няма ж дыму без агню, а тут агонь навідавоку.

На Беларусі, толькі не на Палессі, нямала мясцінаў, дзе адмаўляюцца браць рыжыкі. А мне гэты гуляшчы па ціпчаках далін, ягельных баравых буграх і нават па ўскрайках узараных палёў рыжы нячысцік-прайдзісвет падабаецца. Па-першае, злёгку пасаліў – можна адразу і закусваць ім. Хаця гавораць – толькі праз восем гадзін. Не разумею, навошта марынаваць чалавека. Майго церпяжу звычайна не хапае: выпіў, адразу і заеў. Не грыбам, сакавітымі хвойнымі іголкамі, кальчаком хвоі, што цвіце па вясне. І хораша-хораша, нібы ў дзяцінства даў нырца.

Наш баравік не абсевак у полі, без роду і племені. Ёсць у яго і два браты. Праўда, не такія, якімі можна ганарыцца. Першы яшчэ так-сяк, а другі – то поўны дзівак на літару му. Гэты другі ўсё ж не ў маці, не ў айца – хутчэй у прабеглага малайца – адразу і пад баравіка, і пад абабка з падбярозавікам. Але пыхі, пыхі і гонару – на лес, дуброву з балотам. Звычайна на балотнай купіне, як прыжыццёвым яму п'едэстале, і ўсталёўваецца. Баравік баравіком. Адна бяда, як гаворыцца, мордай твару, колерам не выйшаў. Мо з натугі ружовы з падыспаду. А возьмеш у рукі яшчэ больш напнецца – чырвоны да сіняга, як паголены. І зверху, нібыта з перапою, абяскроўлена-збляднелы. Атрутны, нікому не прыдатны, таму і шалее. У вочы і за вочы яго так і завуць: ілжывы баравік.

З першым жа братам баравіка складаней. Селіцца іншым разам па ўскрайку поля, на ворыве. І на выгляд знешне больш баравік, чым сам баравік. Усё да рыхцікаў братавае. Толькі крані яго знізу – сіняк, як добрага выспятка атрымаў. Мо таму яго і не чапае грыбнік. А атрутны ён ці не – не ведаю. Бабуля брала, толькі не на спажыву – лекавала мне жывот. Вось чаму, пэўна, чалавек здаўна яшчэ і запаў на ўсе грыбы, накшталт ахатненых карміцелек-кароў, коней, сабак. Ёсць, ёсць нешта агульнае ў чалавека з грыбам. На Палессі, безумоўна, – з баравіком. Лесам, борам, дубровай і Творцам дараваны ён нам. І жаданы, жаданы пракаветна.

Раней, у дзяцінстве, я атаясамліваў вясковыя хаты з іх гаспадарамі, чалавекам, што ў іх жыве – рыхцік чалавек са сваёй хатай. Тое, як апошнія зачынаюцца, уздымаюцца і растуць на Палессі і падалей ад яго. Як паўстаюць, нараджаюцца і месцяцца вясковыя котлішчы, вуліцы і самі вёскі. Ціхае паляванне наводзіць на такія згадкі. Параўнанне жытла чалавека з жытлом баравіка ў лесе. Грыбніка ў лесе на самоце яго ачутай старажытнай самасвядомасці мімаволі, як сабаку па следзе, вядзе одум далучэння і яднання з дрэвам, грыбам. Самапазнанне сябе колішняга і сённяшняга, свайго месца ўва ўсім, што яго акаляе.

Дык вось, пасля чарговага такога далучэння і спробы самапазнання, па вяртанні з грыбалкі, мімаволі кінулася ў вочы адметнасць пасялення палешукоў. Іх вёсак, хат у грыбных сталіцах. На Каленкаўшчыне, Мазыршчыне, Нараўляншчыне селянін-паляшук жыве шырэй, больш прасторна і вольна, чым, скажам, на Міншчыне. Хаты не ціснуцца адна да другой, падобна куранятам у дождж пад крыло квактухі-маці. Не змыкаюцца сценамі і стрэхамі нават хлявы. Увогуле на Палессі гэта благая прыкмета – склешчванне пабудоў прарочыць зваду, сваркі і бойкі гаспадароў.

Паасобку, вольна і шырока крочаць, разбягаюцца хлявы, хаты, амбары, свіраны і нават стажкі сена на лузе і палетках. Вуліцы не закілзаныя, не з'езджаныя і выбітыя да прыскавых каляінаў, а ў траве-мураве, каля платоў, у падманна-сарамлівай курынай слепаце з салодкімі пасляквеццевымі гузікамі. Не толькі легкавікі, цяжкія машыны, фуры свабодна раз'ехацца здатныя.

А галава ўсяму – вясковая хата селяніна. Ці не самі прырода, час, зямля і космас нарадзілі яе разам з грыбам. Усімі вугламі паставілі так, што і сам творца не супраць бы атабарыцца ў ёй – каля лесу і вады, на сонечным угрэве. І яна, узлягаючы на дубовых штандарах, што пазбягаюць гнілі і грыбка, таму што самі парадзілі апошняга. Толькі зусім процілеглага – баравіка-дубавіка, ахайна-стваральнага, а не разбуральна-паглынальнага. Парадзілі і не разлучаюцца памяццю аб ім, сыцяць яго пяшчотай часу, сухім ці вільготным дыханнем, як і падмурак сялянскай хаты.

Вядома даўно, хаця і дзіўна, ссечаны дуб любіць ваду. Адраджаецца ў ёй. І грыбок-пошасць, паглынальнік хвоі, асабліва знясіленай, падсочанай, няздольны да яго падступіцца. Дуб у яднанні з вадой вечны, чаму ідзе на самы ніжні, надводны падруб калодзежа. У гэтым яго і няспынная множнасць існавання вясковай хаты. Пярэднія вонкавыя вокны прыпалым да іх сонечным праменем лішні раз усмешліва аб гэтым сведчаць сустрэчнаму россыпу смеху палісаднікавых мальваў, вяргіняй і макам. Макам, што яшчэ не пракляты, цешыць і ўслугоўвае дзятве. Як і галавасты сонечнік, закаханы ў сонца, неба, волю і разлог.

Такая ж прыроджаная грунтоўнасць, разлогавая вольніца нададзена і баравіку. Ён бясспрэчна па сваёй сутнасці сямейнік, але і аднаасобнік-хутаранін, адданы прасцягу і волі. Мурашкава не скучваецца. На асобіцу ад старых – маладыя, наводдаль, крыху адбегшыся ад іх, – дзеткі, брацікі, сястрычкі. Сваволяць заляцаюцца да хвойкі ці дуба, сонца, неба. Сырадойна-крамяныя, барвова-рудзенькія, паддубава-русявыя... Не цураюцца грамады, але не збівабцца і ў калгас. Адмаўляюца радзіць так званымі ведзьмінымі кругамі. Хаця растуць наўкруг. Знайшоў аднаго – круціся. Абавязкова будзе другі, толькі ў адбегу ад першага. Можа расці і двухпавярхова – баравік на баравіку, што прадказвае ўраджайны на яго год. Але пазбягае камунальнага існавання – жыць удвох на адным корані. Старэйшы, пэўна, больш дужы, гоніць прэч прыраслага да яго халяўнага нахлебніка, па ўсім, пустадомка, нішчыць яго дазвання. Таму звычайна апошні, як паўпусты мех, дзеля прыліку і з зайздрасці напагляд напакаваны спарахнелым, як тырса, змесівам, а то і чарвякамі. Паляшучок дасведчаны пра гэта з маленства. На такія баравікі ў яго з першага ляснога кроку настроена вока. Яго на мякіне не правядзеш. Інакш сам станеш мякінай, вясковым блазнам і пустадомкам. Той жа торбай, напакаванай нікчэмнасцю.

Дарослы позірк нашых бацькоў шнарыць паверсе, а мы глядзелі больш сабе пад ногі і ўглыб. Самі яшчэ не адарваліся ад зямлі, у повязі з грыбам, які толькі-толькі мусіў нарадзіцца, наводзіў нас на сябе. І ўсе так званыя баравічкі-копанічкі нашы, зноў жа таму, што мы былі такімі копанічкамі самі.

А копанічкі – гэта нават і не грыбы яшчэ. Толькі іх завязь. зародак, пачатак ці канец іх і нашай зямной пупавіны. Згустак энергіі, біяплоць ці плоць ад нашай дзіцячай плоці. Нічым і нікім яшчэ не апаганенай, чыстай. Проста чыстай, як непадробны смех ці смутак. Знайсці такі зародак – патрэбна ці не трэцяе вока. Нашы дзіцячыя, не замыленыя вочы патрэбны і слых, каб угледзець і адчуць прыхаванае яшчэ ў зямлі жывое дыханне, што малітоўна прагне жыцця, яшчэ ў лоне, повязі з маці-грыбніцай. А галоўкай ужо намагаецца ўзняць ці не ўвесь, зняволіўшы яго, зямны шар. І гэты цуд, гэтае дзіва, а мо і розум зямлі, бору, нябёс патрэбна было менавіта адчуць, аслабаніць, выкапаць, як выкопваюць, знаходзяць і лычом выкорпваюць недзе невядомыя нам ні тады, ні сёння адмыслова натрэніраваныя парсюкі заморскія грыбы-труфелі, схаваныя, як міны, пад зямлёй.

І мы, зямныя дзеці, у світанкавым лесе падрываліся на іх вокам, як сапёры размініраваі партызанскую маладосць нашых бацькоў. І тут, безумоўна, трэба адзначыць тое, што копанічкі былі баравікамі асаблівай якасці і каштоўнасці. Сохнучы, яны мала гублялі ў вазе і ў масе, як прышэльцы далёкіх і невядомых планет, захоўвалі першастворанасць сваёй прарадзімы. У засолцы злёгку толькі муміфіцыраваліся, нібы далучаліся да ліку святых.

Гэта былі нашы грыбы, амаль што равеснікі, малодшыя, а не выключана, старэйшыя нашы браты. Дарослыя бралі свае грыбы – дарослыя. Менавіта на іх быў скіраваны і набіты іхні спрыт і позірк. Пра гэты спрыт і позірк трэба сказаць асобна, таму што ён першы і вызначальны інструмент ціхага палявання: на які грыб наладжаны – такі і знаходзіць, вылучае і бачыць сярод процьмы іншых. Баравіковы погляд і спрыт набываўся і ўдасканальваўся пакаленнямі і стагоддзямі. І мы атрымлівалі яго ў спадчыну: маленькія, а ўжо палешукі ў памяці часу, вечнасці нашых лясоў і вод, аб чым можна мяркаваць, зірнуў у люстэрка мінулага і будачага: як гэта калісь ашчадна захоўвалася і як нішчыцца і транжырыцца цяпер.

Мы ніколі не прамінаалі, не спатыкаліся на баравіках. Учыніць такое не толькі смеху варта – ганьба. Хаця нашы баравікі часам і махлярылі, гулялі з намі ў хованкі. Раслі ў такім месцы, куды і сабака носам не паткнецца. Выпраўляліся ў грыбы, у ахоўна-патаемныя нашым бацькам спелыя партызанскія бары, у якіх яшчэ не паўсюдна пазарасталі акопы і траншэі, не дарэшты спрахлі і спарахнелі накаты з бёрнаў партызанскіх зямлянак. Нашы бацькі абыходзілі іх бокам, пэўна, баючыся спатыкнуцца на іх памяццю і сукравічным болем вайны. Мы ж старанна даследавалі і вывучалі маладосць нашых бацькоў і на пралітай імі крыві амаль заўсёды знаходзілі нашы нашчадкавыя грыбы. Крывавыя сведкі і сведчанні нашага напаўжабрацкага, а часам, чаго таіцца, і цалкам жабрацкага дзяцінства. Загусла-руды, застыглы, як запечаная кроў на самотным аксаміце моху, капялюшык баравіка не дазваляў нам забыць і збыць тых, чыя гэта кроў прарастае на Палессі грыбам у памяці часу. Той памяці, якая падмяняецца сёння хлуснёй, пустапарожней балбатнёй. Святамі без святасці, пад цацачную бронзу ўзнагарод і медныя трубы абыякавых духавых аркестраў.

Баравік датычна гэтага людскога ды нялюдскага – нязменны і непахісны. Ашчадны, акуратны і чысты ў стагоддзях і перад стагоддзямі. Перад часам, дрэвам і зямлёй. Пазбягае, цураецца злачыннай удаванасці, пошасці, подласці і здрады. Адданы духоўнасці свайго радаводу. Таму і самотнік, пустэльнік. Нараджаецца, становіцца на ногі ў запаведнасці, нерушы. Дзе толькі лось прабяжыць, птушка праляціць ды мышка тоненькім хвосцікам пакручаста праблісне. Звычайна такі ж пустэльнік, як і наш чорны бусел – хвоя з дубам ды бярозай спяваюць яму калыханку. Загадзя прадбачыць і прадчувае набліжэнне погані, набрыдзі жывёльнай, расліннай дый чалавечай – уладнай, што да пасінення і ўсрачкі хапае, грабе ўсё і ўсіх пад сябе. Сыходзіць, пакуль не апаганены.

Так сышлі мае баравікі з бясконца любых мне палянаў, галаў і прагалаў, ціпчакоў і верасоў. Мінулае сыходам, сконам і плачам развітваецца з сённяшнім. Мімаволі жахаешся, азіраючыся напрыканцы ўжо свайго веку на безыменныя магілы былога, вясковыя занядбаныя могілкі – карэннага-чалавечыя, сялянскія. Тое, на чым трымалася ўсё існае на гэтым свеце. Сам белы свет. Але як агаліліся мы, распрануўшыся на пачатку трэцяга

тысячагоддзя ад раства Хрыстова, пазбавіўшыся сораму, сумлення – вечных сваіх, чалавечых, апратак.

Падобна чалавеку разумнаму баравік ніколі не паселіцца на вабным, але нячыстым месцы, дзе шлюбна пабраліся ліха з горам, чорт з жабай, ведзьма з д'яблам. Загадзя адчувае, падобна зверу, птушцы і нават гаду падкалоднаму, небяспеку. Хвою прыгаварылі ці толькі намерыліся прыгаварыць на падсочку, а баравік ужо развітаўся з ёй. І на вырубках расці яму заказана. Тое ж у адносінах да пажогаў, пажарышчаў, Іскрынка толькі-толькі мігціць у руцэ часу ці няўчасся. А яму ўжо прыпякае. І на доўгія, доўгія годы запар.

Нашы бацькі, дзяды і прадзеды папярэджвалі: ніколі не ставіць хату на папялішчы. Там ці не назаўсёды засталася злосна знішчальная памяць агню. Ён заўжды здольны ачомацца і ўзняцца зноў. Нават абгарэлае палена, галавешку нельга заносіць у хату і кідаць у печ. Яны тагасветна прыналежаць даўняму агню, былому пажару – пякельнаму агнявіку, які са сваім ні з кім не дзеліцца. А мы толькі раз зачынаемся на пажарышчах і папялішчах, на крыві без Спасу, на могілках мінулага, без крыжа. І, трохі акрыяўшы, пачынаем скардзіцца: долі няма. І не будзе. Жыць усё ж трэба працягла і на працягу. Чыста, ахайна, як здаўна жылі на Палессі нашы папярэднікі – з дрэвам, грыбам, сумленнем і сваімі пагостамі ў згодзе і памяркоўнасці, павазе. Таму столькі і выстаялі на зямлі. Таму і ў небыцці, сёння дык ужо болей здалева, стаяць іх хаты, за якімі назірае, цягнецца з лесу баравік. І вясковым хатам і грыбу няма схону.

Мая бабуля Усцім'я Говар пражыла сто дванацаць гадоў, настаўляла мяне: грыба, баравіка нельга звесці, выбраць так, каб адразу ўсіх да аднаго. Ён зычыць сабе, трымаецца працягу сваёй пароды. І таму колькі б людзей па лесе не хадзіла па яго, хоць аднаго ды праміну́ць. Ён абароніцца прыкідам у некага ці нешта іншае. Прасцяка, а то і не тутэйшага, не грыбавага. Маці-грыбніца яго ўратуе на свой працяг. Першымі ж гінуць – здаюцца ў палон – самыя кідкія, якім не церпіцца трапіць у героі. Яны прыгавораныя, падобна кожнаму, уяўна велічнаму і мітусліваму ўдаванцу. Драбната ж яшчэ ў сваёй няпэўнасці, але мностве, пырскае ўбакі, захінаецца травой і лісцем, ціхенька пасопвае і не жадае выяўляцца. Толькі прырода ўсё ж бярэ сваё. За адным грыбніком крочыць наступны, здаецца, па ходжанаму ўжо, выбранаму і пустому месцу. Але свята месца пустым не бывае.

Адзін за другім падымаюцца, карагодзяцца маленькія баравічкі, Растуць хутка, як чужыя дзеці. Парадзіха-грыбніца не ведае стомы. Труждаецца і труждаецца, доўжыць свой зямны век. І не забывае, клапатлівіца, схаваць у прыполе, пакінуць на развод хаця б адзіны свой парастак, як запаслівая вавёрка арэшак ці жолуд у дупле дрэва, баравіка, нанізаўшы яго на галінку. Надараецца, што і забывае пра свой запас ці гіне, але яе набытак дастаецца ўжо другой вавёрцы ці прарастае ляшчынай, дубровай, калі ўжо і дуплістага дрэва няма – зрэзалі, само ўпала.

Ці не ў гэтым і наша вечнасць, працяг нарачоны нам сусветам і Творцам. Падымаючы баравік сёння, зараз, памятаць – прыйдзем, прыбяжым па яго заўтра і паслязаўтра. Пакуль ногі носяць і сонца свеціць. Мы даражылі і паважалі грыб. Таму і ў паміне не было ісці па яго з торбачкай, нібыта на рыбу, як сёння ходзяць са смеццевымі цэлафанавымі пакетамі, у якіх грыб парыцца, душыцца і трушчыцца. Мінулае, зразумела, не вернеш: які век – такія і звычаі. Але ж на душы прыемней, калі твой грыб раскашуе ў кошыку, корабе – плеценай дзедам у прахалодзе павеці з дранкі каробцы з почапам праз плячо.

Дранка сканала, дзяды звяліся, корабы спрахлі, рукі кінулі расці адтуль, адкуль трэба. Апроч кораба баравіку люба перакочвацца на хадзе з боку набок у плеценым з маладой, гнуткай яшчэ лазы пад яго і бульбу кошыку. Разбэшчанасць, канечне, але як міла маёй заскарузлай памяці, калі кожная рэч ведала і мела гэтую памяць, угатаванае ёй месца і ролю, сэнс свайго існавання ў гаспадарцы вясковай хаты. Як само жыццё пасярод лясоў, водаў, балот, дрыгвы – звяроў, птушак і грыбоў.

І мы ахоўвалі і захоўвалі годнасць грыба, а разам з ім і сваю годнасць. Ішлі на баравіка працавіта і свята. Як пчала да кветкі за ношкай. Ні дарослыя, ні дзеці тае пары, збіраючы грыбы, не скнарнічалі. Не аднойчы тады і ў сталасці ўжо чуў: паганаму, зайздроснаму і хціваму чалавеку грыб не даецца. Гэтаму можна верыць і не верыць. Але вось з непрыдуманага. Аднойчы сустрэў у лесе чалавека. Хадзіў ён па грыбным бары з пустым кошыкам. А мне ўжо баравікоў у кораб не было куды месціць. Здзівіўся няўдаласці ці няўмельству стрэчнага чалавека. Разгаварыліся. Ён давёў, што некалі ў сваёй вёсцы быў першым грыбнікам. Але неяк наскочыў на такую плойму баравікоў – не толькі кош, але і сарочку, майку зняў. І ўсё яму здавалася мала. У адным месцы прыкмеціў бугарок, як даволі ладную пухліну. Пачаў раскопваць. Выкапаў вялізны, кілаграмаў з пяць, грыб не грыб – няведама што. Забраў з сабой, прынёс дамоў. І на патэльню. Хапіла і на суп. Спажыў.

– І ўсё. З таго часу маё грыбное ўмельства як рукой зняло. Каторы год аніводнага баравіка ў вочы не бачу, не знаходжу, – скардзіўся грыбнік. – Сам дайшоў і добрыя людзі падказалі – сквапнасць. Аднойчы толькі ў жыцці шанец – сустрэча з цудам і дзівам. Не, каб блаславіць і перахрысціцца: вока зайздроснае, рукі заграбушчыя, чэрава ненажэрнае. Забіў, знішчыў грыбніцу. Маці грыба. Па лесе ўлетку кожны дзень хаджу непрыкаянна. А раптам ды даруе яна мне, даруюць зведзеныя мной у зародку баравічкі. Не, як нехта адводзіць мяне ад грыба. А часам і проста зводзіць, блукаю па сваіх сцежках, не пазнаю. Губляю дарогу дамоў.

Дзіўная гісторыя. Не меней, чым пра мядзведзя, які ў навальніцу мая пасля першага грому і маланкі іграў на абарванай струне баравой хвоі. Ці не таму ў ціхім паляванні я трымаюся меры і галавы. Хаця не аднойчы натура спакушала страціць, толькі нехта, мо і лесавік – наглядчык і бацька баравіка, што пуста вадзіў па лесе і вымушаў блудзіць стрэчанага мной чалавека, асцерагаў. Будучы яшчэ ў дзетдоме на Жыткаўшчыне ў вёсцы Вільча, што на Случы пры ўпадзенні ў Прыпяць – Эдэм, рай зямны, таму сучаснымі Адамамі і Евамі сёння і кончаны – мы ездзілі ў грыбы, толькі па баравікі, на падводах. Запрагалі пару нашых валікаў, у межань пераязджалі Случ, ставілі сярод векавых дубоў падводу і пачыналі рэзаць баравікі. Менавіта рэзаць. Таму што іх можна было касой касіць. Збівалі жарсць і ахвоту. Пачыналася звычайная сялянская праца. Рэзалі, пакуль цалкам не загружалі падводу. Рабілі без імпэту і натхнення. Усё ж па баравік трэба добра пахадзіць, пашукаць яго. Як у хованкі пагуляць. Толькі тады ціхае паляванне мае адвечны сэнс сапраўднага палявання, што трымае натуру чалавека і звера ў межах і лейцах.

Мае баравікі, хоць і растуць сем'ямі, знайшоў аднаго, звычайна бацьку, шукай сынка, а за ім брацика. У адбегу адзін ад аднаго – родныя то родныя, а табачок паасобку. Хутаране, аднаасобнікі – у чалавека. Яны ідуць да мяне на голас. Я гавару з імі як з жывымі. Сустрэўся – па-вясковаму, як гэта было пры дзядах яшчэ ў мінулым, – прыпыніўся, зняў шапку, пакланіўся,

павітаўся. Пасля чаго сеў ці прылёг побач, пагаварыў, пакалякаў за жыццё. І з яго дазволу – далей. Калі доўга нічога не трапляецца, тройчы стукну чаранком нажа па дрэве. Дубку, хвойцы, бярозцы: ну што ж ты, чакаю. І мой баравік бяжыць, капаціць мне насустрач.

Усе яны вельмі розныя, не падобныя адно да аднаго, як людзі. Баравыя, яловыя, дуброўныя, верасковыя, асаковыя, махавыя, яловыя – радзімічы, крывічы, драўляне, палянічы. Збіраў я іх на родным Палессі, у Белавежскай і Налібоцкай пушчах. Шукаўся з імі каля Дона і Волгі, каля заходнесібірскай рэчачкі Том, уральскага Таболу. І нават ля ракі Гудзон, у паркавай зоне Нью-Ёрка. Браў ужо ўсякія, час ціхага палявання пераўтварыўся ў бамондную тусоўку, пайшоў такі, што не да пераборaў, пасля якіх табе дастаюцца толькі лапці ды аборы. Як зноў жа настаўляла мяне стрэчаная мной грыбніца пад Ракавам, якой я паказаў раней не браны мной грыб – галубок ці лосавік. Спытаў, ці варта яго браць, ці не атрутны ён. Грыбніца ў адказ спытала, адкуль я сам буду.

– З горада, з Мінска.

– О, тады бяры, бяры. Гарадскія, мінчукі, грабуць усё.

Дагрэбліся. І жук, і жаба палезлі ў лясы на шашлыкі ды праменад любові да прыроды. Аб грыбе чулі толькі звон, ды не ведаюць, дзе ён. Людзей у лесе апошнім часам стала зашмат, як у горадзе, на асфальце. Галосяць, базлаюць, гукаюцца нават матам. І бягуць, бягуць гарадскія, вочы навылупку, навыперадкі адно аднаму. Як легкавікі па горадзе ў час пік. І грабуць, грабуць усё, што пад нагамі, нібыта дзікі лычом. Бяруць, не ведаючы нават што. І труцяцца, труцяцца. І з кожным годам усё часцей і болей. Што адметна, грыб сам пачаў бараніцца ад ліхаманкі татара-мангольскіх набегаў, бязлітаснай набрыдзі, наслання на яго. То сыраежка прыкінецца спажыўнай, а на самой справе заручылася з паганкай, то ілжывая апенька выдае сябе за сапраўдную. Тое ж здольна прарабіць і лісічка, пад што ні на ёсць сапраўдную прамудра-рыжую пачынае касіць. А на самой справе – нечысць, пярэварацень. На жаль, найбольш помсліва-небяспечныя абразліва пазначаныя мірным атамам, сваім жа сабратам – грыбам ядзерным – і звыклыя нам высакародныя, ці набліжаныя да іх падасінавікі, падбярозавікі. Страцілі сваё, прыроджана-грыбное, і пачалі муціравана апраменьваць кожнага, хто да іх даткнецца. Падобна, грыб распачаў ці мае распачаць вайну з чалавекам. Але пакуль толькі папярэджвае: час, час спыніцца, спыніць сябе і азірнуцца, каб на зямлі засталося хоць каму-небудзь плакаць па ім жа, грыбу і чалавеку.

Хаця ці не кракадзілавы ўжо слёзы сёння ліе сам чалавек. Ён відавочна расчалавечваецца. Пярэверэтнева зводзіць тых, каго некалі прыручыў, на каго маліўся. І зямля яго, і хата сёння зусім не пад белымі крыламі – белыя буслы з памяркоўных і рахманых высакародных сімвалаў краіны: Антонаў, Бацяноў, Лялекаў перакінуліся ў хіжых дробных злодзеяў, якія шакаляць на вясковых падворках. Крадуць і жаруць куранят і дзетак сваіх не толькі аднымі жабамі ды га́дамі кормяць.

Белыя і чорныя дразды, божыя палявыя і лясныя пяюхі, сёння ўжо не спяваюць ні ў лесе, ні ў полі. Адмовілі свайму адвечнаму кублішчу, разам з сіваграками і сойкамі пачалі тварыць шкоду. Дашчэнту нішчыць у садзе і агародзе костачкавыя – вішні, чарэшні, чаравішні. А ў дадатак і трускалкі, да якіх паціху-патроху прывучалі ніколі не шкадлівых і шпакоў. Хіжыя звяры, так званыя лясныя санітары, не супраць сёння пасанітарыць і ў селішчах, паласавацца чалавечынай, схарчыць чалавека, што неагалошана

было ім пад табу. Ці не спраўдзіцца ў хуткім часе тое, што нашы дзяды і прадзеды калісь яшчэ прарочылі: страшней зайца на свеце няма звера. Знікае дрэва і кусцік, пад якім ён, заяц, мог пераначаваць, пераседзець дождж. Кусцік і дрэва, здольныя нарадзіць, даць прытулак грыбу – ад баравіка да мухамора.

Чалавек, сам паходжаннем драўлянін, накінуўся на дрэва. Асабліва на дуб. Што ўвогуле зразумела – і гром з маланкай абіраюць не абы што. А нешта выбітнае, што вышэй і мацней, вытыркаецца з гурту сабе падобных. Вось і чалавек прычапіўся, сарочка б яго не чапала, і ў хуткім часе, падобна, і не будзе чапаць, да дуба. Ці не адубеў ён сам ужо сёння?

Я чвэрць стагоддзя бараніў ад леспрамгасаў дубровы на маёй дзетдомаўскай радзіме. Пры савецкай уладзе нешта атрымлівалася. Пры дэмакратах – змогся. Выкапаў у любай мне дуброве пасярод чатырох вёсак: украінскай – Града, нямецкай – Загацце, беларускай – Княжбор і беларуска-татарска-дзетдомаўскай – Вільча, маленькі гожы дубок. Як жывы ўспамін пра тое, дзе мне так хораша, храмава думалася і маўчалася. Дзе ў мяне і ў дубровы суседзіўся і гнездаваў чорны бусел. Ці не адзінае стварэнне сярод людзей, звяроў і птушак, якое захавала сваю пародную вартасць і годнасць. Пайшло ў глуш, на выселкі і самоту, але не здалося веку-ваўкадаву. І мне асабліва падабалася, як ён хмарава, магутна-махальна вылятае з укрыўнасці валатоўных дубоў, са змрочнага хваёвага непадалёку гушчару, чарнява-абыякавы, што б ні адбывалася побач. І вылет, і лёт яго хацят і аднаасобна патаемны, але няўважны на якія б там ні было абставіны. Князь, Уладар, князь Княжбору, Грады, Вільчы, Загацця і збегу ў гэтых вёсках прышлага і карэннагу люду. І мой князь, і грыбу майму князь. І тураўскаму княству, якое калісь тут месцілася і па паданнях ад Случы і Прыпяці патаемнымі падземнымі водамі, рэкамі злучана са старажытнай сталіцай Тураўскага княства – Туравам, а ад Турава і з Кіевам... Назаўжды векапомнасцю прызначаны тут дуброве з борам нязменны і бессмяротны, як Кашчэй, князь – ахоўнік і берагун.

І вось я пазычыў у гэтага князя і яго дубровы адзіны малым-маленькі парастак. Прывёз і пасадзіў яго на сваім лецішчы. І што мне пабачылася ў гэтым знакава-сакральнае – дубок хуценька прыняўся і кінуўся расці. Але нешта, пэўна, муляла яму на новым месцы. Мо туга па сваёй бацькаўшчыне, сваіх дуброўных продках, грыбу ў абдымках іх магутна-жылавых лапаў, чорнаму буслу, дажджах і паветру роднага яму Палесся. Цяжка меркаваць. Толькі як на ім не стала майго вока, пасля другога ў мяне інфаркта, калі я вымушаны быў класціся пад скальпель, ён пачаў чэзнуць, сохнуць, пазачасна скінуў ліст, учарнеў лубам. Я ўжо думаў, што гэта нам абодвум, як кажуць, хана.

Але я ачуняў і ачомаўся пасля цяжкой аперацыі з адключэннем сэрца. Прычыгількаў да свайго дубка, абняў яго. І ён перамогся. Наліўся сокам, пусціў пупышкі. І ўжо амаль чвэрць стагоддзя, як дасціпна пісала адна раённая газета, весела шуміць у паветры сваімі маладымі і дужымі членамі. Я мераюся з ім абдымкамі, прыхіляюся грудзьмі і плячыма. Добра, жыццястойка. Без булды мы: з ім адной крыві.

І гэта ці не адзінае, што ўпэўненна трымае мяне сёння, вымушае спадзявацца і верыць. Верыць чорнаму буслу – птушцы, дрэву і грыбу. Верыць і захоўваць сябе ў час, пра які нават кітайцы зазначылі: барані вас Бог жыць у эпоху вялікіх перамен. Калі свет пайшоў на скрут галавы. І безгаловыя з апошніх сталі першымі. Дарваліся да дзяржаў, спажываюць іх, чалавечыну, народ, пазбаўляюць будучыні.

Варты яшчэ нечага чалавек застаўся толькі з самім сабой, сваім грыбам, дрэвам – барамі, дубровамі і гаямі. Са сваім пачаткам З дзяцінствам, з якім нават са смехам нельга развітвацца, бо ў ім быў і застаецца баравічок-копанічак, неадрыўны ад мяне, аднаго кораня са мной. Ён не выкарпаны, не пабраны мной. І не агаломшаны, не аглавушаны часам Я ж памятаю, недзе ў дуброве я захінуў яго ад свайго нават хцівага вока травой. Ён павінен гэта помніць, як помню і я. Ён усё яшчэ расце і чакае мяне. Як першае і апошняе каханне. Дзіцячае, ахвярна-адданае, чыстае і святое. Смяротна-незабыўнае, як музыка, нададзеная громам і маланкай тагасветнай ужо хвоі, на струне якой іграў касалапы музыка-мядзведзь. Ці не самы выбітны апошні на той час музыка палескага бору, які на развітанне з ім іграў усяму свету на струне скалечанай хвоі.

І была тая музыка вечнай. Спрадвеку насілі яе ў сабе зямля, неба, дрэва, птушка, звер, чалавек – мой дзед і прадзед. Але гучала ў гэтай пракаветнасці музыкі і напачатку яшчэ папярэджанне Творцы сусвету – не гадзіць

Большасць ліха ад нахабнага і ненажэрнага спажывецтва часу трэцяга міленіума, корнева-неадухаўлёнага ім. Чаму і падаюць у барах сосны, і толькі мядзведзі струнава сумуюць па іх. Ляснецца апошняя хвоя, ляснецца лес – ляснуцца і чалавек, і грыб. Неразгаданае, боскае пасланне нам, людзям, і іх лёсу, надаючы не толькі ўцеху адвечных яго заняткаў, няспыннасць пошуку, але і роднасць з сапраўды старэйшым братам. Сэнс узаемнаму братэрству. Ён першым пазнаў і прызнаў нас. І мы гуляемся з ім. Таму што без гуляў няма чалавека – ні дзеда, ні немаўляці. Гуляецца старажытнае Палессе, дзе гулец-баравік нарадзіўся, ахрысціўся. І шукае чалавека. Мяне.

Мой баравік – у разліве, паводцы блакітных верасоў, жоўценькіх кветачак някідкага і таму заўсёды крыху сумнага зязюлінага лёну, немудрагелістага белага баравога моху па нашых пясчаных палескіх узлобках, як на пасівелым лобе селяніна. Па нізе, зпадыспаду, у сарочцы з белага-белага кужалю, які толькі-толькі сувойна адбелены маразамі, лёдавай ужо вадой. А паверсе, галоўкай, рудзенькі, нібыта вынырнуў з нашых тарфянікаў, бурштыну нашага мора Герадота, а мо спадобіўся і паспытаў грэцкага мёду Палесся. І злёгку ўспатнелы – ад зліцця яго водару, духу з колерам і святлом абуджальна-жыватворчай расы, ад нецярплівага чакання мяне, сустрэчы са мной, якая заўсёды наперадзе, немінучая і вечная, як мы абодва з ім.

Абодва з ім разам у бары, дуброве, гаі. Адкуль прыйшлі, туды і вернемся – пад бярозку, дубок, хвойку. Прарасцем з пачатку пачаткаў. З пракаветнай у іх каранях прамаці-грыбніцы. І першая пасля зімы майская навальніца залюляе заляжалую зямлю. Дуб, аперазаны, уджалены вяснова-адноўленай пугай перуна, пахіснецца, але выстаіць, браклай пупышкай праклюнуў і студзёнае ачмурэнне зімы, і спапяляльную моц маланкі. Бяроза калыхальна пагойдаецца і заплача апошняй, ужо ружова сукравічнай кропляй бярозавіка. Уззлаваны пярун з нябеснай скрышальнасцю абрынецца на векавуху хвою, што імкне да аблокаў. Пакладзе яе каля ўзгалоўя яшчэ не народжанага, але ўжо прагнучага нарадзіцца баравічка-мікалайчыка. Хвоя прачыстай сілай, белай косткай смычка, абарванай валовай жылінай струны высока паўстане ў непарушна-чуйнае неба скрыпкавай аголенай памяці. Палескі мядзведзь сыграе на той струне памяці нешта непагаснае яму, небу, мне і хвоі.

*Вёска Пціч і рэчка Пціч.*

Васіль Жуковіч



...Пандэмія прыйшла,
вакцынацыя...
Ізаляцыя...
Эміграцыя...
Выйсце ёсць адно –
мужней, нацыя!..

# Memento mori

### *ДАЛЁКАЕ – БЛІЗКАЕ*

Сакура заружавела ваўсю
ў нашых садах батанічных.
У садзе маёй душы – сімпатычны
цвет,
водар
хоку Басё.
Гэта яшчэ не ўсё.
Бачу, пад сонцам
як зззяе раса;
так бачыцца чуйным японцам
мовы нашай краса.
Іх напэўна счаруе
Багдановічаў васілёк.
Зорка святлом шчыруе,
ціхім, гаючым, здалёк...

Гожасць
            ва ўсе часы
вабнаю будзе, любімай.

Дысанансам да вечнай красы –
рэха Чарнобыля і Фукусімы.

*18.05.2021*

## *НІНА ЧАЎЧАВАДЗЭ*

*Ум и дела твои бессмертны в памяти русской.*
*Но для чего пережила тебя любовь моя!*
**Ніна Грыбаедава**

*...И звезда с звездою говорит.*
**М.Ю. Лермантаў**

На скрыжаванні дарог –
Лёсаў людскіх скрыжаванне.
Час не легенду збярог –
Увекавечыў каханне.

Не адышло ў забыццё,
Хоць праляцела каметай,
Юнай грузінкі жыццё
З рускім апальным паэтам.

Сэрца яму аднаму
Ясна праменіла промні...
Промнямі ўпалі яму
Скрушныя словы на помнік.

Смутак так горка трываць!
Толькі ўсю выпіла горыч...
Болей ужо не ўдава –
Зноў з Грыбаедавым поруч.

Памяці, вернасці крыж –
Болей табе не апора,
Чыстаю зоркай гарыш,
З яркаю зоркай гаворыш.

З цішай Давіда гара
Сонечны горад вянчае.
А на граніце гарадзь
Словы святога адчаю.

*1989*

## ПОДЫХ РАДЗІМЫ

Ой ты радасць мая – адвечная
Камянецкая старана!
Старажытную бачу вежу я,
Так далёка яна відна!
Мне яна падаецца відушчаю.
Мкнуцца словы з грудзей: добры дзень!
І насустрач з вячыстае пушчы мне
Думнай песняй Лясная ідзе.

*2021*

## БІБЛІЯТЭКА ІМЯ У.М. ІГНАТОЎСКАГА

У Камянцы бібліятэка
Спрыяе шчодра чалавеку –
Шчыруюць верніцы тут вечна,
Чаруюць чытачоў сардэчна
Сваім багатым інтэлектам,
Інтэлігентнасцю сваёй.
Тут людзі і зімой, і летам
Да кнігі горнуцца душой.
Храм кнігі я цаню такі,
Перадусім люблю за тое,
Што Ігнатоўскага святое
імя шануюць землякі.

*P.S.*

Асобная, напэўна, тэма:
Гісторык даў нам шмат святла,
Ды рэпрэсіўная сістэма
З жыцця вучонага звяла.

*02.06. 2020*

## НАШЭСЦЕ

На караблі Зямля – паніка,
Як некалі на “Тытаніку”.
Вірус нязнаны
Пануе, ліхі;
Наканаваны
Зямлі за грахі...
Дзе Кітай, дзе Італія...
Што яму далі дальнія!
Шлях не шукае,

Швыдкі такі, –
Скрозь пранікае,
Ва ўсе куткі.
Што прыйшоў вяршыць?
Бяду сеяць, жыцці касіць!
Хоча, каб высакосны
Год быў укосны...
Ён – з'ява глабальная,
Ява татальная –
Ужо ў Беларусі:
На нашы сем'і,
На продкаў землі,
Вёсачкі, гарады –
Нашэсце бяды.
Зрэшты, удакладняю:
Бяда бяду даганяе –
Вірусаў тут багата
Крамлёўска-імперскіх, клятых;
Інтэграцыйны вірус,
Як грыб атамны, вырас,
Нігілістычны мясцовы
Вірус на глебе мовы...
Што й казаць, бедаў цунамі –
З намі.
Страх у нашым народзе
З панікай на мяжы.
Будуць пустыя фразы,
Байкі пра белу сажу,
Ды аніхто не скажа,
Як жа заразу
Нам перажыць!

*27-29.03.2020*

## ЯК МАЛІТВА...

"Магутны Божа..." так узрушае,
Дух узнімае, душу ўзвышае!
Што чую, бачу ў духоўным гімне,
Прачулым гімне, дарагім мне?
Тут сэрцам бачу і сэрцам чую
Да Беларусі любоў святую,
А гэта ёсць, панове, тое,
Што абуджае ўсё святое.

*2021*

* * *

Божа, збаў ад наркозу,
Нейтралізуй гіпноз,
Абарані мой розум;
Я не хачу ў абоз!

*2021*

## НЯЗВЫКЛЫ СОН

Пасля Вялікае айчыннай
Ваеннай цяжкае бяды
Я школьнік быў. Тады краінай
Вусаты правіў правадыр.

Яго скрозь ведалі усе,
Кругом партрэт яго вісеў,
Апроч таго, яго партрэт
На нас глядзеў з усіх газет...

Пад вечар неяк сек я дровы,
А ноччу дзіўны ўбачыў сон:
Упаў партрэт правадыровы
(Чамусь марудна падаў ён),
Сарваўся з белае сцяны...
Пазней быў скон правадыровы.
Пазней паўсталі праўды словы,
Што правадыр – ад сатаны;

Ён – параноік-ліхадзей,
І на рахунку на ягоным
Забітых многія мільёны
Сумленных, праведных людзей.

...Партрэты скрозь яго здымалі
І з гэтай дзеяй ва ўнісон
Тырана людзі праклiналі.
А я свой дзіўны ўспомніў сон.

*1991*

## ПА ТОЙ БОК

Быў такі Хведар Жычка,
надта пільны рэдактар
і нібыта паэт;
неяк раз ён мяне папракнуў:

– З мёртвым Сталінам ты ўсё ваюеш!..
– Сталін мёртвы, казаў я, –
а зло, што зацята чыніў ён, што сеяў,
зводу не мае, усходы дае...

Час прайшоў, Жычка там, дзе і Сталін...
Можа там і данос накляпаць.

*2021, травень*

## ЗАБЛУКАЛАЯ

Беларусі воля,
Ты блукала. Годзе!
Мы цябе гукалі
Доўгія стагоддзі.

Доля ды без волі –
Не бывае горшай.
За цябе стаялі
Пад Грунвальдам, Воршай.

За цябе штовеку
Наша кроў ліецца.
Мой бянтэжыш розум,
Засмучаеш сэрца.

*01.06.2021*

## НЕЗАБЫЎНЫЯ

І Касцюшку люблю, й Каліноўскага –
Змагароў за народ, за свабоду.
Што ж так раніць радок Караткевіча:
“Волі нашай крывавыя роды”?!

* * *

“Пасяліўся я ў мікрараёне сталіцы,
Каля жаўранкаў і васількоў” –
Так выказаў я некалі радасці словы.
А пазней, калі рухнула шмат таямніцаў,
Аказалася: побач са мной – Курапаты,
Я ўсяліўся ў іх і яны ў мяне.
Ці на мітынг іду, ці стаю ля крыжоў,
Ці вяду гасцей да журботнай святыні –

Ува мне гарыць горкай скрухі жар,
Бо ў вачах маіх – процьма чарапоў,
Процьма чарапоў, тут прастрэленых,
Людзей знішчаных у трыццатыя...
(Эксгумацыя ажывіла жах...)
Горкай скрухі жар ува мне гарыць
І пад попелам звыклых клопатаў.

*2021, чэрвень*

## *MEMENTO MORI*

### *1*

Старажытная мудрасць даецца –
Дэвальвацыі не паддаецца,
Ні іржы і ні цвілі на ёй –
Неўміручасцю ззяе сваёй.
Я шаную лацінскі выраз,
Для мяне ён крылата вырас –
Памагае дабро мне цаніць,
Не паддацца хлусні, мітусні.
З ім, напэўна, і не расстануся,
Успамінам пакуль не стануся...
Наталяюся ў мудрасці моры
Ачышчальным: *Memento mori!*

### *2*

Самаўлюбёна, без аглядкі
Уверх ідзеш дарогай гладкай.
Ды, хоць пакуль не зведаў зморы, –
*Memento mori!*

Валіцца з неба будуць грошы,
Купацца станенш у раскошы,
Кагось пакінеш лёгка ў горы...
*Memento mori!*

Фінал чакае невясёлы.
Як і прыйшоў, ты пойдзеш голы,
Забыты ў часе і прасторы.
*Memento mori!*

*2019*

## *СЛОВУ – ВЕРНАСЦЬ*

Каму слова маё коле хіжыя вочы,
Хто натхенне маё абяскровіць ахвочы,
Таму раю баяцца як след кары боскай,
Бо паэзія – госця высокіх нябёсаў.

Варта ўцяміць яму, што паэт – духам вольны:
Служыць праўдзе, дабру, быць прадажным
не здольны.
Хто ж там цешыць сябе, што паэту нашкодзіць?!..

Мая муза нябачнымі сцежкамі ходзіць.

*2021*

* * *

*Марыі*

**1**

І сёстры нашы, і браты –
У незваротным свеце...
Як добра, што ў мяне ёсць ты!
Нам сонца й зоркі свецяць.

Цяпер мы ў розных гарадах,
Адзіная сястрыца,
Па тэлеграфных правадах
Нам не нагаманіцца!

У памяці ўсё зберaглі
За шмат гадоў пражытых:
Як мы раслі, як мы жылі,
Як лес любілі й жыта...

Мяне ты ў школу прывяла,
Глядзела ў душу зорка,
Любоў да казкі прыўзняла,
Мая ты фантазёрка!

Сястрыца ў роднай старане
Сардэчна-памяткая!..
Ад лёсу ўзнагарода мне
Ды шчодрая такая!

***2***

Ты аўдавела гэтак рана.
Жыла: далей бы ад грахоў.
Каб не вярэдзіць сэрца рану,
Ты не прымала жаніхоў.

Шмат год прайшло.
А час суровы
Тваю красу не сакрушыў,
І ў гэтым факце адмысловым –
Грунт: хараство тваёй душы.

Пра Беларусі шчасце мроіш,
Нашчадкаў век галубіш ты.
Я рады, што ў тваім настроі
Пераважае пазітыў.

Ды неразлучна адзінота
З табой брыдзе, па ўсім відаць.
Ёсць дзеці, там – свае турботы,
Ім застаецца спачуваць...

Калі зімовай доўгай ноччу
Не будзе сон чамусьці браць,
Падзякуй Богу: бачаць вочы,
Каб вершы брата пачытаць.

## *ЗОРКІЯ ВОЧЫ І СЭРЦА ВІДУШЧАЕ*

*Н.М. Сцепанцовай*

Люба пабачыцца з Нінай Мацвееўнай,
Першай настаўніцай сына, таму
Ў госці заходжу, бываючы ў Берасці,
Правілу верны свайму.

Люба пагутарыць з добрай настаўніцай,
Што паважала й любіла малых,
Голасу не павышала ніколечкі
На пачаткоўцаў сваіх.

Пашчыравала, душою багатая,
Не прывыкала праблемы лічыць.
Помню, прыехала ў Менск, слепаватая, –
Мусіла зрок палячыць.

Тонкія ўдала прайшлі аперацыі,
І засвяціўся ад радасці твар:
Можна чытаць!.. І да сёння ў настаўніцы
Шмат у кватэры чытва.

Ёй і цяпер белы свет не зашторany.
Што ў свеце дзеецца, бачыць яна:
Зоркія вочы і сэрца відушчае
Ў працы звідна дацямна.

Я па сюжэтах мяркую, падораных
Віднай настаўніцай мне:
Ніна Мацвееўна слова праўдзівае
Ў смелых выданнях не праміне.

*2019*

## КАНСТАТАЦЫЯ

...Пратэстун на кані.
                    “Каранацыя”.
Парваў сцяг, скрывіў шлях.
                    Інтэграцыя...
Моў дзяржаўных бы дзве...
                    Прафанацыя!
Праз фінансавы крах –
                    дэвальвацыя.
Груз даўгоў як нам зняць,
                    якой працаю?
Пандэмія прыйшла,
                    вакцынацыя...
                    Ізаляцыя...
                    Эміграцыя...
Выйсце ёсць адно –
                    мужней, нацыя!

*2021*

## НЕ ЖУРЫСЯ, ДУША, НЕ ЧАРСЦВЕЙ – СПАГАДАЙ

Весткі добрыя – быццам на рану бальзам,
Іх люблю атрымаць і паслаць люблю сам.
Толькі весткі прыходзяць благія,
Як навала, – часцей і часцей.
І кажу сам сабе
У часіны тугі я
Засцярогу: душа, не чарсцвей!

Весткі цяжкія рану вярэдзяць, як соль,
Дух катуюць, п'юць кроў, забіваюць мой сон!
Змардаваны, падняцца пад сонцам імкнуся,
Устаю, крочу, зрокам пранізваю даль
І ўнушаю сабе не ў адчаі, у скрусе:
Не журыся, душа, – спагадай!

*2021*

* * *

*Светлай памяці Алеся Разанава*

***1***

*Мне і цяпер часамі здаецца,*
*што з Уладзімірам Калеснікам*
*мы едзем у сонца...*
25 сакавіка 2019 г.

**Алесь Разанаў**

...Дарогай, атуленай лесам,
З Пружаншчыны едзе Калеснік,
Вяртаецца ў Берасце разам з Алесем
(Выкладчык з студэнтам сваім).
Ніхто яшчэ не знакаміты,
Калеснік жыццём, вайной біты,
Апальны Разанаў – юнак самавіты;
Святое штось дадзена ім. Абаім.

З вясковае школы вяртанне
Пад легкавіка вуркатанне.
Бліжэй і бліжэй да змяркання
Машына бы ў сонца імчыць.
Бо гэтак яскрава між кронаў
Спусцілася шарам чырвоным
І па-над дарогаю роўнай,
Вялізнае, свеціць-гарыць.

Шмат роздумаў шлях навявае.
Прастору душа набывае,
Натхненне з імпэтам вяртае;
Былое балючае быццам няўзнак...
Маштабнае збудзецца ў лёсе,
Грунтоўнае ўжо і збылося:
Выгнанніку месца знайшлося...
А сонца над шляхам – такі добры знак.

***2***

Больш не ўбачыш, як шчодра залоціцца восень,
Як твая зноў калядная прыйдзе зіма.

Вольны вецер адчайна нярaз прагалосіць,
Што цябе анідзе на планеце няма.

Не – ты ёсць! Бо ствараў жа сябе апантана —
І адбыўся глыбінная паэзіі маг!
Хай камусьці на грэшнай зямлі, нечаканы,
Замінаў твайго духу магутны размах.

За табою сачыла нядрэмнае вока –
Кожны лёкай “сістэмы” аддана служыў;
Іх палохалі рэха тваіх смелых крокаў,
Праўда, мова твая, ўсё, чым ты даражыў.

Мыслі, волаце! Дзе б ні сустрэлі варожа
Тваё дбайна-відушчае сэрца, – заўжды
Верыў я: твая воля цьму зла пераможа,
Адвядзе назаўжды ад суровай бяды.

Божы дар, воля, цяга твая да свабоды
Памагалі да мэты праз церні ісці.
Каб не гэтыя скарбы ад маці прыроды,
Геніяльнае штосьці не змог бы ўзрасціць.

*04.10.2021*

## НАВАГОДНІ ТОСТ

Бацькаўшчына, з Новым годам!
Будзь і з хлебам ты, і з мёдам,
Плённай працай на палях,
І з праўдзівым словам родным,
Рухам велічным народным
За шырокі шлях свабодны,
Незалежны шлях!

Любы край, па Божай волі
Мужна крочь да лепшай долі,
Вызваляй сыноў з астрогаў,
Ачышчай ад хламу дом;
Дай мне веры ў перамогу
Блізкую
дабра над злом!

*2020*

Барыс Пятровіч



…Гэта не прафілакторый.

Гэта – турма…

# Бунт на караблі, які плыве з нікуды ў нішто

***З нізкі "Спецкар"***

Надвячоркам Максім выйшаў з гатэля і вырашыў прагуляцца па горадзе, які быў для яго новым у журналісцкіх вандроўках. Хоць горад быў знакаміты – адзін з самых маладых у краіне і населены ў асноўным моладдзю: другім пакаленнем ягоных будаўнікоў, – за некалькі гадоў працы ён так ні разу сюды і не дабраўся. Гадоў пяцьдзясят таму з усёй вялізнай краіны і з бліжэйшых вёсак хлопцы і дзяўчаты з'ехаліся ў невялікае тады мястэчка на камсамольскую будоўлю электрастанцыі ды так і засталіся тут назаўсёды, на што, відаць, і разлічваў урад той вялізнай краіны. Пераженіліся, нарадзілі дзяцей, якія падраслі і надалі гораду новую славу – тут быў самы вялікі ў Беларусі, ды і ў былым СССР, адсотак наркаманаў і, адпаведна, хворых на СНІД. На сустрэчы ў рэдакцыі кіраўнік абласной міліцыі назваў

"закрытыя" лічбы і адных, і другіх. Яны былі жахлівыя. Наркаманам быў кожны другі жыхар горада ва ўзросце ад чатырнаццаці да трыццаці гадоў, а хворым на СНІД кожны дзясяты – тут ужо ўзрост не меў ролі, бо на ўліку былі і сямідзесяцігадовыя, і немаўляты...

Шчыра сказаць, Максім, начуты пра ўсё гэта, не дужа каб і хацеў ехаць сюды. То былі гады, калі пра СНІД мала ведалі і ў "жоўтых" газетах, якія пачалі з'яўляцца, часам не проста пісалі, а палохалі, што перадаецца гэтая найстрашнейшая хвароба – чума XX стагоддзя! – праз сліну і нават праз поціск рук... Тут хочаш не хочаш, а задумаешся: ехаць ці не – навошта дурная рызыка, ці мала што... Падставай жа дзеля паездкі стала прычына больш інтрыгоўная: у рэдакцыю нейкім чынам патрапіў ліст з лячэбна-працоўнага прафілакторыя – ЛПП, які быў у гэтым горадзе. Ліст распісалі на іхні аддзел. Загадчык прачытаў яго і перадаў Максіму з прыгаворкай:

– Любапытна, – ён любіў гэтае рускае слоўка, – на, паглядзі. Мне калупацца ў такім дзярме не з рукі, а ты, калі хочаш, праедзь.

Ліст быў ананімны. І расказвалася ў ім пра нядаўні жорстка падаўлены бунт тых, хто лячыўся ў ЛПП. Паўсталі яны супраць умоваў, у якіх жылі. Фармальна ЛПП – лячэбная ўстанова, у якой лечаць ад алкагалізму, а на яве, паводле ліста, гэта была звычайная турма, і лекавалі ў ёй не ўколамі ды таблеткамі, а цяжкай фізічнай працай. Да таго ж амаль бясплатнай. Бунт зняволеных – тэма як мінімум сенсацыйная. Падзея свежая. "Незаўважаная" іншымі газетамі: ніхто пра гэта не пісаў. І Максім спакусіўся.

У гатэлі, у якім Максім спыніўся, па савецкай завядзёнцы не было ні кавярні, ні буфета. Час сняданкаў, уключаных у кошт пражывання, у Беларусь з Еўропы яшчэ не прыйшоў. І прычынай вячэрняга шпацыру Максіма стала не проста жаданне прагуляцца, але і што-небудзь паесці перад сном, бо заўтра, падазраваў ён, чакаў яго няпросты дзень.

Ён адышоў ад гатэля метраў сто і ўбачыў зусім побач шыльду: "Молодёжное кафе "Сузорье". Любілі па райцэнтрах, ды і ў Менску, так называць кавярні, пішучы беларускае слова на расейскі лад. Пэўна, "Созвездие" на іхні густ гучала не так прыгожа. Кавярня адчыненая, ля ўвахода ў яе натоўпу жадаючых не відаць, і Максім вырашыў зайсці.

У даволі прасторнай зале было пуста – занятыя толькі пара столікаў па далёкіх кутах. За адным сядзела трое маладых людзей, за другім – двое. Усе хлопцы. Перад імі стаялі адпітыя амаль да паловы куфлі з півам. Максім прайшоў і сеў за адзін з цэнтральных столікаў – амаль пасярэдзіне залы. Ягоны ўваход не застаўся незаўважаным, адзначыў Максім, ні адным з прысутных: усе здалёк правялі яго па зале ўважлівымі непрыхаванымі позіркамі. Так, нерухома,аднымі вачыма, сочаць каты за галубамі. Афіцыянтка не спяшалася падыходзіць. Яе ўвогуле не было бачна. Толькі калі хвілінаў праз пяць Максім некалькі разоў запытальна зірнуў на бармена, які стаяў за прыстолкам з алкаголем і напоямі, той павярнуўся задумліва і паважна да дзвярэй, што былі збоку ад яго, і пастукаў па іх сагнутым указальным пальцам. Тры разы: тук-тук-тук. І так акуратна, артыстычна ён гэта зрабіў, што Максім міжволі залюбаваўся. Амаль адразу з дзвярэй выйшла афіцыянтка ў высокім белым – кухарскім – каўпаку, выціраючы рукі аб відавочна нясвежы, некалі таксама белы, фартух. Падышла павольна, як у замаруджаным фільме, да Максіма, стала побач і абыякава адвярнула галаву, зноў жа, як у кіно: маўляў, слухаю. Максіму стала смешна ад такіх яе паводзінаў, але ён стрымаўся.

– Чьто будзеце? – нарэшце спытала афіцыянтка пазіраючы не на Максіма, а некуды ўверх, на высокую столь, мройліва нешта там разглядаючы.

Меню яна не падала. Ды і невядома, ці было яно ў гэтай кавярні.

– А што ёсць? – перапытаў Максім.

– Фсё, – коратка адказала афіцыянтка.

Максім хацеў было пажартаваць і замовіць нешта такое экзатычнае з таго “ўсё”, якога, зразумела, у гэтай кавярні не было і быць не магло: дранікі з чырвонай ікрой, да прыкладу, але ён зноў стрымаўся, заўважыўшы, што знаходзіцца цяпер у цэнтры ўвагі ўсіх наяўных наведнікаў кавярні і бармена.

– А канкрэтней, – перапытаў ён.

– Первае, фтарое і трэцье – фсё есць.

– Добра, тады другое і піва.

– Какое піва?

– О, а ёсць выбар?

– Есць рэчыцкае і гомельскае.

– Жыгулёўскае?

– Да.

– Рэчыцкае, калі ласка.

– Сразу ілі патом?

– Сразу...

– Значыт, цёплае.

– Не, лепш патом і халоднае.

– Эта дарожэ.

– Харашо.

Афіцыянтка пайшла. “Цікава, – падумаў Максім, – колькі часу пойдзе на прыгатаванне “фтарога” і што гэта будзе? Катлеціна з бульбяным пюрэ, “паджарка” з макаронамі ці гуляш з рысам?” Звычайны набор у падобных “кафэ”. Але доўга сумаваць і гадаць яму не далі. Ад аднаго з крайніх столікаў адшвартаваўся хлопец гадоў васямнаццаці і гэтакай блатняцка-мройнай паходачкай, паторгваючы плячыма ўправа-ўлева і падціскаючы зад, рукі, зразумела, у кішэнях штаноў, запаволена падышоў да яго. Як і пастава афіцыянткі, выглядала гэта па меншай меры смешна, але Максім стрымаў усмешку – тут, відаць, такі падыход падкрэсліваў мясцовы гонар, пераняты ў расейцаў: мы, маўляў, не лапцем шчы хлябаем...

– Закурыць не найдзёцца? – шырока расцягваючы галосныя літары, спытаў хлопец.

– Не куру.

Хлопец прысеў насупраць, гучна, з віскам шаркнуўшы ножкамі крэсла аб падлогу. І сказаў:

– Шырнуцца есць... – нейкім абыякавым голасам сказаў: ці то сам сабе, ці то ў Максіма спытаў. Максім падумаў, што, пэўна, усё ж спытаў, бо хлопец глядзеў на яго, крыху схіліўшы галаву і зазіраючы ў вочы, а таму адказаў:

– Не, няма...

– Я не спрашываю, я предлагаю.

– Мне не трэба.

– Пріезжый?

– Так.

– Панятна, – хлопец азірнуўся на сваіх і вярнуўся да століка.

Максім пашкадаваў, што размова з ім так хутка скончылася. Можа, варта было распытаць, колькі каштуе, і патаргавацца. Дзеля журналісцкага інтарэсу... Зірнуў у бок століка і звярнуцца да хлопцаў не адважыўся: ім ягонае "любапытства" можа падацца падазроным, і як павернецца тады сітуацыя – невядома.

Тым часам афіцыянтка прынесла Максіму "фтарое". Цяпер яна не стаяла збоку, і Максім змог разгледзець яе. Гэта была даволі мілая дзяўчына з бледным-бледным, хваравіта-стомленым тварам. Ставячы паднос на стол, яна нахілілася над ім так, што поўныя грудзі ледзь неываліся ў талерку. Яна рэзка адхінулася, забрала паднос і пайшла няўпэўненай хадой. "П'яная", – падалося Максіму.

"Фтарое" было смажанай бульбай з даволі вялікай адбіўной. "Усё ж гэта кавярня, а не сталоўка", – падумаў Максім. Хацеў было есці, але ўбачыў, што дзяўчына не прынесла яму відэлец і нож. Запытальна зірнуў на бармена, той зразумеў і тым жа сагнутым пальцам пастукаў у дзверы. "Што такое?" – было напісана на твары дзяўчыны, калі яна вызірнула ці то злосна, ці то разгублена. Бармен вачыма паказаў на кліента. Яна глянула, здагадалася і прынесла Максіму відэлец. Максім не стаў патрабаваць нож, бо ведаў норавы ў падобных установах і пабаяўся нарвацца на нервы і канфлікт. Давялося крэмсаць адбіўную відэльцам. Бармен тым часам наліў піва з крана на прыстолку перад ім і прынёс. Піва, зразумела, было цёплым і невядома – гомельскім ці рэчыцкім. Максім пакалупаўся ў халоднай бульбе, пасоўгаў па талерцы такую ж халодную адбіўную, якая не хацела адразацца відэльцам, асіліў з паўкуфля піва, калі можна яго так назваць, і паклікаў афіцыянтку. Разлічыўся. Падумаў, добра, што яна не спытала, як гэта робіцца звычайна: "Панравілась у нас?", іначай ён сам мог бы сарвацца, а чым бы гэта потым пагражала яму, можна толькі здагадвацца. За час, які Максім быў у кавярні, ніхто ў яе не ўвайшоў і ніхто не выйшаў. Прысутныя правялі яго сумнымі ледзянымі позіркамі сфінксаў, і ён, колькі ішоў па зале да выхаду, адчуваў гэтыя позіркі спінай, як быццам нехта падштурхоўваў яго між лапатак нечым тупым, як ствол пісталета. Перад выхадам з кавярні быў гардэроб, які летам, зразумела, не працаваў. Максіму кінулася ў вочы шыльда, на якой буйнымі чырвонымі літарамі было напісана: "Администрация за сданные в гардероб ценные веши и деньги клиентов ответственности не несет. Штраф за потерянный номерок – 1 рубль".

На вуліцы ўжо добра сцямнела, але ліхтары па горадзе з эканоміі яшчэ не ўключылі. Максім з'арыентаваўся на вывеску, якая гарэла над гатэлем, і пайшоў. У цемры за кавярняй чуўся нейкі шоргат, прыдушаны смех, бульканне пітва, рухаліся цені, але толкам разабраць, што там адбываецца, было немагчыма. Максім прыбавіў кроку і выйшаў да асветленага ўвахода ў гатэль. Прагульвацца па горадзе і шукаць прыгодаў на сваю... галаву яму не хацелася. Дзякуй Богу, нічога больш у гэты вечар не здарылася, але спаць ён лёг галодным.

Ранкам Максім спытаў у дзяжурнай, дзе знаходзіцца ЛПП. Аказалася, даволі далёка, на ўскраіне. І ён пашкадаваў, што прыехаў у гэты горад амаль інкогніта, не папярэдзіў нікога загадзя, не патэлефанаваў, як звычайна, і не зайшоў у райкам камсамола ці партыі. Там бы, вядома, далі машыну. І правражатага. Але вось гэтага якраз ён і не жадаў. Хацелася разабрац-

ца ва ўсім самому. Без кансультантаў, а тым больш – наглядчыкаў ды падказчыкаў. Злавіць таксоўку ці прыватніка было нерэальна. І Максім вырашыў пайсці пешкам. Горад быў даволі кампактны, дамы ў ім стаялі ў асноўным пяці- і дзевяціпавярховыя. Бо пабудавалі яго, як кажуць, з нуля, сярод сасновага бору. Трохі нечакана было бачыць між панельных дамоў, якія ў народзе называюць “хрушчоўкамі”, не ссечаныя старыя хвоі – як у даўнім панскім парку. Стала гэтая “паркавасць”, дарэчы, своеасаблівай візітоўкай горада. “Цікава, а ці растуць тут у сезон грыбы? Выйсці з пад’езда і знайсці крамянага – менавіта крамянага – баравічка было б надзвычай прыемна”, – падумалася Максіму. Лета стаяла сухое, і грыбоў яшчэ не было і ў сапраўдных лясах. Але спрактыкаванае вока грыбніка прыкмячала іншыя адметнасці маладога горада.

Па-першае, на газоне побач з тратуарам Максім заўважыў не толькі звычайнае смецце, якога, дарэчы было няшмат, а некалькі скарыстаных і прытаптаных аднаразовых шпрыцаў. Па-другое, убачыў сярод травы і пад дрэвамі бела-шэрыя плямкі гумак прэзерватываў. Максім ведаў з газет, што і першае, і другое зусім нядаўна пачалі раздаваць у горадзе бясплатна прадстаўнікі нейкай нямецкай дабрачыннай арганізацыі. Паводле іх заходняга досведу змагацца са злом бессэнсоўна, прасцей паспрабаваць зрабіць больш бяспечным жыццё для тых, хто яшчэ не захварэў...

Падыходзячы да апошніх дамоў горада, за якімі метраў праз трыстачатырыста віднеўся ЛПП, Максім вырашыў яшчэ раз перачытаць ліст. Прысеў на лаўку на пустым прыпынку і разгарнуў роўна скамечаны, складзены, пэўна, разоў у пяць ці больш аркушык паперы са школьнага сшытка ў клетачку. Як яго вынеслі з ЛПП і пераслалі ў газету, – можна было толькі здагадвацца.

“Паважная рэдакцыя! (Ліст патрапіў па адрасе, што дзіўна). Можа, мы набілі аскоміну сваімі скаргамі на сістэму ЛПП (Ага, значыць, гэта быў не першы допіс), але падзеі, што адбыліся ў нашым ЛПП, перапоўнілі чашу цярпення. Мы 4 чэрвеня аб’явілі забастоўку і вылучылі патрабаванні, якія датычыліся элементарных правоў чалавека, гарантаваных Канстытуцыяй... (Далей ішлі патрабаванні). 5 чэрвеня мы склалі петыцыю за подпісамі 500 чалавек адносна закона аб ЛПП, прынятага ў застойны перыяд, пра неаходнасць адмены яго і прыняцці закона, які паважаў бы гонар і годнасць сваіх грамадзян (500 чалавек падпісалася, ого-го!). 5 чэрвеня ў 16.00 у жыллёвую зону ўварваўся атрад спецпрызначэння (аператыўненька спрацавалі!) у колькасці сто чалавек з дубінкамі, і яны пачалі біць хворых (самі сябе яны называюць хворымі, адзначыў Максім). Многім былі разбіты галовы, зламаны рукі, нанесеныя цяжкія пашкоджанні, пасля якіх людзі ляжалі на ложках пластом... Больш за пяцьдзясят чалавек пацярпела ў гэтым збіцці. Пасля гэтага яшчэ пяцьдзясят чалавек з зоны заштурхалі ў турэмныя машыны і пад дубінкамі прымусілі пісаць адмаўленне ад забастоўкі... Напісана ад імя 700 чалавек кантынгента ЛПП...” (Слова “кантынгент” Максіма насцярожыла. Было яно нібыта з іншага лексікону, які не зусім падыходзіў да слова “хворыя”).

Максім прачытаў ліст, і зноў ім апанавалі тыя ж думкі, што і пры першым праглядзе ў рэдакцыі. З невялікай карэкцыяй, бо ён ужо быў у некалькіх сотнях метраў ад таго самага ЛПП. Найперш, сумненні: ну і чаго я сюды прыехаў? Хто мяне чакае ў ЛПП? Калі тут апісаны рэальныя падзеі, дык адміністрацыя не пусціць мяне і на парог. Якое

можа быць расследаванне? Хто мне раскажа праўду – тыя, каго білі, ці тыя, хто біў?

З прачытанага раней пра ЛПП Максім ведаў, што сістэму перавыхавання алкаголікаў працай прыдумалі пры Хрушчове ў 1964 годзе. Мікіта Сяргеевіч, відаць, прыкінуў, што да абяцанай ім перамогі камунізму засталося ўсяго 16 гадкоў, і вырашыў распачаць прымусовае лячэнне будаўнікоў светлае будучыні, каб у 1980 годзе ўступіць у камунізм са здаровым і непітучым насельніцтвам. З кожным годам абяцаны камунізм набліжаўся, а колькасць алкаголікаў не меншала. І пры Гарбачове толькі ў Беларусі працавала ўжо ажно восем ЛПП, і ўсе яны былі перапоўненыя. І гэта нягледзячы на славуты Указ 1985 года, паводле якога ў краіне практычна ўводзіўся "сухі закон": продаж гарэлкі быў дазволены людзям толькі ад 21 года, з дзвюх гадзінаў дня і па талонах – пляшка гарэлкі і дзве віна на нос на месяц... Да таго ж была негалосная забарона на ўвоз імпартнага пітва з краінаў сацыялістычнай садружнасці, а ў Закаўказзі, Сярэдняй Азіі, Малдове ды Крыме высякаліся вінаграднікі... Але колькасць "хворых" гэта не зменшыла, як і колькасць смерцяў ад алкагалізму, а наадварот, павялічыла, бо пачалі піць розныя сурагаты. Сямсот памножыць на восем будзе пяць тысяч шэсцьсот чалавек – падлічыў Максім. На дзесяцімільённую рэспубліку нібыта і не так шмат. Але гэта ўсё мужчыны ў самым росквіце сілаў... Ды і ці можна лічбамі вымераць людское гора, якое нясе п'янства? Мора, акіян слёз...

З такімі думкамі і сумненнямі Максім накіраваўся да ўвахода ў ЛПП. І чым бліжэй падыходзіў, тым расло ягонае здзіўленне. Ён ніколі не быў у падобных установах. А словы "лячэбны" ў назве і "хворыя" ў лісце настроілі яго на лад, што пабачыць ён нешта кшталту бальніцы. Ну ці "прафілакторыя", але са строгім вахцёрам у міліцэйскай форме пры ўваходзе і жорсткай дысцыплінай унутры. Аднак карціна, якая адкрывалася зроку, магла ўразіць любога. Перад ім была ледзь не крапасная сцяна метраў пяць-шэсць вышынёй, за якой ён не бачыў нічога – ніякіх будынкаў. Сцяна была аблытаная калючым дротам уверсе. Пасярод яе былі вялізныя, высокія, у два чалавечыя росты дзверы – для заезду машынаў. А ў іх – маленькія, для ўваходу людзей. Якая бальніца? Турма і тое не кожная такой высознай сцяной акружаная. А з-за гэтай сцяны, убачыў Максім, калі наблізіўся, асцярожна і сціпла выглядвала яшчэ адна сцяна, такая ж вышынёй і яшчэ больш абчапляная кругамі калючага дроту. Вось табе і прафілакторый. Лячэбна-працоўны...

Патрапіць на тэрыторыю ЛПП па журналісцкім пасведчанні аказалася проста. Усё ж распачатая колькі гадоў таму перабудова сыграла на карысць свабоды, а роля прэсы, да таго ж партыйнай, яшчэ не ўпала ніжэй пояса. Ахоўнікі, іх было трое, Максіма прапусцілі, але перад тым патэлефанавалі самаму высокаму начальніку, які тут быў, спыталі дазволу. І адразу ж ветліва папрасілі прайсці ў галоўны будынак да таго самага начальніка. На размову. "Ну вось, – падумаў Максім, – а ты і абрадаваўся. Будзе табе зараз і свабода, і праважаты. Гэта ў лепшым выпадку. А ў горшым – паедзеш ты дамоў пасля гутаркі з начальнікам".

На дзіва, абышліся з ім зноў ветліва. Начальнік сустрэў Максіма ля дзвярэй кабінета і правёў да сябе. Максім чакаў ад яго ласкава-ліслівага: "Што будзеце піць – гарбату, каву?" – а той адразу перайшоў да справы.

Пэўна, разведка даўно яму даклала, што ў ваколіцах ЛПП з'явіўся шпіён. Прынамсі, начальнік быў гатовы да размовы.

– Я так думаю, што прычынай вашага візіту да нас сталі нядаўнія падзеі, – канстатаваў ён.

Максім пахмурна кіўнуў: так.

– Што ж, не дзіўна. Прэса цяпер працуе аператыўна. І што вас цікавіць у першую чаргу?

– У першую чаргу... хацеў бы выслухаць розныя бакі... нядаўніх падзеяў, што ў вас адбыліся. Вы ж разумееце, што лепш пачаць з гэтага, – начальнік моўчкі кіўнуў. – Паразмаўляць і з хворымі, і з супрацоўнікамі. Прайсці па тэрыторыі, паглядзець, як жывуць і працуюць людзі. Як лечацца...

– Ну што ж, я не супраць – пахадзіце, паглядзіце, пагаварыце... Але аднаму вам да кантынгенту ісці я не раю. Давяраць людзям па гэты бок плота нельга. не толькі пасля бунту, але і ўвогуле. Яны здольныя на ўсё. Захопяць вас як закладніка, нож да горла – і што тады? – пры слове "кантынгент" Максім не стрымаўся і злёгку пасміхнуўся, як і начальнік раней пры ягоным слове "хворыя".

– Які нож? Адкуль ён у іх? – перапытаў Максім.

Начальнік пасур'ёзнеў:

– Гэта не прафілакторый, гэта зона. Практычна турма. Адно хіба: кантынгент тут не сядзіць у камерах. а перамяшчаецца па тэрыторыі даволі вольна. А таму прашу вас, пакіньце ілюзіі пра хворых і прафілакторый тут, у маім кабінеце. Без праважатага я вас не пушчу. Не падумайце, што хачу перашкодзіць вам ці дазнацца пра нейкія сакрэты. Паверце, я іх і так ведаю. Капітан Стасевіч вас правядзе куды захочаце і ўсё пакажа. Але я раіў бы вам, перш чым ісці ў зону, спачатку, каб пазнаёміцца з сітуацыяй, паразмаўляць з нашымі супрацоўнікамі.

Максім зразумеў, што яму спрабуюць навязаць свае думкі. Але тут, за гэтай двайной шматметровай сцяной ён сабе ўжо не належаў, а таму аддаўся на волю гаспадароў.

Размова з супрацоўнікамі ЛПП адбывалася ў пакоі адпачынку, дзе вольныя ад працы афіцэры на некалькіх сталах ганялі більярдныя шары. Пад стук кіёў па адным яны падыходзілі да Максіма і распавядалі:

– Бунт быў... Няма чаго ўтойваць. Але, паверце, не ў кожным піянерскім лагеры, а тым болей у доме для састарэлых ёсць цяпер такія ўмовы, як тут. Ад дзяцей і старых адрываем – ім аддаем. І каму? П'янтосам, гультаям... Многія з "хворых" у ранейшым сваім жыцці ў каналізацыйных ямах спалі. А тут ім ложак, свежая бялізна, лазня, тэлевізар, сталаванне тры разы на дзень – працуй, лячыся. Жыві...

– Ежы тут хапае. У сталоўцы нядрэнна кормяць. Плюс пасылкі з дому, плюс крама – дазволена ў месяц на дваццаць рублёў прадуктаў купіць. А дысцыплінаваным – на трыццаць. Яны хлебам чорным тут у футбол гуляюць. Белы – у сметнік выкідваюць. Гарбаты дазволена ў месяц кілаграм купіць. Уяўляеце? Кі-ла-грам! Навошта нармальнаму чалавеку столькі? Чыфірыць... А не хочаш чыфірыць – у любы час можаш у ЛПП спіртное ці бражку знайсці. Абы жаданне ды грошы... Летась падчас праверак у "хворых" 450 літраў спірнога і сурагатаў канфіскавана. Як праносяць? Ёсць спосабы, пра якія мы ведаем, а ёсць і таемныя. Як кажуць, свіння гразь знойдзе.

– Хто не лянуецца, можа да выхаду добрыя грошы зарабіць. Але большасць працаваць не хоча. Тут адмова ад працы геройствам лічыцца. Раней за нявыхад на працу – ізалятар. І трапіць туды баяліся. Бо гэта было сапраўднае пакаранне. Цяпер зрабілі не ізалятар, а рай. Раней былі адкідныя ложкі, якія на дзень да сцяны замыкаліся. Цяпер ляжы цэлы дзень на іх, кніжкі, часопісы чытай. Раней кармілі ў ізалятары раз на суткі, цяпер як усіх. Што гэта за пакаранне такое? Я сам набраў бы кніжак ды на месяц у ізалятар пайшоў...

– Паглядзіце, у што яны ператвараюць спальныя памяшканні – усюды бруд, недапалкі, абшарпанасць... А рамонт быў год таму. Да забастоўкі каляровы тэлевізар маглі свабодна да канца праграмаў глядзець. Дзе, у якой бальніцы гэта дазваляюць?

– Білі іх? Так, білі. Але не мы, а спецназаўцы – нам жа тут далей з гэтым кантынгентам працаваць, таму мы іх не чапалі... Білі. А што было рабіць? Угаворы ды размовы не дапамаглі. У нас тут няма тых, хто ўпершыню трапіў у ЛПП, у асноўным рэцыдывісты, якія ўжо і ў турмах адседзелі. З імі размова павінна быць кароткай...

– Умовы працы ў супрацоўнікаў тут горшыя, чым у турме, а кантынгент той самы. Дзевяноста адсоткаў “хворых” маюць адну-дзве, а то і трычатыры “ходкі” ў турму. Ёсць некалькі чалавек, якія і сем, і восем разоў паспелі адседзець. І адпаведна, турэмныя парадкі перанесеныя сюды. Як з імі працаваць? Пакараць “хворых” за хуліганства, за хамства немагчыма. Не крані! Застаецца хіба пальцам паківаць, як дзіцяці... Заробкі, аклады ў супрацоўнікаў мізэрныя, а працаваць даводзіцца па 12-15 гадзінаў у суткі... Дык каму баставаць трэба?

– Лячэнне? Якое лячэнне... Любы ўрач вам скажа, што хранічную хваробу вылечыць немагчыма. А хранічны алкагалізм – хвароба асаблівая, бо вельмі шмат спакусаў вакол пасля гэтак званага вылячэння. Каб сарвацца – імгнення хапае. А тады пайшло-паехала... Большасць, абсалютная большасць у нас, дзевяноста дзевяць адсоткаў – тыя, хто “лечыцца” другітрэці раз, а ёсць і такія, што шосты-сёмы... Гэта не проста хранічна хворыя людзі, гэта людзі, страчаныя для грамадства. Яны ўжо свайго жыцця без ЛПП не ўяўляюць. Выходзяць, напіваюцца і зноў сюды просяцца. Тут ніякіх праблем няма – накормяць, апрануць. А там, на волі, працаваць, круціцца трэба, каб калі не сем’і, дык хоць сябе ўтрымліваць...

Максім зразумеў тактыку начальніка ЛПП. Наслухаўшыся такога, ці застанецца ў журналіста спачуванне да забастоўшчыкаў?.. Калі і застанецца, дык глядзець ён будзе на іх зусім іншымі вачыма. Але Максіму ехаў сюды з думкамі не толькі дазнацца праўду, але і паспрабаваць дапамагчы аўтарам ліста. Якімі б яны кепскімі ні былі, але ўсё ж гэта людзі. І калі дзяржава сабрала іх тут, дык яна павінна за іх і адказваць. А не апраўдваць збіццё тым, што ў піянерскіх лагерах ці дамах састарэлых цяпер яшчэ горш.

У зоне, а так называлася ўнутраная тэрыторыя ЛПП, падзеленая, дарэчы, на некалькі “зон” – жыллёвую, працоўную, медычную ды інш., нішто не нагадвала пра нядаўні бунт. Чысценька, прыгожанька, ні табе зламаных лавак, ні вытаптанага газона. Гэта ў двары, а калі Максім разам з праважатым зайшлі ў жыллёвую – спальную – зону, дзе поўныя гаспадары “хворыя”, адразу кінулася ў вочы засмечанасць і абшарпанасць памяшканняў, што выглядала дзікавата. Кавалкі скамечанай бруднай паперы, недапалкі,

трэскі, нават бітае шкло... здавалася, ступіць няма дзе, падрапаныя нечым вострым сцены і дзверы, а надпісы – цытаваць не перацытаваць... Капітан заўважыў нямое пытанне на твары Максіма.

– Рамонт быў год таму, – паўтарыў ён словы, якія Максім ужо чуў ад іншых, – але тут яны поўныя гаспадары...

Максіма здзівіла: чаму гэта яны, хворыя, тут поўныя гаспадары, але перапытваць не стаў.

Капітан правёў Максіма ў вялізны пакой, у якім было больш за пяцьдзясят жалезных ложкаў. Стаялі яны ў два шэрагі справа і злева. Як у вайсковай казарме. Побач з кожным ложкам была тумбачка. На тумбачках, праз адну, а то і часцей, стаялі карычневыя паўлітровыя слоікі, напалову, а то і амаль цалкам запоўненыя гарбатнай заваркай. Менавіта заваркай, вадкасці, вады, відаць не было. Не заўважыць гэта немагчыма – значыць, гаспадары іх сёння "чыфірылі" і не ўтойваюць гэта перад "начальствам", больш за тое – ганарацца адзін перад адным. "Хворых" у пакоі было чалавек дваццаць. Адпачывалі незанятыя на працы – пасля начной змены. Большасць ляжала, але калі зайшоў капітан з Максімам, яны неахвотна падняліся, селі на сваіх ложках.

– Да вас прыехаў карэспандэнт з газеты, – аб'явіў капітан, – хоча з вамі пагутарыць. – І адышоў убок.

Ніхто з "кантынгенту" не варухнуўся, ніхто не падышоў да карэспандэнта. Тады капітан выйшаў з пакоя. "Хворыя" маўчалі, хто разглядваў столь, хто свае рукі, а хто проста сядзеў, апусціўшы галаву. Нарэшце адзін з іх, пэўна, самы нецярплівы, спытаў ад свайго ложка:

– Ты і праўда карэспандэнт?

– Так.

– І ксіва ёсць?

– Ёсць.

– Пакажаш?

– Пакажу.

Некалькі чалавек падышлі да Максіма. Патрымалі ў руках пасведчанне, адзін нават шматзначна-здзекліва панюхаў. Максім пачуў, як нехта з тых, што не падышлі, сказаў з прысмешкай "хворым" побач: "Я такую за дзесяць хвілін намалюю". Пасведчанне патрымалі ў руках яшчэ пару чалавек і аддалі.

– Ну і чаго ты сюды прыйшоў?

– Па вашым пісьме. Вы ж самі пісалі ў газету.

"Хворыя" пераглянуліся. Пра ліст яны, відавочна, ведалі. Аднак маўчалі. Потым адзін з іх сказаў:

– Было. Пісалі. Але...

Гэтае "але" было зразумелым: ніхто не верыў, што ліст дойдзе да рэдакцыі і прыедзе карэспандэнт. Як ніхто і не верыў, што перад імі карэспандэнт. "Ці не падстава гэта?" – чыталася на іхніх тварах. Відаць, ахоўнікі перахапілі ліст і вырашылі падаслаць "карэспандэнта", каб даведацца, хто пісаў яго і разабрацца з ім канчаткова... "Размовы не атрымаецца, – думаў Максім, – не павераць і не раскрыюцца. Вось чаму начальнік так проста пусціў мяне ў "зону"... Што зрабіць, каб яны мне паверылі? Я ж сапраўды шчыра хачу ім дапамагчы. Паспрабаваць аблегчыць іхняе жыццё. Ці хоць расказаць пра яго. Прынамсі, каб напісаць праўду пра тое, што тут было і што ёсць... З такой мэтай ехаў".

– Вы пісалі, што ў вас была забастоўка, з якой жорстка расправіліся.

Маўчанне і пацісканне плячыма.

– Ну а забастоўка то хоць была?

Пераглядванне, скептычныя ўсмешкі на падцятых вуснах. Маўляў, ну, была – вынікала з тых позіркаў і ўсмешак – і што... "Хворыя" не верылі Максіму, а можа і баяліся, што размова іхняя нейкім чынам фіксуецца і потым будуць прынятыя "меры". Бітыя нядаўна бакі яшчэ не забыліся пра driving, нанесеныя раны яшчэ не ва ўсіх загаіліся.

У Максіма ў руках быў толькі звычайны блакнот. Нават дыктафон ён з сабой не браў. Дык што зрабіць, каб паверылі, што перад імі сапраўдны карэспандэнт? Як разбіць іхнюю насцярожанасць і недавер? Ніяк... Відаць, гэта немагчыма...

Максім ужо быў гатовы пайсці з жылой зоны, калі яго паклікаў "хворы" са "шляхетным", інтэлігентным тварам і сумнымі, разумнымі вачыма, які сядзеў крыху асобна ад іншых.

– Камандзір, ты сапраўды хочаш пагаварыць?

Максім кіўнуў.

"Хворы" яшчэ раз з гэтакай ленінскай хітрынкай угледзеўся ў яго і сказаў:

– Тады ідзі сюды, пакалякаем...

Максім прысеў на ложак насупраць яго.

– Ведаеш, камандзір, справа ўжо не ў тым, была забастоўка ці не была, – сказаў "інтэлігентны", – і не ў тым, якія былі ў нас патрабаванні – справядлівыя ці несправядлівыя. Справа ў тым, што абыйшліся з намі вельмі жорстка, не па-людску... Ніхто не вёў нейкія перамовы. Нават не паспрабавалі... Проста ўварваліся ў памяшканні і змалацілі ўсіх так, што лужыны крыві стаялі паўсюль. не ведаю, што табе будуць казаць начальнікі, але зразумей: якімі мы б ні былі – мы таксама людзі, а не жывёла, не скот, як тут гавораць.

– Ну дык таму я і прыехаў. Каб разабрацца. І дапамагчы вам.

"Хворы" зазірнуў глыбока ў вочы Максіму:

– Дапамагчы? Нам... ім, – кіўнуў у бок хворых, што так і стаялі паводдаль, – ім ужо ведаеш толькі хто дапаможа... – памаўчаў шматзначна. – Але, калі хочаш, калі зможаш – разбярыся. Паспрабуй. Нават калі і не дадуць табе нічога напісаць ці надрукаваць. Пагавары з хлопцамі. Яны ўсё раскажуць.

Пасля гэтага і сапраўды – загаварылі ўсе. Але амаль нічога новага, апроч падрабязнасцяў збіцця ды паказу шнараў, сінякоў ад дубінак, Максім не даведаўся. А потым увогуле пачалася пахвальба ды геройства. Адзін перад адным хворыя распавядалі, як кожны з іх адбіваўся ад мянтоў і як валіў іх.

– Ну а супраць чаго вы паўсталі? Чаго хацелі дабіцца? – спытаў Максім.

Загаварылі наперабой:

– Калі мы хворыя, дык лячыце нас, а не прымушайце працаваць.

– Вы былі ў цэхах? Там пекла...

– Гэта не прафілакторый. Гэта – турма.

Максім перапыніў самага бойкага:

– Вы ўпершыню ў ЛПП?

– Не, чацвёрты раз.

– У яго яшчэ дзве ходкі ў турму, – падказваюць з гонарам.

"Чацвёрты раз, – падумаў Максім, – і ён кажа пра лячэнне..." Спытаў

яшчэ некалькіх – не было сярод іх ніводнага, хто трапіў сюды ўпершыню. Затое ўсе мелі "ходкі" ў турмы.

– А чаму чацвёрты раз? Чаму вы не вылечыліся з першага разу?

Маўчанне. Няма адказу. А потым:

– Ды тут не лечаць, а калечаць...

Максім бачыў, што перад ім сапраўды няшчасныя людзі, але чым больш яны гаварылі, тым меншала ў яго сімпатыя да іх. Так, яны, гэтыя – "хворыя", але ці задумваліся яны, колькіх людзей самі зрабілі такімі ж гаротнымі: родных, жонак, дзяцей праз сваю "хваробу"? Апроч сябе любімага яны не бачаць нікога. Які ж дробненькі іхні свет і якія мізэрныя жаданні ды інтарэсы! Гэта жах! Максіму было шкада іх, але шкадаванне гэтае набывала іншы сэнс. Яму было шкада не людзей, збітых за тое, што асмеліліся адстойваць свае правы, як думалася раней, а людзей, якія страцілі цікавасць да жыцця і падпарадкавалі яго аднаму памкненню, якое зацьміла ім усё – атрымаць асалоду, напіцца – нажрацца, як яны кажуць, а там – трава не расці...

І гэта яшчэ пры тым, што кожны з іх хоча здавацца лепшым. Вось што ў іх засталося чалавечага, дык гэта гонар. Але чым яны ганарацца? Божа мой... Максім ажно схамянуўся, бо размова перайшла ўжо ад бунту і збіцця да "жыццёвага". Тая ж пахвальба... Адзін паказваў спіну, грудзіну, рукі, спярэшчаныя наколкамі з малюнкамі і надпісамі, другі жывот са страшнымі шнарамі і расказваў, як ён "рэзаўся", трэці ўжо расшпільваў крэсла штаноў... Кожны хацеў казырнуць не толькі перад карэспандэнтам, але і скарыстаць магчымасць пакрасавацца перад сваімі.

На гэтым размову можна было заканчваць. Як і "расследаванне". Магчымы артыкул развальваўся. Максім прабыў у ЛПП увесь дзень і на кожным кроку пераконваўся: праблема ёсць, аднак вырашэння яе – няма. У цэхах умовы працы "хворых" ці "кантынгенту" і сапраўды былі цяжкімі, але дзе яны на падобных вытворчасцях лёгкія... У ізалятары пакараныя за гультайства і адмову ад працы ляжалі на ложках з часопісамі і кнігамі, а стол у пакоі і сапраўды быў завалены кавалкамі чорнага і белага хлеба, над якімі кружлялі мухі... У пакоях абшарпанасць, смецце, чыфір... На паседжанні выязнога суда, на якім прымалі рашэнне выпускаць датэрмінова тых, хто сябе добра паводзіць ці не, суддзя поўным расчаравання голасам сказаў Максіму:

– Вось яны тут клянуцца, што вылечыліся і больш гарэлку ў рот не возьмуць. А самі па выхадзе адразу бягуць да першай жа крамы. Добра, калі некаторыя дахаты даедуць, а большасць нашы ж гарадскія міліцыянеры падбяруць і сюды вернуць. А тыя, што даедуць, толькі сваіх родных патэрарызуюць, патыраняць і праз тыдзень, праз месяц у ЛПП вернуцца. Колькі я такога нагледзеўся ўжо – не пераказаць...

– І ўсё роўна вы іх адпускаеце?

– Адпускаю. Па законе. Па сканчэнні тэрміну. За ўзорныя паводзіны. Але тут і там гэта розныя людзі...

"Ну і навошта я сюды прыехаў? – прыгнечана думаў Максім, ідучы назад у гатэль пад вечар. Сум агарнуў яго, безвыходнасць і безнадзейнасць прыдушылі: "Я ж хацеў дапамагчы бедным, няшчасным людзям, якія паўсталі супраць несправядлівасці. А што ў выніку? Ці трэба ім мая дапамога? Яны жывуць у сваім, утульным ім, свеце, і большасць з іх нават

не ўяўляе сябе, свайго жыцця, па-за гэтым светам, па-за “прафілакторыем”, па-за гэткім “лячэннем”. Вядома, ім хацелася б яшчэ большай свабоды, хацелася б сытней есці і менш працаваць. А лепш – зусім не працаваць, а толькі “лячыцца”... Змірыліся з гэтым і родныя іхнія. Яны нават радыя, калі пазбаўляюцца алкашоў – самі здаюць зноў на “лячэнне”. Ці падлічваў хто, колькі “хворых” сапраўды вылечваецца пасля першага разу, а колькі вяртаецца сюды ў другі... у пяты раз? Такое ўражанне, што “лячэнне” тут ператварылася ў канвеер-кругазварот, вір, з якога не вырываюцца, а ў які зацягвае ўсё новых і новых людзей і толькі разбэшчвае іх. Колькасць “прафілакторыяў” большае, расце колькасць “хворых”, і ўсіх гэта задавальняе: улады нібыта змагаюцца з “зялёным змеем”, сем’і бароняцца ад гвалту, “алкашы” таксама не ў крыўдзе: маюць статус “хворых”, а значыць, могуць патрабаваць: лячыце нас, а не прымушайце працаваць... Не, гэтую сістэму трэба змяняць ці адмяняць зусім. Так, сістэму трэба змяняць, але ці толькі гэтую? Трэба змяняць сістэму ў краіне, якая так і не пабудавала камунізм і не пабудуе ўжо яго ніколі... Трэба змяняць саму краіну...”

Максім ішоў і міжволі заўважаў, як з кожным ягоным крокам, з набліжэннем да цэнтра горада на галоўнай вуліцы і ў дварах большала людзей. У асноўным гэта была моладзь. На лаўках ля дамоў, на прыпынках стаялі купкі хлопцаў і дзяўчат. А калі трапілася кавярня – там на прыступках быў цэлы натоўп. Стаяў рогат і смех, выкрыкі, павіскванні. І мат. Мат, якога Максім не чуў нават у ЛПП ад “хворых”. Некаторыя былі ўжо на добрым падпітку. Калі Максім праходзіў міма, у ім бачылі чужога і праводзілі гэтакімі смела-нахабнымі позіркамі. Ён ведаў такія позіркі. Варта было яму адкрыта паглядзець у адказ, як тут жа пачуўся б вокрык:

– Эй, падажді! Разгавор есць...

Чым заканчваюцца такія “разгаворы”, таксама было вядома: хапаннем загрудкі, а потым мардабоем, простым беспрычынным збіццём на вачах гікаючага натоўпу. І ніхто не заступіцца. Зявакі пастаяць яшчэ трохі ля акрываўленага чужынца, які “не так паглядзеў”, і вернуцца да перапыненага: “Ну дык пра што мы? А... ўспомніў...” Таму Максім стараўся не паварочваць галаву ў бок груповак, што праводзілі яго ненавіснымі і пагарджальнымі позіркамі, а тым болей не адказваць поглядам вочы ў вочы. Аднак такая колькасць людзей на вуліцы з нейкім святочным настроем падалася яму незвычайнай, асабліва ў параўнанні з учарашнім вечарам. З чаго б гэта?

Непадалёку ад гатэля Максім спыніўся і агледзеўся, не падыходзячы да чарговай купкі падлеткаў ля прыпынку. Трэба было б павячэраць недзе. Але, мяркуючы па кавярнях, каля якіх ён ішоў, у тую, учарашнюю, сунуцца было нявартa. Падобна, што сёння пуста там не будзе. Лепей зайсці ў прадуктовую краму, купіць чаго ды паесці ў гатэлі. Па-студэнцку. Набыць якога печыва і што-небудзь папіць. Каўбас ды іншага мяснога ў раённых крамах даўно не было.

Максім згадаў, што бачыў па дарозе крамку. Зусім нядаўна мінуў яе. Звычайны аднапавярховы невялікі цагляны дамок з шырокімі вокнамі. Святло ўнутры гарэла, і ён бачыў, што крамка была пустой – ніводнага пакупніка. І не дзіўна, мяркуючы па надпісе “Булочная”, гарэлка ў ёй не прадавалася. Вярнуўся і зайшоў. За прылаўкам стаяла жанчына гадоў пяцідзесяці. Усе тавары былі на паліцах за ёю. Ніякога самаабслугоўвання. “Каб не кралі”, – міжволі падумаў Максім. А таму давялося падысці да самага прылаўка ўпрытык, каб пабачыць, што тут можна набыць. Жанчына

ўважліва і адкрыта, можна было б сказаць – бессаромна, калі не нахабна, разглядала Максіма. Зняважаны гэтым позіркам, ён ледзь стрымаўся, каб не выйсці. Выбар у краме быў небагаты. І тое, што мелася, не дужа вабіла Максіма. Ён вагаўся, браць штосьці ці не? Прадаўшчыца не вытрывала:

– Што вам прапанаваць?

Максім пасміхнуўся:

– Ды вось вывучаю асартымент...

Прадаўшчыца, канечне ж, ведала ў твар усіх сваіх пакупнікоў, што жылі ў бліжэйшых дамах, а іншыя сюды, відаць, і не хадзілі, а таму бачыла, што Максім не з мясцовых. Пэўна, сёння пакупнікоў было ў яе няшмат, і яна трохі засумавала на адзіноце.

– А што б вы хацелі? – жанчына сказала ўжо больш ветліва, нават прыязна. Максім угледзеўся ў яе – шырокі, адкрыты паляшуцкі твар, невялікі кірпаты носік, сіне-зялёныя глыбокія вочы...

– Мне перакусіць чаго-небудзь на вечар.

– Прыезджы?

– Так.

– Камандзіровачны?

– Так.

– На хімзавод?

Максіму падалося, што прадаўшчыца занадта навязлівая – ну якая ёй розніца, хто ён, адкуль і чаму прыехаў. Але па выхадзе з “прафілакторыя” ім апанавала самотная абыякавасць, і ён аддаўся ёй. Таму не адмаўчаўся, а падтрымаў размову:

– Не. Я журналіст.

– А куды, як не на хімзавод?

– У ЛПП быў.

– Ага... – жанчына памаўчала, а потым сказала: – Баставалі там нядаўна.

– Вы ведаеце?

– Увесь горад ведае. Тут хіба схаваеш. Добра, што ім усыпалі. Забастоўшчыкі, блін... – яна хмыкнула.

– Чаму добра? Людзі ж...

– Якія людзі, што вы кажаце... Яны даўно ўжо не людзі.

– Ну чаму вы так пра іх. Там жа нясоладка: рэжым – турма, можна сказаць. Плот вунь які вакол.

– Які рэжым? Які плот? Што вы кажаце... Каб рэжым, не хацелі б туды вяртацца. Усё яны там маюць. Нават гарэлку. Абмінуць той плот і той рэжым тысяча спосабаў прыдумана.

– А вы адкуль ведаеце?

– Ды ўжо ж прыйшлося. Муж мой лячыўся ў такім пра-фі-лак-торыі. Лячыўся, пакуль не замёрз пад хвояй... Тройчы лячыўся, і хоць бы што яму. Адпусцяць – дамоў на чатырох прыпаўзае пасля таго лячэння. Усе грошы, заробленыя там, па дарозе прап’е. Па першым разе я верыла, што дапамогуць, а трэці раз сама міліцыю папрасіла праз тыдзень, каб яго забралі.

– Як – вы самі яго здалі? – Максім наўмысна выказаў здзіўленне.

– Вось так – выклікала і здала... Бо зусім невыносным стаў. Бо без яго лягчэй. І прасцей. Жыць... Праўда, ён не ў нас быў, а ў Магілёве. Дык расказваў, як там п’юць – больш, чым дома. А ўжо чыфіраць... А той чыфір бярэ не горш, чым гарэлка. А сэрца садзіць яшчэ больш. Таму і злёг

па дарозе непадалёк ад дома і замёрз. А я і не шукала, калі не прыйшоў, толькі ранкам і даведалася, што знайшлі яго... Але, як кажуць, бяда адна не ходзіць. Цяпер сын наш адзіны – п'яніца, а мо і наркаман... Бо тут па горадзе такое расказваюць... Што і рабіць, не ведаю... Вось стаю тут, пакупнікоў няма, а працу кінуць не магу. Стаю і думаю: дзе ён там? Можа, апошняе з кватэры выносіць...

Максім спагадліва кіўнуў ёй, маўляў, разумею.

А што ён мог сказаць? Як дапамагчы гэтай жанчыне: стаць за яе за прылавак, пакуль яна збегае сына паглядзець? Смешна і несур'ёзна гэта. Можна толькі бясконца спачуваць. Але колькі іх такіх маці, жонак у гэтым горадзе? І колькі па краіне... Якая будучыня ў іх і ў гэтай краіны, калі такое паўсюль? Калі змаганне з п'янствам скончылася нічым, а той самы "сухі закон" не вылечыў краіну, а, як пішуць, паступова развальвае яе...

– А чаму сёння так шмат людзей на вуліцы? Свята нейкае ў горадзе? – спытаў Максім у прадаўшчыцы. Яна адказала як пра нешта звычайнае:

– Дык пятніца ж... Заўтра выходныя. Гуляюць людзі.

Максім быў агаломшаны гэтым спакойным і абыякавым адказам. "Гуляюць людзі... Так, гуляюць. А што яшчэ рабіць у гэтым горадзе і ў гэтай краіне, як не гуляць? Пятніца ж... І колькі сярод гэтых гульцоў былых і будучых кліентаў ЛПП і турмаў? Колькі хворых на СНІД і наркаманаў?.. І колькі іх яшчэ трэба, каб яны нарэшце перасталі гуляць?"

Максім купіў пару пончыкаў з павідлам і паўлітровую шкляную пляшку малака, развітаўся, выйшаў з крамы. І зноў накінуўся на яго ўвесь гул і гам цэнтра немалога горада: музыка і смех, віск і рогат шчаслівых сваёй кароткай пятнічнай радасцю людзей. Горад гуляў... Смех і рогат нарасталі з кожным крокам Максіма, запаўнялі сабою ўсё наваколле, усю прастору ад зямлі да неба. "Га-га-га-га!" – рагаталі сосны і дамы, "Га-га-га-га!" – рагатаў гатэль, "Га-га-га-га!" – рагатаў ЛПП, "Га-га-га-га!" – рагатаў горад, "Га-га-га-га!" – смяялася, аж заходзілася смехам вячаровае сонца, развітваючыся з зямлёй... "Га-га-га-га!" – рагатаў начальнік ЛПП, "Га-га-га-га!" – рагатаў "інтэлігентны", "Га-га-га-га!" – рагатала прадаўшчыца, "Га-га-га-га!" – рагатала, аж залівалалася слязьмі ад смеху, бледнатварая афіцыянтка...

Максіму таксама захацелася зарагатаць на ўвесь гэты горад, на ўсю гэтую краіну, на ўвесь гэты свет і ўзляцець, зляцець адсюль, растварыцца, растаць, знікнуць у небе, у космасе. У сусвеце...

*P.S.* Пасля выхаду артыкула ў Максімавай газеце Вярхоўны Савет на сваім пасяджэнні разгледзеў становішча спраў у ЛПП. У рэшце рэшт было прынята рашэнне аб адмене ў Беларусі прымусовага лячэння алкаголікаў. Але забараніць – не значыць пазбавіцца праблемы. І праз некалькі гадоў, па прапанове першага прэзідэнта краіны, ЛПП былі адноўленыя. Праўда, гарбачоўскі "сухі закон" кануў у Лету нашмат раней, як і абяцаны Хрушчовым камунізм...

*1995 г.*

Валеры Дубоўскі



...Чалавек –
такая істота:
ці звону ўнікае,
ці сам –
уніклівы звон...

# Чоў

### *ГРЭХ*

Палонны смех –
балючы роўня плачу.
І выбіраю лепшую з пацех –
вясёласць волі
як мілейшы грэх.
Душы інакасць
я не перайначу.

*29.01.2020*

### *ДАЎГІ*

І прыляцелі словы,
селі пазастоллю.
Задзіры думкі –
сёння думкі-задругі.

Маўчаць ці гаварыць?..
Прыстойна, непрыстойна?..
Я напазычыў слоў.
А ці раздаў даўгі?..

*30.10.2020*

## АБЕЛАРУШУ

Да цябе,
да роднай Беларусі,
укленчваю ў волі, у спакусе.
Мушу, мушу я сказаць,
што мушу:
праз любоў цябе абеларушу.

*25.10.2020*

## ВЕДА

Спытаў у аднакрэўца, аднаверца:
А слова-човен
у парыве чову*
да берага праўдзівага прыб'ецца?
З якою верай будзе заручона?

Да скроні сівай
ён далонь прыклаўшы,
вядзьмак,
падсілкаваны ведай продкаў,
амаль вачыма
мовіў так ціхотка:
– А беражкоў тых два,
і левы й правы – нашы.

*01.11.2020*

**Чоў* (старабел.) – здольнасць адчуваць

## ЛЕЦІШЧА. ПЕРАД ЗАЛЕВАЙ

Дыхаецца няроўна...
Неба завалакло...
Ні здзеклівых мабільнікаў,
Ні дамафонаў.
У адчыненае ветрам
Негарадское вакно
Зазірнула вітальная мудрасць –
Суседка варона...

*13.08.2016, 07.12.2020*

## *КЛЮЧЫ*

Дзёрзкі настрой нашапчы,
Завіруха,
Завея-шаптуха.
Пад снегам,
Ухаладзелы, шукаю ключы...
Басовы... Скрыпічны...
Паслухай!

Паслухай. І памаўчы.
Я хлушу табе, старая.
Я не тыя шукаю ключы.
Не для нот–
Для душы і для краю.

Вобмацкам,
Сам не сляпы, не глухі,
Маўчаннем, спакоем
Не ўпатолены,
Шукаю,
Спатыкаюся аб нізы і вярхі
Доляй сваёй
І чужымі нядолямі.

Каб не спатыкнуцца
Болей на гэтай сцязе,
Тых не зракацца,
Спатыкаўся з кім незнарок,
Абуджаны самасцю,
Каб не ўмаразеў –
Засвоіў тутсамасці
Вольны урок.
......................

Пад снегам,
Ухаладзелы,
Шукаю ключы...
Завіруха-шаптуха,
Дзёрзкі настрой нашапчы.

*24.12.2020*

* * *

Чутно...
Наваколле і я ў ім.

Відно...

Пазакрайнія далі.
Развеяны дым.

Глухне...
Пытанне даўно адкарцела.

Тухне...
Святла не бачна на белым.

Рухне...
Думцы – застацца.
Супакоіцца – целу.

*28.12.2020*

## БОЙСЯ БАЯЦЦА

Калі слова –
ні ў дым, ні ў ваду,
калі крок да святла –
праз бяду,
чалавеча,
сабой узрастай з сябе.
Бойся баяцца
у барацьбе.

*27.12.2020*

## І ЎСЁ ТАКОЕ...

Спявай, дарога!
Ты чыя трывога?
А без трывогі й скрыпка
Не іграе.
Мелодыя душы
Нібы на краі
Бяздоння й нематы
Ў часіне строгай.

А па трывозе –
Неспакой экстазу,
Не ярасці агмень –
Запал спакою.
Ты не адзін –
Цябе, падобна, двое.
І ўсё такое...
Што твой дух падказваў.

*27.12.2020*

### ТАМ

Там, дзе людства,
Там і нелюдзь.
Там усе
На ўсё гатовы.
І далей
снягі бялеюць.
І чарней
ад бруду словы.

Ад крыві
цяжэй зямліцы.
Ёй трываць
Сляды і душы.
Час праз нас
Узнік і рушыў.
І спіральна так
змяіцца...

*21.02.2021*

* * *

Сонца ўспомнілі –
спромнілі.

*22.02.2021*

### КАБ

Не звузіцца вуліца
Крокаў тваіх апасля.
З пахаджанінам іншым
Змілуецца,
Які б ты н*і* быў мысляр.

І дзеўчыны іншыя,
Мадэлі іншых машын,
Аблокі,
Не меней пышныя,
Іншых прывецяць мужчын.

Ад часу адстаў
Ці ў дзёрзкасці апярэдзіў –
Усё-ткі свой голас і след
Пакінь.
Каб на вуліцы нейкай,

Пад аблокамі недзе
Жанчыны аднойчы спыталі:
– Звоняць па кім?

*30.12.2020*

## *СНЕГАПАД*

*Жонцы Аленцы*

Помніцца той снегапад...
І снегу, і смеху – даўпаду.
Ад снегу эмоцый – даверху і ад
Смеху – любові ўсяўладнай.

Сэрцам – горача невыносна.
Снегу – зябка, халоднаму братцу.
Не кропкаю – плыўнаю коскай
Снегападу
Між намі
Застацца...

*30.10.2020, 15.03.2021*

* * *

Шляхі...
Пуці...
Прасторы...
Сляды ад ступакоў...

І час іх агісторвае –
За рух і неспакой.

*07.12.2020*

* * *

Да веры –
як да няблізкага дрэўца:
сіла ў даверы
дайсці бярэцца.

*28.10.2020*

* * *

Маўчанне –
гучанне душы.
Слова –
працяг маўчання.

*17.11.2020*

### *НА РАГУ*

Той хмарай
месяца зламаны рог.
Ён давідна
бліскучасцю адновіцца.
Ад хмараў
хто б мяне перасцярог!
Маўчыць маўчком
сусветная ваколіца.

Сусвет,
цябе не перасцерагу
і я. Адно –
крылом аб хмары біцца.
Што на нябёсным,
што – зямным рагу...

Душа і пыл...
І слова...
Звон...
Званіца...

*23.07.2020, 08.12.2020*

* * *

Бяжы праз цямрэчу.
Болей ці меней
Цягні ў валадарстве
Свой куль.
Толькі ведай: не развіднее,
Пакуль
Зусім не сцямнее.

*08.12.2020*

* * *

Жывіцьма ў радасці. Ды з надзеяй.
Кожны вечнасцю засцеражон.
Пад нябёсамі
Не змаладзееш.
І не састарышся пад крыжом.

*18.12.2020*

### *НА ВУЛІЦЫ ЗЫБІЦКАЙ*

Вясёлым пітвом
каб разбавіць самоту –

у тусоўку (не ў Свіслач)
нырнуць і ўглыбіцца.
І вынырнуць чаіцай белай,
і лётаць.
І ўсё тут мажліва.
Ці стане ахвоты?..
............................
Так зыбка й нязябка
на вуліцы Зыбіцкай...

*30.10.2020*

* * *

Заўтра –
яшчэ няма.

Учора –
ужо няма.

Сёння –
праз мяне працякае.

*08.02.2021*

## *НАШАЕ МУДРАСЛОЎЕ*

Шукай – знойдзеш.
Грукай – адчыняць.
Прасі – дадуць.
Рабі – аддзячуць.
Спявай – падпяюць.

*03.04.2021*

* * *

Ад любасных усмешак
лёс залежаў.
У сподзеве тутсамасці
не прэч ісці –
крыляць
ад беспачатку – у бяззмежжа.
Сустрэцца каб з сабой
на ўзроўні вечнасці.

*12.01.2021*

* * *

Незабыўнае
не аддаляецца.

Нязбыўнае –
воблачка памяці.

Час
працякае ракою.

Ад сподзеву
да неспакою.

*20.02.2021*

## *У ПЕРАКЛАДЗЕ*

Пад яблынькай бацькавай,
у вечным садзе
думкі светлыя, не ліхія,
прыходзяць, *лю*дскія,
у перакладзе
Боскім.

Прад небам я –
з галавою пахіленай.

*16.02.2021*

## *ПАДВЫШЭННЕ*

Новы дзень патушыў.
Быў ён заўтрашнім –
стаўся часовым.
Нібы сон,
паскарэнне душы,
падвышэнне
накрэсленых словаў.

*03.03.2021*

* * *

З неспакою
нараджаецца спакой.
Так душа
спрабуе запыніцца.

*04.03.2021*

* * *

Сцяга жыццёвая –
яна няўмысная,
са сцежак вынікне –
як *лёса вынесла**

*15.03.2021*

**Лёса вынесла* (старабел.) – дасталася па жэрабю.

* * *

Мне б прагнасці тваёй, зямля:
ты прагнеш ураджаю.
Цяпер – як некалі.
Уперад – як ніколі.
Злучаю “до” і „ля” –
гучыць, спявае доля.
Так долі іншыя
спакменна* спараджаю.

Сам – у сярэдзіне.
сям’я–каля.

*02.05.2021*

**Спакменна* – прадметна.

* * *

Час каторы –
не ведае Бог.

Ды – насупроць – запытаю,
каб вызнаць у Бога:

– Збыцца ў самасці, ў часе
без радзіны б
ці змог?
..................................

Гадзіны збягаюць.
Часу бясконца многа.

*02.05.2021*

* * *

Месяц напоўніўся, запанеў
Паплыла па нябёсах
Поўня.

*02.05.2021*

## *ВЯДНО**

Бяздоннем бяздум'я
прыцемнена наша прастора.
Брук да нябёсаў –
яго амаль не відно.
Схацецца з жыццём
не хапае ў часе гісторый.
Праз няведанне,
як і праз веду,
урокам – вядно.

*10.05.2021*

**Вядно* (старабел.) – пякельная дарога.

## *ТАКАЯ ІСТОТА*

Ляцець –
дык лётма,
лятункам сваім
наўздагон.

Чалавек –
такая істота:
ці звону ўнікае,
ці сам –
уніклівы звон.

*16.05.2021*

## *МЕЛОДЫЯ*

*А.*

Гукну–ты адгукніся!
Прыслухаўся–
водгуку не чутно...
Толькі апалае лісце
маўкліва кладзецца
на палатно.

Лесу – шумлівы вясёлы гуль.
Ды прабіваецца
мелодыя Шнітке.
Гульма прыродзе, пакуль
журба не пакрые
наміткай...

*12.05.2021*

## *НІПРОШТА?**

Быў на сцязе–
ніпрошта?
Аднойчы здараюцца,
аднакроць–
твае непаўторныя
дух і плоць.
А час –
у нікуды пошта.

*26.05.2021*

**Ніпрошта* – як быццам не.

## *НАРАТЫЎ*

У Свіслачы
штодня сплывае
і смех, і грэх мой,
і дажджоў матыў.
І сіла волі,
слабасць немалая.
І выклік.
І маўчання сон прытым...

Распазнаю
нераспазнаны наратыў.

*11.07.2021*

## *ЛЕЦІШЧА. У ЧАКАННІ ГРОМУ*

Нехта чуллівы–
над маёй патыліцай.
Матуля?
Пяшчотная яе рука?
Азіраюся–
пазнаю сваяка:
Бог
прывітальна хіліцца.

Ва ўсім небе–
нікога, Яго акрамя.
І словы,
куды вокам ні кінь,
накрэслены:
продкі і ўсе землякі,
кожнага з іх
імя.

*14.07.2021*

## *РЭШТА*

Скарачаюся вольна ў часе.
У думках–няспынна даўжэю...
На дарожцы жыццёвай
Чаго толькі ні набраўся.
Руплюся–
Нашчадкаў адорваю жменяй.

Ад некага некалі
Напазычана трошкі нешта.
Духу і волі–
Не скарбаў якіх на гарышчы.
З наступнікаў нехта
Каб выпадкам тое не знішчыў,
Сабе – да сяўбы –
Пакінута пэўная рэшта.

*17.07.2021*

* * *

Адзінота.
Сольная гісторыя
чалавека натоўпу.

*19.07.2021*

* * *

У весялосці–дзве мілосці:
мінулы смех
ці рэха плачу.

*19.07.2021*

* * *

Не разумею.
Наўпрост адчуваю.

*19.07.2021*

* * *

Як маеш дух,
то пэўна ёсць душа.

*27.07.2021*

## *НА СМЕРЦЬ АЛЕСЯ РАЗАНАВА*

### *Маскі*

Свет пражывае цябе
па-твойму.
Тварнасць тваю
не сцерці.
Ды ў часу
няма ўтойму –
маска жыцця
перакінецца маскай смерці.

### *Безумоўна. Магчыма*

З апошнім выдыхам
памрэ апошні ўздых.

І ў незваротным,
у бясконцым сне

Ты, безумоўна,
забываеш пра ўсіх,

Цябе, магчыма,
забываюць не ўсе.

*27.08.2021*

## *СТУПАК ІДЗЕ*

Не разгадаўшы
лінію дарог,
ідзе, ідзе, ідзе
ступак па долу.
Ёсць доля,
што адольвае нядолю,–
запалены
ланцуг трывог.

*30.08.2021*

## *ГАЛАСНЕЙ*

Мой смех галасней,
чым боль.
Дыез мой
святкуе.
Плача – бемоль...

*17.09.2021*

Адам Глобус



…Знайсці сваё месца ў жыцці?

Як гэта бывае цяжка…

# Як той казаў, або Твары прыказак…

## Дзед Бронік і «Пакуль…»

Для мяне прымаўка толькі тады прымаўка, калі яна мае жывы голас блізкага чалавека... «Пакуль жаніцца – загаіцца», – казаў дзед Бронік пра мае пабітыя локці і калені. Запомнілася дзедава «загаіцца» добра, бо звязана яно з дарогай.

Мы чакалі асфальт на сваёй вуліцы. Чакалі, пакуль яго пакладуць ад царквы да другой школы, ад школы да старых могілак, ад старых да новых могілак і ажно да льнозавода. Атрымаўшы заасфальтав аную вуліцу, мы на яе перанеслі ўсе свае вечаровыя гульні. Там мы гулялі ў бадмінтон, у штандар і выбівалы, ловячы каштоўныя запаскі. Там я і пазбіваў сабе калені і локці. Баба Ядзя замазвала мае драпіны тапалёўкай – гарэлачнай настойкай на таполевых пупышках. Густая і цёмная, як ёд, тапалёўка паліла мяне пякельным агнём. Баба Ядзя дзьмула на раны, а дзед Бронік казаў: «Пакуль жаніцца – загаіцца». Мне тады здавалася, што ад дзедавых слоў, як і ад бабінай тапалёўкі, раны сапраўды загойваліся хутчэй.

### Кучмель і «Памагай...»

Карэктарка Наталля Кучмель развітваецца і кажа: «Памагай Бог!» Мне адразу згадваецца: «Казаў Бог, каб ты дапамог!» Толькі я не агучваю спадарыні Кучмель сваю згадку. Яна ж карэктарка, а таму глядзіць на ўсіх паэтаў і літаратараў як на нявычытаныя і непрычасаныя тэксты. Усе пісарчукі для Наталлі – істоты, вартыя жалю, якім патрабуецца неадкладная дапамога, каб стаць больш-менш пісьменнымі. Таму на яе «Памагай Бог!» я адно ўсміхаюся – добразычліва і ветліва.

### Толік і «Любіш...»

З Толікам Кісялём я хадзіў катацца на санках у Вараксавай яме. Была на нашай местачковай вуліцы здаравенная яміна, з якой людзі бралі пясок на будоўлю. Цяпер яе засыпалі, а ў часы нашага з Толікам школьніцтва ў ёй койданаўскім дзецям добра каталася на санках і на лыжах. Мы ляцелі з гары ў яму з крыкамі і рогатам. Каталіся да поўнага бяссілля. А потым вярталіся дамоў, ледзь перастаўляючы ногі. Мы сунуліся па коўзкай дарозе, і я чуў ад Толіка Кісяля: «Любіш катацца – любі і саначкі вазіць...» Толік паўтараў і паўтараў гэтую прыказку, а я думаў пра тое, што з саначкамі – зразумела, яны ж лёгенькія, ды вось у нас з ім не саначкі, а страшэнна цяжкія санкі. Яны не з алюмінію і рэечак зроблены, а з жалеза і тоўстых дошак. Такія санкі цягнуць з яміны на гару – адна пакута.

### Маці і «Лайдак...»

Бацька і маці любілі сваё лецішча, сваю дачу, сваю фазэнду... Як яны яе толькі не называлі: і Лысая гара, і Зялёнае, і Валоўшчына. У сакавіку бацькі пачыналі збірацца на лецішча, дзе маглі сядзець ажно да кастрычніцкіх халадоў. Снег не паспяваў сысці, а яны ўжо ехалі прыбіраць сад пасля зімы. Вядома, і мяне клікалі, запрашалі, угаворвалі. Здаралася, што я даваў слабіну і ехаў з імі капаць агарод. Капаў, а потым чуў ад маці: «Лайдак за работу – мазоль на руку».

Ніякіх мазалёў я ў гародзе не націраў, бо ніколі не хадзіў у лайдаках. Чаму маці трэба было так жартаваць? Мусіць, з-за таго, што я не вельмі любіў Лысую гару, на якой таўклося шмат розных графаманаў і літаратурных пасрэднасцяў. З імі трэба было вітацца, выслухоўваць іх развагі і парады, трэба было ім па-суседску ветліва ўсміхацца. Усё гэта не для мяне. Карацей, я перастаў ездзіць на любімую бацькамі Лысую гару. Апошняй кропелькай у маіх стасунках з сямейнай фазэндай стала якраз класічная беларуская прымаўка, сказаная маці: «Лайдак за работу – мазоль на руку».

### Коля і «Першая...»

У інстытуце мы шмат выпівалі. Здачу кожнага іспыта адзначалі выпіўкай. Атрыманне стыпендыі таксама не абыходзілася без застолля. Пра дні народзінаў і афіцыйныя святы я ўжо і не кажу. Самым актыўным арганізатарам застолляў у нашай невялічкай – сем чалавек – групе лічыўся Коля Крукаў. Пэўна, з-за таго, што ён адзіны сярод нас, хто хоць крышку граў на гітары.

Самым папулярным напоем лічыўся вермут за рубель і дваццаць дзве капейкі. Мацаванае віно пілося са шклянак. Налівалася зазвычай паўшклянкі на чалавека. Пасля таго, як прагучаў першы тост, і перад тым, як выпіць, Коля хутка прагаворваў прыказку: «Першая – калом, другая – сакалом, астатнія – дробнымі пташкамі». Прыказка гэткая больш падыходзіла да чарак з гарэлкай, але нам здавалася, што яна і самаму таннаму вермуту дадае якасці і нават павялічвае яго градус. Акрамя прыказкі з «калом» Коля яшчэ любіў казаць: «Талент не прап'еш!» Ён прыгаворваў так, а нам хацелася ў гэта верыць. І мы нават верылі, а сёй-той і зараз – праз сорак гадоў – верыць.

## Толік і «Бог...»

Па Толіку яшчэ ў дзяцінстве можна было заўважыць, што ён чалавек рэлігійны. Яму тая глыбокая рэлігійнасць ад бабы Мані перадалася. Менавіта ад Толіка я ўвесь час чуў: «Бог не цяля і бачыць круцяля!» Дзякуючы Толіку, я зразумеў, што свет напоўнены празнымі хлусамі і падманшчыкамі, ілгунамі і круцялямі.

Запомнілася мне і Толікава прыказка пра няроўнасць... Пад рамбазай у нашым мястэчку стаяла Захарава балота – Захар'яш. У ім койданаўскія бабы мылі анучы, а малыя дзеці лавілі карасікаў. У спякотнае лета Захар'яш моцна высыхаў. Вады ў ім заставалася сантыметраў на дваццаць-трыццаць, а пад ёй было дзе паўметра, а дзе і цэлы метр мулі – рэдкай гразюкі. У той мулі мы і лавілі рукамі карасёў. Збольшага траплялiся маленькія, але мне пашанцавала – і я выцягнуў з балота і выкінуў на траву тоўстага карася. Казалі, што ён быў памерам з лапаць. Так яно і было. Толік тады сказаў: «Бог не роўна дзеліць!»

У рыбалцы ён быў спецыялістам. Толік заўсёды вылоўліваў удвая-ўтрая больш за мяне. Вядома, старэйшы. У перасохлым Захар'яшы тады мне проста моцна пашанцавала з карасём, бо Бог і сапраўды дзеліць не роўна. Ззянне лускі таго вялікага карася запомнілася мне на ўсё жыццё. Без усялякага блюзнерства скажу, што нешта боскае мне пабачылася ў тым ззянні, менавіта боскае, бо ў той момант я і пачуў ад Толіка: «Бог... не роўна дзеліць!»

## Салалайка і «Блізка локаць...»

Шмат разоў я чуў у дзяцінстве ад маці: «Будзеш локці сабе кусаць!» Маўляў, ты яшчэ пра нешта моцна пашкадуеш, цябе адчай ахопіць ад таго, што ўпусціў шанс і не злавіў сваё блізкае шчасце. Чуў я гэта часцей не ў дачыненні да сябе, а да іншых. І нейкі час кусанне локцяў мне ўяўлялася літаральна: я думаў, што чалавек ад злосці на сябе можа хапануць зубамі свой локаць. Таму пачутае ў дзіцячым садку ад Алега Салалайкі «Блізка локаць, ды не ўкусіш!» я вырашыў найперш праверыць на сабе.

Паспрабаваў я дастаць зубамі свой локаць і не змог. Падумалася, што гэта я такі нягнуткі. Тады я папрасіў Салалайку ўкусіць ці хоць бы лізнуць уласны локаць. У яго таксама не атрымалася «локці сабе кусаць». Тады мы паўгаворвалі сваіх аднагрупнікаў паспрабаваць дастаць языком да локця. Ніхто не змог. За тымі спробамі нас заспела выхавацелька.

Увечары яна расказала маці, што я ўгаворваў дзяцей кусаць сябе за

локці. Яны з мяне смяяліся, а мне было крыўдна да слёз, і я ледзь стрымаўся, каб іх не пакусаць.

## Сідарэвіч і «Воўк...»

Згадваючы залаты век у часопісе «Крыніца», варта сказаць, што самым баявым, паслядоўным і прынцыповым змагаром за дэмакратычныя каштоўнасці быў тады Анатоль Сідарэвіч. Ён не баяўся крытыкаваць савецкую змаразмелую і спарахнелую эліту, якая займалася адно дзяльбою прэмій, званняў і ўзнагарод. Сярод аб'ектаў крытыкі Сідарэвіча былі і слупы тагачасных літпрацэсаў накшталт Шамякіна ды Навуменкі. Каб пад'юдзіць Анатоля, некаторыя супрацоўнікі рэдакцыі казалі, што яго крытыка правінцыйная і не вельмі вострая, а спіс раскрытыкаваных слупоў белліту варта пашырыць ну хаця б за кошт Гілевіча. Пад'юджванні Сідарэвіч звычайна сустракаў смехам і прымаўкай: «Воўк сабак не баіцца, але звягі не любіць!» З тых часоў яна для мяне назаўсёды з'ядналася з вобразам баявога Анатоля Сідарэвіча, які і сапраўды не любіць звягі.

## Антон і «дурань»

У мястэчку Койданава ўсе дзеці праходзілі тэст на разумнасць. Мяне гэтаму тэсту навучыў хросны бацька Антон. Ён сказаў мне: «Пакажы дурню палец – ён і засмяецца!» Антон не проста сказаў гэта, ён яшчэ ўзняў кулак з выцягнутым угару ўказальным пальцам. Кулак хроснага бацькі быў важкі, а палец тоўсты. Нічога смешнага ні ў пальцы, ні ў кулаку я не пабачыў, таму і не засмяяўся.

Сам я лёгка прайшоў тэст на разумнасць, але шмат хто з маіх аднагодкаў, з якімі я гуляў на койданаўскіх вуліцах, смяяліся з пальца. Не скажу, што ўсіх, хто смяяўся з пальца, мы лічылі дурнямі. Не! Толькі і разумнымі мы іх таксама не называлі.

Гісторыю з пальцам я расказаў у вёсцы Пруднікі маладым мастакам – Івану і Паўлу. Яны не паверылі ў магутнасць простага беларускага тэста. Давялося мне ім даказваць гэта. Якраз тады кухарка Галя варыла нам суп. «Галя, давай я пакажу табе палец, а ты з яго пасмяешся», – сказаў я і ўзняў указальны палец. «Самі вы дурні! Самі!!!» – заўсміхалася Галя і, не стрымаўшыся, гучна засмяялася.

Пасля гэтага Павел і Іван прайшліся па вёсцы Пруднікі, паказваючы дзецям пальцы, і пераканаліся ў тым, што тэст спрацоўвае не толькі на Галі і што, як гавораць у народзе, дурань і з пальца смяецца.

## Капытаенка і «Вырас...»

З Таняй Капытаенка ўвесь свой пяты клас я прасядзеў за адной партай. Нас пасадзілі за другую парту, калі браць ад настаўніцкага стала. Сядзелі мы так блізка да класнай дошкі, бо росту ў нас было зусім мала. Тады пра такіх, як мы, казалі «метр з кепкай». З-за сваёй маларосласці я хадзіў у розныя спартыўныя секцыі, дзе вучыўся біцца.

Выдатніца Таня ў высокіх аднакласніках бачыла дурняў. Яе любімая прымаўка была: «Вырас да неба, а дурань як трэба». У Таніных «дур-

нях» пахадзілі і высокі Дрожын, і высокі Астахаў, і высокія Шкода з Чысляком. Хлопцам не падабалася хадзіць у Таніных «дурнях», і яны прыдумалі называць дзяўчынку не Капытаенка, а Капыта. Бог ты мой, як жа яна не любіла сваё пераламанае напалам прозвішча Капыта-енка! Ужо нават у пятым класе яна мне казала, што пасля вяселля абавязкова возьме прозвішча мужа.

### Маці і «Старасць...»

Ад каго я толькі не чуў гэтае просценькае «Старасць не радасць»! Чытаў нават у фальклартыста Яўгена Рапановіча: «Старасць не радасць, а поп не сябар». Не кранала, не хвалявала, не ўражвала, пакуль аднойчы не пачуў гэтую прыказку ад маці. Яна сядзела ў вітальні на зэдліку і чакала мяне. Калі я прыйшоў, яна паспрабавала ўстаць, а яе хістанула і павяло. Добра, што паспела прыхінуцца да сцяны. Тады маці цяжка ўздыхнула і сказала народнае: «Старасць не радасць». У яе інтанацыі пачулася незваротнасць, а слабы голас казаў пра яе хуткі сыход. Пабачыўшы мой спалох, маці ўсміхнулася і сказала, што румынскі дэтэктыў, які я ёй прынёс пачытаць, зусім кепскі.

### Харэўскі і «Цішэй...»

Ёсць людзі, якім не толькі падабаюцца прымаўкі і прыказкі, а яшчэ і вельмі пасуюць. Са старэйшых мне адразу прыгадваецца Фёдар Янкоўскі, а з маладзейшых – Сяргей Харэўскі. Ён табе кажа: «Цішэй едзеш – далей будзеш». І ты яму верыш, бо народная мудрасць у выканні Харэўскага набывае патрэбную пераканаўчасць. Шмат хто, паўтараючы чужыя прымаўкі, іх псуе, бо паўтарае не ў тым месцы, не з той інтанацыяй і словы блытае. У Сяргея Харэўскага ўсё інакш. Калі яго ласкава папрасіць прачытаць пару-тройку прыказак пра цыбулю – накшталт такіх: «Цыбуляй нарадзіўся, цыбуляй і памрэш», «Хто цыбулі не еў, той і не смярдзіць», «Цыбуля, гарчыца і хрэн слёзкі будзяць», – дык ты не толькі пачуеш пякучы водар дробна парэзанай цыбуліны, але і нават адчуеш, як з твайго вока выкаціцца на шчаку пацерка слязы.

Ну, а найлепшая прымаўка ад Сяргея Харэўскага заўсёды была такая: «Дзе нарадзіўся, там і згадзіўся».

### Алена і «...у князі»

Не тое каб мяне моцна чапляла чужая шляхетнасць, і ўсё ж некалькі думак на гэты конт варта запісаць... Мне смешна робіцца, калі нейкі надзьмуты хабёл выдае сябе за арыстакрата. Зірнеш на такога – свінчо мурзатае, а лезе наўпрост на Алімп.

Пра тое, што мая баба Ядзя шляхцянка, я ведаў з дзяцінства. Прозвішча майго прадзеда Яна Леапольдавіча – Александровіч – можна лёгка знайсці ў розных спісах тутэйшай шляхты. Прозвішча маёй другой бабы, Броні, – Шайбак, яно наогул ханскае. Толькі ў нашай сям'і ніхто не дзяліў людзей на паноў і мужыкоў. Наадварот, усе паважалі і – што важна – любілі сялянскую працу, зрэшты, і праца ў кузні ды сталярнай майстэрні былі

таксама нашымі сямейнымі справамі. Мусіць, таму жончына прымаўка «З гразі – у князі!» мяне першы час крыху бянтэжыла.

Жонка вельмі ганарыцца прозвішчам маці – Бабіцкая. Роду Бабіцкіх, калі верыць розным дакументам, можна налічыць ажно дзевяцьсот гадоў. Цікава тое, што родная сястра маёй бабы Ядзі, Ніна Александровіч, выйшла замуж якраз за спадара Бабіцкага. Так што не памылімся, сказаўшы, што Беларусь – невялікае мястэчка, але наша мястэчка мае і свой замак. Таму ўслед за жонкай Аленай зрэдку і я, паглядзеўшы на якога пыхлівага дурылу, магу паўтарыць: «З гразі – у князі».

## Дзед Бронік і «Жывот...»

У дзяцінстве я не любіў есці. Сядзеў, звесіўшы галаву над талеркай, і пакутаваў ад думкі, што ўсю гэтую манную кашу трэба неяк засунуць у рот і праглынуць. Баба Ядзя часта даручала дзеду Броніку мяне накарміць. Бронік страшыў: «Жывот да спіны прысохне, калі не паясі. Так прысохне, што не аддзяром!» Дзед жартаваў – і пад яго жарты я паціху даядаў астылую манку.

У дзеда Броніка быў яшчэ адзін любімы застольны жарт. Калі мы сядалі вячэраць, а баба Ядзя стаўляла на стол талеркі з супам, дзед Бронік казаў: «Ядзя, накрывай стол хутчэй, бо кішкі марш іграюць!» Мо для некага дзедава «кішкі марш іграюць» і гучала звычайнай прыказкай, але не для мяне. Бо я шмат разоў чуў гісторыю пра тое, як нашага дзеда Броніка параніла разрыўной куляй у жывот і як ён тры месяцы праляжаў на спіне ў далёкім Тамбове. Бронік выжыў, але ўсё астатняе жыццё ў яго балела і бурчэла незадаволенае нутро.

## Маці і «Будзеце...»

Даўно не п'ю. Ні гарэлкі, ні піва. Нават кефір выкінуты з майго спажывецкага кошыка. Звычайна ў людзей, якія завязваюць з выпіўкай і курэннем, з'яўляецца грэблівае стаўленне да курцоў і п'яніц. Маё ж стаўленне да іх мала змянілася, яны зрабіліся хіба што менш цікавымі для мяне. Яно і зразумела.

На маё рашэнне кінуць выпіваць паўплывалі шмат якія рэчы, адна з іх – папрокі маці. Калі аднойчы мы з братам, ужо нападпітку, сыходзілі з бацькоўскай кватэры і я сказаў, што па дарозе дамоў яшчэ зайду ў які бар, дык пачуў ад маці: «Сыны, калі будзеце браць чужыя гарады, моцна не напівайцеся!» Пажаданне прагучала нібыта жарт, нібыта і вясёла, але за гэтай штучнай весялосцю чуліся і матчын неспакой, і нават боль.

Дваццаць гадоў я не п'ю, сем гадоў няма з намі маці, а я ўсё яшчэ добра чую яе: «Будзеце... не напівайцеся»...

## Маці і «Нападрост...»

Маці прывучала мяне старанна збірацца ў школу. Жнівень – месяц збірання, назапашвання, месяц, у якім усё купляецца «нападрост». Школьная форма, чаравікі, спартыўны строй браліся так, каб можна было ў іх год прахадзіць, нават калі за яго добра падрасцеш. Гэтае «купляем напад-

рост» маці ўзяла ад бабы Ядзі – выдатнай швачкі, якая для сваіх дзяцей і ўнукаў усё перашывала і шыла нападрост.

Аднойчы маці, пабачыўшы, што я, пяцікласнік, прынёс з крамы кнігу Талстога, спытала ў мяне: «Нападрост купіў кнігу?» Тады нам стала вельмі смешна ад гэткай кнігі нападрост, але пазней я зразумеў, што большасць кніг купляецца менавіта нападрост. У бібліятэцы і ў сяброў кнігі бяруцца для хуткага прачытання з умовай абавязковага вяртання, а вось з крамы кнігі прыносяцца нападрост, яны прыносяцца ў прыватную бібліятэку, якая збіраецца нападрост.

У нашых з маці размовах гэтае «нападрост» прыжылося. Шмат што ў жыцці я рабіў і ўсё яшчэ раблю нападрост. Дзе тата казаў традыцыйнае і сур'ёзнае: «Паміраць збірайся, а жыта сей», – мы з маці стараліся паставіць паўжартаўлівае: «нападрост зрабіў». Ці нават не зусім літаратурнае: «навырост».

## Маці і «Чорцік...»

Збіраешся выходзіць з дому, а ключоў няма. Ты і на палічках паглядзеў, ты і кішэні абмацаў, і змесціва заплечніка на падлогу вытрас, а ключоў няма. Дзе яны падзеліся? Шукаеш, шукаеш, шукаеш, узмакрэеш увесь, бо пачынаеш спазняцца, а з-за гэтага пачынаеш хвалявацца, а з-за хвалявання па тры разы правяраеш кішэні, у якіх ключоў няма... Што рабіць?

У такія моманты мне згадваецца парада маці... Трэба сесці на крэсла, палічыць да адзінаццаці, супакоіцца і прашаптаць: «Чорцік... Чорцік, пагуляўся – і аддай». Расплюшчваеш вочы і згадваеш, дзе апошні раз бачыў ключы... Успамінаеш, што ўчора на вуліцы ліло і было халодна, ты хадзіў у зялёнай куртцы, а сёння пацяплела, ты надзеў памяранцавую, а ключы, далібог, засталіся ў зялёнай. Так і ёсць. Ключы знайшліся, а можна сказаць, што іх вярнуў табе чорцік. Дарэчы, ён вяртае не толькі ключы, чорцік можа шмат што са згубленага вярнуць. Я правяраў, і маці мая Ніна Глобус правярала.

## Шурык і «Ні Богу свечка...»

Ад дзеда Ваці ў сям'і Кісялёў засталася сталярная майстэрня. Бог мой, як мне падабаліся ўсе гэтыя фуганкі і гэблікі, рэйсмусы і стамескі, варштаты і ціскі! Кісялі былі найбліжэйшымі сваякамі нашай сям'і, а таму мне разам з Толікам Кісялём, унукам нябожчыка Ваці, дазвалялася рабіць сабе цацкі ў той сцішанай майстэрні, дзе на сценах віселі хамуты і загатоўкі для іх. Мы з Толікам выпільвалі і выстругвалі з дошак цацачныя стрэльбы і аўтаматы. Драўляная зброя атрымлівалася ў нас кепска, пра яе наш сваяк Шурык Мілько казаў: «Ні Богу свечка, ні чорту качарга... Абы-што». Мой тата пагаджаўся з Шурыкам і дадаваў крытыкі: «Рабілі цвік – зрабілі пшык». Тата абмяжоўваўся толькі крытыкай, а вось Шурык дапамагаў нам выпраўляць хібы і рабіў цацачным стрэльбам і аўтаматам прыстойны выгляд.

Згадваючы «качаргу» і «цвік», я думаю, што такія жорсткія прыказкі больш падыходзяць да кузні майго прадзеда Яна Александровіча, чым да сталярнай майстэрні яго найлепшага сябрука Ваці Кісяля.

## Баба Маня і «Абое...»

У лес па грыбы, на возера на рыбу я хадзіў з Толікам Кісялём. Ён быў на два гады старэйшы за мяне, больш вопытны, больш адказны. Таму, калі нешта здаралася, няхай сабе і звычайная затрымка з вяртаннем, мая баба Ядзя сварылася не на мяне – свайго Валодзю, а на Толіка – «на кураводку, які вядзе малога ў лес і забываецца, што з ім зусім малы хлопчык». Часам здаралася так, што мне нават забаранялася які дзень ці два гуляць з «кураводкай». Калі ж бабе Ядзе падавалася, што яна слаба насварылася на Толіка, дык яна ішла да яго бабы Мані і расказвала ёй пра «кураводку». У бабы Мані ўнук Толік хадзіў у любімчыках, таму яна адмахвалася ад Ядзі і казала як адразала: «Абое рабое!»

## Міхась Стральцоў і «Старычок-старычок...»

Паэт Міхась Стральцоў шматкроць паўтараў модную ў шасцідзясятых прымаўку-зварот «старычок-старычок». «Старычок-старычок, нам трэба з табою ў грыбы схадзіць... Я ведаю добрыя мясціны, тут недалёка, пад Мінскам... Старычок-старычок...» – «Як маешся, старычок-старычок?» – «Што новага напісалася, намалявалася, старычок-старычок?»

Такі зварот мяне нейкі час бянтэжыў, але я да яго прывык. Стральцоў без гэтага «старычка-старычка» мне цяпер нават не ўяўляецца. Падавалася, што прымаўкі-звароты «старычок-старычок» і «стары» сыдуць разам з пакаленнем маіх бацькоў, але так не атрымалася, бо ў дзевяностых з'явілася новая прымаўка, якую любіў Слава Ахроменка: «Стары ўжо вы – малады чалавек». Як што не атрымлівалася, зрывалася, камечылася, я чуў ад Ахроменкі: «Стары ўжо вы...» Праўда, «старычок-старычок» Стральцова заўсёды гучаў аптымістычна і арлекініста, а «стары» Ахроменкі атрымліваўся сумным, стомленым і мінорным, як П'еро.

## Алег Хадыка і «Кожны...»

Знайсці сваё месца ў жыцці? Як гэта бывае цяжка. Колькі маіх знаёмых прахадзілі пад залатым сонцам і срэбным месяцам шмат гадоў, а так і не знайшлі свайго кутка. Яны бадзяліся ў нейкім чужым, ненатуральным, прадуманым і спланаваным іншымі людзьмі жыцці.

У маладосці ў кожнага з нас шмат планаў і надзей. Я і там папрацую, я і сюды з'езджу, я і тут зраблю патрэбную справу. У мяне такіх праектаў мелася шмат, і я верыў у сваю дыяментавую зорку. Можа, таму мяне і працяла навылёт прыказка, пачутая ад настаўніка Алега Хадыкі: «Всяк сверчок знай свой шесток». Маўляў, не ўсё ў цябе атрымаецца, не такі ты здольны, як думаеш, не ўсё ты зможаш дастаць, што бачыць вока. Каб рана, нанесеная «шестком», не была такой балючай, я пераказаў параду настаўніка па-беларуску, атрымалася: «Ведай, каток, свой куток». На перакладзе я не спыніўся і старанна пачаў шукаць гэты «свой куток».

Мае пошукі праходзілі ў паўразбураным каталіцкім саборы. Чаму? Бо менавіта сабор увасабляе чалавечае разуменне космасу. Мне не знайшлося месца ў алтары, побач з Дзевай і яе немаўляткам; мне было халодна ў цэнтральным нэфе, дзе цяжарная Марыя сустракалася з цяжарнай Лізаветай; нават на цвінтары, дзе намаляваны жабрак выпрошваў хлеб у жанчын, я

не пачуваўся на сваім месцы. Нечакана для сябе я знайшоў сваё месца на хорах, дзе на фрэсках узвышаўся арган, а вялікакрылы анёл пачынаў граць на віяланчэлі.

Ведаючы сваё месца, свой «шесток», свой «куток», я стаў жыць адпаведна – трымаючыся як мага далей ад алтароў, амвонаў і цвінтароў.

## Дзед Бронік і «Як спаў…»

У мяне з дзедам Бронікам меліся чыста мужчынскія сакрэты. Пакуль баба Ядзя каляндарным лістком распальвала печ, мы з дзедам уставалі і засцілалі ложкі. Першае, што я чуў ад яго: «Як спаў, ці суха ўстаў?» Увечары менавіта дзед Бронік садзіў мяне на гаршчок, а раніцай, пасля засцілання ложкаў, мы з ім ішлі праз двор у сад, дзе за хлявом, пад яблыняй, якую ўсе называлі штрыфель, стаяла дашчаная прыбіральня. У ёй дзед Бронік і навучыў мяне сікаць стоячы. «Няма лепшай красаты, як пасікаць з высаты!» – казаў Бронік, калі я пускаў струмень у густую цемрадзь круглай адтуліны.

Звычайна пра такую навуку забываешся. Мо і я забыўся б, каб не гэтая мужчынская прымаўка з «лепшай красатой».

## Максім і «Прапаў…»

Зазвычай людзі не любяць жартоўных і абразлівых прымавак з уласнымі імёнамі. Сапраўды, якому гэта Уладзіміру можа спадабацца «Валодзя, свінні ў агародзе»? А які такі Федзя ўзрадуецца, пачуўшы «Федзя з’еў мядзведзя»? Ці нехта можа спадзявацца на тое, што вершык «Сяргей-верабей на катушцы сядзеў, усіх жабак паеў» ляжа на душу Сяргею? Такія прымаўкі і прыдумляліся, каб цвяліць і крыўдзіць каго-небудзь, такія вершы і складаліся, каб здзекавацца з кагосьці.

Праўда, я ведаю аднаго Максіма, які з’яўляецца выключэннем. Ён настолькі самаіранічны, што ў найцяжэйшыя хвіліны жыцця ўсміхаецца і кажа: «Прапаў Максім, ну і чорт з ім!» Калі змрок робіцца непралазным, калі пятля нястачы сціскае Максімаву шыю так, што ўдыхнуць-выдыхнуць ледзь атрымліваецца, тады можна пачуць ад яго і больш жорсткі варыянт прымаўкі: «Памёр Максім, ну і х... з ім!» Папытаўся я ў Максіма, чаму ён такое кажа, і пачуў: «Мне так лягчэй... Скажу прымаўку пра Максіма – і цяжар з душы падае, і чорная сіла мяне адпускае...»

## Маці і «Што праўда…»

Пішу пра мярзотныя паводзіны сучаснікаў і згадваю матчына «Што праўда, то не грэх». Яна досыць часта паўтарала гэтую справядлівую прыказку, седзячы за сваім працоўным сталом у бібліятэцы Дома літаратараў. Чытачы з захапленнем расказвалі ёй пра рознае прачытанае, пра стракатае жыццё-быццё, пра сакрэтнае, інтымнае, а часам і пра брыдкае. Расказвалі, а потым спахопліваліся: «Вой, Ніна Уладзіміраўна, што ж гэта я вам панарасказвала?.. Які сорам... Выбачайце, загаварылася і абы-чаго вам панапляла, ажно самой сорамна, ажно пачырванела...» Тады маці і казала мяккім і спакойным голасам: «Што праўда, то не грэх».

## Баба Броня і «Ён…»

Унукаў баба Броня дзяліла на тых, хто еў добра – Віця і Мірык, і тых, хто, як я, еў кепска. Так яна і сыноў дзяліла. Сава еў добра. «Калі нехта з'еў смятану, дык я ведала, што не Чэсік і не Ян, а Сава паласаваўся», – расказвала мне баба Броня. Я, Чэсік і Ян былі для яе занадта худымі, а таму і слабымі.

Больш за ўсё баба Броня перажывала за Яна, якога спісалі з флота. Ян служыў на кацеры, які падвозіў атамнай падводнай лодцы паліва. Там ён атрымаў вялізную дозу апраменьвання. Дактары выправілі Яна дамоў паміраць. «Ён бы з крыжа зняты... Худы, ледзь жывы... У прыбіральню крывёю хадзіў!» – расказвала мне баба. Усе, нават сам Ян, думалі, што наш марак не паправіцца і неўзабаве сканае. Але баба Броня знайшла народнага лекара, які загаварыў бутэльку вады. Ян выпіў тую ваду, праляжаў нерухома гадзіну... і пайшоў на папраўку.

Запомнілася мне парада лекара пра тое, што пасля піцця загаворанай вады трэба ляжаць нерухома, як мёртвы... І бабіна хрысціянскае таксама мне помніцца: «Ён бы з крыжа зняты...»

## Антон і «скатабаза»

Каб не мацюкацца, каб з языка не зляцела якая брыдота, каб заставацца ў полі прыстойнасці, некаторыя з нас прыдумляюць для сябе нейкае слова, якое паспяхова ім замяняе ўсе мацюкі. Чуеш «блін гарэлы», а за тым чорным «блінам», як і за «бляхай-мухай», бачыш іншае табуіраванае слова кшталту простага «бл...дзь» ці экспрэсіўнага «бл...дзюга».

Мой дзядзька Антон замест «бліна» і «бляхі» казаў сакавітае і густое, як салідол, «ска-та-ба-за». Недалёка ад нашага дома ў Койданава стаяла рамбаза, таму Антонава «скатабаза» перагуквалася з цалкам рэальнай і stationоўчай рамбазай, пры якой была невялічкая крамка, дзе мы куплялі чорны хлеб і тое-сёе да хлеба.

## Ігар і «Цябе шукалі…»

Здараецца: у сям'і бацька забівае маці. Здаецца, што дзеці не даруюць бацьку гэтага забойства. Але гэта толькі здаецца, бо дзеці якраз першыя, хто даруе.

У майго аднакласніка і сябрука Ігара пабіліся п'яныя бацькі. У нас на раёне – будзённая разборка. Разам селі выпіваць, размаўлялі і даразмаўляліся да сваркі, якая перарасла ў бойку. Ігараў бацька стукнуў кулаком у скронь жонку, тая і сканала... Ігар з дзвюма сёстрамі не хацеў у дзіцячы дом, ён хацеў застацца жыць у сваёй кватэры, а таму ўгаворваў усіх нас, аднакласнікаў і знаёмых, каб мы сказалі міліцыі, што яго бацькі ніколі не біліся, а маці ўдарыў на вуліцы нехта чужы. У выніку сямікласніка Ігара пакінулі жыць з бацькам. Вось такая адбылася драма на нашым раёне, што побач з Кальварыйскімі могілкамі.

Дарэчы, маці Ігара працавала дворнічыхай і падмятала вуліцы вакол Кальварыі. Зімою грэбсці і кідаць фанерным шуфлем кальварыйскі снег ёй заўсёды дапамагаў Ігар. Можа, таму ў яго быў любімы чорны жартпрыказка... Ігар падыходзіў да знаёмага і шаптаў: «Цябе шукалі...» Знаёмы

насцярожваўся і спалоханым голасам пытаўся: «Хто? Хто мяне шукаў?» – «Двое з насілкамі і адзін з лапатай!» – крычаў Ігар і рагатаў на ўсю школу.

## Люда і «Ні бэ…»

У Люды Кукарэкі ў пятым класе з’явіўся станік. Усе астатнія нашы аднакласніцы яшчэ пару гадоў пахадзілі без станікаў, а Люда са станікам адразу зрабілася любімай і жаданай для ўсіх нашых хлопцаў. Спартыўная – яна лепш за ўсіх у школе гуляла ў валейбол. Яе кручаную падачу нельга было ўзяць на пальцы ці на далоні, адно на кулакі, яна пасылала мяч над самай сеткай з такой сілай, што той ляцеў, як гарматнае ядро. Вучылася Кукарэка вельмі добра і пасля восьмага класа пайшла ў медвучылішча.

Валейбол, станік і прымаўка, якой дражнілі Люду: «Ні бэ, ні мэ, ні кукарэку...» Вось што помніцца пра яе найлепш. Помніцца яшчэ эратычны падтэкст, які часам укладаўся ў прымаўку-дражнілку: «Я ні з бэ, я ні з мэ і я ні з Людай Кукарэкай»...

## Юра і «Хоць рэдка…»

Мой школьны таварыш Юра пісаў раманы. Ён ствараў фантастыку пра падарожжы на іншыя планеты. Раманы яго пісаліся ў агульных сшытках, якія Юра называў тамамі. Такіх тамоў напісалася ў яго больш за дваццаць. Мяне, трэцякласніка, моцна ўражвала працавітасць і апантанасць юнага раманіста.

Таму, сустрэўшы яго праз трыццаць гадоў, я папытаўся: «Ты яшчэ нешта пішаш ці пакінуў у юнацтве сваю літаратурную працу?» – «Пішу... Мала, але пішу... Хоць рэдка, ды метка...». Пачуўшы «пішу», я ўгаварыў Юру даць мне яго рукапісы, каб зрабіць публікацыю ў якім-небудзь часопісе. Я абышоў некалькі рэдакцый, наведаў «Нёман» і «Маналог», заходзіў у тыднёвікі і газеты. Паўсюль чуў адно і тое ж... Афарызмы і вершы ў адзін радок яны ніколі не друкавалі, а таго, што я ім прынёс, недастаткова нават на адну маленечкую публікацыю, бо збольшага гэта аматарства і забаўкі чалавека, які знаходзіцца далёка ад літаратурнага працэсу, што ён нават не на маргіналіях, а па-за маргіналіямі сучаснай літаратуры. Мне давялося вярнуць таварышу папку з рукапісамі, давялося выбачацца за тое, што не змог зрабіць публікацыю, давялося сказаць, што падыход «Хоць рэдка, ды метка» гэтым разам не спрацаваў.

## Валодзя і «У ціхім…»

Памяркоўны, стрыманы, ціхмяны... Гэта ўсё пра яго, пра афарміцеля кніжак Валодзю. Дэвіз яго жыцця – «абы ціха...» Ён лагодна ўсміхаецца і, гледзячы табе ў вочы, кажа: «Добра... Зробім... Абы ціха...» З такім дэвізам Валодзя ціхамірна і няспешна прайшоў праз усё працоўнае жыццё ажно да пенсіі. Гледзячы на яго, я заўсёды згадваў беларускую прыказку «У ціхім балоце чэрці растуць». Згадваў і ўяўляў, як у паводзінах паспяховага і выхаванага чалавека праявіцца драпежны чорт.

Ён не праявіўся. Ніяк. Зусім. Маё чаканне як было, так, бадай, і застанецца марным. Тэмпераментнага і вогнелюбівага чорта не цікавіць і не

зацікавіць традыцыйна беларускае, балотнае і шэрае «абы ціха». Пагатоў навокал шмат іншых фацэтаў, у жыцці якіх чартаўшчына будзе і больш натуральнай, і больш запатрабаванай, чым у жыцці спакойнага пенсіянера Валодзі.

### Дзед Бронік і «Дзясятая вада…»

Пра далёкае сваяцтва койданаўцы казалі: «Сваяк – дзясятая вада на кісялі». Для мяне гэтая прымаўка знітоўвалася не з хатнім аўсяным і не з дзетсадаўскім вішнёвым кісялямі, а з прозвішчам Кісель. Такое прозвішча насіў мой дзед Бронік, які даводзіўся маёй маці Ніне Глобус айчымам. З такім прозвішчам жыў і яго родны брат Казік, з якім у Броніка быў агульны дом з двума ганкамі і дзвюма верандамі. Мой найлепшы сябра і далёкі сваяк Толік, Казікаў сын, таксама быў Кісялём. Таму «дзясятая вада на кісялі» для мяне мела блізкае і шматаблічнае ўвасабленне. Пэўна, з-за гэтага я перакананы, што нават далёкія сваякі могуць займаць у тваім жыцці значна большае месца, чым сваякі найбліжэйшыя. Такім блізкім і дарагім чалавекам для мяне быў Браніслаў Вацлававіч Кісель – дзед Бронік.

### Баба Ядзя і «Гразёю…»

Калі тваё дзяцінства праходзіць у дзіцячых садах і лагерах, выхавацелі хутка прывучаюць цябе мыць рукі «кружочкам», мыць ногі прахалоднай вадой, штораніцы мыць твар, вушы і шыю. Так і мяне прывучылі, але адно слабае месца пакінулі – калені. Загуляешся, сам не заўважыш, як недзе ўкленчыш, – і ходзіш з бруднымі каленямі. Мыць іх мяне вучыла баба Ядзя. Яна казала: «Валодзя, дзе ты так перапэцкаўся?! Глянь на свае калені... Гразёю зараслі, хоць ты рэпу сей!» Гледзячы на свае чорныя калені, я ўяўляў, як на іх вырасце жоўтая рэпа. Яна мне бачылася вялікай і... смачнай, такой, як расла ў нашым гародзе. Не ведаю, як каму, а мне тонкія скрылікі сырой хрумсткай рэпы былі салодкімі і вельмі смачнымі.

Другую прымаўку пра рэпу я чуў шматкроць і паўсюль: «Прасцей за параную рэпу». Маўляў, прасцей і не бывае, прасцей за самае простае, лягчэй за лёгкае. Але гэтая прымаўка для мяне безаблічная і нясмачная, бо я ніколі не каштаваў паранай рэпы. Можа, яшчэ калі-небудзь пакаштую – і прымаўка пра параную рэпу таксама набудзе свае выразныя голас і твар.

### Дзед Ладзімір і «Грозны рак…»

Лавіць ракаў у рэчцы Ятранцы мяне навучыў тата. Ён выцягваў з-пад карчоў вялікіх чорна-зялёных і цёмна-брунатных, а я збіраў на пясчанай водмелі маленечкіх і паўпразрыстых. Сваіх цацачных, светлых, бурштынавых рачкоў я адпускаў на волю, а татавых цёмных мы варылі ў рондалі на керагазе. Ракі ў кіпені наліваліся агністай і смачнай чырванню.

Вялізных жывых ракаў я трохі пабойваўся, ажно пакуль дзед Ладзімір не сказаў: «Грозны рак, ды вочы ў срацы!» Я засмяяўся – і ў тым бадзёрым смеху прапаў мой страх перад усялякімі ракамі. Я пачаў разам з татам залазіць рукамі пад карчы і выцягваць адтуль грозных вусатых ракаў з важкімі клюшнямі, шырокімі шыйкамі і маленечкімі пацеркамі чорных вочак.

## Толік і «Ласы...»

Тады мне было чатыры, а Толіку – шэсць. Нас не ўзялі за навагодні стол. Дарослыя сабраліся ў Казікавай палове дома, а нас пакінулі на печы ў Бронікавай палове. Сваякоў назбіралася так шмат, што самых малых загналі на печ і загадалі спаць. Нам спаць не хацелася, бо Новы год, бо смех і шум на ўвесь дом, бо сядзець на печы было горача, а злазіць з яе забаранілі. Нечакана для нас на печы знайшлася забаўка...

Цёткі, калі збіралі на свята прадукты, загадзя папрыносілі з гарышчаў кілбасы ды паляндвіцы і падвесілі іх над печчу, каб яны яшчэ крышачку падсушыліся. Нехта забіраў з печы кілбасы, нехта іх рэзаў, хтосьці раскладаў па талерках. У перадсвяточнай мітусні адну паляндвіцу забыліся на печы, і яна, самотная, вісела, загорнутая ў чыстую марлю. Бог мой, як жа яна спакуслiва пахла!.. Толік прапанаваў крышачку адгрызці ад забытай паляндвіцы. Ён адгрыз, і я адгрыз. За навагоднюю ноч мы згрызлі палову той паляндвіцы.

Раніцай, калі баба Маня прыйшла па свайго Толіка, яна і ўбачыла абгрызены кароткі кавалак паляндвіцы. Яна тады і сказала маёй бабе: «Ты, Ядзя, толькі паглядзі, як хлопцы абгрызлі паляндвіцу... Пагрызлі так, быццам і не чалавек грыз, а нейкі кот, ласы на чужыя кілбасы...» Пасля той навагодняй ночы я, калі чую прымаўку «Ласы на чужыя кілбасы», заўжды згадваю смак паляндвіцы.

## Вольга і «Лепш...»

Паэтка Вольга Караткевіч заўсёды цікавілася маімі мастакоўскімі і літаратурнымі справамі. Тэлефанавала, распытвала мяне, давала слушныя парады. Запомнілася наша выпадковая сустрэча ў метро на станцыі «Кастрычніцкая». Вольга пацікавілся, што я параблЯю. Я расказаў пра новую вокладку для часопіса ARCHE, які планавалася прысвяціць жанчынам і жаночым справам. Пахваліўся знаходкай – фотаздымкам эфектнай і разумнай Марыны Васільцовай. «Твар Марыны зробіць вокладку запамінальнай».

Вольга выслухала мяне ўважліва і таксама пахвалілася, сказала, што прыдумала лозунг беларускіх феміністак: «Лепш пад абцасам, чым пад лапцем!» Лозунг мяне ўразіў: «Ведаеш, а твой лозунг гучыць як самая сапраўдная народная прыказка. Калі не пазначаць аўтарства, ніхто і не засумняваецца, што актуальны лозунг узяты з народнай творчасці. Мяне заўсёды цікавіла пытанне: як выглядаюць людзі, здатныя прыдумляць народныя показкі і прыказкі? Цяпер я ведаю: гэтыя творцы падобныя да Вольгі Караткевіч...»

## Федарэнка і «Андрэй...»

У прымаўках часта сустракаюцца імёны, напрыклад: «Дзядзька Піліп, ці ты да лаўкі прыліп?» Большасць з такіх прымавак – здзеклівыя, жорсткія і абразлівыя, імі карыстаюцца, каб пацвяліць і прынізіць чалавека. Дражненнем займаюцца часцей дзеці, а дарослыя любяць сказаць ласкавую прымаўку, у якой прагучыць імя добрага і паважанага чалавека. Ёсць сярод кампліментарных і такая: «Андрэй за ўсіх мудрэй».

Калі нехта захоча пахваліць пісьменніка Андрэя Федарэнку, які піша захапляльныя аповесці для падлеткаў, дык можа выкарыстаць народнае выслоўе з ухваленнем «за ўсіх мудрэй». Рыфма «Андрэй – мудрэй» яму спадабаецца: праверана і пераправерана.

Сцяпану Александровічу – слыннаму літаратуразнаўцу і аўтару лірычнай аповесці пра Якуба Коласа – падабалася, калі за святочным сталом гучала: «Сцяпан – вялікі пан». І я разумею Сцяпана Хусейнавіча, бо ў народных прымаўках няма прыкрасці, якая моцна псуе і пратручвае саматобныя кампліменты.

## Арлоў і «Ласкавыя...»

Раней у пісьменнікаў была завядзёнка віншаваць калег з публікацыямі. Выйшаў у некага раман – і ўсе яму тэлефануюць і кажуць добрыя словы. Віншавалі не толькі з раманам, але і з часопіснай публікацыяй апавядання, і з падборкай вершаў у тыднёвіку, і з рэцэнзіяй у газеце. Публікацыя – свята ў літаратара. Шмат хто адзначаў яго нават выпіўкай з сябрамі ў рэдакцыі ці ў бары Дома літаратараў.

Хто мяне толькі не віншаваў з публікацыямі... Лічыць не пералічыць. Паціху завядзёнка з віншаваннямі пераплыла з тэлефона ў інтэрнэт. Апошнім, хто трымаецца традыцыі і віншуе мяне з цікавай публікацыяй па тэлефоне, – Уладзя Арлоў. Акрамя віншаванняў ён абавязкова зробіць дзве-тры рэдактарскія заўвагі, а напрыканцы дадасць пару ўхваленняў і прыказку: «Ласкавыя словы і котцы прыемныя...»

## Эльза і «Толькі па смерць...»

У кавярні «Акварыум», што некалі мясцілася ў «Цэнтральным» універсаме, які сёлета зноў будуць пераабсталёўваць і пераназываць, працавала афіцыянтка, якую тамтэйшыя наведнікі называлі Эльзай. Чаму Эльза? Бо афіцыянтка брала заказ, сыходзіла і прападала, як бедная Эльза ў народнай казцы. Яна магла знікнуць на цэлыя паўгадзіны.

«Паслухай, дарагая, мы тут сядзім, чакаем выпіўку і закуску, а ты недзе швэндаешся. Ты дзе хадзіла?» – «Выбачайце, я хадзіла ў двор пакурыць. Вы ж ходзіце на ганак, вы там курыце, ну і мне хочацца хвілінку адпачыць і выкурыць тонкую цыгарэтку. Разумееце?» – «Разумеем... Цябе толькі па смерць пасылаць...» Эльза не крыўдавала на жарт пра пасыланне па смерць. Яна ніколі не бянтэжылася і не хвалявалася. У выніку Эльза кінула працу ў тлумным «Акварыуме» і перайшла працаваць афіцыянткай у піўны бар, што стаіць у ціхім кутку на беразе Свіслачы.

## Дзед Бронік і «Галоднаму...»

У часы майго маленства Беларусь толькі пачала выбірацца з голаду. Мы ў Койданава ўсё яшчэ стаялі ў чарзе па хлеб, мы атрымлівалі талоны на муку адно на святы, якія пахлі для мяне мамінымі булачкамі з разынкамі, мы зусім тонка рэзалі батон, які тата прывозіў ажно з Масквы, бо ў Мінску батонаў не прадавалі. Можна казаць, што маё маленства было напаўгалодным, але я гэтага казаць не стану, бо не еў без прымусу і ўга-

вораў. Маці і баба Ядзя не любілі такіх угавораў, яны на мяне сварыліся. Дзед Бронік мяне бараніў і ўгаворваў есці. За вячэрай ён мог ласкава сказаць: «Табе галоднаму будзе пад галаву нізка спаць. Ляжаш у ложак, ногі задзяруцца, а галава скоціцца з падушкі. Каб хутка заснуць і добра выспацца, трэба нам з табою павячэраць. Паясі – і будзе высока пад галаву спаць, і ногі не задзяруцца, і галава не скоціцца з падушкі... Еш, Валодзя». Дзеда Броніка я паважаў, любіў ягоныя жарты, еў, каб яго парадаваць. Дарэчы, ёсць пра гэта і беларуская прыказка, як той казаў: «Галоднаму пасцель мулкая».

## Тата і «Усякае дыханне...»

Вясна. Пацяплела. Каты марцуюць. Можна знянацку сутыкнуцца з парай, якая на тваёй сцежцы маркітуецца. Мая знаёмая Валя расказвала, што бачыла маркітаванне ката з катом. Мне ніколі так не шанцавала, я бачыў адно маркітаванне катоў традыцыйнай арыентацыі. Бачыў не толькі катоў...

Аднаго разу я снедаў з татам, калі на наш гаўбец прыляцелі галубы. Вялікі голуб раздзьмуўся, патанцаваў і пачаў таптаць маленькую галубку. Узнікла няёмкасць. Тады тата і расказаў мне, як у ягонай вёсцы дарослыя выходзілі з падобных сітуацый. Яны казалі: «Усякае дыханне любіць папіханне!» Прыказка ў форме кароценькага верша лёгка выводзіла дзяцей і дарослых з ніякаватасці, што ўзнікае побач з убачанымі чужымі любошчамі.

## Генрых Далідовіч і «Уцякла...»

З цікавасцю чытаюцца, а часам і перачытваюцца першыя кнігі паэтаў і празаікаў. Часцей я звяртаюся да маладой паэзіі, але і маладая проза прыносіць мне радасць. Добра, калі ў такой прозе ёсць сакавітая і жывая мова. Такую моўную прозу запачаткаваў Кузьма Чорны, за ім яе пісалі Янка Брыль ды Іван Пташнікаў, за якімі ў літаратуру прыйшоў Генрых Далідовіч з кнігай апавяданняў «Дажджы над вёскай». З яе выпісаў я адну прыказку: «Уцякла маладосць – не развіталася, прыйшла старасць – не прывіталася...» Каб прыказка не сумавала ў адзіноце, выпісаў я яшчэ і праклён: «Захацеў зяцёк вострага, каб яму на тым свеце хацелася...» Можа, у наш дзень такія прыказкі і праклёны пададуцца састарэлымі, але яны выдатна адлюстроўваюць жорсткі свет беларускай вёскі.

## Баба Броня і «Разумны...»

Хлопцы ў нашай вёсцы ўсе як адзін былі ў атрадзе. Нашто быў той атрад? Каб спакойна хадзіць па мястэчку Наваельня. Там усе ведалі: зачэпіш Чада (так мясцовыя называлі вяскоўцаў зВаракомшчыны – Чады), будзеш мець справу з атрадам, які адпомсціць, які патаўчэ і патопча.

Каб заняць сваё месца ў атрадзе, трэба было бароцца. Мне давялося дужацца з хутаранінам Віктарам Адамчыкам з мянушкай Сука і з Іванам Адамчыкам, якога нават у вёсцы клікалі Чад. Суку і Чада я пабароў і заняў месца паміж Чадам і Рапухам – так у нас называлі мажнога Фрыдрыха Лазовіка, старэйшага за мяне на паўтара года.

Сука перажыў паразу спакойна, а вось Чад раззлаваўся і паабяцаў адпомсціць мне за пройгрыш. Ён пераняў каля рэчкі майго малодшага брата Мірыка і без дай нагоды надаваў яму кухталёў. Мірык паскардзіўся бабе Броні. Яна сказала: «Не трэба помсціць... Разумны дурному павінен саступіць. Чад – дурань, вядомы на ўсю Station Варакомшчыну». Мірык супакоіўся, і я пагадзіўся з тым, што разумны дурному павінен саступіць.

На словах я пагадзіўся, а на справе – помсціў: злавіў Івана, калі той вяртаўся з танцаў, што ладзіліся па суботах у суседняй вёсцы Рабкі. Злавіў і пабіў. Я не бароўся з Іванам, я паваліў яго на траву і натоўк тварам у зямлю. Пра начную бойку ў варакомскім атрадзе ніхто не даведаўся. Чад не расказаў, ну і я не выхваляўся. Нашто? Ты ж і сам добра ведаеш, што разумны дурному павінен саступіць.

### Мікалай і «Не рві...»

Мікалай Пятровіч усё жыццё прапрацаваў міліцыянерам. Ён пайшоў у міліцыю, бо яго бацька таксама ўсё жыццё прахадзіў у міліцыянерах. Дынастыя. Пасля выхаду на пенсію Мікалай Пятровіч займаўся выдавецкай справай. Ён вярстаў кнігі. Вёрстка ў Пятровіча атрымлівалася на выдатна. Ён меў спакойны характар і заўсёды добры настрой. У складаных сітуацыях – а жыццё ўвесь час падкідае нам складанасці – Мікалай казаў мне так: «Валодзя, не рві сэрца!»

Там, дзе большасць кажа «Не праймайся!», Пятровіч паўтараў сваё фірмовае міліцыянерскае «Не рві сэрца!». Так ён казаў не толькі і не столькі мне, колькі сабе. Што важна, у Мікалая Пятровіча атрымлівалася прыслухоўвацца да сябе і не перажываць не толькі з-за розных дробязяў, але і з-за вялікіх праблем. Карацей, не рвём сэрца.

### Баба Ядзя і «У белы свет...»

У дзяцінстве я шмат разоў сыходзіў з дому... Каб не слухаць, як на мяне свараццa, я апранаўся і бег на вуліцу, дзе бадзяўся да самай ночы. Былі выпадкі, калі я засынаў седзячы ў пад'ездзе. Маці знаходзіла мяне і, соннага, вяла дамоў.

Пачыналася ўсё звычайна з таго, што я казаў: «Зараз сыду!» Маці, як і бацька, на маю пагрозу не адгукаліся. Маўляў, сыдзе, пагуляе і вернецца. Баба Ядзя на маё «сыду» казала: «Наш Валодзя зараз пойдзе ў белы свет як у капейку!» Так яно і адбывалася, я сыходзіў без мэты, сыходзіў, сам не ведаючы куды. Мне надакучвалі знявагі, кпіны і жарты старэйшых – і я ўцякаў ад іх у вялікі і чужы свет. Той свет не чакаў і не прымаў мяне, даводзілася вяртацца з халоднай цёмнай вуліцы ў цёплы і светлы пад'езд. Седзячы на прыступках, я марыў назбіраць капеек, назапасіць рублёў столькі, каб хапіла сысці з дому і не вярнуцца.

### Галіна Стральцова і «З яго можна...»

Самым добрым, ветлівым і ўсмешлівым у нашым пісьменніцкім доме, што стаяў у Мінску на Чарнышэўскага, 7, быў Міхась Стральцоў. Яго жонка Галіна казала, што з яе Мішэля можна вяроўкі віць. Суседзі пага-

джаліся з гэтым, бо выглядала на тое, што з мяккага Міхася Стральцова і сапраўды можна было віць вяроўкі.

Усе памыляліся: і суседзі, і знаёмыя, і сама Галіна Сямёнаўна Стральцова. Аднойчы Міхась Лявонцьевіч запіў, згубіў усмешлівасць і ветлівасць, узлаваўся на несправядлівы свет і сышоў ад Галіны. Піў Стральцоў доўга, але знайшоў сілы кінуць выпіўку. У яго паводзіны вярнуліся і ветлівасць, і разважлівасць, і ўсмешлівасць, але згубленая ў п'янках мяккасць так і не аднавілася. Можа, і добра, бо якраз праз гэтую мяккасць Стральцоў доўгі час і не мог адмовіцца ад чаркі, прапанаванай яму паскуднымі п'яніцамі.

## Альгерд Малішэўскі і «Чуе…»

Выкладчык кампазіцыі Альгерд Малішэўскі выказваўся безапеляцыйна – сказаў як адрэзаў. Яго парады гучалі загадамі. Ён кажа – ты робіш. Калі не робіш, загад можа паўтарыцца, але трэцяга разу ад яго не прычакаеш. Да непаслухмяных вучняў Малішэўскі страчваў цікавасць.

Успамінаецца адзін з ягоных загадаў мне: «Схадзі ў фонд, дзе захоўваюцца дыпломныя працы. Знайдзі там палатно Варыча. На ім – цяжарная баба і п'яны мужык пад поўняй. Палатно ліловае, бэзавае, цёмнае. Знойдзеш і паглядзіш. Уважліва. Варыч з тых, хто чуе, як трава расце. Мастака з яго не атрымаецца: ён лянівы. У інстытут яго не ўзялі, бо занадта таленавіты для нашай Пухавіцкай акадэміі. Ты паразглядай яго дыплом, табе гэта пойдзе на карысць. Павучыся ў Варыча...»

У фонд я не пайшоў: не хацелася марнаваць час, бо карціну Варыча я добра помніў. Яна была напісана ў суровым стылі, падобным на стыль маладых Кішчанкі і Андронава. Цяжарная цётка і яе муж стаялі ў дзвярным праёме вясковай хаты. Цётка, ашчаперыўшы вялікі жывот, глядзела на мужа, а той пазіраў на срэбную пляму поўні ў бэзавым небе. І... меў рацыю Альгерд Малішэўскі: гледзячы на карціну Варыча, можна было і самому пачуць, як расце трава.

## Маці і «Карона…»

«Карона з галавы не спадзе...» – шматкроць чуў я ад маці. Восьмага сакавіка яна сказала мне павіншаваць сваіх былых выхавацелек з дзіцячага садка – Эму Казіміраўну і Клаўдзію Іванаўну – з Міжнародным жаночым днём. Я спрабаваў аднеквацца ад гнятлівай справы, але маці настойвала і згадвала «карону» на маёй галаве. Яна прыгадвала тую «карону» і тады, калі прымушала мяне выбачацца перад школьнымі настаўніцамі, якіх я зневажаў паказам фігі ці лаянкай з парнаграфічнымі мацюкамі. Даводзілася скарацца і прасіць прабачэння, каб не выгналі з сярэдняй школы і потым не давялося хадзіць у вячаровую школку рабочай моладзі разам са старымі туябнямі. З тых часоў я не люблю віншаванні і прабачэнні, ну і прымаўку пра падзенне кароны таксама стараюся не паўтараць.

## Ігар і «Красці…»

Ігар краў заўсёды. Прынамсі, колькі яго ведаю, ён ходзіць у зладзеях. За розныя крадзяжы Ігар тройчы сядзеў у турме. Пападаўся з-за праста-

душнасці, бо верыў людзям, а яны яго прадавалі. Перад апошняй адседкай ён нават паверыў следчаму, з-за чаго яго тэрмін за кратамі ажно падвоіўся.

Яшчэ за школьнай партай Ігар паўтараў прыказку: «Красці, дык мільён! Я...ць, дык каралеву!» Ніякіх мільёнаў Ігар не накраў, ну і ў ложак да каралевы не патрапіў. Праўда, жонка Ігара мела магічную паляшуцкую яркасць. Аднойчы мы так напіліся ўтраіх, што я ледзь не апынуўся ў ложку з Ігарам і яго сексуальнай жонкай. У апошні момант у маёй захмялелай галаве запалілася папераджальная чырвоная лямпачка. «Не каралева!» – падумалася, і я сышоў з кватэры гасціннага злодзея. Сышоў і больш туды не вяртаўся, бо калі падаць, дык з добрага каня.

### Юльян і «Вяселле...»

Часам глядзіш на чалавека і не можаш сказаць, дзеля чаго такі прыйшоў у наш белы свет. З Юльянам інакш. Ён відны: шырокія плечы, ямка на голеным падбароддзі і румянец на круглых шчоках. Ён любіць белыя кашулі і дарагія пінжакі з адпрасаванымі нагавіцамі. Ён народжаны для вясельнага фота ў якасці задаволенага жаніха. Для Юльяна, як той казаў, вяселле і шчасце на адным кані едуць. Таму ў чалавека, які працуе на кінастудыі звычайным вартаўніком, – чацвёртая жонка-красуня.

Усе чатыры вяселлі Юльян спраўляў са шматлікімі гасцямі, шыкоўным банкетам і жывой музыкай. На кожнае вяселле ён шыў адмысловы касцюм і купляў шаўковы гальштук. Нявесту кожны раз выбіраў багатую, каб можна было пасля шлюбу пару гадоў пажыць і параскашаваць за яе кошт. Калі жончына багацце заканчвалася, Юльян пачынаў нудзіцца, пісаў вершы і задумваўся пра новы вясельны касцюм, які добра глядзіцца на каляровым фота.

### Харэўскі і «Алей...»

Сяргей Харэўскі не любіць сварыцца, стараецца не ствараць канфліктаў, унікае ўсялякіх скандалаў. Яго свет пабудаваны з музейных залаў ды ўніверсітэцкіх аўдыторый, з рэдактарскіх кабінетаў і бібліятэчных лабірынтаў, з тэлестудыйнага асвятлення і радыёхваляў. Сяргей з імпэтам разважае пра архітэктуру і мастацтва, пра Парыж, Луўр і Версаль. У нейкі момант пачынае здавацца, што яго жыццё пройдзе пад дэвізам Мао Цзэдуна: «Няхай заквітнеюць сто кветак, няхай супернічаюць сто школ». Пагатоў сам Сяргей з мяккай іроніяй часта згадвае тое красаванне сотні кітайскіх кветак. Але ў нейкі момант лагоднасць Сяргея змяняецца жалезнай прынцыповасцю – і Харэўскі кажа: «Алей з вадою не змяшаеш». Ёсць мяжа, за якую Сяргей не пераходзіць. Ён ніколі не саступіць у змаганні за Беларушчыну і беларускую мову... Ёсць мы, з нашай мовай і Беларушчынай, і мы не змяшаемся і не распусцімся ў акіяне чужынскага, будзем самадастатковымі і самакаштоўнымі, як той алей у вадзе.

### Дубавец і «...працэсы»

Ёсць людзі, здатныя адказаць на любое пытанне. Гэта не азначае, што яны ведаюць правільны адказ. Проста на безвыходны выпадак з пытаннем,

на якое няма адказу, яны маюць універсальную прымаўку. Такую мае і журналіст Сяргей Дубавец. Ты пытаешся ў яго, напрыклад: «Як справы?» І чуеш густы дыктарскі голас: «Ідуць працэсы...»

Шматгадовая праца на радыё прывучыла Сяргея нават самым звычайным думкам надаваць важкасць і значнасць. А яшчэ ён можа падфарбоўваць банальнасці станоўчасцю і пазітывам. Ягонае «Ідуць працэсы...» заўсёды аптымістычнае. Ягоныя «працэсы» ідуць, плывуць і лятуць да вялікіх здзяйсненняў і бліскучых перамог. Калі некаму спатрэбіцца напісаць партрэт журналіста Дубаўца двума словамі, можна браць «Ідуць працэсы...» – і не памыліцца.

### Алеся і «Птушка…»

Твар у Алесі сабачы. Ёсць мужчыны, якія любяць сабак і ўсялякую сабачасць, таму Алесю часцяком запісвалі ў прыгажуні. Сама яна таксама залічвала сябе да відных, эфектных і прывабных жанчын. Ёй трэба было гэтую выразную сабачасць і культываваць; але хітрадушная Алеся ўвесь час прыбядняласся і спрабавала падаць сябе не спраўнай сучкай, а легкакрылай і салодкагалосай птушкай. Выглядала такая падача камічна. «Птушка і мошкай сытая!» – шмат разоў чуў я ад Алесі і ледзь стрымліваўся, каб не засмяяцца і не прапанаваць ёй замест дробнай мошкі біфштэкс з крывёю.

### Тата і «Што край…»

Нават у часы ізаляцыі нехта ўсё адно перасякае мяжу і, вярнуўшыся з вандроўкі, расказвае блізкім людзям пра іншы парадак і лад. Такія апавяданні цікава паслухаць, бо яны досыць моцна адрозніваюцца ад таго, што выносіцца на шырокую публіку. Так было і за Савецкім Саюзам. У нашай сям'і толькі тата з'ездзіў тады ў Амерыку і Францыю, толькі ад яго, седзячы на кухні, я мог пачуць праўдзівыя гісторыі пра Парыж і Нью-Ёрк. Распавядаючы пра знакаміты французскі кірмаш ТАТІ, з якога тата прывёз мне недарагую куртку, ён спыніўся, задумаўся і сказаў: «Што край, то абычай...» Гэтая прымаўка стала рэфрэнам у нашых з ім гутарках пра далёкія краіны. А калі я стаў ездзіць па свеце і прывозіць падарункі бацькам, дык, расказваючы пра незвычайнае, паўтараў услед за татам: «Што край, то абычай, што горад, то нораў, а што галава, то розум».

### Дзед Бронік і «Воўка…»

З маленства ў кожнага ёсць абавязкі. Мае першыя абавязкі з'явіліся ў хаце дзеда Броніка. Пачалося з вады, якую я павінен быў насіць па паўвядра з калодзежа. Потым мне даручалі ездзіць на ровары па хлеб. Разам з дзедам, які нёс касу на плячы, я хадзіў па траву для трусоў.

Аднаго разу дзед Бронік узяў касу і забыў мянташку. Мы ўжо далекавата адышлі ад хаты, калі ён спахапіўся: «Валодзя, вярніся і прынясі мянташку. Яна на ганку ляжыць...» Я пабег па мянташку. Знайшоў і прынёс. «Ты – малайчына, ты ўсю дарогу трушком, усю дарогу подбегам... Правільна. Трэба рухацца, трэба бегаць. Воўка ногі кормяць...» За вячэраю дзед расказваў бабе, як я збегаў па мянташку. Ён хваліў мяне, а

я ўсё чакаў, што дзед Бронік зноў скажа пра воўка, якога ногі кормяць. Не сказаў, але менавіта з таго вечара мне помніцца гэтая прыказка пра воўка. А калі нехта яе паўтарае, перад маімі вачыма паўстае забытая на ганку мянташка.

## Баба Броня і «Ён на пана...»

«Валодзя, ты вечарамі ходзіш з хлопцамі на балота. Вы там раскладаеце вогнішча. Мусіць, і ў карты гуляеце?» – за сняданкам пытаецца баба Броня. «Гуляем...» – «На грошы?» – «Не, на пстрычкі. Таму, хто прайграе, мы даём пстрычку ў лоб. Ніхто моцна не б'е, бо сягоння ты моцна ўдарыш, а заўтра табе надаюць не пстрычак, а шчаўбаноў...» – «На грошы не гуляй. Раскажу табе, як твой дзядзька Сава пачаў на грошы гуляць. Ён на пана захварэў. Перастаў у школу хадзіць. Звязаўся са злодзеямі. Пачаў з імі выпіваць і ў карты на грошы гуляць. Мне людзі падказалі. Узяла я пугу і пайшла ў тую хату. Зайшла і давай свайго сына Саву пугай лупіць. Ён крычыць: "Маці, што Вы робіце?" Я яму: "Ты думаў, што я магу толькі каровы з авечкамі пасвіць? Я і дзяцей сваіх буду пасвіць, пакуль не вырастуць і не паразумнеюць!" Дапамагло... Сава і школу скончыў, і ў інстытут паступіў, і на пана больш не хварэў...» – «Вы і бацьку майго – Чэся, і дзядзьку Яна пугай білі?» – «Іх не біла. Пугі пакаштаваў толькі Сава. Ну і ты пакаштуеш, калі пачнеш у карты на грошы гуляць».

## Дзед Бронік і «Тудэма...»

«Наймарнейшая марнасць, пустая марнасць – усё марнасць!» – сказаў Эклезіяст. Ён падумаў і спытаў: «Якая карысць чалавеку ад працы яго, якую ён робіць пад сонцам?» Сапраўды... Робіш, працуеш, не хочаш, а трэба. У моманты незадаволенасці і роспачы дзед Бронік суцяшаў сябе прымаўкай, казаў: «Тудэма-сюдэма...» Каб не сварыцца і не лаяцца, не абурацца і супакоіцца, дзед паўтараў бяскрыўднае і пустое «тудэма-сюдэма», паўтараў і кіраваўся да сваёй шэрай і смярдзючай асенізатарскай машыны. Перад пенсіяй дзед перайшоў з пажарных у асенізатары і чысціў койданаўскія прыбіральні, бо плацілі больш, бо тудэма-сюдэма і марная марнасць.

## Алік і «Сцены...»

Алік захварэў на манію пераследавання. Прыслухоўваўся... Ці не ідуць па яго? Прынюхваўся... Ці не труцяць яго якімі газамі? Прыглядаўся... Ці не шпегі – усе гэтыя сустрэтыя на вуліцы людзі? Раз на тыдзень Алік старанна рабіў прыборку-вобшук у сваёй майстэрні... Ці не пакінулі ворагі якіх камер ці мікрафонаў? Такі ж штотыднёвы самавобшук Алік праводзіў і ў кватэры. Нават у старых знаёмых, нават у сваяках ён пачаў бачыць назіральнікаў, стукачоў і агентаў.

У апошнюю нашу сустрэчу, на якую я прыйшоў да Аліка з віном, ён папрасіў мяне памаўчаць. «Сцены маюць вушы!» – шэптам запэўніў мяне Алік. Мы дапілі віно ў гнятлівай цішыні. Я пацiснуў на развітанне руку Аліку, руку выдатнага малявальшчыка, які, каб давесці дзяржаве сваю лаяльнасць, пачаў маляваць партызанаў, Дзяржынскага і Леніна. Ён па-

чаў маляваць тое, чаго ніколі не маляваў я. Паміж намі паўстала сцяна, а шляхі нашы разбегліся ў розныя бакі назаўсёды.

## Ігар і «Як два пальцы...»

У Ігара ў жыцці ўсё проста. Ён так і казаў: «Усё проста, як два пальцы абасцаць...» Скокнуць з другога паверха праз акно на кветнік? Як два пальцы... Разбіць з рагаткі каменьчыкам школьную шыбу? Як два пальцы... Украсці хакейную форму, канькі і клюшку? Як два пальцы... Угнаць машыну? Забраць у лоха пыжыкавую шапку? Абчысціць краму?.. Як два пальцы... У прысутнасці старэйшых Ігар не мяняў свае прынцыпы, але казаў аблегчаны варыянт прыказкі: «Проста, як два пальцы аб асфальт...»

Пасля турмы ён вярнуўся суровым і сур'ёзным чалавекам. Мы пілі гарэлку, адзначалі яго выхад на волю. Ігар казаў, што так натрахаўся, што другі дзень у яго ныюць яйцы і чэлес баліць. На маё: «Што, Ігарок, не проста вярнуцца ў жыццё на свабодзе?» – ён хмыкнуў і паўтарыў заўсёднае: «Проста, як два пальцы...»

## Віктар і «На ліхія грошы...»

Загаварылі з цырульнікам Віктарам пра хабары. Кажу: «Чуў, што ў рускіх чыноўнікаў, якія бяруць хабар, паліцыя знаходзіць у схованках столькі наяўных, што іх сума можа скласці палову бюджэту ажно цэлай вобласці...» Віктар задуменна працягвае: «Нам бы з вамі адзін такі хабар узяць, які яны бяруць...» – «Ну, я адразу адмоўлюся, бо за хабарам рана ці позна прыйдзе паліцыя...» – «Тады і я адмоўлюся... Паслухаюся цешчу, якая любіць прыказку пра чорта... На ліхія грошы чорт шые дзіравы мех!»

## Малішэўскі, Барадулін і «Што ты...»

Альгерд Малішэўскі неяк спытаў у мяне: «Што ты, Адамчык, воўкам на мяне глядзіш?» – «Альгерд Адамавіч, я на ўсіх так гляджу». – «Праўда? Чэх, скажы... Адамчык на ўсіх воўкам пазірае?» – «Так. Нават з аўтапартрэтаў ён глядзіць, як сапраўдны воўк...»

Пасля той размовы пра мой драпежны пагляд я доўга разглядаў сябе ў люстэрку. На правым воку праз усю зрэнку ў мяне ідзе шнар, які застаўся ад няўдала прышчэпленай воспы. Яе прышчаплялі на руку, а яна села на падрапанае вока. Пэўна, таму я, разглядаючы рэчы, нахіляю галаву наперад і закрываю павекамі палову зрэнак. Пазіранне з-пад ілба ў народзе называюць воўчым паглядам. Гэтае народнае параўнанне «Пазірае, як воўк на авечку...» выкарыстаў Рыгор Іванавіч Барадулін, калі прыдумляў мне мянушку. З Воўкі Адамчыка Барадулін зрабіў Ваўкадамчыка. Шкада, што Альгерд Малішэўскі не намаляваў мой партрэт з вачыма ваўкалака.

## Грыша і «Цыбулі...»

Пачаць сварку лягчэй, калі ведаеш патрэбную прыказку. Грыша Шараеў пачынаў сварыцца з пытаннечка: «Цыбулі з'еў ці так ах...еў?..» У інстытуцкай майстэрні мы сварыліся шмат. Нехта ўзяў чужы пэндзлік,

не папытаўшыся. Хтосьці перакуліў незакаркаваную бутэльку з ільняным алеем. У кагосьці прапала падрыхтаваная для малюнкаў папера... Калі ў невялічкай майстэрні працуюць дзве натуршчыцы, сем студэнтаў і выкладчык, нехта некаму абавязкова наступіць на нагу. Калі гэта была нага Шараева, мы звычайна чулі прыказку пра цыбулю, якую Грыша называў па-руску «лук». Пасля прыказкі гучалі выбачэнні.

Сваркі зазвычай не пераходзілі ў бойкі, але і такое здаралася. Толькі я распавядаю гісторыю з показкай пра цыбулю з іншай нагоды. Пакуль я выпіваў, дык быў перакананы, што слова «ах...еў» у прыказцы пастаўлена выключна дзеля рыфмы. Калі я развітаўся з алкаголем і мой арганізм пачаў інакш рэагаваць на розныя прадукты, дык заўважыў, што ад сырой цыбулі можна крыху захмялець, ці, як кажа Грыша, – «ах...ець».

## Кім Шастоўскі і «Вялікаму...»

Адзін з самых цяжкіх абавязкаў настаўніка – нагадваць вучню пра яго месца. У юнацтве большасці з нас падаецца, што мы вартыя лепшага жыцця, чым маем, а таму шмат хто імкнецца залезці на чужое, больш высокае месца. Настаўніку трэба нагадаць сваім вучням пра сціпласць, разумнасць і адпаведнасць, і нагадаць так, каб не прынізіць і не раззлаваць амбітных юнакоў. Тут дапамагаюць прыказкі... Не лезь на чужое седала. Не за сваю справу не бярыся. Не ведаеш броду – не сунься ў ваду. Кажаш прыказку – і ўсміхаешся. Вучань бачыць прыязную ўсмешку і разумее, што не адзін настаўнік яму нагадвае пра месца, бо за настаўнікам стаіць увесь наш мудры народ.

Такі прыём выкарыстоўваў на занятках Кім Шастоўскі, які аднойчы сказаў мне: «Не кладзі сабаку пальца ў рот!» Я паскардзіўся Шастоўскаму на іншых настаўнікаў, якія папастаўлялі мне – здольнаму і таленавітаму – кепскія адзнакі за жывапіс і кампазіцыю, і замест чаканага разумення і спачування пачуў прыказку пра сабаку. Дарэчы, каб пахваліць вучня, Кім Шастоўскі таксама згадваў прыказку, іншую... Вялікаму каню – вялікі хамут.

## Пэля і «З'ела...»

Цётка Пэля з'ела душу свайго мужа Яся. Так казалі ў мястэчку. Раней Ясь цудоўна граў на скрыпцы, а страціўшы душу, перастаў граць. Так казалі. Калі я чуў гэта, то спрабаваў уявіць, як Пэля з'ядае душу мужа.

Цётка Пэля лічылася багатай. Мела дом, сад і карову. Я хадзіў да Пэлі на малако. Баба Ядзя казала, што мне трэба расці, каб узялі ў школу, казала, што малако дапаможа мне хутчэй вырасці. У шарую гадзіну Пэля налівала мне шклянку сырадою. Пакуль я піў цёплае малако, дык уяўляў як Пэля з'ядае душу Яся. Душу я таксама ўяўляў, яна бачылася маленькім птушыным яечкам. Тое яечка ўяўлялася мне звараным, такім сабе святочным, велікодным.

Калі памерла мая баба Ядзя, у мястэчку пачалі казаць, што мой дзед Бронік з'еў душу Ядзі. Якое глупства! Але, дзякуючы гэтаму глупству, я перастаў верыць у тое, што чалавек можа з'есці душу другога чалавека.

Віктар Слінка



...Дзесяцігоддзі, якія пражыў,
размаўляючы па-беларуску... –
сёння ўпершыню прысніў сон на мове маёй;
гэта ўсё, што я помню з яго: мова....

# ...Дзе спыняцца сэрца й гадзіннік

* * *

Слова, вызваленае ад зместу,
Раптам заззяла красой, –
Пагрозліва,
Важка,
Як зброя ў руках
Ваяра,
Што не мае патрэбы
Ў адпушчэнні грахоў.

Так
Маладая сасонка
Ў пакінутай хаце
Прабівае кронай шыферны дах.

* * *

...Ад берага крочу вадою да берага,
Прапускаючы ўступ, гавару:

Як быццам нябачныя токі жыцця
Уліваюцца ў дрэвы, –
Па голлі святло да ствала, да ствала;
Рэфлексы на хвалях азёрных, сонечныя рэфлексы
Працягваюць шлях па лістоце й галінах,
Паветра – нябачны мост.
Не буду, не буду ўзважваць, колькі мяне памерла,
Колькі зноў аджыло, што сёння ляжыць на шалі.
Блізка – стракозы на цёплым ствале сасновым
Пагрэцца садзяцца й часам мне на руку.
Не буду, не буду ўзважваць, лічыць, адымаць, памножваць,
Бо сам я – цэлы, увесь, кавалак імён наступных...

У смаку марозіва
Старажытная нота сабора.
Ад прыбярэжнай кавярні
Я напярэймы
Яму.

*Ліпень 2020*

* * *

Патрон, з якога ўвесь
Быў высыпаны порах,
Заменены цыдулкаю кахання, –
Музейнае паліцы абярэг, –
Ты зменіш на сапраўдны.
Просты.
Цяжкі.
Ты выкрасліш
Сябе
Са спісаў тых,
Куды ўпісаны быў –
То пыхаю,
То пачуццём
Няпэўным,
То мкненнем неадольным
Самасцвярджэння
Не за ўласны кошт...
І ён з табой –
Патрон сапраўдны. Справы

Ты ўсё не маеш,
Для якое ўжыць,
Акром адной...
Ды дзіркі ў чэрапе
Ты не прабіў яшчэ, –
І тых, што ёсць,
Табе, відаць,
Зашмат.

* * *

Не спяшайся мяне згубіць
У адвольным парадку
Спіц
Прамянёў
У прагалах хмар.
Свае ролі
Займелі ў дар
Ад каго?..
Гэта сума
Воль,
Намаганняў
Праз сум і боль,
Выдзіранне
З наростых скур...
Асяродак,
Што крышыць
Мур.

*10 снежня 2020*

* * *

Дзесяцігоддзі, якія пражыў,
размаўляючы па-беларуску... –
сёння ўпершыню прысніў сон на мове маёй;
гэта ўсё, што я помню з яго: мова.

Невыказна доўга
ваду шукала карэнне, але час
быў непрысутным: скамянелыя формы,
пласты зляжалых у нечытэльнасць
манускрыптаў,
светла-бэжавы плашчык каханай, –
толькі
падыход да дзвярэй майго сну...

*29 снежня 2020*

* * *

...Дзе спыняцца сэрца й гадзіннік, –
Тваім назавецца дом.
Але – ты хацеў інячай:
Каб мноства маленькіх сэрцаў
Запаланіла
Неабжыты будынак – і выспу,
На якой ён стаіць між балот.
Неабжыты – бо некалькі пакаленняў
Толькі вартаўнікі
Змянялі ў прыбудаваным флігелі
Адзін аднаго...
Там гэта, там,
Дзе ляжа цяжкі пакет на стол
Са штэмпелем далёкай краіны,
Дзе ўсё-ткі даедзе коннік
Да занесенай снегам брамы
І ніхто не выйдзе на крык.
Але – нешта мусіць змяніцца
Звонку, як і ўнутры...
Нешта?.. О не!..
Адначасова й дарэшты – усё;
Напэўна, таму
Унутры
Даведзена будзе ўсё
Да адмысловага ладу:
Кухня, –
Вось толькі сышла гаспадыня;
Майстэрня і збройня,
Дзе ўсё на месцах сваіх:
Порах, шрот, карцеч
Для палявання
Чакаюць мужчын.
Ля каміна
Ў вялікай зале
Гатовыя дровы, –
Прыходзь
І жыві.

*2021*

* * *

Я помню
Снег, каторы
Не растаў...

Я помню
Дождж, які
Не перастаў...

Я помню –
Той, што сам
Застаўся там...

*14 красавіка 2021*

* * *

Дамагаюся
Права
Бачыць,
Чуць,
Размаўляць з табой,
Аваёўваючы
Прыязнасць,
Спадзеючыся,
Калі надыдзе час
Спаткання,
Яшчэ
Мець
Што
Сказаць.

*15 красавіка 2021*

* * *

Нешта нам, як падарунак, прыйдзе,
Што рабіць не кажучы з сабой.
Так, маўляў, і гэтак: здагадайся,
Кім табе й навошта трэба стаць,
Прысвяціўшы час інакшым справам,
Ці далей цягнуць сваю арбу,
Угінаючы пад клопатамі голаў.
Так, маўляў, і гэтак: здагадайся...
Нешта нам, як падарунак, прыйдзе,
Растрывожыць, калі ёсць яшчэ
Што гукаць у сэрцы і сумленні, –

Каб нічым не адазвацца больш?..

*2021*

* * *

Узбярэжжа
Становіцца берагам,
Калі адступае рака
Ці возера...
Высыхае пясок, змешваецца з зямлёй,
Прыносіцца ветрам семя,
Праз нейкі час
Шамаціць пад імі ж (ветрам – і часам)
Сцябліна, – шукае
Сабе назоў.
...Пояць
Дажджы,
Мучыць
Смагаю сонца.

Праз павекі гліцы
Пазірае бор
У рухомае люстра:
На якіх брусках
Вастрыў лёс
Лязо асакі?

І – на імгненне ўзбярэжжам
Робіцца бераг:
Сталася кветкай расліна,
Заплеценай у валасы
Дзяўчынкі-падлетка,
Што па костачкі ног
Заходзіць
У прахалоду вады.

*13-14 траўня 2021*

* * *

*Т.*

Дзякуй за крошкі пяшчоты з твайго стала.
Бачыш, кожную з іх я вуснамі падабраў.
Дзякуй за тое, што, кліканая – прыйшла,
Бо сам я не маю да гэтага свету спраў.

Справа заўжды адна – вызначаць мяжу,
За якою стане чуваць, – і адкуль скажу

Пра маленькія грудзі твае, і пра стройнасць ног,
І пра тое, што чуць нас з табой не захоча Бог,
Бо да брамы Яго паказалі дарогу таму,
Хто не мае жадання і сіл пакланіцца Яму.

*15 чэрвеня 2021*

* * *

Тумановы, з адценнем блакіту, –
Быццам лапік паветра прышыты
Там, дзе ён за прасцягам азёрным, –
Лес нябачаны; тутака ж – чорны.
Калі хочаш, ідзі
пехатою
Ці на вёслах – туды; над табою,
Як прытоеная
навальніца,
Будзе моўчкі лунаць таямніца.

* * *

Адразу паблякне ўспамін, калі ты ўспомніш.
Будзе ён яркі, жывы, але – першы раз.
І высмакча, быццам расу
На золку промень,
Мозг твой з яго
Радасць
Шчасця й горыч абраз.

Смак пацалункаў цвіце над парнаскай
вяршыняй.
Пчолы паснулі, сабраўшы з сакуры мёд.
Калі апранемся мы ў строі, якія пашылі,
Ці ім спарахнець у каморы ля мёртвых калод?

Ты не хацеў аддаваць за святое магчымасць
Напіцца
І не хацеў за паесці ўгінацца хлусні.
Што ты прыносіш мяжы, за каторую выйсце?..
Астатняе
Хочаш – купі, а хочаш – прысні.

*23 жніўня 2021*

* * *

Пачыналася, як недарэчнасць,
Бы сабакі палёт над будой.
Але прагне набыць неаспрэчнасць,
Каб сказалі, што крочыць хадой.

Гэты тупа здаволены выгляд,
Гэты глухасцю выдзьмуты свет,
Святкаванне адвечных памылак, –
Ганарлівага глупства прыкмет.

І ніякай не выкупіць славай,
Нічыёю ахвярнай слязой
Ці крывавай слязою... Расправай
Тут асвечваюць мёртвы спакой.

Я з вязніцы па існае слова
Збег у цемры пад покрывам сну,
Што напушчаны быў на ахову...
Я дайшоў да таемнага схову,
Адмыкаючы рыфму адну.

Але іншая рыфма сказала:
“Дзе цягнік на Радзіму з вакзала?..”

*21 верасня 2021*

Міхась Булавацкі



…ён ужо не помніў пра ложак, у якім ляжаў, не помніў пра санаторый, не помніў пра выхавацельку, ён быў між зорак…

# Ляжаць сем год

## *Апавед*

*Працяг. Пачатак ("Згадкі маленства") у №4 за 2019 г.*

### I. Без Бога

На шостым годзе жыцця хлопчык захварэў на сухоты косткі. У сцягне і ў паху ўтварыліся свішчы, праз якія выцякаў гной. Тут ужо ніякія шэпты ці іншае ўмельства мясцовых лекараў дапамагчы не магло. Патрабавалася істотная дапамога ўрачоў.

Анця апранула дзіця і ў лясёнцы за плячыма панесла ў Сімонавічы, адкуль рэйсавым аўтобусам прыехала ў Глуск.

Лясёнка... Гэтай "тары" варта праспяваць асобную оду. Квадратны кавалак даматканага сукна з прывязанымі па кутках доўгімі суконнымі матузамі служыў папулярным і надзейным сродкам для пераноскі чаго заўгодна на спінах вясковых жанчын – двух-трох пудоў саломы ці сена (найчасцей), кашоў з ягадамі ці грыбамі з лесу, а то і з вязанкай сухога ламачча для печы, якога-небудзь, пажадана не круглага вядра з бялізнай, каб памыць-прапаласкаць у копанцы ці рэчцы ды шмат чаго іншага. А вось, як бачым, траплялі ў гэтую "тару" і малыя дзеці.

Доктар нядоўга аглядаў малога.

– Тут трэба ў стацыянар. Я напішу заключэнне аб неабходнасці санаторнага лячэння. Але ці знойдуць месца? У райвыканкаме звярніцеся да намесніка старшыні Сапілава, ён займаецца такімі пытаннямі і дае накіраванні.

Сапілаў аказаўся на месцы. Анця вычакала чаргу з трох чалавек і зайшла. Коратка расказала, з якой бядой прыехала. Чыноўнік узяў заключэнне, уважліва прачытаў.

– Ну так, – раздумліва сказаў, аглядваючы жанчыну, што сядзела перад ім. – Хлопчыку трэба лячыцца. Але з такой хваробай шмат дзяцей. Санаторыі перапоўненыя...

Ён зрабіў паўзу. Анця чакала. Нечага чакаў і Сапілаў. Затым ён зняў тэлефонную слухаўку і кудысьці пазваніў.

– Вітаю, Іван Данілавіч! Тут хлопчык хворы. Патрабуецца лячэнне ў санаторыі. Як у нас там? Няма месцаў? Ну вось...

Ён паклаў слухаўку і развёў рукамі:

– Няма месцаў у санаторыях. Вельмі шмат хворых дзяцей. Нічым не магу дапамагчы.

Пасля кожнага сказу ён рабіў паўзы, паглядаючы на Анцю. Апошнім сказам даў зразумець, што размова скончана.

Анця выйшла ў калідор і села. Сына трымала на руках. Роспачныя думкі апаноўвалі. Значыць, і гэтаму дзіцяці не пашчасціла па жыцці.

А як радаваўся Пятро нараджэнню сына! Спачатку баяўся дакранацца да яго. А калі ўжо Мішка падужэў, любіў вазіцца з ім, вучыў поўзаць па ложку, пераварочвацца, смяшыў, крыўляючыся ці перадражніваючы гукі малога. Аднойчы нават узяўся падкідаць, што хлопчыку спадабалася, ён аж вішчэў ад задавальнення. Але Анця спыніла гэтую забаву: столь нізкая, яшчэ стукнецца аб бэльку.

Усё, здавалася, будзе добра. Вайну перажылі. Хату збудавалі. Малую, але ўсё ж не зямлянка. Сын нарадзіўся. Наперадзе цяжкая праца, але праца была і будзе заўсёды. Гэтага не баяліся. Баяліся розных нечаканак. І вось здарылася. Анця пайшла даіць карову, а за сынам, завернутым у пялюшкі, папрасіла прыглядзець дзвюх суседскіх дзяўчынак.

А што тым дзяўчынкам! Яны пазюзюкалі з малым, ён паўсміхаўся ім. І што далей? Ляжыць у пялюшках, ну і няхай ляжыць. Дзяўчынкі пабеглі на вуліцу. А яму захацелася за імі. Круціўся, круціўся і неяк жа выкруціўся. Свабода! Папоўз па ложку, як бацька вучыў. Але ложак недзе заканчваецца...

Калі Анця вярнулася з хлява, пачула крык сына. Ён ляжаў на падлозе і заліваўся плачам. Левая рука і левая нага былі зламаныя.

Пятро скарыстаў лагерны досвед. Зламаныя костачкі навобмацак склалі як трэба, абклалі дашчэчкамі і зматалі чыстымі анучамі. Рука зраслася добра. А з нагой, мабыць, не так удала атрымалася. Ці не адтуль гэты самы туберкулёз?

І што рабіць цяпер? Вось, можа б, і вылечылі ў санаторыі, але – "няма месцаў"! Анця глянула на сына. Ён спаў у яе на руках. Рана ўсталі, каб паспець на аўтобус, яшчэ прыцемна было, дый змарнаваўся за дарогу. А цяпер што? Той жа дарогай назад? І чакаць сумнага канца?

Ад такой думкі слёзы, якія і не пакідалі Анціных шчок, паліліся шчадрэй, закапалі на Мішаву вопратку. Анця пачала іх выціраць канцом хусткі.

– Што з вамі, гаспадынька? – каля яе спыніўся мужчына. – Вы ў такой роспачы. Нейкая бяда ў вас?

– Бяда. Яшчэ якая бяда.

Мужчына прысеў побач.

– Ну раскажыце.

І Анця, неяк пранікнуўшыся даверам да гэтага чалавека, асабліва ад гэтага

ласкавага "гаспадынька", расказала і пра тое, як мужа забралі, і пра спаленую вёску, і пра забітых і спаленых маці і дзяцей, і пра вяртанне Пятра з лагера, які пражыў дома толькі два гады, і пра радасць нараджэння сына, і пра яго хваробу. І вось – у санаторыі "месцаў няма".

– Хто сказаў, што месцаў няма? Сапілаў? Пачакайце мяне тут.

Ён пайшоў у кабінет. Анця прыслухоўвалася. Нейкі час нічога адтуль не чулася, потым гукі сталі даносіцца, але слоў яна разабраць не магла.

Мужчына выйшаў.

– Зайдзіце, – ён махнуў рукой у бок дзвярэй кабінета і пайшоў.

Анця, імкнучыся не патрывожыць сына, асцярожна ўстала і зайшла ў кабінет.

Сапілаў з прыязнай усмешкай устаў ёй насустрач, прапанаваў сесці, сеў сам і развёў рукамі:

– Ну чаму ж не сказалі, што вы з спаленай партызанскай вёскі?! Што ваша сям'я пацярпела? Што дзеці загінулі?

"Вы ж пра гэта не пыталіся", – хацела сказаць Анця, але змоўчала, чакаючы, што будзе далей.

Сапілаў паклікаў сакратарку:

– Выпішыце накіраванне ў дзіцячы санаторый у Вяззі.

Дадому Анця вярталася ўжо з іншымі пачуццямі. Вярэдзіла яе толькі адна думка: "няма месцаў... няма месцаў", ды месцы, як выяўляецца, ёсць. А прыдзе нехта іншы з такім жа клопатам, яму, што, зноў скажа Сапілаў, што месцаў няма? Ёй пашанцавала з нейкім чалавекам (што за чалавек – яна ў радасці забыла распытаць у сакратаркі, аб чым вельмі шкадавала), а іншай можа так не пашанцаваць. І пойдзе жанчына з хворым дзіцём без ніякай дапамогі. Але чаму Сапілаў кажа, што месцаў няма, калі яны ёсць?..

Яна аж спынілася ад неспадзяванай здагадкі. Ну як жа, ён рабіў паўзы, вычакальна глядзеў на яе, а яна, недарэка, не разумела. Але што яна яму магла даць? Грошай? У яе іх хіба што на зваротную дарогу ды якога хлеба купіць. А што іншае магла прапанаваць вясковая жанчына – яна не ведала. Паабяцаць прынесці кош баравікоў? Дык ці паверыў бы ён абяцанню? Маўляў, прынясі – тады і пагаворым. Прынесла б, каб здагадалася, куды дзецца! І кош, і два кашы...

Але ж Сапілаў не адзін такі. Ёсць яшчэ нейкі Іван Данілавіч, ад каго нешта залежыць. Яму таксама грыбоў ці ягад прынесці? Ды, мо, ён не апошні? Ці хопіць у лесе прыпасаў на ўсіх гэткіх? А можа, той Іван Данілавіч так, чалавек "для падтрымкі", каб больш пераканаўча гучала пра "месцаў няма"?

Ды зноў і зноў думкі вярталіся да Сапілава. Вось чалавек бачыць цяжка хворае дзіця. Ён можа дапамагчы. Для гэтага яму нічога асаблівага і рабіць не трэба, толькі паставіць свой кручок-подпіс і заверыць пячаткай. Але ён гэтага не робіць. Што можа быць у галаве, у душы такога чалавека?..

Анця спрабавала зразумець, але нічога не атрымлівалася. Хочаш нешта атрымаць, нейкай кропляй палепшыць свой дабрабыт? Але ж як можна сумяшчаць такія розныя рэчы – кош грыбоў і жыццё дзіцяці? Пра што тут можна гаварыць, аб чым таргавацца? Ты пастаўлены на такую пасаду, ад якой залежаць многія жыцці людзей! І ты з гэтага хочаш выгадаць нешта для сябе? А як жа потым перад Богам?! І схамянулася: для іх жа Бог не існуе!

## II. Не жывы, але жывы

Два гады ў дзіцячым касцёва-сухотным санаторыі ў Вяззі хлопчыку амаль ніяк не запомніліся. Аднастайнасць з дня ў дзень: таблеткі, парашкі, уколы, гіпс ад пояса да пяткі, ад якога хацелася хутчэй пазбавіцца, бо нага пад гіпсам свярбела.

На трэці дзень прыйшла (ці прыехала) маці.

– Як табе тут, сынок?

– Мама, я пісяць хачу.

Яна падняла коўдру, глянула на яго распухлы стручок і спалохана павярнулася да сына:

– Ты, што, ні разу тут не пісяў?

– Не.

Яна хутка выйшла і ён пачуў яе голас, што зрываўся на крык.

– Дык ён жа не просіцца! – патлумачваў другі голас, і жанчына з гэтым голасам неўзабаве прынесла “вутку”, куды ён з вялікай палёгкай выслабаніўся ад назапашанай за тры дні вадкасці.

Мішка марудна прывыкаў да новага жыцця. Прасіцца “па маленькаму” і “па бальшому” навучыўся. Дзеці ў палаце паступова пераразнаёміліся і размаўлялі пра сваё дзіцячае сваім дзіцячым слэнгам. Старэйшыя з іх любілі паджартоўваць з меншых якімі-небудзь нескладушкамі:

> Малышы-карандашы, па талерцы папляшы.
> Талерка уп*а*дзе. Малышу пап*а*дзе.

Малыя крыўдзіліся і плакалі. Але іх слёзы выклікалі новыя жарцікі, пакуль не заходзіла нянечка, пачуўшы плач, і не супакойвала жарсці. Але проста ляжаць ціха было сумна, і праз некаторы час падобнае пачыналася зноў.

Міша ва ўсім гэтым амаль не ўдзельнічаў. Для яго больш прыдатным было ляжаць ціха і не звяртаць на сябе ўвагі. Але з цягам часу звыкся, адчуў сябе больш упэўнена і, калі ўдала, калі няўдала ўлазіў у абмен словамі, жартамі.

Але, мабыць, першыя тры дні адклаліся на жыццядзейнасці арганізма. Хлопчык пачаў прасіца “па маленькаму” ўсё часцей. Нянечка, што насіла яму “вутку”, абурылася:

– Я ж табе нядаўна прыносіла!

Міша, пачуўшы раздражненне ў голасе нянечкі, больш не хацеў яе турбаваць, але ж праз паўгадзіны зноў запатрабавалася тая “вутка”. Што рабіць? Ён адвярнуў матрац і зрабіў сваю справу на дошкі пад матрац. Праз некаторы час яшчэ, потым яшчэ...

Назаўтра доктар, які рабіў абход, адчуў каля яго койкі непрыемны пах. Крыніца паху знайшлася хутка. Разабраўшыся ў прычыне, загадаў памяняць матрац і пакінуць “вутку” на зэдліку каля койкі.

“Нас павязуць у другі санаторый”. Навіна ўзрушыла насельнікаў палаты. Выявілася, што павязуць не ўсіх, а толькі тых, каму споўнілася сем год, бо ім трэба пачынаць вучобу ў школе.

Везлі на грузавіку. Насланую салому накрылі коўдрамі, а на коўдрах паклалі пяць хлопчыкаў і трох дзяўчатак, таксама накрытых коўдрамі. За высокімі бартамі машыны амаль нічога не было бачна, толькі мільгалі вершаліны дрэў ды плылі воблакі па блакітным небе. На неба было прыемна глядзець, бо з палаты яно бачылася маленькім прастакутнікам, падзеленым на клеткі, і ні руху воблакаў, ні іх формаў назіраць было немагчыма. А тут – аграмадная блакітная прастора, па якой рухаецца процьма белых калматых істотаў, то змяняючы форму, то даганяючы адна адну, то падзяляючыся на некалькі меншых...

Першы клас Чачэвіцкага санаторыя складаўся з сямі хлопчыкаў, койкі якіх стаялі ўстырч адной сцяны, і столькі ж дзяўчынак ля супрацьлеглай сцяны. У

палату прыходзіла настаўніца, каб навучыць іх чытаць, пісаць, лічыць. Цяжэй было навучыць пісаць, бо пісалі знізу ўверх, лежачы на спіне, алоўкам у сшытку, прыкладзеным да кавалка фанеры. Літары атрымліваліся няроўнымі, рука стамлялася трымаць сшытак з фанеркай, аловак слізгаў па паперы, хвосцік у літары размахваўся на паўстаронкі, яго выціралі гумкай ("сціркай") і пісалі далей. Але павольна справа ішла.

Міша ў класе быў старэйшым за ўсіх, на пачатку вучобы яму не хапала аднаго месяца да васьмі год. Магчыма, таму вучоба давалася яму лягчэй, чым іншым. І вылічваў хутчэй, і чытаў чысцей і больш бегла, чым яго аднакласнікі. І ўсё ж больш любіў, калі нешта чытала настаўніца. У Галіны Фамінічны быў прыемны голас, і чытала яна неяк апетытна, выразна. Яе хацелася б слухаць нават тады, калі б тое, пра што яна чытала, было для дзяцей незразумелым. Але яна чытала казку, і там усё было зразумелым і цікавым. І настаўніца шчыравала ў артыстызме. Мабыць, ёй самой падабалася, як яна чытае, і рабіла яна гэта з задавальненнем.

Скончыла. Агледзела прыціхлых першакласнікаў.

– Вам спадабалася казка?

– Спадабалася.

– Яе напісаў Пушкін Аляксандр Сяргеевіч.

– А дзе ён жыве?

– А ён ужо не жыве.

– Чаму?

– Ён памёр.

– Што такое "памёр"?

– Ну, людзі паміраюць. Перастаюць жыць. Тады іх цела закопваюць у зямлю.

– Закопваюць?.. У зямлю?!

Гэта было нешта няўцямнае, незразумелае і страшнае. Як гэта, чалавека закапаць у зямлю?

– Дык жа не чалавека закопваюць, а толькі яго цела.

Новая загадка! Калі цела закапаць, тады што ад чалавека застанецца?

– І Пушкіна закапалі?

– Так. І Пушкіна закапалі. Калі вы станеце дарослымі, зможаце прыехаць на тое месца, дзе ён пахаваны.

Але, пабачыўшы збянтэжанасць на тварах дзяцей, настаўніца вырашыла неяк змякчыць эфект, загладзіць узрушаныя пачуцці.

– Бачыце, Пушкін памёр, але казкі і вершы, напісаныя ім, людзі чытаюць і атрымліваюць задавальненне, як вось і вы зараз. Таму ён не зусім памёр. Яго творы жывуць і радуюць людзей. Значыць, і ён жыве сярод нас.

Гэта было таксама не зразумела – то памёр, то не зусім памёр, то перастаў жыць, то жыве сярод нас. Але дапытвацца больш не сталі, каб не заблытацца яшчэ болей. Жыве й няхай жыве. Пытанне аб смерці засталося загадкай на пазнейшы час.

## III. Першая кніга

У другім паўгоддзі першага класа Міша навучыўся чытаць досыць бегла, і выхавацелька Ганна Сяргееўна знайшла слушнае прымяненне гэтай яго здольнасці. Звычайна пасля абеду, калі пачыналіся дзве гадзіны ціхага часу, дзяцей няпроста было прымусіць перастаць балбатаць, а легчы, закрыць вочы і паспрабаваць заснуць. З гэтай мэтай яна прыходзіла ў палату з нейкай кніжкай і чытала казкі ці апавяданні. З цягам часу яна пачала davяраць гэтую дзею Мішу. Напачатку ў яго атрымлівалася не вельмі складна, блытаўся ў доўгіх ці незразумелых словах, спатыкаўся на сугуччах, губляў радкі. Ганна Сяргееўна кантралявала і папраўля-

ла. Паступова налаўчыўся чытаць амаль бездакорна, і Ганна Сяргееўна займела некалькі хвілін вольнага часу, пакідаючы Мішу сам-насам з класам.

Такая практыка садзейнічала яшчэ большай здольнасці хлопца да чытання. І аднойчы ён насмеліўся папрасіць Ганну Сяргееўну даць прачытаць тоўстую кнігу. Ганна Сяргееўна прынесла "Прыгоды Чыпаліна". Кніга была сапраўды тоўстай, бо напісаная буйным шрыфтам, да таго ж з карцінкамі, якія дапамагалі сачыць за падзеямі ў тым гароднінным капіталістычным грамадстве, дзе нейкае Цыбулянё, дзякуючы свайму паху, ад якога цякуць слёзы, перамагло злога Памідора, і ў грамадстве наступіў лад.

Кнігу адолеў даволі хутка, бо, напісаная таленавітым Джані Радары, яна прымушала сачыць за падзеямі далей і далей, і гэта не стамляла. Па заканчэнні засталося адчуванне, быццам пабываў у нейкай дзівоснай краіне.

З таго часу вырашыў, што чытаць кнігі – вельмі цікавы занятак.

Маці прыязджала мо раз на месяц, прывозіла маленькія падарункі – цукеркі ў папяровым пакецику, пернікі або нешта з свайго агарода, калі прыходзіў адпаведны час. Цукеркамі ці іншымі прысмакамі даводзілася дзяліцца, бо няёмка ж есці нешта смачнае, калі астатнія глытаюць слінькі. Аднойчы маці спазнілася на рэйсавы аўтобус і, каб не чакаць наступнага на прыпынку, вярнулася да сына. Яго пакецік з цукеркамі быў амаль пусты. Анця абурылася:

– Дзе цукеркі?

– Мама, я пачаставаў дзяцей.

– Я за гэтыя цукеркі грошы плачу, якіх у мяне няма. А ты раздаеш...

– Мама, дык і ім жа прывозяць. І мяне частуюць.

Анця змоўкла. Адыходзячы, яна пакінула Мішу яшчэ рубель.

На грошы, якія пакідалі сваякі, што прыязджалі праведаць роднае дзіця, можна было папрасіць сястру ці нянечку набыць у краме нешта смачнае ці нешта патрэбнае. Летам хтосьці з мясцовых жыхароў прыносіў чарніц ці буякоў, якія прадавалі па 50 капеек за шклянку. Аднойчы жанчына прынесла прадаваць чарніцы па рублю. Гэта было дорага, але чарніц хацелася, і нехта з дзяцей набыў стакан. Якраз зайшла выхавацелька і, даведаўшыся пра кошт ягад, накінулася на прадавачку з папрокамі, што абірае хворых дзяцей.

– Дык жа чарніцы ў гэтым годзе не ўрадзілі – апраўдвалася тая. – Іх амаль няма ў лесе.

– Няма, дык чаго ты сюды носіш? Назбірала і еш сама!

І прымусіла ўсё ж вярнуць паўрубля дзіцяці. Калі па паўрубля, то і іншыя дзеці захацелі набыць ягад. У выніку жанчына зарабіла не рубель, а больш за тры рублі, атрымаўшы пэўны ўрок для свайго камерцыйнага досведу.

Міша думаў, на што патраціць свой рубель. Нейкія капейкі ў яго яшчэ былі. Прыязджалі сваякі і пакідалі драбязу. Так што ён лічыў сябе багатым. Думаў, думаў і прыдумаў: трэба набыць кнігу. Няхай у мяне будзе свая кніга.

Назаўтра папрасіў нянечку, аддаючы рубель:

– Купіце мне кнігу.

– Якую кнігу? – здзівілася нянечка.

– Якую-небудзь, любую.

Яму здавалася, што ўсе кнігі цікавыя.

Назаўтра нянечка прынесла кнігу. Ён яе некаторы час круціў у руках, адкладваючы задавальненне чытаць напазней. Прынеслі абед, потым быў ціхі час, потым прынеслі на падвячорак кісель з лустачкай булкі. Нарэшце настаў час, калі можна было адкрыць кнігу. Ён адкрыў, чакаючы нечага цікавага. Шрыфт быў маленькі, але гэта была невялікая праблема. Ён пачаў чытаць.

Словы былі ў большасці знаёмыя, але яны не складваліся ў зразумелыя сказы, бо сустракаліся словы зусім незнаёмыя. Даволі часта траплялася слова "рэфлекс".

Кніга была з маленькімі некаляровымі карцінкамі, з якіх часцей паглядалі сабачкі, чамусьці перавязаныя. Мо, параненыя? Сабачак было шкада.

Кнігу пра параненых сабачак хлопчык чытаў упарта далей, спадзеючыся, што на нейкай старонцы яму патлумачаць, хто такі рэфлекс, і ён далей будзе разумець, што гэты рэфлекс робіць з сабачкамі. Але ўрэшце здаўся. Закрыў кнігу з шкадаваннем і неўразуменнем. Выявілася, што не ўсе кнігі такія цікавыя і лёгка чытэльныя, як кніга пра Чыпаліна.

Значна пазней, недзе ў апошніх класах школы, успомніўшы той эпізод, Міша зразумеў, што нянечка набыла яму адну з кніг акадэміка Паўлава. Папракаць нянечку няма сэнсу. Яна, хутчэй, сама была малапісьменнай і не ведала, якую кнігу набыць хлопчыку. А прадавачка крамы, у якой прадавалася ўсё – ад хлеба і зліплых цукерак-падушачак да кальсонаў і рыдлёвак, у тым ліку сякія-такія кнігі, – можа, і магла б дапамагчы, але, мабыць, іншыя кнігі каштавалі больш за рубель. Давялося спыніцца на гэтай. Хлопчык жа сказаў: любую!

Неяк пазней яго наведаў брат Мікола. Пачуўшы гісторыю з кнігай, ён наступным разам прывёз тоўстую кнігу. Кніга чамусьці называлася газетай. "Лесная газета" Віталя Біанкі аказалася сапраўды цікавай кнігай, і Міша перачытваў яе не адзін раз. Яна вярнула яму адчуванне, што чытаць кнігі – цікавы занятак.

## IV. Ноч свабоды

Уявіце сабе чалавека ў койцы, загіпсаванага ад пояса да калена на адной назе і да пяткі на другой. Бачныя толькі пальцы, якімі можна неяк паварушыць. У гэтай койцы праходзіць усё ягонае жыццё. Сюды прыносяць ежу, прыносяць сякія-такія забаўлянкі, прыносяць судна ці "вутку" для натуральных патрэбаў і нават падкладваюць іх куды трэба, каб ён гэтыя патрэбы змог задаволіць, не забрудзіўшы прасціню.

Так выглядаў партрэт хлопчыка ў тыя часы, калі Беларуская служба радыё "Свабода" пачынала сваю дзейнасць, з якой ён тады ніяк не мог судакранацца, нават як пасіўны і абыякавы слухач. Бо было яму тады сем год, і ляжаў так ён ужо два гады, і ляжаць, як пазней выявілася, наканавана было яшчэ пяць...

Гіпс, натуральна, быў не заўсёды. Яго праз два-тры месяцы зразалі, каб нага магла адпачыць і адрасці, але праз пэўны час загіпсоўвалі зноў. Гэтыя прамежкі без гіпсу былі ўжо глытком свабоды, якую ён скарыстоўваў мабыць занадта актыўна. Бо каму ў такім узросце не хо-чацца рухацца, – ну хаця б вось перакульнуцца ў койцы! І ўрачы досыць хутка апраналі яго нагу ў новую гіпсавую нагавіцу.

Такіх, як ён, у палацe Чачэвіцкага дзіцячага косцева-сухотнага санаторыя было паўтара дзясяткі – цэлы клас. Не яны хадзілі ў школу, а настаўнікі прыходзілі да іх і вучылі чытаць і пісаць алоўкам у сшытку, прыкладзеным да кавалка фанеры (аловак знізу, папера з фанеркай зверху). Настаўнікі, медсёстры, нянечкі з'яўляліся ў палаце нібыта з нейкага іншага свету, зайздроснага сваёй недасягальнасцю, і туды ж знікалі. А яны заставаліся ў межах чатырох сцен, знізу да паловы зялёных, зверху белых, белай столі і падлогі, колеру якой ён не запомніў, бо вочы насельнікаў палаты часцей былі скіраванымі ўверх ці ўбок і рэдка – уніз.

Койкі былі на катках, дзякуючы якім іх дастаўлялі на працэдуры, а летам з усіх палат выкочвалі на дзень на крытую вялікімі брызентавымі прастакутнікамі прасторную веранду падыхаць чыстым паветрам з пахам навакольных соснаў. Так ішло іх жыццё з сваімі маленькімі крыўдамі і радасцямі, з праявамі дзіцячай гарэзлівасці і свавольства, за якое магло наступіць і пакаранне: свавольніка выкочвалі ў калідор і пакідалі там пасумаваць нейкі час аднаго.

[1] Расповед адзначаны прызам літаратурнага конкурса да 50-годдзя Беларускай службы "Радыё Свабода" (2004 г.).

Аднойчы, ужо ў даволі позні час, калі выхавацелька павінна была пакласці дзяцей спаць і сысці дадому, нейкая гарэза напала на яго. Ён з кімсьці гучна гаманіў, смяяўся, выхавацелька спрабавала супакоіць і ўрэшце прыгразіла выкаціць на ноч у самы дальні і цёмны куток калідора. Каб прадухіліць такое, ён звязаў ручніком сваю койку з койкай суседа і працягваў свавольнічаць. Разгневаная выхавацелька пачала тузаць койку, але яна не паддавалася, і гэта весяліла яго яшчэ больш.

Урэшце яна разабралася, у чым справа, і, яшчэ больш разлаваная, рэзкімі рыўкамі развязала вузел ручніка і пакаціла койку ў калідор. Потым, мабыць, вырашыла, што калідор – слабое пакаранне для неслуха і пакаціла далей, на веранду, пакінуўшы там аднаго пасярод пустой цёмнай прасторы. “Паспіш адну ноч тут!” Праз колькі хвілінаў вярнулася, памарудзіла, мабыць, чакала, што ён будзе плакаць і прасіцца, але ён маўчаў. І яна, накрыўшы хлопчыка яшчэ адной коўдрай, сышла ўжо беззваротна.

Міша застаўся адзін. Было і страшна, і цікава. Ён прыслухоўваўся да гэтай цішыні і не адчуваў яе варожасці. Пачаў аглядвацца і пашкадаваў, што яна не падвезла яго да парэнчаў веранды. Адтуль былі б бачныя і неба з месяцам і зоркамі, і жвіровая дарожка вакол будынка, і клумбы з кветкамі за ёй...

Як туды пад’ехаць? Для гэтага трэба злезці з койкі. Але... Што можа тут зрабіць загіпсаванае дзіця з недаразвітымі цягліцамі? З гэтай койкі ён не злазіў ужо тры гады, у патрэбных выпадках яго здымалі. І нават сам намер злезці ўспрымаўся ўжо як пасяганне на нешта забароненае. Акрамя таго, перакуліцца праз бакавіну койкі ён, можа, і змог бы, але ж, падаючы на падлогу, нарабіць грукату сваім гіпсам. І нават калі гэтага грукату не пачуюць, як потым залезці назад? Змерзнуць на падлозе і паклікаць на дапамогу? Гэтага вельмі не хацелася! І магло абярнуцца яшчэ большым пакараннем, хаця якое можа быць большае пакаранне, ён не ведаў.

Але, як кажуць, вочы баяцца, а рукі й ногі робяць. Цікаўнасць пераважыла страх. Ён вызваліўся з-пад коўдраў, падсунуўся да краю і пачаў рабіць упартыя спробы перакінуць загіпсаваную нагу праз жалезную бакавіну койкі. Стаміўшыся і не дасягнуўшы поспеху, спыніў спробы і задумаўся. Ідэя знайшлася. Ён прыўзняўся на адной руцэ, а другой пазапіхаў пад крыжавіну скамечаныя коўдры. Так утварылася апора падважніка. Калі ён, змораны гэтай няпростай працай, апусціў плечы на ложак, нага задзірыста ўзнялася, і лёгкім паваротам ён занёс яе над бакавінай. Асцярожна паварочваючыся далей, змог заняць становішча ўпоперак койкі.

Ногі віселі над падлогай, а рукамі трымаўся за другую бакавіну. Адпусціць рукі – азначала ўпасці і нарабіць грукату і, магчыма, пабіцца самому. Гэтага не хацелася, але што рабіць далей, ён не ведаў. Давялося вярнуцца назад і паўтарыць тое ж, толькі ўжо носам уніз. І не пасярод койкі, а каля яе спінкі. Трымаючыся за гэтую спінку, ён пачаў павольна пасоўваць гіпсавае тулава праз бакавіну. Самым небяспечным было становішча, калі гіпсавая павязка канчалася і на жалязяку леглі б яго рэбры. Ён разумеў, што рэбры трымаць загіпсаваную масу не змогуць, і тады трэба як найхутчэй саскочыць. Але лёгка сказаць “саскочыць”. Ён ссунуўся, здзіраючы скуру з грудзей і стукнуўшыся аб бакавіну падбародкам, і, калі ногі дасягнулі падлогі, койка паехала на яго і ён павіс на руках пад ёй у нахіленым стане.

Але гэта быў ужо вынік!

Ён адпачываў на падлозе і шукаў план далейшых дзеянняў. Заняць вертыкальнае становішча каля няўстойлівай койкі было няпроста. І ён папоўз па падлозе, пакідаючы за сабой белы гіпсавы след і падштурхоўваючы за сабой койку. Так ён разам з койкай дабраўся да парэнчаў, аздобленых кратамі з касых планак. Гэтыя краты дапамаглі яму падняцца і праз серыю розных спробаў неяк забрацца

зноў на койку. Ён ляжаў і адпачываў, як чалавек, прыемна стомлены паспяховай працай. Працай, на якую я патраціў, мабыць, не адну гадзіну часу.

Увесь санаторый спаў. Хлопчыку ж спаць не хацелася. Ён углядваўся ў нязвыклыя і таямнічыя краявіды зорна-месячнай ночы, услухоўваўся ў яе дзівосныя гукі, успрымаў прыемна-прахалоднае казытанне ветрыка і пахі, якія ён даносіў. Потым пачаў, падцягваючыся за парэнчы, пераязджаць на новыя месцы. Койка паслухмяна кацілася, каткі ціха павісквалі. Яму захацелася хуткасці, і ён пачаў штурхаць койку рэзкімі рыўкамі, пераязджаючы з аднаго канца веранды да другога. Яго задавальненне можа зразумець той, хто ўпершыню сеў за руль аўтамабіля і імчыць па шырокай дарозе, націскаючы педаль газу. Накатаўшыся ўдосталь, пад'ехаў да сходніка, які злучаў веранду з жвіровай дарожкай, павярнуў на гэтую нахільную плоскасць і... доўга не рашаўся адпусціць рукі. Але ўсё ж адпусціў. Койка, набіраючы хуткасць з горкі, прашамацела каткамі па жвіры дарожкі і спынілася паміж клумбамі.

Вакол яго былі кветкі, за імі шапацелі лістотай дрэвы, а нааад ііім... О, над ім была не белая столь палаты!.. Недзе далёка-далёка і ў той жа час зусім блізка – працягні руку і памацай! – над ім было чорнае неба, усыпанае бліскаўкамі зорак. Яны падміргвалі яму! Так, так, яму! Мабыць, радаваліся, што ён з імі. І, здаецца, нават звінелі. Так, зоркі звінелі-смяяліся, і ён усміхаўся ім насустрач.

Ён ужо не помніў пра ложак, у якім ляжаў, не помніў пра санаторый, не помніў пра выхавацельку, ён быў між зорак. Ён лётаў між імі, гуляў з імі, размаўляў з імі...

Ён спаў шчаслівым сном свабоднага чалавека.

## Эпілог "іншага чалавека"

Больш за шэсцьдзесят гадоў прайшло з той пары – цэлае жыццё. Ужо цяжка ўявіць, што гэта быў я. Таму паспрабаваў паглядзець на таго сябе як бы збоку, вачыма іншага чалавека.

Калі я расказваю апошнюю гісторыю, у мяне часта пытаюцца: а што было потым з той выхавацелькай? Шчыра кажучы, не ведаю. Не помню, ці з'яўлялася яна ў нашай палаце пазней. Здаецца, з'яўлялася. Мяркую, што нічога страшнага з ёю не адбылося. Хіба што якая размова з галоўным урачом. Мяркую найперш па тым, што ў санаторыі былі надзвычай добразычлівыя стасункі як паміж супрацоўнікамі і выхаванцамі, так і паміж самімі супрацоўнікамі. Я не помню, каб хто-небудзь з кім-небудзь размаўляў павышаным тонам.

І мне за маё свавольства ніякага пакарання не было. Я нават не помню, як апынуўся ў палаце. Калі мяне кацілі ад клумбаў у палату, я спаў сном асілка і не прачнуўся. Аднакласнікі нічога не пыталіся. Яны думалі, што я правёў ноч на калідоры, – гэта было звыклай з'явай і не выклікала ніякіх роспытаў. І сам я не стаў хваліцца прыгодай, бо, што ні кажы, разумеў, што зрабіў парушэнне, а хваліцца сваімі грахамі не варта. Такое ў мяне тады было разуменне. Прыгода засталася маёй таямніцай.

Прычыну той міралюбнай атмасферы ў санаторыі, мабыць, варта звязваць з асобай галоўнага ўрача Барысава Георгія Мікалаевіча. Высокі, прыгожы і досыць малады чалавек быў надзвычай прыязным у стасунках з іншымі людзьмі. Я не магу больш падрабязна патлумачыць гэтую рысу яго асобы, бо даводзілася бачыць яго не вельмі часта, і гэтыя сустрэчы былі кароткачасовымі. Але кожная такая сустрэча пакідала адчуванне прыемнай цеплыні, ціхага спакою і добразычлівасці. Гэта адбівалася і на паводзінах іншых супрацоўнікаў.

Прыязным добразычлівым чалавекам была і наша доктарка Івашкова Леакадзія Сцяпанаўна.

У санаторыі працаваў дворнік, які даглядаў сад, што ў яго абавязкі ўвогуле

не ўваходзіла. Яго намаганнямі былі дагледжаныя яблыні, з якіх нас па восені частавалі яблыкамі, быў засаджаны бульбай участак зямлі і, галоўнае, створаны прыгожыя клумбы паўз жвіровую дарожку каля будынка. Якіх толькі кветак там не было! Мы імкнуліся запомніць іх назвы і, каб дапамагчы гэтаму, выхавацелька развучыла з намі гульню ў садоўніка. Кожны з гульцоў абіраў сабе назву нейкай кветкі, і гульню пачынала выхавацелька:

– Я садоўнікам радзіўся, не на жарты рассярдзіўся: усе кветкі мне ня любы, акрамя...

Яна аглядвала гульцоў, вышукваючы таго, хто не вельмі ўважлівы, і заканчвала:

– ... акрамя настурцыі.

Але напачатку ўсе былі ўважлівымі. І “настурцыя” падхоплівала:

– Ой!

– Што з табой?

– Палюбіла.

– Каго?

– Цюльпан.

“Цюльпан” павінен быў адрэагаваць гэткім жа “Ой!” і паведаміць, каго ён “палюбіў”. І г.д. Калі нейкі “рамонак” задумаўся і не заўважаў, што ў яго нехта закахаўся, з яго бралі фант – нейкую асабістую рэч. У канцы гульні, каб вярнуць свае фанты, гулец павінен выканаць тое, што ад яго запатрабуе той, хто яго назваў у гульні: праспяваць песню (хаця б адзін куплет), расказаць верш, пацалаваць спінку койкі, тры разы пракукарэкаць ці зрабіць што іншае.

Я часцей выбіраў для сябе кветку бяссмертніка. Падабалася і назва (не хацелася быць закапаным у зямлю!), і сама кветка з жорсткімі пялёсткамі, якія не маглі завянуць.

Зважаючы на намаганні дворніка па доглядзе саду, галоўны ўрач змог выпатрабаваць для санаторыя палову стаўкі садоўніка, і чалавек стаў атрымліваць невялікую дадатковую зарплату за сваю працу, якую ён без аплаты выконваў і раней. На жаль, прозвішча гэтага цудоўнага чалавека не захавала ні мая памяць, ні дакументы санаторыя, якія зараз захоўваюцца ў Магілёўскім абласным архіве.

У такой атмасферы праходзіла маё доўгае лекаванне. Але ж няма роду без звыроду. І на здаровай яблыні гнілы яблык знойдзецца.

Аднойчы пасля таго, як маці паехала дадому, да мяне падышла нянечка:

– А ты ведаеш сваё ранейшае прозвішча?

Пытанне мяне збянтэжыла: і ранейшае, і сучаснае прозвішча было аднолькавым.

– А маці сказала, што ты не яе сын. Яна цябе ўсынавіла.

Ці варта распавядаць, як такое паведамленне было ўспрынята малым хлопцам? Я ляжаў як аглушаны. І гэты стан у большай ці меншай ступені працягваўся каля месяца, пакуль чарговы раз маці прыехала мяне праведаць. Я сустрэў яе надзьмуты і нават не павітаўся.

– Што з табой? – здзівілася яна.

– Чаму ты мне раней не сказала, што я не твой сын?

– Што?! – здзівілася маці. – Хто табе такое сказаў?

– Нянечка.

– А яна адкуль ведае?

– Дык ты ж ёй сама сказала!

– Нічога я ёй не казала! Дый як я магла такое сказаць, калі сама цябе нарадзіла? Ты паглядзі на Колю. Ён твой родны брат. Вы ж падобныя з ім. Не слухай абы чаго!..

Неяк ёй удалося супакоіць мяне.

Дарэчы, нянечкі той я пазней не бачыў. Мабыць, яна звольнілася ці яе звольнілі. Не ўпісалася жанчына ў міралюбнасць санаторнага калектыву.

У пятым класе нас вучылі ўжо розныя настаўнікі. Запомніўся настаўнік матэматыкі Мікалай Яўхімавіч, які любіў здзіўляць матэматычнымі фокусамі і нечаканымі пытаннямі, адказы на якія здаваліся простымі, але тыя “простыя” выяўляліся няправільнымі. А правільныя былі такімі, у якія не хацелася верыць. Менавіта ад яго я ўпершыню пачуў знакамітую задачу пра жанчын, якія прыгатавалі сабе аднолькавы абед на вогнішчы, для якога адна прынесла тры палены дроў, другая – пяць пален, а трэцяя, у якой дроў не было, аддала ім восем капеек. І як яны павінны падзяліць тыя грошы па справядлівасці? Гэтай задачай я сам, калі стаў настаўнікам, любіў здзіўляць сваіх вучняў.

Адметнай асобай была і настаўніца беларускай мовы і літаратуры; здаецца, яе звалі Людмілай Феліксаўнай. Калі настаўніца прыходзіла на ўрок у панядзелак, усе пяцікласнікі пачыналі ўпрошваць яе:

– Людміла Феліксаўна, раскажыце кіно.

Па суботах у Чачэвіцкі клуб прывозілі кінафільм, і амаль усе жыхары вёскі ўключна з мясцовай інтэлігенцыяй хадзілі яго глядзець. Фактычна, гэта было для іх адзінай культурнай дзеяй, якую потым некалькі дзён абмяркоўвалі.

Для нас, ляжачых насельнікаў санаторыя, такая дзея была недасягальнай. Але раз-пораз мы чулі, як медсёстры ці нянечкі размаўляюць пра кіно. Тыя размовы ўзбуджалі нашую цікаўнасць. І гэтая цікаўнасць вылівалася ў такую просьбу.

Настаўніца нядоўга супраціўлялася. Яна тлумачыла, што не паспеем вывучыць чарговы раздзел, мы ж абяцалі самастойна разабрацца па падручніку. На гэтым пагаджаліся. Яна называла раздзел, давала “хатняе” заданне, мы запісвалі – і яна пачынала.

Трэба сказаць, што ў яе быў нейкі дар апавядальніцы. Яна расказвала так, што мы, уважліва слухаючы, нібыта глядзелі тое кіно, суперажываючы яго героям. Да таго ж, гэта быў урок мовы, бо распавядала яна беларускай мовай, якая так натуральна ўваходзіла ў нашы вушы і паступова засялялася ў патрэбным закутку мозга. Неяк яна выгадвала так, што “канец фільма” амаль заўсёды супадаў з канцом урока.

Два-тры разы на год кіно прывозілі і ў санаторый. Тады выхаванцаў выкочвалі на койках у прасторны калідор (мяркую, не ўсіх, бо ўсе не змясціліся б), выстаўлялі койкі ў тры шэрагі, для тых, хто мог хадзіць, ставілі наперадзе крэслы. Кінапраектар ставілі ў калідоры на патрэбнай адлегласці ад прасціны-экрана і запускалі кіно. Тым, каму выпадала ляжаць каля праектара ці далей, з-за яго трэску было цяжка расчуць размовы герояў фільма, але і ў такім выглядзе было цікаваназіраць за жыццём экранных фігур. Тым болей, што падзея была рэдкай.

Былі іншыя забавы, якімі мы цешыліся. Нас вучылі гуляць у шашкі і шахматы. Нават спаборніцтвы праводзілі. Неяк асобных з нас пачалі вучыць ігры на скрыпцы. Скрыпкі былі толькі дзве і, мабыць, не санаторныя, чалавек прыносіў свае. Слабыя дзіцячыя рукі не заўсёды маглі ўтрымаць тую ці іншую рэч. Аднойчы хтосьці з дзяцей не ўтрымаў скрыпку, і яна стукнулася аб жалезную бакавіну койкі. Скрыпка не пацярпела, але яе гаспадару не захацелася надалей рызыкаваць інструментам. На гэтым музычныя заняткі спыніліся.

Калі па заканчэнні пятага класа мяне прызналі годным да выпуску ў вольны свет, мяне апаноўвалі супярэчлівыя пачуцці. З аднаго боку, мне хацелася “на волю”, хацелася апынуцца сярод людзей, якія не ляжаць, а ходзяць, нешта робяць, нечым цешацца. З іншага боку было трывожна пакідаць звыклы, такі знаёмы і зразумелы асяродак. Што ні кажы, а сем год для дванаццацігадовага хлопца – гэта амаль усё жыццё. А “там” жыццё зусім іншае, не падобнае на тое, якім жылі мы.

Я хваляваўся, Але ўжо прыехала маці, прывезла сваю адзежу, абутак. І мы з ёю паехалі ў той іншы свет...

Яніна Равяка



...якая недарэчнасць –
чалавечая мова...

# Незакрэсленыя радкі

***непрамоўленае***

*

я падаю ў прорву сябе
шукаю словы
той мовы
што прагнула стаць роднай
але так і не стала

асобныя літары што
складваюцца ў словы што
складваюцца ў тэксты

з чаго складваюцца
пачуцці

*Гэтая нізка вершаў перамагла ў конкурсе* ***“Экслібрыс”*** *імя Ніла Гілевіча.*

*Найшчыра віншуем аўтарку!*

адшукаць найменшую непадзельную часціну
ўбудаваць яе ў сістэму
стварыць правілы
здолець перадаць іншым
мастацтва слова –
прыгожы выраз
я не ўмею знаходзіць словы
я – не-мастачка

я маўклівая постаць што
ранкам
чытае пра структуры ўлады
ўвечары –
ўрокі практыкі
выпрабаванне ўмення прымяняць тэорыі

ці былі патрэбныя ўсе тыя ранкі
калі мастацтва пачуццяў
вымушанае стаць мастацтвам слова
так і засталося
непрамоўленым

*

адзінота што
стала паўсядзённасцю
дазваляе шукаць словы
але не дазваляе іх знаходзіць

*

закрэсленых радкоў больш
чым удалых
не сказаных словаў больш
чым прамоўленых
якая недарэчнасць –
чалавечая мова

*

насупраць майго вакна крама
дзе прадаецца мяса
штодзень каля яе чарга з тых
хто прагне жэрці

рэклама на ўваходзе прапаноўвае зніжкі
на выпадак
калі захочацца яшчэ і яшчэ
перагарэлая гірлянда што засталася з Калядаў

абяцае пачуццё свята
сярод трупаў забітых жывёлаў
рупна запакаваных у пластык

заходзьце
стойце ў чарзе
абірайце
набывайце яшчэ і яшчэ
вам прапаноўваюць зніжку!
бярыце
каб хапіла да скону
адзначайце святы жыцця
іншымі няіснымі ўжо жыццямі

### ***new beginnings***

*

я вырастаю са старых вершаў
нібыта са старога адзення ў дзяцінстве
нагавіцы пачуццяў становяцца занадта
кароткімі
метафары думак не пралазяць
праз галаву
каленкі словаў бачныя
з-пад спадніцы

старое адзенне даношваюць
малодшыя сёстры
старыя вершы не аддасі
нікому

*

апошні кавалак самы смачны –
падзяліся ім з іншым
апошні радок самы моцны –
пачні з яго новы верш
маё апошняе
слова
рух
погляд
усмешка
дотык
верш
што з вас пачнецца?
з кім я вамі падзялюся?

### *mother*

я душыла цябе сваім цяжарам доўгія месяцы
прымушала ванітаваць
прагнуць ежы што выклікае ва ўсіх усмешкі
табе не саступалі месца ў грамадскім транспарце
калі ты ехала ў паліклініку
дзе дактары запэўнівалі
што баяцца не трэба
ўскладненняў быць не павінна

з майго маленькага цела
сцякалі кроплі поту
у спёку
ў якую я нарадзілася
ты стаяла бясконца
схіліўшыся над ракавінай
і мыла мае пялёнкі
якія не было дзе сушыць
пад ліпеньскім сонцам

зімовымі ранкамі
ты прасавала мае майкі
якія было так прыемна надзяваць
у холадзе пакоя
і навакольнай абыякавасці

ты хвалявалася з-за маіх хваробаў
слёз
крыкаў
балючых словаў прамоўленых зноў і зноў
але так кажуць звычайна
я не ведаю што ты да мяне адчувала

я б хацела задаць табе столькі пытанняў
распачаць столькі размоваў

я б хацела быць табе ўдзячнай
але ў мяне не атрымліваецца

### *winter*

*

стары новы год
нелагічнасць мовы
антонімы што сталі адзін за адным

апошняя спроба свята
калі ўсе святы ўжо скончыліся
да таго ж –
субота працоўная

*

адкуль ты тут з’явіўся
цябе не было столькі
ніколі
мае ногі
заблытваюцца
яны яшчэ здольныя
заблытвацца
мае думкі ўжо даўно
заблыталіся
у мінулым цяперашнім нявызначаным
але
не зніклі

думкі
лепш бы ўжо вас не стала

я крочыла па табе
і думкі рабіліся вершамі
мне падавалася
трапнымі
але яны зніклі
іх не паўтарыць

вершы
як вам не даць знікнуць

узгадваю машыну
што стаяла на скрыжаванні
пакуль я пераходзіла цераз дарогу
яна з нечым так удала
рыфмавалася
але я не нашу з сабой сшыткаў
не занатоўваю вершы
калі яны атрымліваюцца найбольш
трапнымі

а раптам вершы знікаюць таму
што ты растаў на маім паліто
калі я прыйшла
дадому

О. Генры



...уявіце сабе сонечнае ўзбярэжжа,
дзе пануе вечнае лета, дзе хвалі разбіваюцца
аб маляўнічыя берагі і дзе ўсе людзі
вольныя і шчаслівыя, нібы дзеці...

# Пакуль чакае аўтамабіль

***Два апавяданні***

## Дробязны прыхільнік

Тут, у гэтым вялізарным універмагу, служылі тры тысячы дзяўчын, у тым ліку і Мэйзі. Ёй было васямнаццаць гадоў, і яна працавала ў аддзеле мужчынскіх пальчатак. Менавіта ў гэтым аддзеле яна добра вывучыла два тыпы людзей: мужчыны, якія могуць самі прыйсці ва ўнівермаг і купіць сабе пальчаткі, і жанчыны, якія купляюць пальчаткі сваім паднявольным мужчынам. Мэйзі не толькі атрымала даволі разнастайныя веды пра людскі род, але і даведалася яшчэ шмат чаго карыснага. Яна прыслухоўвалася да жыццёвага вопыту 2 999 іншых дзяўчат і захоўвала яго ў сваёй душы, якая была такой жа скрытнай і насцярожанай, як у мальтыйскай кошкі. Мажліва, прырода прадбачыла, што Мэйзі заўсёды ў жыцці будзе не хапаць мудрых парадаў, таму і дадала

да яе прыгажосці выратавальную долю пранікнёнасці. Гэтак жа сама, як у выпадку з чарнабурай ліСіцай, якую прырода надзяліла не толькі каштоўным футрам, але і большай за іншых жывелін хітрасцю.

А Мэйзі была вельмі прыгожая. Мела яна густыя бялявыя валасы і велічную постаць пані, што за вітрынай на вачах публікі гатуе сметанковыя торты. Адно Мэйзі стаяла не за вітрынай цукерні, а за прылаўкам Універмага. І вось падчас таго, як гэтая красуня здымала з вас мерку для пальчатак, вы ў думках асацыявалі яе з Гебай, але потым вы ўжо дзівіліся: якім чынам на месцы юнай Гебы раптам з’явілася мудрая Мінерва.

Звычайна на працягу працоўнага дня Мэйзі жавала фруктовыя слодычы, але выключна ў тыя моманты, калі адміністратар не назіраў за ёй. Варта яму было толькі глянуць у бок дзяўчыны, як яна, быццам ні пры чым, стаяла з летуценнай усмешкай і глядзела кудысьці ўгару, нібы сачыла за аблокамі.

Вось жа гэтая ўсмешка прадавачкі! Уцякайце ад яе, калі толькі нячуласць, дзівакаватасць і жыццёвы вопыт не ахоўваюць вас ад стрэл Купідона. Прынамсі, усмешка Мэйзі не належала краме, бо мела прызначэнне для асабістай часткі яе жыцця, аднак у адміністратара аддзела на гэты конт было сваё меркаванне. Ён сумяшчаў у сабе ўсе рысы сапраўднага гандляра: гэткі шэкспіраўскі Шэйлак свайго часу. На прыгожанькіх дзяўчат ён глядзеў так, як хціві мытнік на асобаў, ад якіх можна атрымаць хабар. Гэты нягоднік наўпрост распранаў дзяўчат вачыма, забываючыся на ўсе мажлівыя і немажлівыя нормы пристойнасці. Але ж, вядома, ёсць і прыемныя выключэнні. Вось напрыклад, некалькі дзён таму газеты пісалі пра аднаго адміністратара, якому пераваліла за восемдзесят...

Аднаго разу ва Універмагу выпадкова апынуўся Ірвінг Картэр, мастак, мільянер, падарожнік, аўтамабіліст і паэт. Візіт гэты, трэба адзначыць, быў зусім не дабраахвотны: сыноўскі абавязак схапіў яго за каўнер і прыцягнуў туды, дзе яго маці разбіралася з бронзавымі і керамічнымі статуэткамі.

Каб неяк прабавіць час, Картэр накіраваўся ў аддзел пальчатак. Яму сапраўды патрэбны былі пальчаткі: свае ён пакінуў дома. Зрэшты, апраўдваць яго няма патрэбы, бо малады чалавек ведаць не ведаў, што купля пальчатак можа быць падставай для флірту.

У нейкі момант Картэр адчуў імаверную лёсавызначальнасць становішча і завагаўся, бо раптам усвядоміў нязведанную ім ніколі раней і прыкраганебную частку працы дасведчанага Купідона.

Трое ці чацвёра бесклапотных франтаватых хлопцаў схіліліся над прылаўкамі, не столькі займаючыся набыццём пальчатак, колькі выкарыстоўваючы добрую нагоду для флірту з прыгожанькімі дзяўчатамі. Дзяўчаты гэтыя, дарэчы, пасмейваліся і жвава падыгрывалі сваім кавалерам, умела карыстаючыся палкімі струнамі какецтва. Картэр ужо хацеў падацца назад, але дзе там. Мэйзі, стоячы за прылаўкам, сустрэла яго запытлівым позіркам сваіх прыгожых халодных вачэй, прамяністы блакіт якіх нагадваў зіхаценне сонца на лёдзе айсберга, што дрэйфуе недзе ў паўднёвых водах.

І тут Ірвінг Картэр, мастак, мільянер і г.д., пачуў, як чырвань кранула яго арыстакратычны бледны твар. Але ж не баязлівасць пафарбавала яго шчокі, а ўсведамленне, што ён цяпер у адной лодцы вось з гэтымі пасрэднымі хлапцамі, што заляцаюцца да смяшлівых красуняў за іншымі прылаўкамі. Бо і сам ён зараз знаходзіўся каля дубовага прылаўка, апы-

нуўшыся на полі бою юрлівага Купідона і, згараючы ад жадання, марыў атрымаць увагу і добразычлівасць нейкай незнаёмай прадавачкі пальчатак. Дык ці ж адрозніваецца ён ад Біла, Джэка і Мікі, чым ён лепшы за іх? У гэты момант Картэр адчуў прыхільнасць да юнакоў разам з вострай пагардай да прымхаў, якімі ён кіраваўся, і непахіснай рашучасцю назваць гэтага неверагодна прыгожага анёла сваім.

Пальчаткі былі аплочаны і загорнуты, але Картэр марудзіў і ўсё ніяк не адважваўся накіравацца да выхаду. У куточках пунсовых вуснаў Мэйзі з'явіліся ямачкі. Яшчэ ніводзін мужчына, што падыходзіў да яе прылаўка, не быў у стане адразу адысці ад яго. Дзяўчына сагнула руку, якая, нібы ў Псіхеі, выглядвала з-пад рукава кашулі, і абаперлася ёю на прылавак, рыхтуючыся да гутаркі.

Картэр ніколі раней не сутыкаўся з сітуацыяй, дзе ён не быў гаспадаром становішча. Аднак вось ён стаіць і чырванее ад збянтэжанасці нават больш, чым Біл, Джэк і Мікі разам узятыя. Справа ў тым, што ў яго не было аніякага шанцу сустрэцца з гэтай красуняй у сваім асяроддзі. Не маючы досведу ў абыходжанні з прадавачкамі, Картэр спрабаваў цяпер прыгадаць іх тыповыя рысы і звычкі, пра якія ён калісьці чытаў ці чуў. Якімсьці цудам ён прыгадаў той факт, што пры знаёмстве яны іншы раз не настойвалі на пустых фармальнасцях, прадыктаваных правіламі этыкету. Сэрца яго шалёна закалацілася ад адной толькі думкі аб тым, каб запрасіць гэтае чароўнае нявіннае стварэнне на спатканне. Але душэўнае хваляванне нейкім чынам дадало яму смеласці.

Пасля некалькіх сяброўскіх, прыхільна ўспрынятых словаў на агульныя тэмы ён паклаў сваю візітку на прылавак, бліжэй да яе рукі.

– Прашу мне прабачыць, – сказаў ён, – не палічыце за дзёрзкасць, але я быў бы вельмі рады сустрэцца з вамі ізноў, калі вы дазволіце, вядома. Тут вы знойдзеце маё імя; з найвялікшай павагай прашу вас ашчасліўць мяне сваім сяброўствам. Ці магу я разлічваць на такі гонар?

Мэйзі добра ведала мужчын, асабліва тых, што набывалі пальчаткі. Таму яна, з усмешкай у вачах, паглядзела Картэру ў вочы і сказала:

– Хто ведае? Магчыма, вы і праўда добры чалавек. Але я звычайна не сустракаюся з незнаёмымі джэнтльменамі: непрыстойна для лэдзі паводзіць сябе такім чынам. Аднак калі б вы хацелі ўбачыцца са мной зноў?

– Чым раней, тым лепш, – адказаў ёй Картэр. – Дазвольце мне наведаць вас, і я...

Мэйзі мілагучна засмяялася.

– Не дай божа! – рашуча сказала яна. – Ведалі б вы, у якой кватэрцы я жыву! Упяцёх у трох пакоях. Хацела б я ўбачыць матулін твар, калі б прывяла дахаты такога сябра.

– Тады дзе і калі хочаце, – прамовіў закаханы Картэр, – каб толькі вам было зручна.

– Ведаеце што, – сказала Мэйзі, і яе персікавы твар асвятліўся нейкай гарэзлівай думкай, – вечар чацвярга, думаю, мяне задаволіць. Прыходзьце ў сем трыццаць на вугал Восьмай авеню і Сорак дзявятай вуліцы, я там жыву недалёка. Толькі вярнуцца дадому я павінна да адзінаццатай: матуля не дазваляе гуляць доўга.

Картэр падзякаваў Мэйзі і паабяцаў прыйсці на месца спаткання ў прызначаны ёю час, а потым паспяшаў да сваёй маці, якая ўсюды шукала сына, каб той ухваліў яе новую пакупку – бронзавую статуэтку Дыяны.

Прадавачка, кірпаносая дзяўчына з маленькімі вочкамі, быццам незнарок прайшла міма Мэйзі, усміхаючыся, і фамільярна спытала:

– Цябе, здаецца, можна павіншаваць?

– Джэнтльмен проста прасіў дазволу наведаць мяне, – ганарыста адказала Мэйзі, хаваючы візітку ў ліф.

– Наведаць? – перадражнілі яе Маленькія Вочкі. – Дай угадаю, ён гаварыў пра тое, як павядзе цябе на вячэру ва "Ўолдарф", а потым пакатае ў сваім аўтамабілі, ці не так?

– Супакойся ўжо, – стомлена адмахнулася Мэйзі. – Сумняюся, што табе вядома сапраўднае багацце. Хтосьці шмат пра сябе думае з той пары, як сходзіў з кіроўцам пажарнай машыны ў кітайскую забягалаўку. Між іншым, ён не сказаў мне ні слова пра "Ўолдарф", аднак на яго візітцы значыцца адрас Пятай авеню. Таму будзь упэўнена, што калі мяне запросяць на вячэру, то прымаць мой заказ будзе не кітаец з хвосцікам.

Калі Картэр разам з маці ад'язджаў ад Універмага на сваім новенькім аўтамабілі, то міжволі прыкусіў губу, пакутуючы ад ныючага болю ў сэрцы. Ён зразумеў, што ўпершыню за ўсе дваццаць дзевяць гадоў жыцця да яго прыйшло каханне. І тое, што яго каханая з такой гатоўнасцю прызначыла сустрэчу недзе на рагу вуліцы, выклікала пакутлівае сумненне, хаця і набліжала да запаветнай мары.

Картэр не быў знаёмы з прадавачкамі. Ён не ведаў, як выглядала іх жыллё: ці то ледзь прыдатны для жыцця закуток, ці то цесная кватэрка, дзе ўвесь час поўна людзей. Такім чынам, рог вуліцы служыў Мэйзі салонам, парк – гасціннай, а бульвар – алеяй для прагулак. Яна была сапраўднай спадарыняй, гордай і незалежнай, нічым не горшай за тых паненак у багатых пакоях, дзе сцены ўвешаныя габеленамі.

Аднойчы вечарам, праз некалькі тыдняў пасля першай сустрэчы, Картэр і Мэйзі, узяўшыся за рукі, гулялі па маленькім, цьмяна-асветленым парку. Яны знайшлі ўтульную лаўку, схаваную пад кронай дрэваў, і селі побач.

Упершыню яго рука асцярожна абняла Мэйзі, і яе залатакосая галава мякка апусцілася яму на плячо.

– Божа! – удзячна ўздыхнула Мэйзі. – Чаму вы не адважыліся на гэта раней?

– Мэйзі, – сур'ёзна сказаў Картэр, – вы, напэўна, разумееце, што я кахаю вас. Таму я ад шчырага сэрца прашу вас стаць маёй жонкай. Няўжо вы ўсё яшчэ лічыце, што не ведаеце мяне так добра, каб адкінуць любыя сумненні? Я не магу без вас, Мэйзі, я згараю ад жадання зрабіць вас сваёй. І розніца паміж нашымі сацыяльнымі статусамі мяне зусім не хвалюе.

– Якая розніца? – пацікавілася яна.

– Дарэчы, розніцы ніякай і няма, – паправіўся Картэр. – Так лічаць толькі дурні і невукі. Тым не менш, я хачу, каб вы ведалі, што ў маёй уладзе падарыць вам сапраўды раскошнае жыццё. Маё высокае сацыяльнае становішча і багацце дазваляюць зрабіць гэта.

– Ах, усе так гавораць, – прамовіла Мэйзі. – Хлусяць і нават не чырванеюць. Я мяркую, што на самой справе вы працуеце дзе-небудзь у офісе альбо ў якой букмекерскай канторы. Не такая я ўжо і наіўная, як здаецца на першы погляд.

– Я магу забяспечыць вас усімі неабходнымі доказамі, – мякка адказаў Картэр. – Я закахаўся з першага позірку і зараз насамрэч не ўяўляю сваё жыццё без вас, Мэйзі.

– Недзе я ўжо чула гэта, – усміхнулася Мэйзі. – Ведаеце, калі б мне хоць раз трапіўся чалавек, які закахаўся ў мяне з позірку так трэцяга, я, думаю, адразу кінулася б яму ў абдымкі.

– Калі ласка, не трэба так казаць, – узмаліўся Картэр. – Лепей паслухайце мяне, даражэнькая. З той самай хвіліны, калі я ўпершыню глянуў вам у вочы, я зразумеў, што не існуе больш для мяне іншых дзяўчын і ніколі не будзе існаваць.

– Вы, мабыць, жартуеце, – засмяялася Мэйзі. – Мне вельмі цікава, колькім дзяўчатам да мяне вы казалі тое ж самае.

Але Картэр настойваў і ўрэшце дакрануўся да ранімай, дрыготкай душы, якая таілася недзе ў глыбіні дзявочых грудзей. Яго словы траплялі ў самае яе сэрца, мінуючы мацнейшую браню – звонкую пустату. Упершыню Мэйзі паглядзела на яго пранізлівым, доўгім позіркам, і па яе халодных шчоках разлілася гарачая чырвань. Яна, здавалася, вось-вось складзе трапяткія крылы і апусціцца на кветку кахання. Недзе там, за мяжой яе ўсведамлення, мажлівае новае жыццё запаліла слабы агеньчык зацікаўленасці. Картэр адчуў гэтыя змены і схапіўся за падараваную магчымасць.

– Выходзьце за мяне, Мэйзі, – ціха прашаптаў Картэр, – і мы пакінем гэты жахлівы горад, паедзем у іншыя, цудоўныя краі. Мы забудземся на непатрэбныя справы і такую ж непатрэбную працу, наша жыццё стане адным неверагодным бясконцым святам. Я ведаю, куды нам выправіцца, я ўжо не раз бываў там. Уявіце сабе сонечнае ўзбярэжжа, дзе пануе вечнае лета, дзе хвалі разбіваюцца аб маляўнічыя берагі і дзе ўсе людзі вольныя і шчаслівыя, нібы дзеці. Мы накіруемся да гэтых берагоў і прабудзем там столькі, колькі душа пажадае. Наведаем далёкі-далёкі горад, славуты сваімі велічнымі палацамі і вежамі, што хаваюць у сабе дзівосныя карціны і статуі. Вуліцы гэтага горада – сапраўдныя каналы, па якіх людзі перамяшчаюцца на...

– На гандолах, так? – сказала Мэйзі, раптоўна выпрастаўшыся.

– Так, – усміхнуўся Картэр.

– Як я і думала, – адказала Мэйзі.

– А потым, – распавядаў далей Картэр, – мы аб'ездзім цэлы свет і ўбачым усё, што толькі пажадаем. Пасля Еўропы выправімся ў Індыю і пабываем у яе старажытных гарадах, пакатаемся на сланах і пазнаёмімся з дзівоснымі храмамі індуістаў і брахманаў. Японскія сады, караваны вярблюдаў, гонкі на калясніцах у Персіі – толькі малая частка тых незвычайных прыгод, што чакаюць нас у замежных краінах. Няўжо вам не падабаецца, няўжо не займае дых?

Аднак Мэйзі нічога не адказала і рашуча ўстала з лаўкі.

– Нам лепей вярнуцца дадому, – холадна сказала яна, – позна ўжо.

Картэр не стаў спрачацца, бо зменлівасць яе настрою была яму не ў навіну, і змагацца з гэтым – шукаць іголку ў стозе сена. І ўсё ж такі радасць і трыумф ахапілі яго. Няхай на адзін толькі міг, няхай за тонкую шаўковую нітку, але яму ўдалося ўтрымаць дзікую душу сваёй Псіхеі, і надзея ў сэрцы яго мацнела. Аднойчы яна ўжо склала крылы і яе халаднаватыя пальчыкі накрылі яго руку.

На другі дзень ва Універмагу сяброўка Мэйзі Лулу падпільнавала яе ў куце за прылаўкам.

– Ну, як там справы з тваім незвычайным маладым чалавекам? – спытала яна.

– З гэтым тыпам? – спытала Мэйзі, папраўляючы свае шыкоўныя кучаравыя валасы. – Ужо ніяк, я разарвала з ім усе адносіны. Ты толькі паспрабуй адгадаць, што ён ад мяне хацеў.

– Зрабіць акторкай? – выказала здагадку Лулу і ад хвалявання затрымала дыханне.

– Як жа, такі здольны толькі языком малоць ды пыл у вочы пускаць. Ён, уяві сабе, прапанаваў мне стаць яго жонкай і адправіцца ў вясельнае падарожжа на Коні-Айлэнд[1]!

*Пераклад з ангельскай Кацярыны СМЯКАЕВАЙ.*

## Пакуль чакае аўтамабіль

Пачало шарэць, і ў зацішны куток маленькага парка зноў прыйшла дзяўчына ў шэрым. Яна села на лаўку і пачала чытаць кнігу, яшчэ з паўгадзіны можна было чытаць пры дзённым святле.

Трымайце на ўвазе: на дзяўчыне была заўсёдная шэрая сукенка, настолькі простая кроем, што гэта рабіла відавочным бездакорнасць стылю. Паўпразрысты вэлюм капялюшыка прыхоўваў даволі прыгожы твар, ад якога сыходзіў супакой. Яна прыходзіла сюды ў гэты самы час і ўчора, і заўчора, і быў адзін чалавек, які ведаў гэта.

Гэты чалавек блукаў побач, спадзеючыся на выпадак. Яго чаканні былі нарэшце ўзнагароджаныя: калі дзяўчына перагортвала старонку, кніга выпала з яе рук і адляцела ад лавы на некалькі крокаў.

У той жа момант малады чалавек кінуўся да кнігі і падаў яе дзяўчыне, строга прытрымліваючыся таго стылю паводзінаў, які ўсталяваўся ў гэтых парках і іншых грамадскіх месцах і які ўяўляў сумесь галантнасці і надзеі, але ніякім чынам не прыцягваў увагу паліцэйскіх. Прыемным голасам ён рызыкнуў зрабіць недарэчную заўвагу пра надвор'е, якое з'яўляецца асноўнай прычынай многіх няшчасцяў у свеце, і застыў на імгненне, чакаючы вырашэння свайго лёсу.

Дзяўчына няспешна агледзела яго: сціплы, акуратны касцюм, рысы твару не вызначаліся асаблівай выразнасцю.

“Вы можаце сесці, калі хочаце, – сказала яна павольным роўным кантральта. – Мне б гэтага вельмі хацелася. Усё роўна ўжо сцямнела, і чытаць цяжка. Я б аддала перавагу прыемнай размове”.

Шчаслівец пакорліва апусціўся на лаўку побач з ёй.

“Ці ведаеце вы, – сказаў ён, выкарыстоўваючы формулу, з якой прамоўцы звычайна пачынаюць сваё выступленне, – што вы самая неверагодная дзяўчына, якую я калі-небудзь бачыў? Учора я безупынна назіраў за вамі. Можа, вы нават не заўважылі, дзетачка, што хтосьці страціў розум, гледзячы на вашы цудоўныя вочкі?”

“Кім бы вы ні былі, – сказала дзяўчына ледзяным тонам, – вы павінны памятаць, што я лэдзі. Я прабачаю вам словы, якія вы толькі што прамовілі, бо гэтая памылка цалкам дапушчальная для чалавека з вашага кола.

---

[1] Коні-Айлэнд – паўвыспа, былая выспа, што месціцца ў Брукліне (адным з раёнаў Нью-Ёрка), знакамітая сваім паркам атракцыёнаў.

Я прапанавала вам сесці; калі вы мяркуеце, што маё запрашэнне дае вам права называць мяне “дзетачкай”, лічыце, я бяру яго назад”.

“Я шчыра прашу ў вас прабачэння, – узмаліўся малады чалавек. Задавальненне на яго твары змянілася раскаяннем і пакорлівасцю. – Гэта была мая віна, вы ведаеце, я маю на ўвазе, што ў парках ёсць дзяўчыны... вядома, вы не ведаеце, але...”

“Калі ласка, забудземся на гэта. Вядома, я ведаю. А зараз раскажыце мне пра вось гэтых мінакоў, якія ходзяць туды-сюды па сваіх справах. Куды яны накіроўваюцца? Чаму яны так спяшаюцца? Ці шчаслівыя яны?”

Жартаўлівы настрой маладога чалавека знік. Цяпер яму трэба было толькі чакаць, бо ён не мог зразумець, як павінен сябе паводзіць.

“Цікава назіраць за імі, – адказаў ён, угадаўшы яе настрой. – Гэта дзіўная драма жыцця. Хтосьці ідзе вячэраць, а хтосьці... э-э... у іншыя месцы. Цікава, як яны жывуць?”

“Мне не цікава, – адказала дзяўчына, – я не такая дапытлівая. Я прыходжу сюды, каб пасядзець, таму што менавіта тут я магу наблізіцца да разумення трапяткіх імкненняў і надзей, што поўняць чалавечыя сэрцы. Маё жыццё праходзіць там, дзе яго ўдары ніколі не адчуваюцца. Ці здагадваецеся вы, чаму я загаварыла з вамі, містэр...”

“Паркенстэкер”, – падказаў малады чалавек. У яго позірку адбілася спадзяванне.

“Не, – адказала дзяўчына, падняўшы тонкі палец і крыху ўсміхнуўшыся. – Вы пазналі б мяне імгненна. Немагчыма схаваць сваё імя і партрэт ад друку. Гэты вэлюм і гэты капялюшык маёй служанкі робяць мяне інкогніта. Ведалі б вы, як кіроўца глядзіць на мяне, думаючы, што я не заўважаю. Шчыра кажучы, ёсць пяць ці шэсць прозвішчаў, якія належаць да святая святых, і маё, па выпадковасці нараджэння, з’яўляецца адным з іх. Я кажу ўсё гэта вам, містэр Стэкенпот...”

“Паркенстэкер”, – сціпла паправіў малады чалавек.

“...Містэр Паркенстэкер, з прычыны таго, што я хацела хоць раз у жыцці пагаварыць, з чалавекам, не сапсаваным пагардлівым бляскам багацця і сацыяльнай перавагі. О, вы не ўяўляеце, як мне гэта надакучыла – грошы, грошы, грошы! Я стамілася ад людзей, што мяне атачаюць, бо яны паводзяць сябе, нібы маленькія марыянеткі, зробленыя па адным і тым жа ўзоры. Мяне ванітуе ад задавальненняў, матэрыяльных каштоўнасцяў, падарожжаў і разнастайнай надакучлівай раскошы”.

“Мне заўсёды здавалася, – нерашуча пачаў малады чалавек, – што грошы, мабыць, вельмі добрая рэч”.

“Наяўнасць грошай, вядома, пажадана, але калі ў вас столькі мільёнаў, што... – яна скончыла фразу жэстам адчаю. – Аднастайнасць усяго гэтага, – працягвала яна, – прыгнятае. Паездкі, абеды, тэатры, балі, вячэры – і ўсё гэта з відавочным адценнем залішняга багацця. Часам я нават пачынаю вар’яцець пад звон лёду ў келіху з шампанскім”.

Містэр Паркенстэкер выглядаў шчыра зацікаўленым.

“Мне заўсёды падабалася, – сказаў ён, – чытаць і слухаць аб жыцці багатых людзей. Напэўна, я крыху сноб. Аднак я заўсёды кіруюся дакладнай інфармацыяй. Дык вось, у мяне склалася меркаванне, што шампанскае астуджваюць у бутэльцы, а не кладуць лёд у келіх”.

Дзяўчына шчыра ўсміхнулася.

“Вам варта ведаць, – патлумачыла яна паблажлівым тонам, – што мы, людзі з вышэйшых колаў, часам забаўляемся менавіта тым, што парушаем усталяваныя для ўсіх правілы. Зараз у моду ўваходзіць класці лёд у шампанскае. Ідэя ўзнікла ў прыезджага татарскага князя падчас абеду ў “Вальдорфе”. Хутка яна саступіць месца якому-небудзь іншаму капрызу. Прынамсі, гэтак жа, як на званым абедзе на мінулым тыдні на Мэдысан-авеню, калі побач з талеркай кожнага госця была пакладзена зялёная лайкавая пальчатка, якую трэба было надзець, каб частавацца алівамі”.

“Разумею, – пакорліва згадзіўся малады чалавек. – Гэтыя асаблівыя забавы багатых не вядомыя шырокай публіцы”.

“Часам, – працягвала дзяўчына, нетаропка кіўнуўшы, як бы прызнаючы яго неадукаванасць, – я думаю, што калі я пакахаю мужчыну, то гэта будзе чалавек ніжэйшага саслоўя: працоўны, а не трутень. Але, несумненна, што мае саслоўныя і маёмасныя абавязкі будуць мацней за мае асабістыя жаданні. Цяпер да мяне заляцаюцца двое. Адзін – вядомы нямецкі герцаг. Я думаю, што ў яго дзесьці ёсць ці была жонка, якую ён давёў да вар’яцтва сваёй нястрыманасцю і жорсткасцю. Другі – англійскі маркіз, такі халодны і карыслівы, што я нават аддаю перавагу жорсткасці герцага. Што прымушае мяне расказваць вам усё гэта, містэр Покенстэкер?”

“Паркенстэкер, – выдыхнуў малады чалавек. – Вы нават не ўяўляеце, як я цаню вашу шчырасць”.

Дзяўчына глядзела на яго спакойным, абыякавым поглядам, які адпавядаў розніцы ў іх сацыяльным статусе.

“Якая ў вас прафесія, містэр Паркенстакер?” – спытала яна.

“Вельмі простая. Але я планую чагосьці дабіцца ў жыцці. Вы сапраўды былі шчырая, калі казалі, што зможаце палюбіць чалавека, які належыць да ніжэйшага саслоўя?”

“Так, але я сказала “можа быць”. Не забывайцеся пра герцага і маркіза. Тым не менш, ніякая прафесія не падаецца мне занадта простай, каб пагарджаць чалавекам, якога я палічу вартым сябе”.

“Я працую ў рэстаране,” – сказаў малады чалавек. Дзяўчына крыху зніякавела.

“Афіцыянтам? – працягнула яна трохі ўмольна. – Любая праца высакародная, але асабістае абслугоўванне, ведаеце... камердынер ці прыслужнік...”

“Я не афіцыянт. Я касір у... – на вуліцы, якая выходзіла на процілеглы бок парка, была бліскучая электрычная шыльда “РЭСТАРАН”, – я працую касірам у тым рэстаране”.

Дзяўчына зірнула на малюсенькі гадзіннік, упрыгожаны раскошным бранзалетам на левым запясці, і паспешліва паднялася. Яна сунула кнігу ў бліскучы рыдыкюль, які вісеў у яе на поясе і для якога, аднак, кніга была занадта вялікая.

“Чаму вы не на працы?” – спытала яна.

“Я сёння ў начную змену, – сказаў малады чалавек. – У мяне ёсць яшчэ цэлая гадзіна. Ці магу я спадзявацца ўбачыць вас зноў?”

“Гэтага я не ведаю. Магчыма, у мяне больш не ўзнікне такога жадання. Я павінна спяшацца. Мяне чакаюць на абед, потым – ложа ў тэатры... як заўсёды, адно і тое ж! Магчыма, вы заўважылі белы аўтамабіль на рагу вуліцы ўздоўж верхняй часткі парка, калі ішлі сюды”.

“З чырвонымі коламі?” – спытаў малады чалавек, задуменна нахмурыўшы бровы.

“Так. Я заўсёды прыязджаю ў ім. Там мяне чакае П’ер. Ён думае, што я раблю пакупкі ва ўнівермагу на іншым баку плошчы. Ці ўяўляеце вы сабе цяжар такога жыцця, у якім мы павінны падманваць нават нашых шафёраў? Дабранач”.

“Але цяпер ужо цёмна, – сказаў містэр Паркенстэкер, – і ў парку шмат грубіянаў. Ці магу я вас правесці?”

“Калі ў вас ёсць нават крыху павагі да маіх жаданняў, – цвёрда адказала дзяўчына, – вы застанецеся на гэтай лаве на працягу дзесяці хвілінаў пасля таго, як я пайду. Я не хачу абвінавачваць вас, але вы, верагодна, ведаеце, што аўтамабілі звычайна маюць манаграму свайго ўладальніка. Яшчэ раз добрай ночы”.

Хутка і велічна яна пайшла ў цемру. Малады чалавек назіраў за яе грацыёзнай фігурай, пакуль яна не выйшла з парка і не павярнула ў той бок, дзе стаяў аўтамабіль. Потым ён не вагаючыся праслізгнуў сярод паркавых кустоў і дрэваў, кіруючыся ў бок дзяўчыны і трымаючы яе ў полі зроку.

Калі яна дайшла да вугла, то павярнула галаву, каб зірнуць на аўтамабіль, аднак прайшла міма яго і пакрочыла ўздоўж вуліцы. Схаваўшыся за таксі, малады чалавек уважліва прасачыў вачыма за ёю. Прайшоўшы па тратуары насупраць парка, яна зайшла ў рэстаран з бліскучай шыльдай. Гэта было адно з тых адметных месцаў, дзе сярод бляску шкла і белай фарбы можна пад’есці танна і смачна. Дзяўчына ўвайшла ў рэстаран і на нейкі час знікла ў яго чэраве, а потым ён ўбачыў яе ўжо без капелюша і вэлюму.

За шклянымі дзвярыма рэстарана знаходзілася каса. Рыжавалосая дзяўчына, якая сядзела за касавым апаратам, зірнуўшы на гадзіннік, устала з крэсла. Дзяўчына ў шэрай сукенцы заняла яе месца.

Малады чалавек засунуў рукі ў кішэні і павольна пайшоў назад па тратуары. На рагу ён спатыкнуўся аб маленькі томік у папяровай вокладцы. Па вокладцы ён пазнаў кнігу, якую чытала дзяўчына. Ён падняў томік і ўбачыў назву: “Новыя тысяча і адна ноч”, аўтар – Стывенсан. Ён кінуў кнігу на траву і з хвіліну стаяў у нерашучасці. Потым малады чалавек сеў у белы аўтамабіль, адкінуўся на падушкі і сказаў шафёру тры словы:

“У клуб, Генры”.

*Пераклад з англельскай Аліны НЯЧАЙ.*

*Выказваем шчырую падзяку дацэнту кафедры тэорыі і практыкі перакладу №1 МДЛУ **Марыне МАКАРЫЧ** за дапамогу ў падрыхтоўцы гэтай публікацыі.*

пераклады

Вечаслаў Казакевіч



...хіба не цудоўна падняцца ўвесну
на сваю спадчынную гару...

# Нітка

***Два апавяданні***

*Пераклала з рускай мовы Вера ЛОЙКА.*

### Месяцовае святло

Непадалёк ад горада прыхаваўся ваенны аэрадром, і часта з мірнай электрычкі можна было разглядзець, як пераскокваюць з акна ў акно, хутка зніжаюцца і знікаюць за палеткамі цёмныя сухарлявыя сілуэты рэактыўных знішчальнікаў. Іншым жыццём павявала тады ад рысавых палеткаў.

“Хто сядзіць у гэтых самалётах?” – міжволі думалася.

У дзяцінстве я цвёрда верыў, што стану лётчыкам. Варта было ў небе з’явіцца доўгай белай указцы, што штурхала ледзь бачны серабрысты самалёцік, я апынаўся ў герметычнай кабіне і ляцеў хутчэй за гук.

Але ў пятым класе мяне з райцэнтра прывезлі ў абласны горад і пасадзілі на кола агляду. І ледзь яно скранулася, я адразу зразумеў, што ніколі лётчыкам не стану. Адвярнуўшыся ад бацькоў і ўчапіўшыся дзвюма рукамі ў парэнчы, я прыкідваўся, што з захапленнем узлятаю ў

вышыню, любуючыся паркам, які правальваўся ў бездань. Насамрэч я любаваўся аглушальнай цемрай. Чым яшчэ можна любавацца, спуджана заплюшчыўшы вочы і мроячы, каб чортава кола як хутчэй спынілася?

– А з мяне лётчыка не атрымалася, – бадзёра сказаў я Каміяму падчас нашай першай сустрэчы.

Каміяма быў ваенным лётчыкам, лётаў на “Фантоме”, стажыраваўся ў Амерыцы. Калі яго кантракт з Сіламі Самаабароны скончыўся, пачаў у вольны час займацца рускай мовай і прыйшоў да нас. Студэнцкі ўзрост яго даўно мінуў, але гуманітарны факультэт запрашаў усіх ахвотных стаць вольнымі слухачамі і за невялікую плату наведваць заняткі.

– Чаму вы абралі рускую мову?

– Мы ляталі перахопліваць рускіх лётчыкаў... Заўжды было цікава, пра што яны размаўляюць.

“Мацярыліся, пэўна”, – весела падумаў я.

– А яшчэ я хачу ўбачыць рускае неба, – дадаў ён. – Гэты прыгожы бляклы блакіт.

Каміяма запісаўся ў групу першага курса і разам са спалоханымі дзяўчынкамі, якія баяліся падняць вочы ад падручніка, і з юнакамі, што з усіх сілаў імкнуліся захаваць поўны спакой, старанна паўтараў за мной на фанетыцы: “У–у–у... Ура! Ы–ы–ы... Бык!”

Былога ваеннага мой новы падапечны зусім не нагадваў. Ваяўнічасці ў ім было менш, чым у зайцы з аддзела мяккіх цацак. Лагодны цяльпук, па-хатняму ўтульны і ўсмешлівы, ён выклікаў міжвольную сімпатыю. Раскудлачаны Чабурашка, даўні жыхар рускага класа, зразумеў, што яго калматая зорка закацілася.

Аднак, убачыўшы мяне ў аўдыторыі, Каміяма ўскокваў і застываў па стойцы “смірна”. Калі я развітваўся, ізноў зрываўся з месца. Ніхто не вітаў выкладчыкаў падобным чынам. Але Каміяма не пераставаў сустракаць і праводзіць, выцягваючыся па струнцы. Чамусьці гэта мяне цешыла.

На занятках ён быў поўны глыбокай павагі і ўважлівы, нібыта ўпершыню даведаўся не пра мужчынскі, жаночы і сярэдні род, а пра існаванне рода чалавечага. Рупліва занатоўваў у сшытак правілы рускага этыкету, зварот на “ты” і на “вы”.

– Размаўляючы пра гародніну з сябрамі, – важна павучаў я, – скарыстоўвайце слова “тыква”. Але з незнаёмцамі лепей казаць “выква”.

Каміяма першы рагатаў, калі я прызнаваўся ў сваім немудрагелістым жарце, але акуратны запіс пра тыкву і выкву не выкрэсліваў.

– Якія рэчы ў вас ёсць? – адпрацоўвалі мы назоўнікі.

– Скутэр... сшытак... тэлефон, – бязладна пералічвалі студэнты.

– А ў вашых бацькоў?

– Дом, машына, сабака... – яшчэ занудней называлі яны.

Каміяма коратка паведаміў:

– У нас ёсць гара.

Гара! Сапраўдная гара. Сказаў бы ён, што ў яго ёсць поле на сто, нават на тысячу гектараў, я б вокам не міргнуў. Але ўласная гара... Хай на ёй нічога, апроч бамбуку, не расце. Хіба не цудоўна падняцца ўвесну на сваю спадчынную гару, заблукаць сярод пяшчотна-смарагдавых, адшліфаваных, з рэдкай нарэзкай камлёў, паціху рваць маладыя парасткі, што выбеглі з зямлі, і ўвечары прыгатаваць іх, малочна-белыя, хрусткія на зубах, як казачная рэпка?

У бамбуку могуць хавацца малпы і чорныя мядзведзі. Не знойдзецца іх, абавязкова знойдуцца вецер і арлы. Лётчыку і належыць жыць на гары, паблажліва адзначаць, як сігналы машынаў і гудкі цягнікоў, нібыта прадаўгаватыя мячы для рэгбі, узлятаюць толькі да пакатага схілу, а пасля марудна і плаўна апускаюцца.

Студэнты зашапталіся.

– Што такое? – з падазрэннем спытаўся я.

– Яго прозвішча Каміяма! – сказала высокая гнуткая Ямада.

– І што?

– Каміяма, значыць бог гары, – ціха патлумачыла яе мініяцюрная суседка, якой я даў мянушку Ціхі Голас.

Вось, значыць, хто стаў маім вольным слухачом! Я нават дэкану сказаў, што рускую мову ў мяне цяпер вывучаюць багі і лётчыкі.

Але дзіўная справа, пры тым, што я ганарыўся такім вучнем і заахвочваў яго руплівасць, у той жа час я адчуваў да Каміямы жаль, змяшаны з кропляй пагарды.

“Памяняў аблокі на скланенні”, – думаў я, назіраючы, як старанна ён практыкуецца ў дыялогах з баязлівымі дзяўчатамі.

– Што вы рабілі ўчора? – завучана пытаўся ён.

– Учора я пагуляла, – лепятала Ціхі Голас.

– А я быў у гандлёвай фірме, – выразна прагаворваў Каміяма.

– Жоўтыя дзьмухаўцы, якія я раней убачыла, сталі пухамі...

– Фірма гандлявала з кітайцамі, і кітайцы іх падманвалі. А цяпер мае бізнэс з рускімі, і працаваць стала лягчэй.

– Рускія не падманваюць? – цікавіўся я.

– Проста японцы адразу бачаць хітрасці рускіх.

– А рускія таксама бачаць японскія хітрасці?

– Напэўна, не, – дабрадушна прызнаваўся японскі бог.

– Не верце! – паўставаў я на абарону рускага народа. – Наша наіўнасць, якая бачыцца вам – такая ж маска, як японская закрытасць.

Я не разумеў, навошта былому лётчыку руская мова. Знайсці працу з гэтай мовай было практычна немагчыма.

– Тут рускую адны вар’яты вывучаюць! – змрочна выказаўся мой калега з іншага ўніверсітэта.

Аднак вар’ятам Каміяма пры ўсёй яго стараннасці і дабрадушнасці не выглядаў. Да таго ж мне падавалася, што ў ваенна-паветраныя сілы ў адрозненне ад гуманітарных факультэтаў вар’ятаў не бяруць.

Невядома было, дзе ён працаваў. Але мяне не хвалявала, якім чынам ён зарабляе грошы і адкуль у яго час наведваць заняткі. У чужой краіне, дзе нават на рускім аддзяленні твае словы і ўчынкі слаба разумеюць, а ты з цяжкасцю спасцігаеш матывы дзеянняў і выказванняў навакольных, хутка прывыкаеш да прыблізнасці свайго існавання, да таго, што вакол цябе толькі водбліскі і блікі.

Пасля заняткаў Каміяма не выходзіў з класа. Я яго разумеў. Дзе яшчэ ў Японіі ўбачыш столькі экзатычных прадметаў? З драцянога каша для парасонаў высоўвалася падобная на бумеранг куртатая клюшка з надпісам “Марыінск”. Стэлажы насяляла драўлянае племя матрунак. Як жоўтая піраміда, укаранаваная пажарнай каланчой, тырчала балалайка. Іржавы самавар дзіка глядзеў на разасланую пад ім газету з іерогліфамі. Адпачывала салдацкая

вушанка з чырвонай зоркай. Карычневага Горкага ўціскаў сіні Чэхаў, сіняга Чэхава падпіраў шэры Талстой, на Талстога налягаў Дастаеўскі...

Калі я ўпершыню зайшоў сюды, з асалодай удыхнуў бібліятэчны водар.

– Родны пах, – расчулена сказаў я.

– Так, нідзе для кніг не выкарыстоўвалі такога смярдзючага клея, як у Савецкім Саюзе! – ахвотна пагадзіўся японскі прафесар, што суправаджаў мяне.

Разам з усімі студэнтамі Каміяма дбайна выконваў хатнія заданні, гартаў растрапаныя слоўнікі, весяліў усіх, прымяраючы перад люстэркам пыльную вушанку, уключаў тэлевізар, які прымаў рускія каналы. Зазіраючы мімаходзь у клас, я з адабрэннем адзначаў, што нават анімэ ён глядзіць у рускім перакладзе.

Як і я, ён любіў тыя японскія мультфільмы, у якіх рыкаюць і плывуць у нябёсах мудрагелістыя лятальныя апараты такой велічыні, што ў іх ёсць прасторныя кабінеты для начальства, агромністыя залы паседжанняў, казармы з пяхотай. Мне заўсёды здавалася, што за гэтымі фантастычнымі паветранымі суднамі хаваецца прытоены ўспамін пра жахлівыя амерыканскія "лятаючыя крэпасці", што бамбілі калісьці кволую Японію.

Былы лётчык таксама разважаў пра гэта. Далікатна пастукаўшы, ён, усміхаючыся шырэй за скрыль кавуна, заходзіў да мяне ў кабінет:

– Можа, японцы малююць такія машыны таму, што падчас вайны ў нас не было бамбардзіроўшчыкаў, якія б далятаí да Амерыкі?

Сур'ёзна абмяркоўваючы з ім хімерычныя завоблачныя караблі, я не прызнаваўся, што адмовіўся ад мары стаць лётчыкам не таму, што выбраў паважную навуковую кар'еру, а таму, што ганебна спалохаўся на абласным коле агляду. Не на коле нават, на колцы!

Я ўтойваў ад яго не толькі свой страх вышыні. Упершыню ў жыцці сеўшы ў самалёт, – на чым яшчэ з Масквы трапіш у Японію? – я адчуў невыказны жах. Мяне запхнулі ў герметычную кансервавую бляшанку і зашпурнулі ў нябёсы. З чалавека я ператварыўся ў кільку. У кільку ва ўласным поце! Моцна сціснуўшы вейкі, нібы за імі было болей шансаў ацалець, я расплюшчваў вочы толькі для таго, каб зірнуць на інфармацыю пра палёт: ці не змянілася вышыня, ці не падаем? Я ўслухоўваўся ў гудзенне самалётных турбін пільней, чым маці, што прыслухоўваецца да хворых, сонна-плаксівых дзяцей. Толькі ўмольваў іх выць няспынна.

Не верачы свайму цудоўнаму выратаванню, на ватных нагах сышоў я на зямлю і пакляўся ніколі больш не ўваходзіць у самалёт. Страх вышыні ніякім чынам не мог параўнацца з жахам палёту.

Шлях дадому быў мне закрыты. І як я ні ўгаворваў сябе, што туды і вяртацца няма чаго, усё часцей уначы сніўся мне маё цяпер недасяжнае мястэчка.

У нядзелі Каміяма стаў ездзіць з намі на корт і першы бег па мяч, калі той пералятаў агароджу. Купіў мікраазўтобус і час ад часу выпраўляўся са студэнтамі то ў нікому невядомую глухую харчэўню, дзе гатавалі незвычайны ўдон, то ў свяшчэнны лес, дзе пад тысячагадовымі крыптамерыямі ўсе рабіліся задуменнымі ценямі.

Наўзахваткі мае вучні расказвалі, як ездзілі з ім у горы да шумлівага ззяння вадаспаду. Стромкая скала за назіральнай пляцоўкай была спрэс спісана турыстамі з Кітая, Філіпінаў, Тайланда. Але вышэй і буйней за ўсе чарнеў надпіс: "Тут быў Іван Чуркін". І нумар мабільнага тэлефона.

– Мы хочам яму патэлефанаваць, – смяяліся дзяўчаты.

– Навошта? Пазнаёміцца?

– Даведацца, як ён туды залез!

Каміяма сціпла адмоўчваўся. Я пазіраў на яго са спачуваннем. Як ён ні стараўся стаць сваім, ён усё-роўна заставаўся для студэнтаў дзіўнаватым дарослым дзядзькам, якому шмат хто глядзеў услед насмешліва-недаўменна, а цырымонныя дзяўчаты, якія заўсёды сядзелі на занятках асобна ад хлопцаў, проста не заўважалі.

І ўсё ж праз год рускае аддзяленне нельга было ўявіць без былога пераймальніка. Нібыта пластыкавыя жалюзі на вокнах, узнятыя на дыбкі парывам ветру, мы былі падхоплены тым захапляльным і таемным, што звалася раней паветраплаваннем.

– У вас бываюць дзіўныя жаданні? – спытаў я ў студэнтаў.

– Хачу пракатацца верхам на самалёце, – ледзь чутна прашапацеў Ціхі Голас.

– Навошта? – сумеўся я, уявіўшы яе з голымі нагамі, асядлалую шырокую спіну аэробуса.

– Цікава, – апусціла яна галаву.

А яе жвавая сяброўка Ямада сказала:

– Дайце мне самалёт, прыгожага, добрага і разумнага пілота, і ён абвядзе мяне вакол свету.

– Вакол пальца! – пад агульны рогат паправіў я.

Аднойчы размова зайшла пра знішчальнікі Другой сусветнай вайны. Пры Каміяме такія размовы ўзнікалі самі сабой.

– Лепшым рускім знішчальнікам у вайну быў ЯК-9, – сказаў я. – А японскім?

– “Зеро”, – адгукнулася адразу некалькі чалавек.

Я паглядзеў на Каміяма.

– Самым лепшым быў начны знішчальнік Накадзіма, – усміхаючыся, адказаў ён.

– Чаму?

– Таму што называўся “Месяцовае святло”.

– Месяцовае святло? – паўтарыў я.

Вярнуўшыся ў кабінет, я найперш набраў у кампутары назву, якая мяне ўразіла і прачытаў, што “Месяцовым святлом” называўся двухмесны знішчальнік-перахопнік Накадзіма J1N.

Пільна і зачаравана разглядваў я фотаздымкі самалёта. Два масіўныя бочкападобныя рухавікі, выцягнутыя як страказа, фюзеляж, шкляны ўзгорак ліхтара кокпіта. І ўсё гэта, разам з 20-міліметровай пушкай і некалькімі кулямётамі, складалася з найчысцейшага месяцовага ззяння.

Назаўтра, не ўстрымаўшыся, я сказаў Каміяму:

– Я знайшоў “Месяцовае святло”.

– Спадабалася?

– Яшчэ б!

Цяпер падчас бяссоння я не перакідаў, нібы костачкі лічыльнікаў, бараноў над агароджай, а ўяўляў сябе ў шлеме з акулінай скуры з пукатымі акулярамі тыпу “кацінае вока”, у скуранцы з фарсістым белым шаўковым шалікам, на якім быў вышыты звычайны дэвіз лётчыкаў Імператарскай арміі і флоту: “Усміхаючыся, забі!”

Зручна ўладкаваўшыся за стырном начнога знішчальніка, я ўзлятаў у

бок сіняга пухіра акіяна, мецячы на ўзыходзячы месяц, нібыта збіраўся вярнуцца на завод, дзе вырабілі мой перахопнік.

Мая мара збылася: я стаў лётчыкам і, не баючыся вышыні, не баючыся крушэння – што магло здарыцца з “Месяцовым святлом”? – імчаўся дадому на самалёце з вогненна-чырвонымі, не, з залатымі коламі на крылах!

Толькі калі ляціш з Японіі, адчуваеш памеры Расіі. Хвіліна паўзе за хвілінай, гадзіна за гадзінай, выюць маторы, вечная мерзлата зорак студзіцца ў чорным плексігласе ліхтара, а самалёт нават да Сібіры не падабраўся. А колькі яшчэ зямлі наперадзе, за гарамі, за далінамі, з Аймяконам і Батагаем, што наганяюць нуду, над якімі стыне сэрца, адчуваючы, як касмічныя цемра і сцюжа ціснуць яго з усіх бакоў.

“Месяцовае святло” ляцела і ляцела, а Расія ўсё не сканчалася і не сканчалася. Толькі пасля да мяне дайшло: калі б я абляцеў нават зямную кулю, яна для мяне ўсё-роўна не скончыцца.

Так я і не вярнуўся ў сваё мястэчка. Моцна засынаў раней, чым дабіраўся да яго. Не скеміў, што знішчальнік з месяцовага святла павінен і ляцець з хуткасцю святла.

Каміяма скончыў чацвёрты курс.

– Давайце цяпер на лекцыі для аспірантаў, – прапанаваў я.

– Прабачце, можна ізноў на першы курс? Хачу ўсё паўтарыць.

Я здзівіўся, але не запярэчыў, ён жа вольны слухач. Употайкі я нават крыху ганарыўся, што ён гатовы ізноў слухаць тое, што я растлумачваў раней.

Бог гары, што аказаўся тугадумам, ізноў паўтараў цяжкія рускія гукі: “Ы – ы – ы... Сны! Дри – тре – три... Смотри!”, да слёз рагатаў са старога жарту пра тыкву і выкву, вазіў студэнтаў да славутага вадаспаду.

Невядома, колькі б гадоў ён правучыўся яшчэ, калі б у адзін цудоўны дзень, дакладней, позні вечар на глухой горнай дарозе паліцыя выпадкова не натрапіла на змрочны аўтамабіль, у якім тлела жароўня з драўняным вугалем, а перад ёй амаль без прытомнасці замерлі дзве мае аспіранткі Ямада і Ціхі Голас.

Яны прызналіся, што хацелі ўчыніць самагубства з-за Каміяма-сан. Аказваецца, ён не толькі крадком іх смяшыў і частаваў далікатнымі слодычамі, але прапаноўваў звазіць у Маскву і ў Пецярбург паказаць рускае неба: “Гэту прыгожую бляклую сінечу!” Потым стаў засыпаць іх жарснымі мэйламі, абяцаць незвычайныя адчуванні, і, у рэшце рэшт, яны таемна адна ад другой абедзьве паддаліся яго настойлівасці.

А пасля ён сышоўся з іншай нашай студэнткай, і яна па сакрэце падзялілася з імі, што смешны мілы Камаяма абяцае павезці яе ў Маскву і паказаць прыгожае бляклае неба.

Я быў знішчаны. Майго стараннага вольнага слухача вабілі не руская мова і бумеранг з Марыінска, а юныя студэнткі рускага аддзялення. Год за годам ён самым элементарным чынам спакушаў іх, і гэтыя незачэпы, што здаваліся мне сціплымі нявінніцамі, якія мрояць выключна аб маёй прыхільнасці і выдатнай адзнацы на іспыце, без памяці – мама, я лётчыка кахаю! – імчаліся з хітрамудрым авіятарам у зацішны *love hotel*, у прыцемненых нумарах якога іх чакала прыглушанае месяцовае святло.

А я быў нікчэмным наземным персаналам, наіўным аэрадромным

тэхнікам Ванем Чуркіным, які дапамагае пілоту і яго чарговай сяброўцы ўскараскацца ў вылятаючы ў Расію самалёт, прыбірае з-пад колаў тармазныя калодкі і з захапленнем доўга глядзіць услед водбліскам і блікам, што знікаюць у цемры.

### Нітка

На першым занятку ў яе ўпалі вейкі. Чорныя, пластмасавыя, выгнутыя, яны былі падобныя да гіганцкіх сараканожак. "Поўная доўбня!" – падумаў я.

Папрасіў студэнтаў расказаць цікавыя выпадкі з дзяцінства. Усе сталі ўспамінаць, як разводзілі залатых рыбак і запускалі паветраных змеяў. А Ніта-сан сказала: "Калі я ішла са школы, да мяне падыйшоў дарослы мужчына без адзення і абняў мяне".

Да нас яна паступіла таму, што ёй спадабаліся рускія літары.

– Руская літара "д" пахне водарасцямі і вільготным пяском, – паправіла яна доўгую грыўку. – Я не здзівілася, даведаўшыся, што з літары "д" пачынаецца "дождж".

У дзяцінстве японкі звычайна мараць стаць сцюардэсамі або балерынамі, каб лётаць у далёкія краіны і па сцэне. Хлопцы хочуць стаць бейсбалістамі і кідаць мяч так моцна, каб ён збіваў з ног быка або залятаў ад удару бітай на воблака, што праплывае над стадыёнам.

– У дзяцінстве я хацела стаць бабуляй, – паведаміла Ніта-сан.

Усе разгубіліся.

– Чаму? – выказаў я агульнае пытанне.

– Таму што бабуля ведае больш за ўсіх на свеце! – пераканана адказала яна.

– Цяпер вы таксама жадаеце стаць бабуляй?

– Не.

– А кім?

– Хвіліначку, – пакапалася яна ў слоўніку. – Нявестай!

На рускім аддзяленні, куды з прычыны не надта вывучаных абставінаў паступаюць у асноўным дзяўчаты, асаблівай папулярнасцю карыстаецца тэма "Вяселле".

– Рускія мужчыны, калі хочуць ажаніцца, кажуць: "Выходзь за мяне замуж". Японскія мужчыны гэтак жа кажуць?

Усе заківалі.

– Не! – не пагадзілася Ніта.

– А як?

– Яны дадаюць: "Калі ласка!"

Штодзень я, прыкідваючыся шчыра зацікаўленым, пытаўся ў студэнтаў, што новага.

– Я павесіла на балконе футон, – пачала Ніта. – А праз паўгадзіны ўбачыла яго на суседнім даху!

Усе засмяяліся. Японцы любяць выцягваць свае сеннікі на паветра. Кажуць, пасля гэтага яны пахнуць сонцам.

– Адзін васьмідзесяцігадовы стары дапамог мне яго дастаць. Можа, у мяне не просты футон, а футон-самалёт?

Ізноў пачуўся смех.

– Куды вы хочаце на ім паляцець? – жартаўліва спытаўся я.

– У Маскву! – сур'ёзна адказала яна.

Сяннік у яе, хутчэй за ўсё, ружовы. І падушка, напэўна, таксама ружовая. І спіць яна, я ўпэўнены, у ружовай піжаме. Незразумела толькі, чаму я думаю пра гэта?

Да канца семестра яе накладныя вейкі некуды зніклі. Напэўна, адпаўзлі ў траву да сваіх касматых братоў. Затое на ўказальным пальцы ў яе з'явіўся зялёны гумовы напарстак з малюсенькімі шыпамі, каб перагортваць кнігі, не прыкладваючы палец да языка.

Ніта захапілася вершамі Барыса Паплаўскага. Ёй падабаліся радкі пра цягнік, што адыходзіць у паветры і ў смутку, і пра маладосць:

Птицы улетели. Молодость, смирись!
Ты еще не знаешь, как ужасна жизнь.

– У параўнанні з вершамі – сумна сказала яна, – іншыя словы здаюцца зусім грубымі. Чаму Паплаўскі так мала пісаў пра каханне?

– Рана памёр, не паспеў...

– Я б хацела чытаць пра каханне.

– З самага пачатку? – усміхнуўся я.

– З самага пачатку.

– Тады вазьміце "Песню песняў".

Праз год Ніта-сан паехала вучыцца ў Маскву, адкуль прыслала ўзнёслы мэйл: "Сёння на вуліцы мінус 20. Я адчуваю Расію ўсім целам. У паветры ззяюць маленькія крышталікі. Яны танчаць! Здаецца, я ляжу ў кардонцы з каштоўнымі камянямі".

Прачытаўшы мэйл, я раптам адчуў, што чакаю яе вяртання. Яна ляжала на ложку ў інтэрнаце МДУ, і снег, што ішоў за акном, кідаў слабыя водбліскі на яе рукі на коўдры. Ці адолела яна "Песню песняў"?

З Масквы яна паляцела ў Парыж, купіла букецік нарцысаў і завезла яго на могілкі ў Сэнт-Жэнеўеў-дэ-Буа, дзе з намаганнямі знайшла крыж, угрузлы ў хмызняку на магіле Паплаўскага. Яна выйшла з вакзала ў Парыжы, заблукала і паўдня прастаяла каля афішнай тумбы, цярпліва ўглядаючыся ў твары мінакоў. Толькі ўбачыўшы турыстаў-японцаў, спытала ў іх дарогу да гатэля.

Японскія студэнты, пажыўшы ў Расіі хаця б паўгода, прылятаюць назад з рускімі вачыма. Родная, паблажлівая, бязвыходная іронія з'яўляецца ў цёмных вачах старанных выдатнікаў і добрасумленных занудаў. "Усё я ведаю! – крыху стомлена кажуць гэтыя вочы. – І ўсё мне да ліхтара!"

Пройдзе тыдзень-другі, і вочы ў Ніты-сан ізноў стануць японскімі, прыветна-непранікальнымі. Цікава, ці змяніліся вочы ў мяне?

Размова, вядома, змянілася. Я прывучыўся гаварыць марудна, выразна і гучна. Стары Фамусаў, калі б залучыў мяне ў дэкламатары, быў бы задаволены. Што такое пачуццё, толк і прыпынкі, я ведаю цяпер лепш за яго. Але калі чую сябе, – а мае практычныя падапечныя часта запісваюць мае лекцыі на смартфоны, хочацца заткнуць вушы.

Самыя агідныя і сумныя школьныя настаўнікі казалі, па-мойму, не так мерна-павучальна. Успамінаю вокліч нашай таўсматай класнай на пачатку ўрока: "Ізноў накурыўся! Марш на заднюю парту!" Проста цудоўна! Тут табе і неперадавальныя перабівы тону, і пагражальная паўза, і камандная скорагаворка ўслед. Так і хочацца паляцець, куды загадалі.

А я дбайна падбіраю самыя простыя словы, пажадана тыя, што нядаўна пісаў на дошцы, пазбягаю жарганізмаў. Замучышся тлумачыць. І, вядома, ніякіх рэзкасцяў і лаянкі.

Праз год-паўтара тутэйшага жыцця я раптам так засумаваў па маце, што аднойчы, ідучы ў паўзмроку ад метро, нечакана для сябе пачаў паціху мармытаць усе брыдкія словы, якія прыходзілі на розум.

Я ішоў і з асалодай мацярыў усё, што трапляла на вочы: асветлены аўтамат з цыгарэтамі, гарбаты масток з цякучым бляскам пад ім, папяровы чырвоны ліхтар з чорнымі іерогліфамі, дрэва, сметніцу, вялізны месяц, які выехаў проста на дарогу...

Спадзяюся, яны на мяне не пакрыўдзіліся.

Паступова я даведаўся, што ў Маскве Ніта-сан хадзіла не толькі на заняткі. Выпадкова яна прагаварылася, што ў яе там укралі кашалёк.

– Дзе? – пацікавіўся я.

– У начным клубе.

Вось дык ціхоня! З кім яна хадзіла ў начны клуб?

Спытаў у студэнтаў антонім да слова “апранацца”. Ніхто не ўспомніў.

– Ды вы што? – абурыўся я. – Распранацца!

– Ведаю, ведаю, – радасна адгукнулася Ніта. – У Маскве мне часта так казалі.

У мяне сапсаваўся настрой. Калі яе прасілі распранацца? Зімой, прапаноўваючы зняць паліто, або летам, калі нічога, апроч джынсаў і кашулі, на ёй не было?

– Я так пасталела і вырасла ў Расіі, што, уваходзячы ў свой дом, баялася, што грукнуся аб столь! – сказала яна.

Праз пару месяцаў Ніта з крыху з’едлівай усмешкай прызналася, што аднойчы на Цвярской сустрэлася з падлеткамі, адзін з якіх ударыў яе кулаком па твары і крыкнуў: “Прэч дадому, жоўтая малпа!”

– Чаму вы маўчалі пра гэта? – спытаў я.

– Не хацела, каб нашы студэнты баяліся рускіх.

Я сам не заўважыў, як стаў называць яе пра сябе Ніткай. Прычым у галаву без дазволу лезлі казкі пра ўсялякія чароўныя ніткі і нават гісторыя пра хітруна, што выскубаў шарсцінкі з вяроўкі, якой падпярэзваўся Францыск Асізскі, кідаў іх у ваду і паспяхова лячыў самых безнадзейных хворых.

Прапанаваў студэнтам напісаць сачыненне “Самы цудоўны чалавек у маім жыцці”. Пакуль яны пісалі, крочыў па аўдыторыі, з задавальненнем слухаючы, як шархацяць і стукаюць тонка навостраныя алоўкі. Мне падабаюцца гэтыя гукі. Здаецца, чарада маленькіх птушак пастуквае па сталах дзюбамі.

Сачыненне Ніткі я прачытаў, стоячы ў яе за спінай.

“Гэта адзін мужчына. Палкі, разумны, гумарыстычны чалавек. Калі я сустрэла яго ўпершыню, ён глыбока запаў мне ў душу. Ён заўсёды гаворыць нам незвычайныя, палкія, цікавыя лекцыі. Абавязкова ўсе на рускім аддзяленні любяць яго. Я палюбіла чытаць рускія кнігі пад яго ўплывам. І яго лад жыцця для мяне жахліва цудоўны”.

Расчулены, я схіліўся над яе сшыткам і чырвонай асадкай хуценька вывеў: “Дзякуй! Я таксама люблю вас! Але гэта сакрэт!”

У вачах Ніткі мільгнуў жах.

“Жарт!” – спахапіўшыся, дапісаў я.

І на пабляднелым твары студэнткі адлюстравалася відавочная палёгка.

– Гумарыстычны чалавек! – мармытаў я, вярнуўшыся ў кабінет і ўткнуўшыся ў люстэрка.

Замежнікі звычайна захапляюцца японскімі дзяўчатамі. Кіплінг марыў жыць з адной з іх у хаціне пад камфарным дрэвам. Толькі Ганчарову, які прыплыў сюды на ваенным судне, японкі зусім не спадабаліся. Прыемней было пагладжваць чыгунныя карабельныя гарматы!

Але ён не выкладаў у японскім універсітэце, дзе вастравокая, гнуткая студэнтка з пышнай грыўкай, што падае на насмешліва выгнутыя бровы, кажа мне голасам, ломкім, як першы лёд:

– Новы год я буду сустракаць з сям’ёй. Роўна а дванаццатай гадзіне мы з сястрой возьмемся за рукі і падскочым!

– Навошта? – разгублена пытаюся я, думаючы, што гэта, магчыма, невядомы мне японскі звычай.

– Хачу сустрэць Новы год у паветры! – пераможна глядзіць яна на мяне.

Кожны год на наш факультэт прыязджаюць стажоры з Расіі.

– Будзеце спаць з рускімі студэнткамі, – упэўнена прадказаў мне на пачатку майго кантракта захмялелы прафесар з французскай кафедры.

Я сціпла пахітаў галавой.

– Будзеце! – не супакойваўся ён.

– Не буду! – заўпарціўся я.

– З анёламі не размаўляю, – крута развярнуўся прафесар.

Ён не мог уявіць, што я магу пажадаць спаць з японкамі.

– Будзьце асцярожней з японскімі дзяўчатамі, – трывожна сказаў мне загадчык рускага аддзялення Такухіра, пачуўшы, што я хвалю стараннасць нашых студэнтак.

Сам ён, калі студэнткі прыходзяць да яго на кансультацыю, адчыняе дзверы ў калідор наўсцяж, нібыта праветрывае кабінет.

Але хіба я збіраюся прылегчы з лепшай сваёй вучаніцай на лятучы ружовы футон? Я нават не падумваю па гэта. Што можа быць больш банальна і скандальна?

Робіцца не па сабе, калі я ўяўляю, як гідліва і пагардліва паглядзіць на мяне Такухіра. Кантракт мой згарыць, як бенгальскі агонь. Добра, калі дадуць дапрацаваць да канца семестра. І што далей? Вярнуцца на радзіму, адкуль я ўцёк без аглядкі?

А Нітка задуменна кажа:

– Калі мая кошка сядае да мяне на калені, я адчуваю цяжар шчасця.

Пра што загадаеце думаць выкладчыку пасля такіх слоў? Пра катоў, пра шчасце, пра голыя каленкі?

Напэўна, адзіны спосаб скарыць чужую, закрытую для цябе краіну – гэта авалодаць яе жанчынай. Ашалелая салдатня, што ўрывалася ў палаючыя гарады, здаецца, добра гэта ведала.

Дзіўныя ўяўленні наведваюць мой розум. Мы з Ніткай едзем на цягніку ў горы... У глухім гатэлі, седзячы на татамі, перакідваемся цыдулкамі. Нарэшце я змагу сказаць ёй пра ўсё... А на світанку разам падымаемся да патухлага вулкана, яна размотвае з кімано шырокі шаўковы пас, мы туга ім абвязваемся і, абняўшыся, скачам у глыбокі кратэр.

Кімано нашы студэнткі апранаюць толькі на выпускную цырымонію. Я нават не ведаў, ці ёсць яно ў Ніткі. Але справа ў іншым. Ніякай іншай

будучыні, акрамя падробна-кіношнай, высмактанага з пальца вулкана, перада мной не ўзнікала.

Час ад часу я заўважаю пераўтварэнне маіх студэнтак у жанчын. Нешта новае, капрызліва-ўпэўненае няўлоўна праслізгвае ў іх. Але тое, што ў Ніткі з'явіўся хлопец, кінулася мне ў вочы не адразу.

Яна прыйшла на лекцыю з плямкай на шыі. Я стараўся не глядзець на яе. Ці мала што з'яўляецца на скуры? Але калі праз дзень побач са старой плямкай зацямнела новая, збянтэжана зразумеў: "Гэта ж пацалункі!"

Нібы фокуснік, які пераконвае сябе, што ідзе не па вуголлі, а па макавых кветках, так я запэўніваў сябе, што павінен адчуваць не пакуты, а палёгку. Ніта-сан знайшла сваё каханне. Я мог выкінуць з галавы бязглуздыя і небяспечныя мроі.

Яна ніколькі не змянілася. У ёй нават дадалося бязвіннага свавольства, што цудоўна спалучаецца з унутранай цвёрдасцю, разважлівасцю і мэтанакіраванасцю, якія ёсць амаль у кожнай японцы.

– Нядаўна было свята Нябеснай Ткаллі, – расказвае яна, хітравата паглядаючы на мяне. – Усе пісалі свае жаданні і чаплялі іх на бамбуку. Я не пісала сваё жаданне. Мне было сорамна, што нехта прачытае маё жаданне.

– Якое ж у вас было жаданне, калі не сакрэт? – дрыготкім голасам пытаюся я.

– Я хацела есці смачны кавун! – усміхаецца яна.

Перад смерцю цыкады лётаюць марудна, хістаючыся ўбакі, нібыта страчваюць каардынацыю рухаў. Адна такая адурэлая цыкада ўдарылася аб вакно, пацерла лоб і паляцела далей.

Я ўстаў з-за камп'ютара, і раптам пакой пахіліўся так, што прыйшлося схапіцца за стол. Такога адчайнага галавакружэння ў мяне яшчэ не было.

У шпіталі мяне, нядоўга думаючы, запіхнулі, як у тарпедны апарат, у аглушальную трубу і зрабілі тамаграфію.

– У вас менінгіёма, – паказаў здымак мозгу ўрач.

Падступіла нястрымная рвота, і я выбег у калідор.

Маючая адбыцца аперацыя незвычайна ўзрушыла, нібыта абяцала хуткае неверагоднае падарожжа. Напярэдадні мне далі антыдэпрэсанты, і я за раз праглынуў жменю пігулак, важна думаючы, што мог бы абысціся і без іх. Я толькі не мог вырашыць, ці то я спрабую ўразіць фальшывай малайцаватасцю японцаў, ці то і напраўду нічога не баюся?

Услых мне зачыталі дакумент, які апавяшчаў, што я не буду скардзіцца, калі аслепну, страчу слых, нюх, памяць, мяне разаб'е паралюш або я траплю ў кому. Пачуўшы, што не буду мець прэтэнзій нават у выпадку ўласнай смерці, я задаволена кіўнуў і, выхапіўшы ў ашаломленага доктара асадку, размашыста падпісаў бальнічную паперу.

Апрытомнеў я ў рэанімацыі. Драты і шлангі адпаўзалі ад майго цела да прыбораў і машын, што цьмяна мігцелі. Прастакутнік вакна світальна бялеў.

– Да вас наведвальнік, – пачуўся голас медсястры.

Не паспеў я здзівіцца, хто б мог прыйсці, ды яшчэ гэтак рана, як нада мной уся ў белым з'явілася Нітка. Аблытаны дратамі, з забінтаванай, як у муміі, галавой, а галоўнае, без зубных пратэзаў, выцягнутых з рота перад аперацыяй, я не ведаў, куды падзецца ад сораму.

– Горад на світанні зусім іншы, – прыветна сказала Нітка. – Здаецца, без клубка воўны дарогу не знойдзеш.

– Як добра, што вы прыехалі! – міжволі вырвалася ў мяне, і я ў паніцы ўспомніў, што мне нельга расціскаць вусны.

– Не хачу заканчваць універсітэт, – нібыта нічога не заўважыўшы, працягвала Нітка. – Трэба будзе паступаць у дарослыя. Тады я кіну адчуваць, што ў літар ёсць колер і пах.

Раптоўны сон лёгка і шчасліва захапіў мяне.

– Дзе дзяўчына, што тут была? – ледзь прачнуўшыся, спытаў я.

– Якая дзяўчына? – здзівілася медсястра.

– Студэнтка, якая да мяне прыходзіла.

– Да вас ніхто не прыходзіў.

Нітка, яе словы – усё было галюцынацыяй.

Я не збіраўся нікому расказваць пра гэты выпадак. Нешта стрымлівала мяне. Але ледзь я ўбачыў Нітку, як тут жа пра ўсё прагаварыўся.

Мая гісторыя яе ўразіла. Здаецца, нават непрыемна ўразіла.

– Спадзяюся, я да вас прыходзіла, як добры прывід! – сказала яна са штучнай усмешкай.

Праз некалькі дзён яна не з’явілася на занятках. Прафесар Такухіра сказаў, што ў яе знайшлі рак у апошняй стадыі. Урач аб’явіў, што ёй засталося жыць максімум два тыдні.

– Я параіў іншы шпіталь, – развёў рукамі Такухіра.

Урач памыліўся. Замест двух тыдняў яна пражыла два месяцы. Мы паехалі на пахаванне ў Нагана. Ніта-сан у белым кімано, не зважаючы на людзей, што набіліся ў пакой, спакойна, без аніякай дамавіны ляжала на падлозе на тонкім футоне. На яе пальцы знаёма зелянеў гумовы напарстак для перагортвання старонак.

Ах, як гэта правільна! Што за рай без бібліятэкі, у якой сабрана лепшае, што ўжо напісана і яшчэ будзе напісана на Зямлі?

Я ўсё гэтак жа выкладаю на рускім аддзяленні, толькі ўваходжу ў аўдыторыю без ранейшага хвалявання. Звыкла пытаюся ў студэнтаў, што новага, і цярпліва выслухоўваю іх няўмелыя расповеды пра дзяцінства, пра паездкі ў Расію, нават пра каханне.

Колькі разоў я ім паўтараў, каб, расказваючы па-руску пра каханне, яны гаварылі “мой хлопец”, “мая дзяўчына”. Але японцы ўпарта паўтараюць “каханы, каханая”. Такі пераклад японскага слова “коібіто” яны знаходзяць у слоўніку.

– Учора я з каханым хадзіла ў караоке, – кажуць яны.

– Сёння я з каханай пайду ў кіно...

І перада мной паўстаюць вяршыні Сяніра і Ярмона, барсы і львы б’юць хвастамі, падымаецца вецер з поўначы, заціхаюць птушкі, на ўвесь рот пачынаюць дыхаць кветкі, выходзяць у бязлюднае змярканне вартавыя, якім, як заўсёды, лепш не трапляць на вочы.

– Адчыні, каханая! Жыццё маё трымаецца на нітачцы...

---

«Дзеяслоўцы» шчыра віншуюць шаноўнага **Вечаслава КАЗАКЕВІЧА** з сямідзесяцігоддзем і зычаць яму душэўнае трываласці, спору ў творчай працы і моцнага здароўя!

Анастасія Лазебная



…жыві сёння, дыхай паветрам на ўсе грудзі

і ні ў чым сабе не адмаўляй…

# Мадыстка з Парыжа

***П'еса ў трох дзеях***

**Дзеючыя асобы:**

**Міхась Накідайчык**
**Маруська** – яго жонка
**Люська** – суседка Накідайчыкаў
**Сяброўка Марускі**
**Сабака Рэкс**

## ДЗЕЯ ПЕРШАЯ

*На сцэне звычайны пакой. Пануе паўзмрок. Над ложкам, на якім ляжыць Маруська, гарыць бра. Жанчыне гадоў сорак – сорак пяць. Валасы, падобныя на льняное валакно, раскіданыя па падушцы. Ляжыць ціха. Праз некаторы час пачынае круціцца, варочацца з боку на бок. Полы стракатага халата то хаваюць яе стройныя ногі, то бессаромна адкрываюць іх. Праз некаторы час супакойваецца. Прыпадымаецца і пачынае моўчкі назіраць за Міхасём, які сядзіць за кампутарам. Міхась увесь у гульні.*

*Ён штосьці выстуквае на клавіятуры. Усміхаецца. Потым падымае рукі ўгору і выкрыквае: "І што тут зробіш!" Ускрык падымае з пасцелі Маруську, яна становіцца на падлогу. Тая скрыпіць. Робіць крок, другі. Скрып мацнее. Міхась не чуе, як і не зважае, што жонка ўжо стаіць за спінай і, як і ён, пазірае на манітор. Міхась рэзка апускае рукі і пачынае штосьці клацаць. Ажывае манітор, пачынаюць рухацца танкі.*

**Маруська:** Міхасёк, родненькі! Скажы, танкам кіруе маладзіца, што ты так пільна глядзіш на яе? Не, нават не глядзіш, а маланкі пуляеш. А мо гэтыя жалязякі самі цябе захапляюць, што не адводзіш погляд? Ну і дурны занятак. А табе ж не васямнаццаць гадкоў, каб у вайнушку гуляць. Хутка па тваёй сівай макаўцы праедзе брычка, запрэжаная пяцідзесяццю скакунамі. Смешна нават глядзець на гэта ўсё. І колькі ж, калі не сакрэт, заначак страціў, калі набываў танкі? А ці новыя яны? Прама з канвеера табе іх прыгналі? Калі так, то малойца! Не дай бог, калі ты, Міхасёк, надыбаў гэтае жалеззе ў скупшчыкаў, то тады табе хана. З такім іржавым узбраеннем можаш і вайну прайграць. Не баішся?

**Міхась:** А чаго баяцца? Баюся, што ты, стоячы ля мяне, адубееш. Адхініся. Перашкаджаеш. Прыліпла да спіны, быццам тая п'яўка. І не трыся сваімі булачкамі па спіне. Не да любоўных ігрышчаў. Бачыш, як усё сур'ёзна на фронце.

**Маруська:** Не труся, а сваю энергію перадаю такім чынам. Хвалююся за цябе. Хачу, каб ты як мага хутчэй знішчыў непрыяцеля. Але, відаць, паднялася з пасцелі дарэмна. Не магу паспрыяць удалай ваеннай тваёй кампаніі! Адно толькі скажу – мужайся. Калі што пойдзе не так – не здавайся ворагу. Лепш падарвіся на міне. Героем станеш, а я як удава *(цьфу-цьфу)* атрымаю пенсію па страце кармільца. Думаю, адразу хапану вялікую суму. Во разжывуся! Ведаеш, што з тваімі "дамавіннымі" грашамі зраблю? У Парыж паеду. Не, нават паімчуся. Я ўжо зараз уяўляю свой адпачынак.

**Міхась:** Якая міна! Што ты, жонка, прыдумала. Хаця, я таксама б у Францыю рвануў на дзянёк-другі. Хоць і не быў там ніколі, але мне здаецца, што гэты горад я ўжо люблю. Загадкавы. Горад усіх закаханых... О, Парыж, Парыж! Танга на дваіх, каштаны і вельмі, як кажуць... прыгожыя жанчыны. Цікава, а якія яны, парыжанкі, – гарачыя, ці такія, як ты, з тонкім налётам лёду.

**Маруська:** Я табе зараз пакажу ільдзінкі, пудзіла ты гарохавае! Лепш за войскам сваім глядзі! Зараз танк непрыяцеля байцоў тваіх падушыць. Вунь, як на іх імчыцца. Ну рабі ж ты што-небудзь, палкаводзец тармазнуты! Прайграеш, у пасцель не пушчу! Хаця, які з цябе толк пасля бою. Відаць, кампутар усю мужчынскую сілачку высмактаў! Выключы гэтага зладзея! Ты ж мне здаровенькім патрэбен. Дзе ж я на старасці гадоў табе замену буду шукаць, ды й ці знайду? Чаго маўчыш?

**Міхась:** Ну, маўчу. А ты тараторка! Сціхні! Бачыш, якая процьма танкаў нясецца. Не ведаю, як толькі выкруціцца.

**Маруська:** Нічога, выкруцішся. Я табе дапамагу. Вось выцягну зараз штэпсель з разеткі і... знікнуць твае непрыяцелі і гульням наступіць канец. А ты ад злосці пішчэць пачнеш, рохкаць, што тая свіння ў загарадцы. *(Нахіляецца над вухам і ледзь чутна, лагодна просіць.)* Міхасёк, саколік мой! А мо пойдзем у ложак. Пад цёплую коўдру. Я яе сагрэла сваім целам. Зірні, аж пара клубіцца. Падлезеш пад яе – быццам у саўне апынешся. Такую гарачыню адчуеш і пах чароўных зёлак. Я іх падклала пад падушку. На лузе назбірала. Водар траў у носе прыемна будзе казытаць, бударажыць душу. І мы прытулімся адно да аднаго і... *(Не дагаворвае.)* Ураз ўспомнім нашу вясну. Потым вернем лета, восень і зімку. Ты памятаеш, Міхасёк, усе поры года. Цяпер на дварэ што стаіць – зіма?

**Міхась:** Ты з глузду з'ехала, жонка! Якая зіма? Лета ж, ды такое анамальна гарачае!

**Маруська:** Канечне, зіма, зіма ў нашых адносінах. Аж холадам цягне ды сняжком запарушвае. Што з табою здарылася? Прызнавайся! А мо на самой справе гэты кампутар стаў між намі, што жанчына-разлучніца. Дык я яго хуценька адпіхну ад цябе. Вось пабачыш. Ты на працу, а я яго за вугал дома, за вугал! Суседзі не стануць марудзіць, тут жа прыбяруць да рук.

**Міхась:** Не чапай святое! Не дакранайся нават, па-добраму, прашу. Як ты можаш найлепшага сябра майго выкінуць з кватэры? У мяне і так няма сябрукоў. А ты адзінага знішчыш! Калі мне штосьці трэба зрабіць і пытанне рубам становіцца, я да яго бягу. Ён жа дапамагае мне жыць. Нядаўна пачытаў, як з гарбыля плот змайстраваць. Думаю цяпер, дзе б той гарбыль раздабыць? Без кампутара, мая даражэнькая, я быццам без рук. Вось зараз клікну мышкай, і ён табе раскажа, што заўтра нас чакае: сонейка ці дождж? Будзеш ведаць, што табе апранаць: плашчык ці кофтачку? А забягу на хвілінку ў "Аднакласнікі", а там столькі навін: вяселлі, сустрэчы людзей, і ўсе просяць "клас" паставіць, быццам той клас цуды зробіць...

**Маруся:** Ты мне зубы не загаворвай! Яны ў мяне не баляць. Выключай гэтага разлучніка, гэтага крывапіўцу. Не верыла я Анэльцы, калі тая расказвала, што кампутар у мужыкоў усю сілу забірае, сем'і разбурае. Што мужыкі на нейкія там брыдкія сайты заходзяць, галовы маладзіцам тлумяць. Смяялася яшчэ я з яе выдумак. А відаць, плакаць трэба было ўжо тады і шкадаваць усіх маладзіц.

**Міхась:** Чаго плакаць. Жанчыны радуюцца жыццю. Не скісаюць. Ведаеш, дзякуючы гэтаму ж кампутару яны не адзінокія. А колькі такіх на свеце! Ды такіх прыгожых! Вачэй не адвесці!

**Маруська:** А-а-а! Значыць, і ты ўжо цікуеш за кабетамі! Міхасёк, Міхасёк, ты гэтым можаш мяне падштурхнуць да такіх неверагодных учынкаў, што нават у страшным сне не ўбачыш. Я табе вось што скажу: прыгожае толькі на адлегласці прыгожае. Сапраўдная прыгажосць, якая пад носам, не заўважная. Да яе прывыкаеш. Ці не так я гавару?

**Міхась:** Мо і так. Але чаго ты вяжашся да мяне?

**Маруська:** Што значыць вяжуся. Не вяжуся я. Я толькі хачу высветліць, якая перамена адбылася ў табе. Пра нашы сямейныя святы не памятаеш. Ці гэты ж кампутар твой розум забраў, сляпым зрабіў? Божа, што кажу! Але чаму зрабіў? Ты ўжо сляпы! Ты нават не заўважаеш, як я апранаюся, якія чаравічкі абуваю. Відаць, каб процівагаз нацягнула на галаву і да цябе падышла знянацку, нават не спужаўся б... Паслухай, а мо ты захварэў і боязна прызнацца ў гэтым? Не саромейся. Я ж табе не чужы чалавек. Да ўрача сходзім.

**Міхась:** Нікуды я не пайду. Здаровы я, здаровы! І сіла ў мяне ёсць і якая яшчэ! О-го-го!

**Маруська:** Ты гэта можаш курам сказаць, каб паднялі на смех. А мне: ні гу-гу. Калі меркаваць па тваіх ваенных дзеяннях у ложку месяц таму, сіла твая раўнялася вераб'інай. Скок – чык, скок – чырык... і на падушку. Тут штосьці не тое.

**Міхась:** Не ўспамінай той чорны дзень, жонка! Тады я быў не ў форме. Так нацягаўся цэглы на будоўлі, што яна мне нават снілася. І сёння дзень быў цяжкі. Усё на нагах. Гойсаў за прарабам па будоўлі. Не крычы, родненькая, а лепш бутэрброд зрабі. Сальца палажы на кавалак хлебца. Бачыш, у мяне войска непрыяцеля яшчэ не разбітае. Танк трэба вывесці з траншэі. Бачыш, гусеніца абарвалася, на павуціне вісіць...

**Маруська:** Мо яшчэ сальца тваім ваякам падкінуць у кампутар? Ражна табе, а не сальца! Не заслужыў! Я доўга маўчала, а сёння выкажу ўсё, мой Міхасёк. Пачну з гаспадарскіх якасцяў тваіх. Які ты гаспадар, які? Прыйдзеш з працы – і да гуляў. Рамонтам бы заняўся. Няёмка ў госці запрашаць сяброў, радню. Жывём як на вакзале. Колькі ні прыбірай – усё без толку. А на балконах... Яны хутка абваляцца, столькі featureрознага хламу, сорамна ў вочы суседзям глядзець.

**Міхась:** А ты не глядзі. Якога ражна ім у вочкі зазіраць. Што там у іх убачыш? А госці... Навошта яны патрэбныя. Сёння прыняць госця, бадай, па мінным полі прайсці. Ад растрат можна падарвацца. А сяброўкі... Ды хіба табе яны не надакучаюць на працы? Восем гадзін мужыкам косці, быццам зерне ад асцюкоў цярушыце. І чым, языкамі. Як толькі мазалёў на ім не натрацё, баб'ё чортава.

**Маруська:** А як жа вас не ганьбіць. Вы ж як дзеці малыя. Пра сям'ю не рупіцеся. Піва, дзяўчаты, футбол. А цяпер гэтыя цацкі. Танчыкі купляеце. І такія дарагушчыя. Навошта я гэты кампутар набыла, а з ім і клопат на сваю галаву. Здаецца мне, што гэтая машына нас ворагамі зробіць. Але чаму зробіць? Яна ўжо зрабіла. Ты хочаш дачакацца часу, што мы адно на аднаго ў атаку пойдзем. І лінія фронту будзе праходзіць якраз пасярэдзіне камп'ютара. Божачкі, што я кажу! Не, не кампутара, а ложка! Дастала мяне гэтае жалеззе. Трэба да Люські схадзіць і папрасіць, каб яна гульні тыя павыкідвала, калі ты будзеш на працы. Можа, яе дапамога паспрыяе твайму вяртанню ў сям'ю. Заўважаць пачнеш. Ці ў цябе ўжо імпэт да мяне прапаў. Скажы, не мучай! А то ўжо ў галаве ад думак шасцібальны галаватрус пачаўся. Чаго маўчыш?

**Міхась:** Ну, завяла патэфон. Усё прыпомніла. Навошта табе рамонт, пытаюся? І так добра. Чыста, прыгожа. Ты ж выдатная і руплівая гаспадыня. Ніводнай пылінцы не даеш прызямліцца. Усё з анучай носішся па кватэры, каб яе "замачыць". Ведаеш, надакучыла глядзець на ўсё гэта. Я не аб такой жонцы марыў. *(Міхась змоўк і клікнуў мышкай. Праз нейкі момант прадоўжыў.)* А Люську нават на парог не пушчу. Няхай не лезе, праграмістка чортава. Лепш за сабой няхай сочыць, за сваімі кавалерамі, якіх у яе процьма. Колькі яна разоў выходзіла замуж? У мяне пальцаў на руках і нагах не хопіць, каб падлічыць.

**Маруська:** А хто ты такі, што ейных кавалераў лічыш. У яе сваё жыццё, свая доля. У сваёй сям'і разбярыся, а потым іншых людзей абмяркоўвай.

**Міхась:** Я то разбяруся. А табе вось яшчэ раз кажу: прыйдзе твая сяброўка ў кватэру, ногі-аглоблі павыкручваю! А дакранецца да кампутара – рукі адаб'ю. Так і перадай. Не яе справа. Як хачу, так і жыву. У што хачу, у тое і гуляю. Зразумела**?** А не падабаецца табе са мною жыць, можаш сысці. Хоць зараз. Дай мне адпачыць ад цябе.

*(Устаў з-за стала і пачаў шпарка хадзіць па пакоі. Злы, злы. Трошкі астыў і зноў сеў за кампутар.)*

**Міхась:** Зыдзі, кажу: да маці, сястры, ды хоць да гэтай безгаловай Люські. Як-небудзь без цябе абыдуся. І замену табе хутка знайду, ты нават вокам не паспееш міргнуць. А то бач, ёй мае танчыкі не падабаюцца, маёй сілы ёй мала. У іншых кабет і такога чалавека няма: ні з сілай, ні без яе. Ненажэрная! А ты не падумала, што мне з табою сумна стала і нецікава. Няма ў цябе выдумкі ні стравы прыгатаваць, ні мяне аблашчыць. Так што з сённяшняга дня, не, з гэтай хвіліны, мы з табою чужыя людзі. Забірай падушку і прыся да каго хочаш. Мне малая справа да цябе.

**Маруська:** Вось як ты запеў! Мастацтва яму падавай ва ўсім. Яшчэ паглядзім, каму патрэбен лайдак такі. Хто цябе будзе трываць, мярзотнік? Расхарахорыўся, разышоўся, што той пеўнік абскубаны. Апусціся на зямлю. Перастань на парнасайты зазіраць, нахабнік!

*(Змоўкла. Пачала шпарка хадзіць па пакоі. Зазіраць на палічкі, даставаць кнігі, перастаўляць іх. Чамусьці засяродзіла ўвагу на кнізе Анатоля Казлова "Юргон". Узяла яе ў рукі і падышла да Міхася. Хацела, відаць, трэснуць па галаве, але перадумала. Кніжку кінула на кампутарны стол, а сама што было сілы тузанула Міхася за плечы, амаль што не зваліўшы яго з крэсла і, чаканячы кожнае слова, злосна прамовіла.)*

**Маруська:** Ну і добра, што пагутарылі, высветлілі адносіны. Я да Люські.

Яна даўно мне раіла кінуць такога мужычка. А я цябе ўсё шкадавала. Як жа мой Міхалка без мяне? Хто ж яму ежу гатаваць будзе? А як сядзе за стол, хто ж яму відэлец падасць, хлебца адрэжа? Ён жа такі стомлены з будоўлі вяртаецца... Дашкадавалася. Дурніца. Дзякуй, што вочы дапамог расплюшчыць...

*(Маруська бегае па пакоі. Хапае сурвэтку і пачынае выціраць пыл з кніжнай паліцы. Потым апускае рукі і быццам бы з сабою размаўляе.)*

**Маруська:** Да маці не пайду, не хачу трывожыць яе хворае сэрца. Ды і не зразумее яна. Бабулю трэба да нашага разводу паступова рыхтаваць. А вось у Люські пажыву, паназіраю здаля, на што ты здольны. Як будзеш увіхацца, гаспадар, як будзеш сябе паводзіць, каго ў кватэру прыводзіць! А калі пабачу жанчыну, то пакажу вам Кузькаву мамку – валоссе на галаве і табе, і ёй выдзіраць не буду. Я галавешкай асмалю вашы бесталкоўкі.

**Міхась:** Ой, напужала! Рукі кароткія ў цябе, даражэнькая. Не маеш права самасуд чыніць. Зразумела?

**Маруська:** Зразумела, зразумела... А вось табе кукіш! Што захачу, тое і буду рабіць! Калі хочаш знаць, то, пакуль мы не скасавалі шлюб, расправай займуся на правах тваёй жонкі. Ну, а цяпер, бывай! Глядзі, Рэкса не загубі. Ён усё ж член нашай сям'і. *(Сказала, злосна зірнула на мужа.)* Хаця, мо ты і рацыю маеш. Трэба адпачыць адно ад аднаго. Напэўна, гэты момант і наступіў. Дай хоць на развітанне пацалую.

*(Нахіляецца да Міхася. Цалуе ў шчаку. Мужчына сядзіць і не звяртае на пацалунак увагі. Маруся адыходзіць. Накідвае на халат швэдар, хапае падушку і ідзе да дзвярэй, адчыняе і з грукатам зачыняе іх.)*

### ДЗЕЯ ДРУГАЯ

*Кватэра Люські. Стол. На стале кампутар. Каля стала вялікі фікус, крэслы. За сталом сядзіць Люська. Пальцы яе рук хуценька бегаюць па клавіятуры. Жанчына штосьці піша. Ад гэтага занятку яе адрывае званок. Люська падыходзіць да дзярэй, адчыняе. На парозе стаіць суседка – Маруська.*

**Маруська:** Добры вечар, сяброўвачка! Можна да цябе**?** Ведаю, што позна, але не праганяй. Няма куды ісці. Ноч цёмная.

**Люська:** А што здарылася? З Міхасём пасварылася? Расказвай, а я да кампутара пабягу хутчэй. Патрэбна аднаму знаёмаму ліст дапісаць. А то ён, відаць, зачакаўся адказу.

*(Сказала і накіравалася да стала. Села ў крэсла і пачала штосьці пісаць. За ёй пайшла і Маруська.)*

**Люська:** Ведаеш, я сама хацела за табой бегчы. Тут такі ўхажор намаляваўся. З Канады. Зацаніць трэба было. Ты ж у людзях разбіраешся. Не адзін дзясятак год майстрам у цэху працуеш. Колькі пад тваім ачолам жанок ды мужыкоў?

**Маруська:** Хапае. Ды хіба адразу можна каго-небудзь распазнаць? Тут патрэбна пуд солі з'есці, каб даведацца пра чалавека. Я вось свайго за дваццаць гадоў не раскусіла. Толькі трошкі надкусіла, але як след не раскаштавала. Ну, дзе твой жаніх? Мо калі зірнуць на яго фота... Але, ведаеш, марны гэта занятак.

**Люська:** Дык усё ж, што здарылася?

**Маруська:** Ай, пасварыліся. Не ведаю, на колькі часу, але можна я ў цябе пажыву тыдзень-другі?

**Люська:** А чаго яго трасца ўзяла? Чаго яму яшчэ не хапае? Пра такую жонку многія мужчыны мараць.

**Маруська:** Не магу адказаць, але думаю, віною кампутар. Зрабі ты што-небудзь з ім, калі не будзе Міхася дома. Я табе ключ дам ад кватэры. Няхай

адпачне Міхал ад розных сайтаў. А то як прыйдзе з працы, адразу да кампутара бяжыць. Я перастала яго цікавіць. Усё сядзіць і сядзіць. То піша штосьці, як ты, а то ў нейкія стралялкі гуляе. Нічога дома не робіць. Мяне гэта ўсё так раздражняе, каб ты ведала! Гэтая ваша разумная машына выціснула мяне з размеранага жыцця, ой, як выціснула! Ты хоць вірус які-небудзь запусці, каб гэты кампутар з’еў...

**Люська:** Трэба падумаць. Слухай, а давай і ты падсядзь да кампутара, як кот на валер’янку. Будзеце разам забаўляцца. Перастань ежу гатаваць, прыбіраць. Трусялі Міхася мыць, шкарпэткі. Весялейшым жыццё сваё зрабі. Вось пабачыш, атрымаеш асалоду. А Міхась, паглядзеўшы на бардак, адумаецца. Ну давай, рашай. Вунь, зірні, у мяне яшчэ адзін стаіць у кутку. Праўда, мадэль не новая, але табе, як “чайніку”, хопіць. Можам нават сёння пачаць вучобу.

**Маруська:** Не, сёння настрою няма. Дапісвай сваё пісьмо і паказвай кавалера новага. Зацаню, так і быць.

**Люська:** Не сёння дык не сёння. Як хочаш.

*(Люська моўчкі дапісвае ліст. Адпраўляе. Потым паварочваецца да Маруські, якая ўсё стаіць за яе спінай.)*

**Люська:** Вось, ліст пайшоў. Але, перш чым паказаць фота канадца, я зайду на сайт знаёмстваў. Зірну на іншых “жарэбчыкаў”. Бываюць такія цікавыя асобы ды прыгажуны, што аж ікаўка пачынае забіраць. Паслухай, а мо і табе завесці знаёмства? Тым больш, што ты пасварылася з Міхасём. Хоць віртуальна здрадзь.

**Маруська:** І навошта?

**Люська:** А проста так. Колькі таго жыцця! Калі станеш старой і гарбатай, з сівой пакляй на галаве, з зубамі-агрызкамі, нікому непатрэбнай, тады ўспомніш перапіску і шчыра ўсміхнешся. Давай, не марудзь. Жыві сёння, дыхай паветрам на ўсе грудзі і ні ў чым сабе не адмаўляй. Зменіцца ў цябе настрой, зменіцца і Міхась да цябе. А цяпер бяры крэсла і сядай бліжэй. І, як кажуць, атрымлівай асалоду. Бач, я ўжо на сайце. Ой, колькі новых кавалераў! А прыгожыя якія! Маруська, зірні. Выберы якога-небудзь і пачні пісаць.

**Маруська:** Што пісаць?

**Люська:** А што ў галаву ўзбрыдзе. Перш-наперш, што чалавек спадабаўся. Што надоечы такога прыгажуна ў сне бачыла. Пра сябе трошкі напішы. Напішы, што высокая, прывабная. Маеш дзве вышэйшыя адукацыі, з банкаўскім валютным рахункам, з машынамі. Не важна, што адна пральная, а другая швейная, хто праверыць. А я маўчаць буду, як рыба. Згодна? Ну давай, вырашай. Ты ж у маладосці вунь якая прыгожая была!

**Маруська:** Чаму была? Не крыўдзі хоць ты, сяброўка, мяне.

**Люська:** Прабач. Сапраўды, ты і сёння ў самым саку жанчына. Маладыя хлопцы зазіраюцца, калі мы з табою па вуліцы ідзём. Абарочваюцца.

**Маруська:** Ага, абарочваюцца, асабліва калі язык ім паказваю. Ты ніколі не заўважала?

**Люська:** Ніколі. Я толькі заўважаю, як ты з кожным годам маладзееш. Такіх жанчын, як ты, параўноўваюць з вытрыманым вінам. На твары маршчын нябачна. А паслухаеш цябе, розуму набярэшся. Умееш прыгожа гаварыць, значыць, зможаш так жа захапляюча і пісаць. Упэўнена, атрымаецца перапіска. Давай выбярэм ахвяру. Зірні, гэты чалавек падыйдзе табе? З вусікамі. Ямачкі на шчочках. Пясок яшчэ не сыплецца, маладзён. Ой, як жа ён на твайго Міхася падобны!

**Маруська:** Які? Пакажы. Не можа быць. Хоць ён і казаў пра нейкія сайты, але, думаю, не дацямкаў яшчэ да канца, што можна з жанчынамі забаўляцца, як і ты, праз кампутар. Ён больш у танчыкі гуляе, а не з жанчынамі.

**Люська:** Ведаеш ты шмат. Танчыкі могуць быць адмазкай. Ну, ці бачыш ты? Не бачыш? Давай павялічу фота. Ой, сябровачка, гэта ж і ёсць Міхась.

**Маруська:** Вось злыдзень, вось прахадзімец! Навошта ён тут? Што яму трэба? Ён штосьці яшчэ і напісаў?

**Люська:** Пра сябе напісаў. Мабыць, ужо шуры-муры завёў з якой-небудзь кабетай. Хаця, думаю, не паспеў. Новенькі ён на сайце. Але ты не перажывай. Гэта ж віртуальныя сустрэчы, пісьмы. Нічога сур'ёзнага.

**Маруська:** Кажаш, нічога страшнага? Які сорам! Які грэх! Вось чаму так стаў брыкацца, пасмялеў. Як жа яго правучыць?

**Люська:** Думай. Хаця, навошта? Цяпер модным стала весці перапіскі з незнаёмымі. Увесь свет толькі ў сеціве і сядзіць. У госці ходзяць адзін да аднаго. Гэта ж так выгадна. Частаваць не трэба і кватэру прыбіраць потым. Не сучасная ты нейкая. Учарашнім днём жывеш. Усё ж давай пачытаем, што ён пра сябе напісаў.

**Маруська:** Пачытай, пачытай. Цікава, што ж ён пра сябе расказаў? Калі ў войску служыў, такія недарэчныя лісты дасылаў, сорамна прызнацца...

**Люська:** Навучыўся, відаць, бо піша складна. Ды й праўду расказвае. Нават імя не змяніў. Напісаў, што ён Міхась. Жыве ў Беларусі. Хоча зносін пакуль віртуальных. Але з адной умовай. Пакуль не пабачыць здымак жанчыны, якая згодна сябраваць, слова не выцісне на клавіятуры і мышкай не варухне. У будучым згодзен на сустрэчу, але не на доўгую. Хвілін на сорак, каб не надакучыць пакуль. Хваліцца, што дужа разумее маладзіц. Разбіраецца ў стылі напісанага. Па змесце тэксту можа вызначыць, што за чалавек схаваны за той пісанінай. Бо ён, твой Міхась, псіхааналітык.

**Маруся:** Хто? Ты ж ведаеш, як ён уздзейнічае на цэглу, якую на будоўлі цягае, што стары і аблезлы вол. Псіх ён, а не псіхааналітык! Для грамадства шкодны суб'ект. Такіх у бальніцы трэба лячыць. Што там далей?

**Люська:** Свае дадзеныя апісвае. Рост 190 см. Вага 95 кг.

**Маруся:** Колькі-колькі? І чаму такія мужчыны, якія сярэдні рост маюць, любяць яшчэ падшпіліць да сябе дзясяткі два сантыметраў? Мала яму 170. Я ж яго на пяць сантыметраў толькі меншая. Не сучасны ён. Ну, ды ладна з ім. Што там далей?

**Люська:** Далей... А далей ён расказвае, што матэрыяльна моцны. Разведзены. Жыве асобна ад былой жонкі ў сучаснай кватэры. Ну і яшчэ, што любіць... Гледзячы на тое, які склаў спіс, то любіць усё. Асабліва аўто, мастацтва і высокую моду. Гарэлкі не ўжывае.

**Маруська:** Не ўжывае?! Божухна, які бязгрэшнік! А як тады растлумачыць візіты ў выцвярэзнік аж два разы на месяц – у дзень авансу і ў дзень палучкі? Але ты, сяброўчачка, нікому гэтага не расказвай. Гэта ж тайна ўсіх тайн!

**Люська:** А мне-то што да яго п'янак! Чаго ты так расхвалявалася, разышлася? Лепш слухай далей. А мо сама будзеш знаёміцца з біяграфіяй свайго мужа?

**Маруська:** Не, не хачу. Чытай. У цябе добра атрымліваецца.

**Люська:** Згода. Толькі я згубіла сказ, на якім спынілася. *(Люська пільна ўглядаецца ў тэкст, знаходзіць патрэбны абзац.)* Бачыш, у твайго Міхася некалькі вышэйшых адукацый: незаконченае лётнае вучылішча, вышэйшае тэхнічнае, тры "верхнія" на базе вышэйшага, курсы масажу, курсы пашыву мужчынскай і жаночай вопраткі. Альпініст, шафёр, гатуе смачна ежу і... волат у пасцелі... Ого, які зайздросны кавалер! Відаць, жанчыны ўжо рвуць твайго Міхаську на шматкі.

*(Сціхла, штосьці мармыча пад нос.)*

**Люська:** Маруся, паслухай, а давай і мы напішам твайму Міхасю паведамленне. Маўляў, мы сяброўкі. Аўдавеўшыя. Мужыкі былыя фізікі-ядзершчыкі. З кватэрамі, "без прычэпаў". Займаемся мадэльным бізнесам. Вельмі даўно жывём за мяжой, у Францыі. Але за гэты час, бо работы поўны рот, так і не знайшлі сабе мужчынаў. Бо яны, замежныя ўхажоры, вельмі скупыя. Ніколі нават не пачастуюць кавай. Хочам пазнаёміцца з былым суайчыннікам. І каго спадар Міхась выбера, бо ён

спадабаўся абедзвюм, тая і будзе весці далейшую перапіску. А калі яшчэ падыдзе па характары, то яна выкліча да сябе ў Парыж ці прыедзе ў краіну белых бяроз для больш цесных зносін. Фотаздымкі прылепім да тэкстаў.

**Маруська:** Ты што, звар'яцела?! Міхась жа нас пазнае, асабліва мяне. Тут хоць паранджу накінь на твар, ён і праз яе мой позірк адчуе.

**Люська:** Праз кампутар не адчуе, а нас не пазнае, не хвалюйся. Мы такімі сябе зробім прыгажунькамі і не будзем на сябе падобныя, вось пабачыш. Не верыш? Прынясі сваю якую-небудзь фотакартку. Не, не ідзі ў кватэру. Я зараз цябе сфатаграфую. Сядзь пад фікус. Толькі парык надзень.

*(Маруся сядае пад фікус, Люська пачынае бегаць ля яе, шукаючы лепшы ракурс. Праз некалькі хвілінаў здымак з мабільнага скідвае на кампутар.)*

**Люська:** Сядзь бліжэй да мяне, глядзі і вачам сваім не вер. Праз некаторы час будзеш, як артыстка. Я цябе ператвару ў іншаземку. Магрэт. Бач, якая прыча ў цябе будзе: кароценькія пасмы-баранчыкі. Як мой парык. Зараз намалюю вочы і зраблю іх вялікімі. Утанчу талію. І будзе яна, як у асы паласатай. Падабаецца? Анёж!

*(Люся гладзіць сябе па грудзях.)*

**Маруська:** А тваё фота дзе? Мы ж дамовіліся ўдзвюх ахмурваць майго Міхася.

**Люська:** Адну хвіліначку. У мяне на такі выпадак фотаздымак падрыхтаваны ёсць. Ну што, падобная?

**Маруська:** Ой, ні за што б не здагадалася. А далей, што?

**Люська:** Далей я прымацую фоткі адна да адной, захаваю як адзін здымак і кіну ў "павуціну", што кручок з чарвячком для рыбак. Можа, і адразу хто-небудзь клюне. Не выключаю, што гэта можа быць і Міхась.

**Маруська:** А калі ён нас не заўважыць?

**Люська:** Не гаруй, заўважыць. Заклапочаныя асобы, як мужчыны, так і жанчыны, якія любяць поўзаць па гэтым сайце, адразу новенькіх заўважаюць. Тым больш, што мы будзем наступаць на яго балючыя мазалі. Думаю, за дваццаць гадоў сумеснага жыцця ты ведаеш, дзе яны знаходзяцца. Станем разжальваць, альбо пісаць тое, што чалавеку даспадобы. Клюне, вось пабачыш! Пра жонку распытаем. А калі ён ганьбіць стане сваю палавіну – пачнем шкадаваць небараку. Маўляў, як ён жыве з такою жанчынай? Тое, што яго жонка, а гэта ты, яму не дазваляла, дазволім хоць у сеціве. Толькі давай пап'ём гарбаты. Я зараз запару і прынясу сюды. Пачакаем, калі клёў пачнецца. Я чамусьці ўпэўнена, што праз паўгадзіны як піць даць Міхась трапіць на кручок.

*(Люська ідзе па гарбату, Маруська застаецца ля кампутара, углядаецца ў манітор, пачынае сумную песню напяваць. Што-небудзь з рэпертуара Ганны Герман. Праз некалькі хвілінаў да Марускі падыходзіць Люська. Працягвае кубачак гарбаты Марусьцы, свой ставіць на стол. Сядае.)*

**Люська:** Малайчына, што спяваеш, толькі песню весялейшую зацягні. У цябе з сённяшняга дня новае жыццё пачынаецца. *(Клацае мышкай і амаль крычыць.)* Ой, Маруська, а вось і паведамленне прыйшло ад Міхася! Вітаецца з намі. Называе царэўнамі. Піша, што такіх прыгожых жанчын не бачыў даўно. Далікатны ў словах. Ну, не мужык, а прынц! Просіць прабачэння ў Софачкі, гэта значыць у мяне, што яму больш спадабалася жанчына з кучаравымі валасамі. Адным словам – ты. Во смех! Ну, што сябровачка, давай, практыкуйся.

**Маруська:** Ты што, я ж гэтага кампутара баюся, што чорт крыжа. Ды не ўмею я! Буду невялічкі тэкст набіраць з добрую гадзіну. Давай удваіх будзем пісаць яму паведамленні!

**Люська:** Што, зараз і пачнем?

**Маруська:** А чаго чакаць? Трэба гарачанькім браць кампутарнага блытанчыка. Тым больш, што наперадзе два выхадныя. Можам прасядзець да таго часу, пакуль сон вочы не заплюшчыць.

**Люська:** Вось гэта па-нашаму, па-жаночы! Малайчына! Не разгубілася. І што мы напішам, прыгажуня Магрэт?

**Маруська:** Казку пра жанчыну, якая калісьці пакахала волата, які на самой справе ператварыўся ў бязрогага козліка.

**Люська:** Ну што ж, давай пагуляем у кампутарных путан. Дарэчы, і на пытанне адкажам спадару Міхасю, які просіць больш падрабязна распавесці пра жыццё жанчыны, якую пакрыўдзіў лёс.

**Маруська:** Ну што ж, пішы. "Дарагі Міхась. Мне вельмі радасна, што я больш табе спадабалася, чым мая сяброўка. Хаця Сонечка вельмі добрая жанчына, таленавітая. Цяпер мы распрацоўваем новую калекцыю летняга асартыменту. Калі пойдзе ўсё ўдала і мастацкі савет зацвердзіць, то мяркуем прыняць удзел у паказе мод «Белая Амфара», што ўжо не адзін год праходзіць у Беларусі, у Віцебску. Гэты горад ад тваёй Оршы блізка?" А што далей пісаць?

**Люська:** Пачакай, ён жа павінен адказ даць. Зірні, вунь кропачкі мітусяцца на маніторы. Значыць піша. А вось і ліст. Давай чытаць.

**Маруська:** Не, Люся, гэтая клаўнада не для мяне. *(Пачынае плакаць.)* Ты можаш забаўляцца з Міхасём, а я пайду спаць. Дзе мне сябе кінуць, на які тапчанчык?

**Люська:** Ідзі ў спальню. А я пагуляю з Міхасём без цябе. Але яго адказы буду табе агучваць, як і чытаць тое, што пішу яму. Ой, што ты пішаш? А раптам табе давядзецца сустрэцца з Міхасём, прыйсці да яго ў госці, калі мы прыедзем на конкурс. *(І зарагатала.)* Толькі не засні і слухай уважліва.

*(Маруська пакідае сяброўку і накіроўваецца ў спальню. Кладзецца спаць. Люська больш засяроджана, быццам п'яўка, упіваецца ў манітор. Чытае толькі што дасланы тэкст.)*

**Голас Міхася:** "Я пра такі конкурс не чуў, хоць, бывае, і цікаўлюся модай. Асабліва люблю назіраць за мадэлямі. Гэта ж такія зграбныя дзяўчаты! Ногі ад вушэй растуць. Але кінем той конкурс. Давайце пагаворым пра Вас. Якая Вы, Магрэт? Высокая? Што Вам падабаецца? Што цэніце ў людзях. Што для Вас каханне з першага погляду?"

**Люська:** "О-о-о! Каханне з першага погляду – гэта вялікі цуд! Я пакуль не сустрэла такога мужчыну, пасля свайго мужа, каб адразу страціць галаву. А калі гаварыць пра мяне, то я не высокая. Люблю моцныя напоі. Для мяне гарэлка, праўда, у разумных дозах, як лекі. З гурочкам ці сялёдачкай. Гэта настальгія па Радзіме. І ведаеце, вельмі мне даспадобы мужчыны, якія, нягледзячы на ўзрост, крок у крок ідуць за новымі тэндэнцыямі моды, сочаць за новымі анлайн-гульнямі, гэта ж крута! Я б такога мужа на руках насіла. Бо сама магу суткамі сядзець ля кампутара. Хачу асвоіць танчыкі..."

**Голас Міхася:** "Божа, няўжо ёсць такія жанчыны, якія любяць і кампутар, і гарэлку?! А танчыкі.... Вы мая багіня! Вы мая жанчына! Я ўжо закахаўся ў Вас. Як я хачу абняць Вас!"

**Люська:** "Не спяшайцеся. Паспех – курам на смех. Вы мне таксама спадабаліся. Але цяпер не да сантыментаў. Да конкурсу патрэбна падрыхтавацца. Адшыць калекцыю адзення. А гэта вельмі шмат работы".

**Голас Міхася:** "Дык калі адбудзецца конкурс? Мне ж да яго таксама трэба падрыхтавацца. Трошкі прыбрацца. Касметычны рамонт зрабіць. Тое-сёе набыць з мэблі. Утульным зрабіць гняздзечка, у якім, спадзяюся, мы сустрэнемся. І, калі ўсё пойдзе як па масле, пабяромся і будзем жыць шчасліва. Мне здаецца, Вы сур'ёзная жанчына. А калі прааналізаваць Вашае аблічча: усмешку, шчарбінку паміж роўненькіх, як часнычок, зубоў, відаць, гарачая. А я Ваша вогнішча буду падтрымліваць, вось пабачыце! Зраблю ўсё, каб Вам было лёгка і ўтульна са мною".

**Люська:** "Дзякуй за камплімент. Вы не памыліліся. Я падобная да вулкана. Не патухлы, а той, які ў самым разгары. Аднак хачу папярэдзіць. Калі Міхась

слабы, лепш не звязвайся са мною. А конкурс? Спадар Міхась, сам пасачы за гэтым мерапрыемствам. Купі газет. Але, наколькі я ведаю, конкурс адбудзецца хутка. Першага ліпеня. Я Вам яшчэ напішу. А сёння я стамілася і пайду спаць. Ужо позна. Хоць заўтра і выхадны, але ж мне трэба на працу. Патрэбна дашыць калекцыю адзення “Вясна-лета 2020 года”. Бывайце. І пакуль не выходзьце на сувязь. Перад прыездам у Віцебск я Вам абавязкова напішу і заеду ў госці”.

*(Люська выключае кампутар, ідзе да сяброўкі, якая ляжыць на канапе з расплюшчанымі вачыма.)*

**Люська:** Маруся, ты хоць чула, што я пісала? Я ж уголас усё прагаворвала. Думаю, для твайго Міхася з заўтрашняга дня пачнецца новае жыццё. Здаецца, ён усур’ёз запаў. Няўжо ўсе мужчыны такія недалёкія? А цяпер спаць. Ужо чацвёртая гадзіна пайшла.

*(Жанчыны патушылі святло і неўзабаве заснулі. Суботні ранак. Маруська і Люська прачынаюцца ад таго, што на лесвічнай пляцоўцы стаіць нейкі грукат. Лямант. Тупат ног. Ліфт бясконца то апускаецца, то падымаецца на шосты паверх. Люська падхопліваецца і бяжыць да дзвярэй, зазірае ў дзвярное вочка. Стаіць моўчкі, а потым падзывае Маруську.)*

**Люська:** Маруська, зірні. Міхась рамонт распачаў. Уся брыгада прыперлася. Думаюць, відаць, пачаць і скончыць за два тыдні. Во якія цуды каханне робіць!

**Маруська:** Рамонт! Няўжо? Толькі б дажыць да таго дня, калі ён закончыцца! А мо ён яшчэ і мэблю набудзе?

## ДЗЕЯ ТРЭЦЯЯ

*Першага ліпеня. Кватэра Люські. Перад люстэркам сядзіць Маруська. Мастачка-стыліст робіць макіяж, накладвае грым. Затым Маруська ўсцягвае на сябе кароткія шорты. Апранае топік з велізарным выразам. Абувае чаравікі на высачэнных абцасах. Топік таксама кароткі. Ён адкрывае пуп, з якога выпаўзае намаляваная гадзюка. Нацягваюць жанчыне парык, валоссе баранчыкам уецца на галаве і чорнымі струменьчыкамі, быццам распалены бітум, спадае на плечы. Слой грыму з два пальцы хавае белую скуру жанчыны. Рукі Маруські — Магрэт, таксама размаляваныя рознымі малюнкамі. Люська працягвае акуляры з цёмным шклом і лапістую сумку, купленую ў сэканд-хэндзе.)*

**Люська:** Божа, якая ж ты эратычная, прыгожая! Зусім не падобная на маю суседку-Маруську. Сапраўдная замежная Магрэт. Удачы! Прыслухайся, што адбываецца на пляцоўцы, і непрыкметна прабірайся да сваіх дзвярэй, а я паназіраю за гэтым цыркам.

**Маруська:** Мне штосьці боязна. І чаму я згадзілася на гэту аферу? Толькі б не пракалоцца на першай хвіліне! У мяне сэрца амаль што не выскачыць.

*(Маруська выходзіць з кватэры Люські і накіроўваецца да сваёй. Націскае на званок, чакае. Праз некалькі хвілін на парозе з’яўляецца Міхась. Ад убачанага збянтэжваецца.)*

**Маруська-Магрэт:** Тут жывэ сподар Міхал? *(Каверкаючы словы, з акцэнтам, пытаецца.)*

**Міхась:** Тут, тут. Заходзьце!

**Маруська-Магрэт:** Дзякуй! Будзем знаёмы. Я – Магрэт. З Парыжа. Мадэльер. *(Працягвае руку.)*

**Міхась:** Прах...одзьце, пра...ходзь...це. Я вельмі задаволены. Можа, акуляры здыміце. У мяне лямпачка не яркая, шэрасць будзе адчувацца ў вачах.

**Маруська-Магрэт:** О-о, нэ, нэ. У мэна коньюктывыт. Я баюс заразіт Міхла.

*(Штурхае Міхася клубам і заходзіць у кватэру. Праходзіць у гасцінны пакой.)*

**Міхал:** Там сабака, Рэкс. Каб ён вас не парваў. Забыўся да матулі адвесці...

**Маруська-Магрэт:** Вы не тырбуйцесь. Мяне любяць усе сабакі на свеце, асабліва аўчаркі.

*(Рука Магрэт чухае Рэкса за вухам. Рэкс уважліва глядзіць на Маруську, нахіліўшы галаву. Маруська ўсё чухае аўчарку, а сама аглядае пакой, у якім усё блішчыць: новыя шпалеры, бялюткая столь, новы свяцільнік, новая ваза з ружамі, новы дыван, люстэрка ва ўвесь рост.)*

**Маруська-Магрэт:** О-о-о, шарман, о-о-оо, шарман. У вас вельмі тонкі густ, Міхал. Вы эстэт!

**Міхал:** Ды так атрымалася, мадам Магрэт. Скажыце, а вас за мяжой так завуць, як я назваў? А на радзіме якое імя ў вас было?

**Маруська-Магрэт:** Марыя, Маша, Маруся. Вельмі проста мяне называлі.

**Міхал:** Ну вось і добранька. Значыць Маруська. Для мяне больш прывычна. Але чаго мы так доўга стаім? Прашу да стала. З дарогі трэба падсілкавацца і выпіць. За знаёмства і сустрэчу. Вы ж не забыліся пра нашы звычаі?

**Маруська-Магрэт:** О нэ, о нэ. Ето застаецца на ўсё жыццё. Паверце, Міхал!

*(Міхась адстаўляе новае крэсла і дапамагае госці сесці за стол. Стол багата застаўлены разнастайнымі стравамі. Відаць, заказаныя ў рэстаране. Сядае насупраць.)*

**Міхал:** Маруська, што будзеце піць? Гарэлку, шампанскае, каньяк? Лікёр?

**Маруська-Магрэт:** А што спадар налье, тое і вып'ю. Не, не так. Што будзе Міхал, то буду і я.

**Міхал:** Ой, вы не жанчына, вы багіня! Няўжо я дачакаўся свайго свята. Тады гарэлкі. Я яе больш люблю. Тым больш і закусь для яе адмысловая: гурочкі, памідорчыкі, сальца. Свежая цыбулька. З "Еўраопта" ўсё. Вось тут розныя далікатэсы. Частуйцеся!

*(Міхась налівае гарэлку Магрэт, потым сабе, выпіваюць. Міхась да дна, Маруська толькі каштуе.)*

**Маруська-Магрэт:** Якая ж яна смачная! Здаецца сто гадоў не ўжывала. Аж у грудзях пацяплела. Толькі яна не вельмі моцная. Ці я не раскаштавала?

**Міхась**: А давайце яшчэ па адной, каб раскаштаваць? *(Устае, налівае яшчэ па адной. І, стоячы, гаворыць.)* Дарагая мая, Маруська, ой, Магрэт! Можна, я перайду на "ты"? Дык вось, я вельмі ўсцешаны тым, што зайшоў на сайт знаёмстваў і знайшоў цябе. Я ніколі не думаў, што праз сеціва пакахаю. Ведаеш, я твой здымак захаваў на рабочым стале, і не было таго дня, каб я не любаваўся табой! А вось пісаць не было часу. Рамонт, пакупкі, праца. Ты мне прабач, я трошкі схлусіў, калі пра сябе расказваў.

**Маруська-Магрэт:** О, Міхал, якая ўжо розніца – дзе праўда, а дзе хлусня. Галоўная, я прыехала, я з табою.

**Міхась:** Вось, вось. Залатыя словы! Я больш скажу: калі пазіраю на тваю постаць, мяне пачынае ўжо калаціць. Адчуваю, што не магу без цябе жыць! Хочаш, мы заўтра пойдзем і заключым шлюб. Хаця...

**Маруська-Магрэт:** Што, хаця... Міхал**,** а што ест проблем? *(Усё яшчэ крывіць язык.)*

**Міхась:** Невялічкая. Я з-за гэтага рамонту не паспеў скасаваць шлюб з жонкай. Але абяцаю, заўтра ўсё зраблю. Ты згодна пачакаць? Да заўтра.

**Маруська-Магрэт***:* Вось заўтра і пагутарым. А цяпер мне трэба ў гатэль збірацца.

**Міхал:** Як у гатэль?! Мы ж яшчэ як след не павячэралі. Ці табе не спадабалася маё гняздзечка? Я не ўсе грошы патраціў на ўсё гэта. У мяне яшчэ ёсць. Я багаты. Усё жыццё збіраў. Для такой, як ты. Быццам ведаў, што сустрэну прынцэсу. Давай вып'ем яшчэ па адной. За цябе!

*(Міхась асушвае сваю чарку, налівае яшчэ адну, нагбом выпівае яе. Потым яшчэ адну. Занюхвае хлебам. Падымаецца з-за стала, ідзе да Марусько. Жаласліва вымаўляе.)*

**Міхал***:* Маруська, застанься, Богам прашу! Не магу трываць больш! Не магу... Я цябе нікуды не пушчу...

*(Маруська падымаецца з канапы і выходзіць з-за стала. Муж і жонка сустракаюцца. Міхась працягвае рукі, каб абняць жанчыну за талію. Маруська ўхіляецца. Міхась, хоць і п'яны ўшчэнт, хапае яе за плечы, трасе. З твару Марусько падаюць акуляры, а следам злятае парык... Нямая сцэна. Міхась вылуплівае вочы. Стогн вырываецца з яго грудзей, а ён сам, што мяшок, спаўзае на падлогу. Падкручвае неяк пад сябе ногі і замірае. Густы храп напаўняе пакой. Маруська нахіляецца над мужам.)*

**Маруська:** Спі мой галубок, спі, мой донжуанчык. Няхай табе прысніцца цудоўны Парыж, сексуальная Магрэт і верная Маруська. А спаць ты будзеш доўга, гадзін да васьмі раніцы. І нават стрэл гарматы сёння не разбудзіць цябе. Гэта я добра ведаю. А мы зараз з Люськай пасядзім, пабалюем, ой, пабалюем!

*(Маруся падыходзіць да канапы, бярэ пакет, раскрывае яго. Дастае адтуль тэлефон і набірае Люсьчын нумар.)*

**Маруська:** Алё! Люсь, кідай кампутар і гайда да мяне. Кліент гатовы. Ляжыць на падлозе. Дапамажы падняць і ўскуліць на канапу. Няхай па-людску паспіць. Знямогся чалавек. Столькі работы перарабіў! Міхасёк будзе спаць, а мы з табою культурна адпачываць. Тут столькі смакаты ўсялякай! Трэба знішчыць, каб не сапсавалася. Тут не толькі на ноч хопіць ежы і пітва! На тыдзень! Усё, чакаю.

*(Маруська кладзе на стол тэлефон. Яна чакае Люську, па віне якой адбыліся метамарфозы ў кватэры Накідайчыкаў, а, мабыць, і ў душы Міхася.)*

З а с л о н а

Леанід Дранько-Майсюк



...эстэтыка – то-бок, выхад кнігі – пачынаючыся з этыкі (удзячнасць рэдактару і рэцэнзенту), і павінна завяршацца этыкай...

# Старонкі з “Памятнай кніжкі”

*22 траўня 2010 г., субота.*

“Пагоня” на Вострай Браме ў Вільні – наша духоўная маёмасць, а “Пагоня”, што ўзышла над Мірскім замкам і ўпрыгожыла сертыфікаты імянных прыватызацыйных чэкаў, павінна была сімвалізаваць нашу матэрыяльную маёмасць.

Так, павінна была, але...

Гадоў з пятнаццаць таму пусціўшы гэтыя горка-славутыя грашовыя дакументы ў даступную вытворчасць, простыя людзі ў выніку атрымлівалі зазвычай драбязу – скажам, пару басаножак ад менскай абуткоўні “Прамень” ці дваццаць слоікаў гарошку ад гарынскага завода кансерваў, а часцей “удачлівыя акцыянеры” нічога не здабывалі, мусілі задавольвацца абяцаннямі – маўляў, пачакайце, хай міне яшчэ годзік, і не засмучайцеся толькі, канечне, выплацім вам прыбытак, а пакуль тое, што належыць вам сёлета, мы ўклалі ў развіццё свайго прадпрыемства – для вашага, грамадзяне, будучага дабра!

Але здаецца мне, што большасць працавітага нашага люду не

пажадала стаць “акцыянерамі”, бо наогул забылася на чэкі “Маёмасць”, прысы́рыла[1] іх у глыбіні хатніх прыстолкаў і шуфляд як нешта не вельмі патрэбнае...

Летась, калі памерлі бацькі, я стаў разбіраць іхнія паперы, а гэта ў апусцелай беларускай хаце пералік звычайны – дамавая кніга, бясконцыя талоны, купоны, квіткі, даведкі, страхоўкі; усялякія пасведчанні – шлюбныя, калгасныя, інвалідныя; жмут зашмальцаваных кніжак – паявых, разліковых на малако, ашчадных; нейкія алоўкам пісаныя накладныя і плацежныя паведамленні; уліковыя прафсаюзныя карткі і прафсаюзныя білеты; даўні эпікрыз і зусім свежыя медыцынскія, міліцэйскія і гарсаветаўскія заключэнні аб смерці...

Я ўжо не кажу пра пісьмы, фотаздымкі, паштоўкі, віншавальныя тэлеграмы, надарваныя канверты.

Але вось на рудавата-чырвоным полі бачна бліснула “Пагоня”, і я даведаўся, што 11 снежня 1995 года бацьку налічылі 128 чэкаў “Маёмасць”, агульная вартасць якіх на тыя грошы склала 320000 беларускіх рублёў, а маці адшкадавалі толькі 76 чэкаў на суму 190000 усё тых жа рублёў.

Можна сказаць: багацце на адзін халт; у свой час і чэкі “Жыллё”, пераведзеныя ў чэкі “Маёмасць”, для простых людзей марнелі без карысці.

І ўсё ж у душы варухнуўся творчы імпэт, бо я амаль з усяго, шчыра прызнаюся, заўсёды спрабую здабыць нешта цікавае.

Дык вось, прабеглі неабходныя юрыдычныя тэрміны, і давыд-гарадоцкія натарыусы ў лістападзе 2009-га і ў красавіку 2010-га года выпісалі мне два пасведчанні, згодна якіх я стаў уладальнікам спадчыны, што склалася з вышэйназваных чэкаў.

Збольшага я даведаўся пра сутнасць выпісанай спадчыны.

Дарэчы, адзін з гэтых натарыусаў параіў з’ездзіць у столінскую філію “Беларусбанка”, каб узяць сертыфікат і на сваё імя...

У столінскай філіі мяне спыталі:

– Ці маеце чэкавы рахунак з нулявой рэштай?

Крыху павагаўшыся, я адказаў:

– Здаецца, не маю...

– Тады адкрыйце ў Мінску такі рахунак, і мы ўсё, што трэба, на яго пералічым...

У менскай філіі “Беларусбанка”, што на Францысканскай, загадчыца аддзялення спадарыня І. папрасіла мяне прынесці мой сертыфікат – аказваецца, ён у мяне ёсць; банкаўскі асветар (камп’ютар) паказаў, што некалі такі дакумент я атрымаў.

Вярнуўся дадому, пашукаў і сапраўды – знайшоў.

У гэтым шчасліва знойдзеным пазыковым пасведчанні было заяўлена, што 27 сакавіка 1997 года мне налічылі 89 чэкаў, што намінальная вартасць аднаго чэка – 35000, агульная ж вартасць усяго налічанага багацця – 3115000.

Заўважу, у бацькоўскіх сертыфікатах намінальная вартасць пазначана не была...

Мусіў быў скласці дзве заявы і тут жа склаў, а плацежныя даручэнні за мяне, дзякуй ёй, напісала спадарыня І.

Цікава тое, што на свае ўласныя чэкі спадарыня І. махнула рукой, а я прызнаўся, што свядома ўлез у такую важданіну – мне, пісьменніку, прыцягальны сам гэты нязвыклы працэс: афармленні, пераафармленні, заключэнне дамовы з фондам дзяржаўнай маёмасці, укладанне і г.д.

– Смешныя чэкі “Маёмасць” маюць сілу да 30 чэрвеня 2010 года, – сказаў я з важнасцю знаўцы.

– Іх дзеянне зноў будзе падоўжана, – адказала спадарыня І. – Бо ў іншым выпадку дзяржава павінна выкупіць іх у людзей, а грошай на гэта няма!

– А які на сённяшні дзень кошт аднаго чэка?

---

[1] Прысы́рыла (*давыд-гарадоцкае*) – пакінула.

– Чатыры тысячы...

Тады я заняўся падлікам, да бацькоўскага дадаў сваё, атрымаў 293 і памножыў на пачутыя 4000 – выйшла 1172000 нашых родных зайчыкаў.

Месячны заробак стараннага таксіста!

Радуйся, Лёня, але адкінь ад гэтай вабнай сумы 70000 рублёў – грашовы збор за дзве аперацыі, якія правялі працавітыя давыд-гарадоцкія натарыусы; адкінь і кошт аўтобусных квіткоў у Столін, а яшчэ і гэтыя 2100 рублёў, якія толькі што заплаціў тут, на Францысканскай, у якасці ўсё той жа дзяржаўнай пошліны.

І застаецца табе на прыгожай паперцы трохі больш за мільён – словам, разбагацеў, начальнікі лопнуць ад зайздрасці...

Бацькі ўсё жыццё рабілі, цягнулі, не скідваючы, сваё ярмо, і ад савецкай дзяржавы на іхніх ашчадных кніжках застаўся ого які капітал, можна сказаць, дзве кругленькія сумы – у бацькі 229 рублёў, тых самых, з партрэтам Леніна, у маці – 340.

Нават не хачу ведаць, колькі гэта будзе на сённяшнія грошы, хіба што для параўнання і цэнаснай яснасці ўнясу для памяці гэткую пазнаку – пушачка запалак цяпер каштуе 50 рублёў.

Хай хто-небудзь прыкіне, колькі такіх пушачак можна купіць за такую ашчаду?!

Дык вось, ад той дзяржавы засталіся пустыя ашчадныя кніжкі, ад гэтай – такія ж чэкі "Маёмасць" з гербам "Пагоня" ў небе Мірскага замка...

Нагаварыўшыся і даведаўшыся, што далей рабіць, я развітаўся са спадарыняй І. і з Францысканскай паехаў на Шырокую ў іншую філію "Беларусбанка", бо якраз там і можна было правесці абмен чэкаў "Маёмасць" на акцыі якога-небудзь прадпрыемства – коштам за адну акцыю адзін чэк.

Там, на Шырокай, мяне крыху падвесялілі – аказваецца, з 1 студзеня 2005 года адзін чэк "Маёмасць" каштуе не чатыры тысячы, як паведаміла спадарыня І., а чатыры тысячы чатырыста, а гэта ўжо, бясспрэчна, больш, чым заробак стараннага таксіста, так што я ўвачавідкі багацею.

Мне параілі выбраць будаўнічую арганізацыю V (даволі паспяховую!), і я згадзіўся (паверыў, што яна паспяховая!), аднак праз хвіліну высветлілася, што арганізацыя V мне, як акцыянеру, можа прадаць не 293 акцыі, а толькі 280.

Якое тады выйсце можа быць?

А такое – у філіі "Беларусбанка", што за Раманаўскай слабадой на Нямізе, рэшту чэкаў (13!) можна спісаць на акцыі таварыства W, якое займаецца пад'ёмнымі кранамі (мяне пераканалі, што і яно паспяховае!).

Я так і зрабіў, і вось з 19 траўня 2010 года, соладка ўздыхнуўшы, чакаю дывідэнты па акцыях.

*15 красавіка 2021 г., чацвер.*

**Дубянецкі, Стральцоў, Някляеў**

***1***

Тады, у 1980-я гады, у маёй душы яны існавалі разам, але мне, летуценнаму рэдакцыйнаму працаўніку, жадалася, часам нават мроілася, каб і ў жыцці яны былі разам, таму – як умеў і як мог – я спрыяў іхняму збліжэнню.

Вось памятная сцэна ў выдавецтве "Мастацкая літаратура", дзейныя асобы якой – Дубянецкі і Някляеў; сцэна гэтая адлюстроўвае адно з маіх не марных намаганняў...

– Валодзя, – звяртаюся да Някляева, – цябе чакае Дубянецкі!

– Праўда?!

Някляеў у недаўменні спыняецца пасярод калідора, недаверліва глядзіць на мяне і нібыта гаворыць: "Здаецца ж, у Дубянецкага са мной на сёння ніякай справы?"

– Ён цябе хоча бачыць! – я слізгаю вачыма па затаптаным паркеце.

Добра ведаю, што ў гэты момант дырэктар "Мастацкай літаратуры" Дубянецкі ў сваім кабінеце заняты пільнай работай (я толькі што быў у яго!), Някляева ён не чакае, і нікога не чакае, але мне засвярбела, каб менавіта ў гэты момант ён чакаў менавіта Някляева, бо Някляеў неспадзявана з'явіўся ў доўгім выдавецкім калідоры, і я не мог змарнаваць такі зручны выпадак!

– Пайшлі! – адчыняю дзверы ў прыёмную.

Някляеў паддаецца на маю светлую правакацыю і, вядома ж, не здагадваецца, што я вяду яго, калі так можна сказаць, у створаную мной далікатную сітуацыю.

У мяне моцна б'ецца сэрца, і я не ўяўляю, што будзе далей – мо здарыцца скандал, бо патурбаваць занятага кіраўніка ў непрызначаны час – гэта (самае малое!) нарвацца на непрыемнасць!

А з другога боку, што рабіць, калі душа гарыць, калі я ў палоне ўласнай хэнці: Дубянецкі і Някляеў павінны зараз от (!) сустрэцца!

Рыпнуўшы, дзверы ў кабінет прачыніліся, здаецца, самі...

Стол, на стале – вялікая попельніца, зялёны пачак гродзенскіх цыгарэт "Палессе"...

Аднак жа я занадта ўвёў сябе ў морак!

Убачыўшы няпрошаных наведнікаў, Дубянецкі праз акуляры вачыма весела паказвае: о, нарэшце прыйшлі!

Нібыта чакаў нас!

Так, ён задаволены, бо рашуча адсоўвае на край стала паперы, чым паказвае – ніякай работы зараз; ён апускае ў попельніцу недакураную цыгарэту і пытае проста з налёту:

– Хлопцы, скажыце, гэта праўда ці не?

– Вы пра што, Міхал Фёдаравіч? – крыху збянтэжаныя, амаль у адзін голас выпраштокваем, выдыхнуўшы, мы.

– Ды я пра тое, што калі званю ў аптэку, то мне здаецца, што толькі ў аптэках працуюць ветлівыя жанчыны?!

– І ў мяне такое ж адчуванне, Міхал Фёдаравіч! – Някляеў падхоплівае прыемную тэму. – З аптэчнымі жанчынамі вельмі прыемна размаўляць!

Вось так, з нічога пачынаецца файная гаворка, а файныя гаворкі і пачынаюцца з нічога, і Дубянецкі гэтым шляхетным уменнем валодае цудоўна, Някляеў таксама, і я, шчаслівы, нібыта апынаюся ў празрыстым воблаку...

***2***

І такая памятная сцэна – наведванне Дубянецкага ў санаторнай Аксакаўшчыне; з намі быў тады і Валодзя Мароз...

Някляеў заслаў стол бялюткай сурвэткай, і пад лёгкую-лёгкую чарку гаворка пайшла, здавалася, пра ўсё – пра кветкі, якія з тыдзень таму Рэйган усклаў на магілы эсэсаўскіх афіцэраў; пра сяброўства, якое часам перамагаецца грашыма; пра Віталя Вольскага, які з маруднай паважнасцю праходжваўся ў гэтую хвіліну па санаторных сцежках; пра сакавітасць пінскай гаворкі; пра аўтара "Загадкі Багдановіча" (апошняе, само па сабе, з маёй падачы!)...

Гаворачы пра Стральцова, Дубянецкі знаходзіў асаблівыя словы, а яшчэ, можна сказаць, па-чытацку ён ганарыўся тым, што стральцоўскія апавяданні і аповесці выдалі ў перакладзе ў Маскве ў даволі прэстыжнай серыі "Бібліятэка часопіса "Дружба народов" накладам ажно 200 000"!

Дубянецкі падкрэсліў нават і такую прыемную драбніцу таго знакамітага выдання: "На карэньчыку кнігі ёсць бронзавая плашка!"[1]

---

[1] Згадка пра выданне: Михась Стрельцов «Журавлиное небо», перевод с белорусского, издательство «Известия», Москва, 1978 г.

*3*

Маю і такі ўспамін – аднойчы з намерам купіў стральцоўскі зборнік і насіў яго з сабой, зноў жа строячы свае летуценныя планы.

“Калі не сёння, то заўтра ці на тым тыдні сустрэну Міхася і вазьму аўтограф для Дубянецкага! – так надумваў сабе. – А Дубянецкаму скажу, што Стральцоў прасіў перадаць для Вас, Міхал Фёдаравіч, сваю кнігу!”

Стральцоў ішоў па Феліцыянскай.

Так, мы сустрэліся, як мне й хацелася, выпадкова і нават крыху сімвалічна, – убачыліся ля таго несамавітага шынка, што мясціўся паміж кінатэатрам “Перамога” і будынкам школы; у гэтым шынку ў траўні 1981-га я ўзяў з ім свае першыя сто грамаў, таму й па сённяшні дзень той, цяпер ужо няісны, пітны дамок, ля ганка якога рос ядловец, жыве ў маёй душы пад невыпадковай назваю “Куст ядлоўцу”.

Тады за хісткім столікам, да якога прыліплі рыбіны косткі, з намі сядзеў яшчэ і мілы гумарыст Рыгор Яўсееў, а тыя мае першыя з ім сто грамаў былі, дарэчы, і апошнія – больш званіць шклянкамі нам разам не даводзілася.

Па Феліцыянскай мы выйшлі на Нямігу, прыселі на першай пустой лаўцы.

Надпісваючы кнігу, Стральцоў курыў і левай рукой, не выпускаючы пры гэтым цыгарэту, змахнуў з тытульнай старонкі тапалёвую пушынку...

*4*

Аўтограф Стральцова, хоць і накіданы не вельмі разборлівымі літарамі, Дубянецкаму спадабаўся.

Гэта мяне ўсцешыла.

Наогул успрымаючы кнігу як ікону, Дубянецкі пільнаваўся пэўнага рытуалу – любіў, каб кнігі надпісваліся правільна (!), паводле адпаведнай формы; ён вучыў мяне: нельга крэсліць аўтограф на форзацы і на супервокладцы – толькі на тытуле (што, дарэчы, Стральцоў і зрабіў!), а калі выданне аздоблена здымкам аўтара, то аўтар павінен выканаць напісанне пад сваім фота...

А яшчэ ён вучыў і такой тонкай эпісталярнай навуцы – напрыклад, пісьмо, перад тым, як заклеіць яго ў канверт, нельга складваць упоперак, а толькі па даўжыні аркуша.

Гэтак ён і зрабіў на маіх вачах са сваім лістом празаіку Войцаху Жукроўскаму[1] – гэты ліст, напісаны, дарэчы, па-польску, я перадаў шаноўнаму адрасату ў Варшаве ў чэрвені 1987 года; памятаю, В. Жукроўскі тады адзначыў: мова пісьма – узорная літаратурная польская мова...

Кнігу Стральцова Дубянецкі далікатна пагартаў, на адну-дзве старонкі, як чарадзей, злёгку прыклаў далонь, прачытаў уголас некалькі радкоў, уважліва агледзеў падарунак, як дарагую шкатулку, і заключыў:

– Стральцоў піша без цыркацкіх падскокаў!.. А вось... (тут прагучала імя пісьменніка)... – сапраўдны цыркач... У яго падскок на падскоку... Шмат няшчырасці...

Я згадзіўся з пачутым, а Дубянецкі ў тую хвіліну сціснуў і кінуў у сметніцу выкураны пачак “Палесся”.

Згаданага творцу назаву Z...

Z умеў жыць!

Ён таленавіта патрапляў пад саноўны густ, а Стральцоў не патрапляў.

Улада шмат чаго дазваляла Z і часта ўзнагароджвала яго (тым жа двухтомнікам да 50-годдзя, і не толькі двухтомнікам), а Стральцова не.

Прозвішча Стральцова выкраслілі з юбілейнага спісу на ганаровае выданне, – гэта быў цяжкі ўдар!

---

[1] М. Дубянецкі перакладаў на беларускую мову творы В. Жукроўскга.

Дубянецкі хадзіў у Камітэт па друку, пераконваў старшыню, што аўтар “Загадкі Багдановіча” мае абсалютнае творчае права на два тамы сваіх твораў!

Уплывовы Z за Стральцова голас у высокім кабінеце не падаў, а мог бы і падаць, аднак жа змоўчаў, праўда, на вуліцы прытворна ахкаў, бедаваў, шкадаваў, што са Стральцовым так несправядліва абышліся...

Пра Z можна сказаць гэтак: “Цікавы, як голас без музыкі!”

Пра Стральцова так не скажаш.

*5*

Я рэдагаваў рукапіс Нinfraкляева “Наскрозь”, – вершы, балады, паэмы, – які завяршаўся аднайменным прамаўленнем, жанрава пазначаным як канцэрт паэта з аркестрам.

Заўважу: прамаўленне кідкае, багатае на яскравыя фарбы і, трэба сказаць, даволі небяспечнае для тагачаснага (мяжа 1984 – 1985 гг.) афіцыйнага скутатага ўспрымання.

Струна “Дубянецкі, Стральцоў, Някляеў” у маёй душы настроена была ўсё на тую ж светлую правакацыю, таму само сабою зразумела, што па неабходную ўнутрывыдавецкую рэцэнзію на рукапіс “Наскрозь” я звярнуўся да Стральцова, маючы на гэта прыхільную згоду Дубянецкага.

Калі цэнзары запусцілі кіпцюры ў някляеўскі шэдэўр (а што так станецца – на тое ўсё й паказвала!), я зноў пазваніў Стральцову, і ён хутка накрэсліў дзве старонкі дадатковай рэцэнзіі, пасля чаго дыхтоўны томік у чорнай вокладцы ўбачыў свет.

Эстэтыка – то-бок, выхад кнігі – пачынаючыся з этыкі (удзячнасць рэдактару і рэцэнзенту), і павінна завяршацца этыкай, таму, седзячы ў гасцях у Някляева, я папрасіў яго набраць нумар Стральцова.

Някляеў тут жа пазваніў...

Я задаволена слухаў іхнюю доўгую бяседу і ў тую хвіліну, хвіліну свайго датклівага шчасця, і блізка думаць не мог, што хутка надыдзе 25 жніўня 1987 года.

У той дзень у Менску, на Чыжоўскіх могілках, назаўсёды развітваліся з Міхасём Стральцовым.

Дубянецкі і Някляеў былі на тым апошнім развітанні.

Сяргей Чыгрын



...я б вярнуў у кантэкст роднай культуры ўсіх, хто шчыра і аддана працаваў на беларускай культурнай ніве...

# “Трэба душы не даваць заснуць...”

***Гутарка з Міхасём Казлоўскім***

*Хто такія Раман Семашкевіч, Мікалай Грышкевіч, Пётр Зяновіч, Адам Більдзюкевіч, Мікола Ільяшэвіч, Віктар Казлоўскі, Уладзіслаў Чарняўскі, Віктар Шутовіч, Тодар Куніцкі, Вольга Таполя, Сяргей Сахараў і дзясяткі іншых малавядомых, але вартых памяці асобаў Беларусі? На гэтае пытанне вы зможаце адказаць толькі тады, калі прачытаеце ўнікальны двухтомнік артыкулаў, эсэ, літаратурных партрэтаў, бібліяфільскіх нататак і ўспамінаў даследчыка нашай літаратуры і культуры Міхася Казлоўскага з Маладзечна. Двухтомнік мае адну назву “Пад сузор’ем веры і надзеі”. Ён пабачыў свет у мінскім выдавецтве “Кнігазбор”.*

*Падобнага двухтомнага выдання ў Беларусі даўно не было. Але гэта не проза ці паэзія, а змястоўныя артыкулы-даследаванні, літаратурныя партрэты знакавых, ды забытых дзеячаў беларускай культуры, якія пражылі годнае, але трагічнае жыццё ў неспакойным XX стагоддзі, гісторыя родных аўтару мясцінаў і нараджэнне беларускага бібліяфільства, ліставанне вядомых беларускіх літаратараў і краязнаўцаў.*

*Упершыню чытачы даведаюцца з двухтомніка Міхася Казлоўскага пра лёс бібліятэкі і архіва генерала Кастуся Езавітава, пра мастакоў і бібліятэчку часопіса “Узвышша”, пра беларускія выданні ў ковенскай Летуве, пра Дзвінскія беларускія выданні, пра беларускае таварыства бібліяфілаў у БССР і шмат-шмат пра што іншае. “Пад сузор’ем веры і надзеі” – своеасаблівы даведнік пошукаў і знаходак, адкрыццяў і памяці пра забытых беларусаў, пра кнігі і падзеі.*

*Пра ўсё вышэй пералічанае, а таксама пра літаратуру і спадчыну наогул, вырашыў пагутарыць з Міхасём Казлоўскім. Спадзяюся, што гутарка атрымалася даволі цікавай, але, найперш, карыснай для ўсіх нас, хто жыве ў Беларусі і цікавіцца яе гісторыяй, літаратурай і культурай.*

***– Спадар Міхась, можа неяк не сціпла казаць, але мы з табой сёе-тое ўжо зрабілі для гісторыі нашай літаратуры і культуры. І, дзякаваць Богу, працягваем гэта рабіць. Але хвалюе тое, хто пасля нас будзе працягваць гэтую справу?***

– Пра нашы поспехі гаварыць не буду, хай аб гэтым скажа яго вялікасць час, а ён самы справядлівы суддзя і вызначальнік усяго сапраўднага і вартаснага на гэтай зямлі, хоць часта і недаравальна спазняецца. Што датычыцца нашых прадаўжальнікаў, то тут больш пытанняў, чым гатовых адказаў. Здаецца, і ёсць яны, тыя прадаўжальнікі, але нейкія не вельмі даўгавечныя: з’явяцца на даляглядзе, мільгануць і знікнуць. Праўда, ёсць колькі прозвішчаў, за дзейнасцю якіх я ўважліва назіраю і поспехі якіх мяне вельмі цешаць, але гэта ўжо не паслядоўнікі, а самастойныя творчыя адзінкі, якія даўно і паспяхова зарэкамендавалі сябе на ўдзірванелай краязнаўчай дзялянцы. Сярод іх: Станіслаў Суднік з Ліды, Ігар Пракаповіч з Паставаў, Алесь Аркуш з Наваполацка, Аляксандр Камінскі з Крэва, смаргонскі настаўнік Уладзімір Прыхач, няўрымслівы Кастусь Шыталь з Глыбокага, апантаная Тэрэса Бітэль з Вішнева і многія, многія іншыя. Бо недарэмна ж у Бібліі сказана, што па працы вашай пазнаюць вас. Хоць гэта, мусіць, і не вельмі прыгожа, але заўсёды захапляюся і тваёй працай, дарагі мой дружа.

***– Хто будзе працягваць даследаваць былую Заходнюю Беларусь і яе літаратуру? Там жа працы – процьма…***

– Так, тэма гэтая неабсяжная, і працы на ёй хопіць не аднаму пакаленню. Адзінае толькі, браток, што працаваць нам з табой на гэтым полі прасцей, бо мы засталі той добраславёны час, калі жылі яшчэ людзі, якія з’яўляліся ўвасабленнем сумленнасці і прынцыповасці. Яны не раскідваліся налева і направа такімі словамі, як любоў да Радзімы, да мовы, абавязак перад памяццю продкаў. Як успомню тыя бясконцыя паездкі ў Вільню, сустрэчы з прадстаўнікамі нізавога заходнебеларускага актыву ў нашых вёсках і мястэчках, то так зашчыміць сэрца, так стане сумна і балюча ад немагчымасці ўсё ранейшае паўтарыць у цяперашнім жыцці. Ды і не трэба забывацца, што і мы з табой родам з гэтых святых заходнебеларускіх ваколіцаў. Таму, напэўна, і любоў у нас да таго перыяду сапраўдная, шчырая, не пазбаўленая прыкмет сентыментальнасці і настальгіі.

А цяперашнія маладыя – гэта ўжо нешта іншае, пакаленне, якое голым энтузіязмам не купіш: ім падавай і ганарары, і гранты, і шмат чаго іншага. Таму цалкам згаджаючыся з тваёй думкай, што працы на заходнебеларускім полі безліч, павінен з сумам канстатаваць, што поле вялікае, а сейбітаў на ім сапраўдных, асабліва маладых, – мала.

***– А хто будзе шырока і грунтоўна даследаваць літаратуру Усходняй Беларусі ХХ стагоддзя? Там таксама працы шмат.***

– Тое самае можна сказаць і пра ўсходнебеларускую, альбо, інакш кажучы, БССРаўскую дзялянку. Праўда, адразу трэба згадаць і пра зусім не лепшую сітуацыю з вывучэннем нашай векавой прысутнасці і ў міжваеннай Латвіі, Ле-

туве, Чэхаславаччыне, ЗША. А там жа таксама колькі тэмаў – не раскрытых, не распрацаваных, занядбаных.

Літаральна на днях прачытаў надзвычай цікавы артыкул Міколы Труса, яшчэ аднаго рупліўца на не вельмі ўраджайным беларускім культурным палетку, які быў надрукаваны ў газеце "Літаратура і мастацтва" за 13 жніўня 2021 года, у якім даследчык распавядае пра паэта нашаніўскай пары Альфонса Петрашкевіча, вядомага па псеўданіме Філафей Калінка. Трэба сказаць, што прачытаў я той матэрыял з цікавасцю, паўглядаўся ў аблічча паэта, якога ўпершыню ўбачыў на старонках перыядычнага друку. Парадаваўся за аўтара, за ягоныя відавочныя поспехі ў згаданых тэмах, а потым набраў нумар мабільнага тэлефона і пазваніў. Выказаў яму словы падзякі і сваё захапленне яго публікацыяй. Колькі хвілінаў паразмаўлялі, і тут ён кажа: "І ўвогуле, такое запушчанае сённяшняе наша літаратуразнаўства і на такім нізкім прафесійным узроўні, што можна проста дзіву давацца!"



*Міхась КАЗЛОЎСКІ.*

Ну і як тут не пагадзіцца! Займаюцца тыя нашыя навукоўцы нейкімі дробнымі прамежкавымі тэмамі, а хто будзе збіраць пад адну вокладку, а потым выдаваць кнігі таго ж Альфонса Петрашкевіча, Андрэя Зязюлі (Аляксандра Астрамовіча)? А колькі, Сяргей, намі перагаворана, што да гэтага часу так і не выдадзены асобным выданнем творы Лявона Случчаніна-Шпакоўскага, пісьменніка высокай паэтычнай культуры, жанравай і тэматычнай разнастайнасці. А калі ўрэшце дойдзе чарга да паэта, празаіка, публіцыста, навукоўца Хведара Ільяшэвіча, пісьменніка, творы якога можна смела ставіць поруч з творамі Максіма Танка. Гаворым, збіраемся, а "воз и ныне там", як кажуць нашыя ўсходнія суседзі. Вось тут і гавары пра будучыню, пра наступнікаў. Ды калі нешта і падрыхтуем, а потым, падціснуўшы жывот, выдадзім, то ці шмат водгукаў прачытаем у рэспубліканскай прэсе? Памятаю, аднаго разу адшукаў дзённік кс. Адама Станкевіча "Каляндарныя нататкі", а потым надрукаваў яго ў "Куфэрку Віленшчыны", і што ты думаеш, шмат гісторыкаў і літаратуразнаўцаў адгукнулася на тую публікацыю? Пастараюся аблегчыць твае старанні – толькі адзін. Толькі гарадзенскі гісторык Андрэй Вашкевіч сказаў колькі добрых і, самае галоўнае, справядлівых словаў. І ўсё. Тое самае адбылося і з публікацыяй дзённіка Сяргея Сахарава. Але і тут яшчэ лепш – ніводзін навуковец-прафесіянал не адгукнуўся. Такое іншы раз складваецца ўражанне, што яны нікога і нічога, акрамя сябе любімых, не чытаюць. А што ты, можаш пахваліцца колькасцю і якасцю напісанага пра тваю працу? І я разумею, у прынцыпе, чаму: бо ні я, ні ты не ўпісваемся ў так званую абойму, у своеасаблівую тусоўку выбраных, а гэта значыць, што мы на гэтым полі не зусім свае. І таму, калі такая сітуацыя захаваецца, то гаварыць аб радаснай і шчаслівай будучыні не прыходзіцца.

***– Жылі на Беларусі вялікія нашы даследчыкі літаратуры, такія, як Сцяпан Александровіч, Арсень Ліс, Янка Саламевіч, Уладзімір Калеснік, Генадзь Кахановскі і іншыя. Гэта нашыя настаўнікі. Мы ў іх вучыліся***




***шукаць і даследаваць, збіраць і публікаваць. Але не толькі нам, а ўсім творчым людзям іх дзейнасць і творчасць трэба ўшаноўваць, выдаваць у некалькіх тамах. Ставіць ім помнікі, адкрываць мемарыяльныя шыльды. Хто гэта будзе рабіць? І ці зробіцца яно калі-небудзь? Як ты думаеш?***

– Гэтых людзей, даследчыкаў і асобаў ад Бога, я згадваю вельмі часта. Што магу, то стараюся рабіць дзеля ўшанавання іхняй памяці, але не ўсё, на вялікі жаль, залежыць ад мяне. Насустрач нашым жаданням павінны ісці іх родныя, блізкія. А тут не заўсёды нашае жаданае супадзе з іхнім хаценнем. А выдаваць у іх шмат што б назбіралася. Узяць усё таго ж Арсеня Ліса. Колькі ў яго найцікавейшага ліставання захоўваецца, ды і не выйшлі асобнымі кнігамі некаторыя яго працы. У прыватнасці, так і не пабачылі свету асобным выданнем яго надзвычай каларытныя, вобразныя мемуары, якія ён надрукаваў у газеце "Новы час". Альбо калі ўжо ўрэшце рэшт з'явіцца на паліцах кнігарняў усімі вельмі чаканы "Слоўнік псеўданімаў і крыптанімаў" Янкі Саламевіча, над якім ён так рупліва працаваў у апошнія гады жыцця? А што можна сказаць пра ўспаміны і пра неапублікаваныя працы незабыўнага Генадзя Кахаоўскага, яшчэ аднаго няўрымслівага сейбіта з тых легендарных 60-80-х гадоў мінулага стагоддзя? А колькі чаго, напэўна, цікавага ляжыць у архіве Уладзіміра Калесніка?

***– А колькі ў нас забытых літаратараў, мастакоў, кампазітараў, фальклярыстаў! І іх мы не павінны забываць. Асабліва тых, хто некалі прыгожа афармляў беларускія кнігі.***

– Што датычыцца неапраўдана і незаслужана забытых, то тут увогуле тэма для асобнай гаворкі. І што самае важнае ў гэтай сітуацыі, дык гэта тое, што мы не павінны забывацца не толькі пра знакавых, адметных творцаў, але і тых, хто выдаў адну альбо некалькі кніг. Бо калі гэта ад мяне б залежала, то я б вярнуў у кантэкст роднай культуры ўсіх, хто шчыра і аддана працаваў на беларускай культурнай ніве. Усіх, хто пісаў па-беларуску і жыў для Беларусі і ў каго ёсць відавочныя прыкметы таленту. Бо як падумаю іншы раз, то толькі роспач бярэ ад таго, што нічога па сутнасці новага не сказана пра адметных беларускіх кніжных графікаў мінулага, такіх, як Валяр'ян Дваракоўскі, Генадзь Змудзінскі, Павел Гуткоўскі, Янка Кашкель, заходнебеларускі мастак Мікола Васілеўскі. А колькі ўвогуле існуе дагэтуль не расшыфраваных вокладак кніг, часопісаў, як заходнебеларускага, так БССРаўскага перыяду! А хто калі згадае і выдасць брашуры, а то і кнігі пра кампазітараў Алеся Спаскага, Рыгора Самохіна, якія так таленавіта пачыналі і так трагічна закончылі свой жыццёвы шлях? Бо, наколькі мне вядома, акрамя тваіх ранейшых публікацыяў у перыёдыцы, я нічога новага яшчэ не чытаў пра іх жыццё і творчасць.

***– Сёння ў рэгіёнах Беларусі пражывае шмат здольных і цікавых людзей, якія займаюцца краязнаўствам. Мы нават пра ўсіх і не ведаем. Яны шмат робяць, але іх даследаванні ляжаць гадамі ў шуфлядах. Краязнаўцы не могуць выдаць свае кнігі, даследаванні, бо на выданні няма фінансаў. І калі іх не выдаваць – усё можа загінуць. Ці ёсць, на тваю думку, якоенебудзь выйсце з гэтага становішча?***

– На гэтае тваё пытанне знайсці дакладнага і ўцямнага адказу я не магу. Хіба толькі параіць рабіць так, як робім мы з табой якое ўжо дзесяцігоддзе. А менавіта: збіраць грошы на выданне самому, шукаць і далучаць да справы заможных мецэнатаў і фундатараў. Бо чакаць, калі раптам з'явіцца цікавасць да тваіх праектаў у нейкім выдавецтве, я думаю, дарэмная справа. Можна ўсё жыццё прачакаць, а потым здарыцца непапраўнае: у адзін цудоўны момант нейкія чужыя людзі, а магчыма, адпаведна выхаваныя і свае родныя, палічаць, што ўсе гэтыя паперы, якія валяюцца без усякай мэты, перашкаджаюць іх шчасліваму жыццю, і спаляць іх як непатрэбшчыну. А колькі падобнага давялося сустрэць і мне на маім жыццёвым веку. Памятаю, аднойчы прыехаў да роднай пляменніцы Тамаша Грыба: жанчына мілая, сардэчная, тыповая заходнебеларуская працаўніца. Распытваю пра дзядзьку, дайшла чарга да ягоных папер, а яна і кажа: "А маё ж ты дзіцятка, чаму ж ты раней не прыехаў, бо колькі тыдняў назад дзеці мае надумалі рабіць рамонт, дык знялі з гарышча куфар з дзядзькавымі паперамі і ўсё спалілі на панадворку".

***– Гэта сумна. І ў мяне падобныя выпадкі былі неаднойчы. Таму – што трэба зрабіць, каб шырэй наладзіць гісторыка-краязнаўчыя выданні па ўсёй Беларусі, не толькі на роднай мове, але і на польскай, англійскай, нямецкай мовах?***

– Цяжка адказаць і на гэта пытанне адназначна. Але думаю, што тут сваю лепту павінна ўнесці дзяржава, бо ў гэтай справе толькі на голым энтузіязме далёка не паедзеш. А для ажыццяўлення задуманага павінны быць сродкі, і сродкі, як ты разумееш, не малыя. Бо трэба заплаціць і аўтару, і перакладчыку (а найперш трэба знайсці такога перакладчыка, які аднолькава бездакорна валодаў бы і мовай арыгіналу, і роднай мовай). Хоць сама па сабе ідэя твая вельмі добрая, але... Што стаіць за гэтым "але", ты і сам добра разумееш.

***– Чым жыве і што робіць сёння Маладзечаншчына літаратурная, гісторыка-краязнаўчая і культуралагічная ў цэлым?***

– Баюся, што і на гэта пытанне не знайду аптымістычнага адказу. Каб яно, тое культурнае жыццё, існавала, трэба і кнігі разумныя чытаць, і душы заснуць не даваць. А тут ізноў больш пытанняў, чым гатовых адказаў. Я як успомню цяпер культурнае мінулае роднага горада, то яно не ідзе ні ў якое параўнанне з цяперашнім. Мала хто піша, ды і чытае не больш, мала ў каго з'яўляецца жаданне напісаць ці намаляваць штосьці сваё, цікавае і арыгінальнае, прысвечанае Маладэчну і раёну. Па сутнасці ледзьве дыхае на ладан літаратурнае аб'яднанне "Купалінка", што працуе якое ўжо дзесяцігоддзе пры "Маладзечанскай газеце". Мала з'яўляецца новых аўтараў, творчасць якіх усяляе пэўную надзею. Тут я магу згадаць, хіба што са старэйшых Аляксандра Хазяніна, які выдаў нядаўна зборнік новай гісторыка-краязнаўчай і літаратурнай публіцыстыкі, ды таленавітую Тамару Бярэзіну. Час ад часу нагадваюць пра сябе Тамара Бунта ды Людка Сільнова, былыя маладэчанкі. Зусім чамусьці змоўкла Лідзія Гардынец, самабытная паэтка і цікавы краязнаўчы пісьменнік. З маладзейшых, за творчасцю якіх я ўважліва сачу, я б згадаў Уладзіміра Садоўскага, Насцю Нарэйку, Марыю Бельскую...

***– Нядаўна ты парадаваў чытачоў і ўсіх беларусаў, хто цікавіцца нашай культурай, двухтомнікам "Пад сузор'ем веры і надзеі". Гэта кнігі твайго жыцця ці гэта была даўняя задумка – выдаць свае працы ў дзвюх кнігах?***

– Дзякуй за добрыя словы, але згадзіцца з тваёй думкай, што я парадаваў чытачоў з'яўленнем двухтомніка "Пад сузор'ем веры і надзеі", было б відавочнай няпраўдай. Бо як можна парадаваць чытачоў кнігай, якая выйшла накладам у 60 асобнікаў, я шчыра кажучы, не ведаю. Ну, хіба, некалькі дзясяткаў чалавек з майго бліжэйшага акружэння і ведае пра яе існаванне і па рознаму адносіцца да яе з'яўлення. Хоць асабіста я ёю ганаруся, бо я ў ёй сказаў усё тое, аб чым даўно марыў сказаць. На тваё пытанне, што гэта – "кнігі твайго жыцця ці гэта была

даўняя задумка” – адказаць адназначна таксама не атрымаецца. Напэўна, гэта своеасаблівы сімбіёз, які з’явіўся ў патрэбны час і ў патрэбны момант жыцця.

***– Якіх, на тваю думку, папяровых выданняў сёння не хапае ў Беларусі? Ці час іх ужо скончыўся?***

– Як ты цудоўна ведаеш, я кніжнік і бібліяфіл да мозгу касцей, і мне папяровыя выданні нічым не заменіш. Бо для мяне кнігі, часопісы былі, ёсць і будуць не толькі крыніцай інфармацыі, але і творам мастацтва. Я ў кнізе люблю ўсё: і змест, і шрыфт, і форму, і франтыспіс, і тытул, і віньеткі з застаўкамі. Таму я заўсёды быў, ёсць і буду за папяровыя выданні. А на тваё пытанне, якіх нам не хапае выданняў, магу адказаць вельмі коратка – добрых! Таму на сённяшні дзень, як гэта не гучыць парадаксальна, у мяне няма ў Беларусі любімага выдання. З ранейшых – настальгічна ўспамінаю Дубаўцову “Нашу Ніву”, часопіс “Спадчына”, “Беларускую мінуўшчыну”, старыя “Мастацтва Беларусі” і “Літаратуру і мастацтва”, нашую з табой любімую газету “Голас Радзімы”, беластоцкую беларускую “Ніву”. А яшчэ для мяне не хапае часопіса “Тэатральная Беларусь” ці чагосьці падобнага ў такім плане. Вельмі шкадую, што не маю магчымасці выдаваць “Куфэрак Віленшчыны”, маё самае любімае і дарагое дзіця. Таму ні ў якім разе не схіляюся да думкі, што век папяровых выданняў скончыўся. Што датычыцца цяперашніх выданняў, то ніводнага з іх па-сапраўднаму не люблю і не шаную. А за што іх шанаваць: за тую слоўную буфанаду, што пануе на іх старонках, за бульварны змест, хоць і падмацаваны сумнеўнымі гістарычнымі фактамі, за гульню ў літаратуру, за шэрасць і нудоту?

***– Я б, Міхась, дадаў бы, што сёння ў Беларусі патрэбны часопіс для калекцыянераў. Ва ўсіх краінах ёсць, а ў нас няма. А калекцыянераў у Беларусі шмат. На тваю ўласную думку, што чакае нашу Беларусь праз 20-30 гадоў? Найперш нашу літаратуру, культуру, навуку?***

– Ніколі не быў астролагам, таму і не люблю гуляць у прадказанні, але думаю, што ў бліжэйшай перспектыве нас чакаюць не лепшыя часы (хоць бачыць Бог, як бы я хацеў памыляцца). Толькі вельмі хачу, і нават лічу гэта сэнсам свайго жыцця, каб Беларусь была і тады, калі мяне ўжо не будзе на гэтым свеце. Але для гэтага трэба працаваць і працаваць, сумленна і мэтанакіравана. І тады, я думаю, што нашыя мары і спадзяванні калісьці стануцца рэальнасцю!

Наста Грышчук



...юбілейны сезон выйшаў гераічным проста таму, што адбыўся...

# Некароткі тэкст пра кароткі спіс Гедройця: нататкі сябра журы

**Уступ (лірычны). Свята, якога з намі няма**

Дзясяты сезон прэміі Гедройця мусіў скончыцца святам.

Уявім сабе здаровую краіну з дробнымі буржуазнымі каштоўнасцямі, між якіх – развіты кніжны рынак. Натуральна, "дробныя буржуазныя каштоўнасці" тут варта чытаць са станоўчай канатацыяй: не ў сэнсе ленасці і сытага атуплення, а ў сэнсе – нацыянальнай літаратуры больш не трэба выжываць, а сама нацыя спраўдзілася і самаўсвядомілася.

Вось у такой краіне юбілейны сезон галоўнай літаратурнай прэміі (што да прозы дык без сумневу) мусіў стацца святам з падсумаваннем зробленага. Дзясятку кніг-пераможцаў можна было б перавыдаць асобнай серыяй і правесці шэраг прэзентацый – не толькі дзеля самой прэміі, але каб паказаць нешырокаму чытачу, што з намі робіцца і куды мы рушым.

Можна было б зладзіць галасаванне па самой дзясятцы – элемент шоў і імітацыя канкурэнцыі. Крытыкі маглі б выка-

зацы сваё бачанне датычна гэтай дзясяткі і высновы за ўвесь стракаты перыяд існавання прэміі. Урэшце, урачыстая цырымонія з настальгічным ухілам і не без самазадаволенасці – чаму не?.. Мастацтва праз гэта не пацерпіць, а прэмію робяць жывыя людзі. Не грэх пацешыць калектыўнае эга.

Між тым рэальнасць кантрастуе з ружовым умоўным ладам. Да таго, як былі агучаныя вынікі дзясятага сезона, большасць арганізацый, якія прэмію рабілі, юрыдычна зліквідаваныя дзяржавай. Асобныя выдавецтвы перажыліператрусы, праверкі, фінансавы крызіс – і гэта не фінал гісторыі. Мусіць думаць пра выжыванне часопіс, у якім гэты тэкст надрукаваны. Пісьменнікі пабывалі хто за кратамі, хто ў эміграцыі, хто ў глыбокай дэпрэсіі. А крытыкі... Тут за ўсіх казаць не бяруся, а за сябе скажу так: на доўгі час мне заняло голас. Здаровая крытыка магчымая ў такіх жа здаровых умовах; цяжка шукаць мастацтва ў той час, калі пісьменнік шукае шлях да выратавання. Цяжка казаць пра хібы, калі аўтар зняволены.

Словам, юбілейны сезон выйшаў гераічным проста таму, што адбыўся. Яшчэ ў 2020 годзе ўсе неабыякавыя дапытваліся асцярожным шэптам: а ці будзе Гедройць?.. Што гучала як пытанне, ці мы ўсё яшчэ жывыя, ці не зламаліся. Не скажу, што без Гедройця літпрацэс ляснецца, а мастацтва скончыцца. (Больш за тое: белліт не знікне нават пры найгоршым геапалітычным раскладзе, то бок, пры страце дзяржаўнага суверэнітэту Беларусі). Але без Гедройця стане адназначна тужлівей.

Калі вы будзеце чытаць гэты тэкст, імя пераможцы даўно будзе вядомае, а можа, і прызабытае. Таму я не акцэнтую ўвагу на сімвалічных прызавых месцах; я буду казаць пра самі кнігі, пра іх адметнасці, якія б яны ні былі – удалыя, тэндэнцыйныя, правальныя.

Асцярожна: спойлеры!

### Ева Вежнавец. “Па што ідзеш, воўча?”




З першай старонкі аповесці – знакавай на сучасным этапе развіцця беларускай прозы – вы трапляеце ў бязрадасны свет пустэльніцы. Алкагалічка Рына – гучыць як штосьці правінцыйнае, як гераіня эпасу маштабаў райцэнтра, але гэта падманлівае ўражанне. Алкагалізм Рыны не пра сацыяльныя праблемы. Гэта сімптом некрозу душы, які ўзнікае, калі чалавека адрываюць ад крыніцы жыцця. Калі хочаце, гэта наступства няўдала адрэзанай пупавіны, канцавіна якой гніе на жывым целе.

Апошнія гады Рына адбыла за мяжой, даглядаючы самотных старых. *Чужых* старых – удакладняе яна сама, падкрэсліваючы пакутлівую адарванасць ад роднага: увесь час у глухой вёсцы дажывала бабка Адзачыміха, такая ж нелюдзімая дзівачка.

Бабка дажывала не зусім адна: іх дом падзелены на дзве сям’і – бабка з унучкай і, так бы мовіць, сярэдняе звяно, сын Адзачыміхі з жонкай. Гэты падзел важны як адзін з ключоў, неабходных для разумення свету Вежнавец: нармальныя людзі – па адзін бок светабудовы, “ненармальныя” – па другі, а паміж імі, нягледзячы на роднасць крыві, непранікальная заслона. Азначаныя вядзьмарскім дарам, Адзачыміха і Рына асуджаныя на самоту.

Унутраная ізаляцыя – гэта мікраўзровень; на макраўзроўні яна выяўляецца праз топас аповесці: глухая вёска між балотамі ці – на балотах, так нават правільней сказаць. Нягледзячы на векавое змаганне з ім, вёска існуе як працяг твані, *працяг не чалавечага*, прыроднага. Як ракавіна, прырослая да скалы.

Балота абавязкова нагадае пра Мележа, і гэтая згадка не фармальная. Аповесць Вежнавец – развіццё хранатопу “Людзей на балоце”. Асабліва звярну вашую ўвагу

на слова "*развіццё*": Вежнавец не паразітуе на класіцы – яна пераводзіць размову на новы ўзровень. Калі датычна Мележа я сказала б, што гэта эпас пра соцыум, які ўступае ў канфлікт з будучыняй, а балота Мележа – адлюстраванне соцыума, то ў тэксце Вежнавец канфлікт знаходзіцца па-за грамадскімі структурамі і нават па-за часам, ён не датычыць наўпрост нейкага гістарычнага перыяду, хоць і апісвае яго. Больш за тое: я ўпершыню бачу, што асэнсаванне нацыянальнай траўмы выводзіцца за межы беларускага – дзякуючы новаму ракурсу.

Ракурс зададзены праз спецыфіку канфлікту. Гэта *канфлікт паміж рацыянальным у чалавеку і нерацыянальным*; рухавіком жыцця, які ў псіхалогіі завецца Яно. Жывёльны пачатак, ненадзейна прыхаваны цывілізацыйным слоем. Настолькі ненадзейна, што ў першы ж крытычны момант Яно абрыне штучна ўзведзеныя каштоўнасныя іерархіі і вызверыцца на небяспеку. Што і адбываецца ў аповесці Вежнавец.

У аповесці Яно знаходзіць увасабленне ў звярыным. Звер – гэта не заўсёды грубая сіла. Гэта іншая мараль, нацэленая не на дабрабыт соцыуму, а на захаванне цэласнасці асобы, на сувязь з цьмяным Яно. Дабіраючыся дадому цёмным лесам, Рына думае пра небяспеку: гэты шлях возьме сваю ахвяру. Тут людзі разбіваліся, замярзалі, знікалі. *"У лесе заўсёды ёсць адчуванне, што за табой сочаць чыесьці вочы, і яны – не чалавечыя"*. І хоць нам паведамляюць, што тут ходзяць "чорныя ваўчкі", справа не толькі ў іх. Зрэшты, Рына адчувае не панічны страх небяспекі як такой, а халоднае разуменне рызыкі, якая ўзнікае, калі Звер побач. Ваўкі праходзяць паўз усю кнігу, як праз той лес, сваім шляхам. І яны ніколі не будуць проста ваўкамі, гэта заўжды ўцелаўленне сілы, якая сама сабе закон. Воўк не заб'е абы забіць. Па законах Адзачыміхі, з ваўком трэба павітацца як з роўным і папрасіць падзяліць дарогі.

Магчыма, сучаснаму, збольшага гарадскому чытачу такая паэтыка падасца анахранізмам, але гэта сведчыць пра тое, што калектыўны Звер урбанізаваны і прыдушаны бетоннымі плітамі горада, замардаваны дрэсіроўкай і чакае за кратамі свайго кавалку свежыны.

Структуру аповесці можна схематычна ўявіць як паралелі Чалавек і Звер. Калі глядзець на іх збоку, лінія бачыцца адна – лінія сацыяльная (чалавек/народ/краіна) і гуманістычная, якая кантрастуе з пачварнымі карцінамі гісторыі вёскі (як мікрамадэлі гісторыі Беларусі).

Як толькі вы зменіце ракурс, паглядзіце на аповесць "зверху" – убачыце паралелі, якія адна ад адной не залежаць. Канкрэтныя чалавечыя лёсы і іх узаемадзеянне, наступствы чалавечых учынкаў – і невытлумачальная жорсткасць, крывавы след, сіла, якая праявіць сябе проста таму, што яна ёсць.

З ракурсу Звера атрымаецца, што гісторыя чалавецтва (ці, звузіўшы да свету Вежнавец, гісторыя вёскі) – толькі праяўленне звярыных памкненняў і неўсвядомленага.

Можна спытаць, які з гэтых ракурсаў правільны, але на гэтае пытанне адказу няма. Ён знойдзецца, калі чалавек прыйдзе да канчатковай высновы датычна існавання Бога, лёсу, першаснасці матэрыі/ідэі і г.д.

Калі цяперашні час у аповесці звязаны з Рынай, то мінулае ажывае з гісторыямі Адзачыміхі: яна сама "ажывае" і з тагасвету разгортвае "генеалагічныя дрэвы цэлых вёсак" і "карту смерцяў". Гэта гісторыя войнаў, забойстваў, крадзяжоў, крывавай разні і генацыду, барацьбы за ўладу, хлусні, безнадзейных спадзеваў. Унутраная гісторыя правальваецца ўглыб часу праз гісторыі маці Адзачыміхі Просі і бабкі Мар'янкі, праз гісторыі Оркі і Паўла – згінулых энтузіястаў, якія верылі, быццам навука адолее балота. Прыход саветаў, калектывізацыя, меліярацыя, Другая сусветная, грамадзянскія пабоішчы, вынішчэнне габрэяў як асобная трагедыя на тле трагедыі беларускай. А там і раскулачванні з высылкамі, ворагі народу, усё, што

складае нацыянальную траўму беларусаў і праз стагоддзе застаецца даважкам, які замінае жыць, працягваецца забітымі ў час пратэстаў, сотнямі палітзняволеных, вымушанай эміграцый і расколамі ў сем'ях.

Вось істотнае адрозненне аповесці Вежнавец ад папярэдніх хронік нацыянальнай катастрофы: яна вядзе аповед праз герояў, якім Звер бліжэй за Чалавека. То бок, гэта не людзі, пазбаўленыя маралі, гэта людзі, у якіх свая мараль. І ўсе гістарычныя катастрофы, якія адбіліся на Беларусі і нас цяперашніх, у аповесці паўстаюць не як драматычны пераказ падручніка, а як голая, нязручная праўда пра нас саміх.

Мастацтва і жыццё па сутнасці імаральныя. Калі котка душыць мыш, яна не пакутуе на згрызоты сумлення. Калі зберацеся чытаць ці перачытваць аповесць, звярніце ўвагу на інтанацыю, з якой Адзачыміха расказвае свае змрочныя гісторыі: ні галасу, ні шкадавання аб падзенні нораваў, ні гуманістычнага расчаравання. Яна кажа пра бацьку-бандыта з захапленнем – не таму, што сама "дэвіянтны элемент", а таму што бацька быў хват. Як Звер ён быў выключны, меў моц і смеласць. Падобны погляд на рэчы жыве ў літаратуры антычнасці, дахрысціянскіх тэкстах, дзе цаніліся якасці чалавека як такія, безадносна іх карыснасці для грамадства.

Свет Адзачыміхі (і свет аповесці) не палягае паміж полюсамі "зла" і "дабра". Тут ёсць толькі жыццё і смерць, а паміж імі – сіла і ўдача. Ідэйную матрыцу "Па што ідзеш, воўча?" небяспечна браць за спосаб жыць у сучасным грамадстве. Але гэта карысны і, магчыма, адзіны эфектыўны сродак для таго, каб урэшце прыняць (у сэнсе – усвядоміць і зразумець, што гэта здарылася з намі) той гвалт, які чыніўся з нацыяй. І не толькі звонку, як быццам хтосьці благі прыйшоў і зрабіў нам кепска. Гэта гісторыя ўзаемнага вынішчэння і помсты. Калі ўдавацца ў рацыяналізацыю, мы захраснем у апраўданнях. Магчыма, варта аддаць чалавеку чалавечае, а ваўку – воўчае, падзяліць гэтыя дарогі, каб убачыць, што насамрэч адбылося. Людзі былі як звяры не таму, што рэжым крывавы; таму, што такія яны – мы – і ёсць.

Пад канец разнастайных разважанняў звярну ўвагу на яшчэ адну адметнасць: свет Вежнавец раскрываецца праз гісторыю жанчын, ад Рыны – праз Адзачыміху – да лютай бабкі Мар'яны і прабабкі Зоф'і. Аповесць можна аднесці да феміністычнай літаратуры – у тым выглядзе, які можна прыняць за мастацтва. Патлумачу: словазлучэнне "феміністычная літаратура" цягне за сабой асацыяцыі з чымсьці публіцыстычным, напісаным жанчынай пра праблемы жанчын, што часам выглядае як скарга напалам з абвінавачваннем. Усё гэта мае права на існаванне і, відаць, мусіць быць, але не мае дачынення да мастацтва. Ева Вежнавец таму і мастак, што не аддае перавагу асобным аспектам "чалавечай жыццядзейнасці". Яна не кіруецца нейкімі пэўнымі інтарэсамі – пралабіраваць тэму, стаць рупарам сацыяльнай ці этнічнай групы, даследаваць гістарычны перыяд, і г.д.

"Феміністычнасць" аповесці заключаецца не ў тым, што яна пра горкі лёс жанчыны. Яна ў самім ракурсе – на свет глядзіць жанчына. І тут варта згадаць "Сабак Еўропы" Бахарэвіча, у адной з частак якіх таксама фігуруе бабка-шаптуха. Параўнанне выходзіць яскравае: у Вежнавец бабка не проста носьбіт ведаў пра свет і захавальніца законаў жыцця, яна апавядальнік і галоўны суб'ект, з ёй і праз яе адбываецца рух, праз яе будуецца мастацкі свет. Калі да аналагічнага вобразу звяртаецца мужчына – Бахарэвіч – бабка робіцца аб'ектам дзеяння. Яе выкрадаюць, ледзьве не гвалцяць, не звяртаючы ўвагу на тую самую мудрасць. Пакіну гэты абзац у якасці назірання, без каментароў і далёкаідучых высноваў. Можа, гэта чыстае супадзенне, якое ўвогуле высноваў не патрабуе.

**Артур Клінаў. “Локісаў”**




Калі казаць пра празаіка Артура Клінава, для мяне ён застаецца аўтарам “Горада Сонца”, дзе чалавечае і чалавечнае пульсуе ў цэнтры пустэчы, сімвал якой – Кастрычніцкая плошча, абвешаная кідкімі сцягамі і плакатамі.

Затым ёсць Клінаў-мастак, які на Венецыянскім біенале выставіў саламяную рэпліку “Тайнай вячэры” да Вінчы. Гэтая “мізансцэна” паўтараецца ў фільме “Масакра” Андрэя Кудзіненкі – як мастак-пастаноўшчык Клінаў выкарыстаў саламяныя дэкарацыі.

Фільм, у сваю чаргу, зняты паводле навэлы Праспера Мэрымэ “Локіс”. У аснове яе – легенда пра мядзведзя-пярэваратня, што жыве ў глухім закутку недзе на Літве (у нашай сучаснасці – памежжа Беларусі і Літвы). У Мэрымэ пярэварацень адначасова страшылка, мэта якой – паказытаць нервы еўрапейскага чытача, экзатычная забаўка, што ўпісваецца ў моду на гатычны раман; і сімвал таго самага дзікага, змрочнага, непрадказальнага Яно, пра якое я казала датычна кнігі Вежнавец.

І вось маем аповесць Артура Клінава “Локісаў”. Па ўсім бачна, сімволіка “Масакры” засталася з Клінавым дасюль. Што не дзіўна: мастацкі патэнцыял вобраза пярэваратня невычарпальны. Доказ на паверхні: містар Хайд ператварыўся ў Халка і каторы год эксплуатуецца вялікімі экранамі.

Клінаў расказвае дэтэктыўную гісторыю пра таямнічыя, канечне ж, забойствы ў аддаленым райцэнтры Беларусі, у якім угадваюцца Лынтупы. Зрэшты, неістотна, што гэта за горад, бо ён тыповы, а ў Клінава нават шаржавы: Ленін на плошчы, крамы вакол плошчы, свой габрэй-гандляр, свая безгустоўная гасцініца і свая дрымучая гісторыя шляхецкага кшталту – граф Локісаў перакідваўся ў мядзведзя і вынішчаў ворагаў і ўсякіх *нехарошых людзей*. У яго была свая мараль, але ўсё ж мараль, і мясцовыя не столькі баяліся графа, колькі шанавалі яго як лакальнае боства, якое карае і абараняе, у залежнасці ад заслугаў.

Мясцовыя вераць у графа, баяцца яго, але яшчэ больш баяцца, што гэта міф, што графа няма. З таго карыстаецца мясцовая міліцыя, дакладней, следчы, якому вораг неабходны, каб быць героем – калі казаць пра вонкавую карцінку, але яшчэ больш яму патрэбны граф, каб кіраваць людзьмі. Уласна, наш герой-апавядальнік, з якім аўтар зліваецца цалкам, ставіцца да ўсяго гэтага як да благога сну, потым – фарсу, які можна спрабаваць рэжысіраваць, але збольшага застаецца пасіўным.

Трэцяя сіла ў гэтым свеце вонкавая. Чужынец для ўсіх – для масоўкі, для міліцыі, для героя і для нашага пярэваратня – ён знайшоў увасабленне ў абагульненым вобразе маскоўскага капіталу: прыезджыя бізнесоўцы выкупілі маёнтак графа і прэтэндуюць на тое, каб ціха, не афішуючы, замясціць ягоную фігуру.

Далей сюжэтныя перыпетыі пераказваць не мае сэнсу, хоць іх багата. Галоўнае не ў матэрыяле, а ў тым, як Клінаў яго падае. У свеце, дзе ранейшыя іерархіі-каштоўнасці зруйнаваныя, а новых так і не прыдумалі, казаць усур’ёз пра штосьці складана. Аўтар вымушаны шукаць новую мову. Клінаў абірае фарс.

Фарс выбудоўваецца праз стылістычную эклектыку (трэба прызнаць, у Клінава яна часам выглядае мяшанкай), камічнае апісанне персанажаў і камічныя сцэнкі. Яркі персанаж у гэтым фарсе – следчы: мы так і не ўбачым, дзе ён сапраўдны. Следчы мімікруе то пад героя Дастаеўскага, то пад копа з амерыканскіх стужак, то пад расейскага мянта. Таксама адзначу сцэну з мітынгам, у якім бачым пародыю на апазіцыйныя акцыі ў Беларусі, і атмасферу ў гасцініцы з ейнымі “мульцяшнымі” гаспадарамі, антуражам і насельнікамі.

Кінематаграфічнасць аповесці відавочная. Магчыма, гэта ўплыў працы над “Масакрай”. Магчыма, увогуле ўласцівая прозе Клінава рыса, сцвярджаць не бяруся.

Фарс выконвае тры функцыі: ён афарбоўвае ўсю “стужку” аповесці, як мантажны фільтр, прыводзячы асобныя кавалкі да эстэтычнай цэласнасці (прынамсі, імкнецца да гэтага). Ён забаўляе чытача. І ён раскрывае героя “ад зваротнага”: гэты смех за кадрам паказвае разгубленасць, страх, а па вялікім рахунку – трагічнасць сітуацыі, у якой апынуўся герой, а насамрэч – аўтар і ўся краіна.

І тут самы час сказаць, чаму “Локісаў” не стала аповесцю знакавай – нават у творчасці самога Клінава. Усе адзначаныя мною характарыстыкі трэба чытаць з прыстаўкай “неда”. Гэта неда-сцэнар – бо шмат лішняга як для кінасцэнара. І гэта неда-проза ў “класічным” значэнні – таму што фрагментарныя склейкі, якія на экране дарэчы, у прозе выглядаюць халтурна. Гэта неда-фарс – таму што нават у камічным Клінаў недастаткова вольны. Усе сцэны падаюцца знаёмымі, дзесьці бачанымі, і асабліва крыўдна за следчага: ён захрас паміж эксцэнтрыкам і правінцыйным міліцыянтам, і кожны новы вобраз, які яму прымяраў Клінаў, мог бы быць больш яркі. Што ў межах фарсу не проста дарэчы, а неабходна.

Калі мы вернемся да гісторыі з пярэваратнем, яна таксама “неда”: фінал недастаткова кантрасны адносна інтрыгі, якая да яго вяла. “Локісаў” – і неда-дэтэктыў, і неда-фарс, і неда-пародыя. Дадаць да ўсяго моўныя пытанні (часам здаецца, што аповесць механічна перакладзеная з рускай) – атрымаецца перспектыўны чарнавік.

Зрэшты, у мяне засталося адчуванне, што аўтар нават пасля цэлай аповесці не да канца развітаўся з містычным пярэваратнем; калі ўражанне не падманлівае і беларускія цемрашальства, дзікунства і іншыя мілыя нацыянальныя адметнасці ўсё яшчэ шукаюць выхад у літаратурнай форме, я б, з дазволу аўтара, сказала, што спяшацца публікаваць будучую работу няварта. Патэнцыял такой работы заслугоўвае высілкаў і часу.

**Андрэй Федарэнка. “Жэтон на метро”**




З водгукаў пра кнігу, якія мне давялося пачуць, самым папулярным было “расчараванне” (у лёгкай форме – стрыманае недаўменне). Прычына такой рэакцыі – няспраўджаныя чаканні. За якія, трэба зазначыць, аўтар не нясе адказнасці. Дый наўрад ці мусіць.

Чаго чакаюць ад Федарэнкі? Калі коратка, я б вылучыла стыль і “горкую праўду”. Стыль – гэта асаблівая аўтарская інтанацыя (стрыманасць, ашчаднасць, дакладнасць) і мова, шчасліва пазбаўленая школьнай стэрыльнасці. “Горкая праўда” – бязлітаснае ўзіранне ў сябе і ў свет праз сябе, з якога нараджаецца асаблівага кшталту спакой – спакой прынятага адчаю (які няварта блытаць з пакорай). У такім стане ясна бачацца рэчы і людзі.

Можна сказаць, што ёсць пісьменнікі, якія ходзяць па свеце з ліхтаром, шукаючы чалавека, а ёсць пісьменнікі, якія ходзяць з люстэркам, няпрошана нагадваючы, хто мы ёсць. Федарэнка ходзіць з люстэркам.

“Жэтон на метро” аказаўся такой кнігай, дзе люстэрка няма, як і звыклага псіхалагічнага мазахізму, і нават мова падпарадкоўваецца жанру. Калі б гэтую кнігу напісаў не Федарэнка, расчаравання было б менш, калі б яно ўвогуле было.

Анатацыя абяцае чытачу працяг прыгодніцкай серыі, якая пачалася даўнымдаўно з “Афганскай шкатулкі” і “Шчарбатага талера”. Тут прамахнуўся аўтар анатацыі, бо “Жэтон на метро” прыгодніцкай кнігай не з’яўляецца. Гэта не чысты экшн, і гэта нават не дэтэктыў, хоць кнігу часам так разглядаюць. Самым блізкім

азначэннем быў бы псіхалагічны трылер, які вырастае з канфлікту адцягненага характару, канфлікту па-за соцыумам. Гэта чарговая форма вечнай дылемы “курыца і яйка”, толькі замест курыцы – жыццё (рэчаіснасць, Эрас), а замест яйка – літаратура, мастацтва ўвогуле.

(Або – процістаянне Дыяніса і Апалона, між якімі расцягнуты арфізм – з перавагай да Апалона.)

Кніга пачынаецца з Аўтара – паэт Рак збіраецца напісаць аповесць. Затым з’яўляецца прыяцель Рака, уцягваючы таго ў мутную справу. Справа абрастае таямніцамі, Рак спрабуе ў іх разабрацца, вы чытаеце дэтэктыўную гісторыю, нарастае інтрыга...

І ўсё аказваецца адным вялікім падманам: постфактум чытач разумее, што ўвесь час знаходзіўся ў свеце, прыдуманым Аўтарам (аповесць у аповесці). Што ж, закрыем вочы на незакрытыя сюжэтныя лініі – яны застануцца на сумленні Рака. Праігнаруем і тое, што Федарэнка парушае галоўнае правіла дэтэктыва (а мы чыталі кнігу як дэтэктыў): следчы Грыневіч даводзіць, што “забойца садоўнік” – галоўны злачынец і ёсць Рак. Але і гэта не ўсё! І гэтая, другая па ліку, развязка – несапраўдная.

Натуральна, чытач, які прыйшоў па дэтэктыў, расчараваны (калі не злы). Бо аказваецца, што ўсе доказы несапраўдныя, і ён нават не меў шанцу разблытаць клубок загадак. Усё адно што дзень прастаяць пад дзвярыма, падбіраючы ключ, каб даведацца, што няма да іх правільнага ключа, бо дзверы – муляж.

Узнікае пытанне: а што гэта, уласна, было? Навошта?

А быў гэта пісьменніцкі эксперымент і гульня дзеля гульні. Яму было цікава: ці адрозніць чытач дзверы ад муляжа?

Інакш кажучы, дзе мяжа паміж рэальнасцю і прыдумкай? Ці ёсць розніца паміж жыццём і літаратурай і ў чым яна палягае?

Па вялікім рахунку, замест “Жэтона на метро” мы маглі прачытаць эсэ пра сутнасць літаратуры і ролю пісьменніка. Але ў такім выглядзе яго прачытае вузкае кола – нават адносна вузкага кола беларускіх чытачоў. Федарэнка элегантным падманам прымусіў чытача паўдзельнічаць у мастацкім эксперыменце. Да таго ж, эсэ было б не такім эфектыўным, не такім даходлівым, бо гэта было б *апісанне* з’явы. А ў аповесці з’ява самаўзнаўляецца, груба кажучы, гэта не тэорыя, а лабараторны занятак.

Паказальны адзін абзац, які прывяду цалкам:

“Ён развітваўся са сваімі героямі, але ведаў, што нікуды яны ад яго не дзенуцца. Ён ужо адчуваў поўную сваю ўладу над імі. Пішучы, забаўляючыся, гуляючы сам з сабою ў шахматы, ён навучыўся ажыўляць людзей, мог па першым жаданні адпраўляць іх у нябыт і гэтак сама лёгка вяртаць назад. Гэта было так нова, цікава, незвычайна, захапляльна — улада творцы над сваімі героямі! Больш за тое — нешта падказвала яму, што гэта і ёсць адзіная ў свеце сапраўдная ўлада, хаця б таму, што яна самадастатковая, ёй нічога не пагражае: ні выбары, ні рэферэндумы, ні путчы з рэвалюцыямі, яе ніхто ніколі ні пры якіх абставінах не адбярэ ды і прэтэндаваць на яе наўрад ці будзе”.

Гэтак Рак думае пра аповесць, якую ён піша ў аповесці, якую піша Федарэнка (складана, разумею). Калі Рак прызнае, што для яго аповесць – “розыгрыш, гульня, падман”, то гэта сам Федарэнка характарызуе сваю працу.

“Яму паверылі. Ён дабіўся свайго (і цяпер з усмешкай падумаў, што ў свеце толькі дзве сапраўдныя непрыемнасці: першая — не дабіцца чаго хацеў, другая — дабіцца чаго хацеў)”.

Федарэнка дабіўся, чаго хацеў, і гэта стала непрыемнасцю: для белетрыстыкі, як яно было заяўлена, занадта хітра; мастацкай рэчы замінае белетрыстычная форма і вытворныя: спрошчаны ці адсутны псіхалагізм, літаратуршчына (матэрыял

бярэцца не з жыцця, а з літаратуры – адсюль жанравыя клішэ) і абмежаваны выбар мастацкіх сродкаў.

### Таня Скарынкіна. “Райцэнтр”




На чым будуецца паэтычны свет Тані Скарынкінай і што робіць яе адметнай між верлібрыстаў?

Калі паэтам мы можам назваць чалавека, які цэліць у сутнасць рэчаў, выяўляе невідочныя сувязі і ўмее іх выказаць словам у межах наяўнага арсеналу, то Таня Скарынкіна ўзброеная цяжкай артылерыяй – дзіцячым поглядам на рэчы.

Цяжкай артылерыяй – бо такі погляд і эфектыўны, і эфектны, і яго немагчыма зымітаваць. Захаваць такі погляд на рэчы, не ператвараючы ў шаблон мыслення, – вялікая праца сама па сабе. Спробы давесці яе да аўтаматызму ёсць, згадаем хоць бы Джані Радары з мануалам па напісанні казак.

Спробы ёсць, а плён сумнеўны. Якім чынам Таня захоўвае натуральнае гучанне – таямніца, але як працуе дзіцячы погляд на свет, патлумачыць магчыма.

Па-першае, ён пазбаўлены аўтаматычна зададзеных алгарытмаў мыслення. У такіх умовах паэт, як і дзіця, можа задаваць нечаканае пытанне, у якім тоіцца новы ракурс рэчаіснасці.

Па-другое, аўтаматычнае мысленне цягне за сабой аўтаматычны слоўнік. Гэта смерць паэзіі. Таня ў кожным тэксце нечаканая. Не эксцэнтрычная, не экстравагантная, не эпатажная, а нечаканая натуральна; ейны свет зразумелы і знаёмы – але раскрываецца па-новаму.

Свежы ракурс, свежыя словы разам складаюць “па-трэцяе”: магчымасць убачыць свет як ён ёсць, а не другасныя карціны, ланцуг паўтарэнняў і самаўзнаўленняў. У нейкім сэнсе гэта спроба вярнуць страчаны рай (тут згадваецца вокладка “Райцэнтра”).

Вялікі фрагмент пра паэзію Тані Скарынкінай неабходны для разумення празаічнага “Райцэнтра”. Я б сказала, што эсэ, фармальна звязаныя са Смаргонню, патрэбныя не для таго, каб занатаваць мястэчковую гісторыю. Гэта шэраг прыкладаў, для якіх Таня шукае агульны знамянальнік, каб зафіксаваць заканамернасці жыцця.

Альгерд Бахарэвіч пісаў у анатацыі да “Райцэнтра”, што гэта “спроба ўратаваць знакі часу ад знікнення ў хаосе сучаснасці”. Такая фармулёўка адпавядае паверхневай задачы кнігі – напісаць пра Смаргонь і людзей. Калі падняцца да таго, што завецца Звышідэяй, фармулёўка рэдукуецца да “спробы занатаваць знакі ў хаосе”. Знайсці істотнае ў сотнях паўтарэнняў – гэта таксама паэзія.

Нават героі Скарынкінай, як у камедыі дэль артэ, нягледзячы на сваю “дакументальнасць” носяць маскі: Фантазёр, Касманаўт, Паэт, Жанчына, Ахвяра і г.д. Яна метадычна збірае пацверджанні заканамернасці, і чым больш прыкладаў, тым больш упарадкаваны свет (як ні дзіўна – дзякуючы “наіўнаму” на яго погляду).

Можна было б упікнуць аўтара ў штучнасці такой светабудовы, але, магчыма, акурат таму Таня звяртаецца да рэальнасці і выпісвае сапраўдных людзей. Упарадкаваць мастацкі свет – адно; упарадкаваць праз мастацтва рэчаіснасць – іншае.

Без сумневаў магу сказаць, што “Райцэнтр” – зусім не краязнаўчая літаратура. Ён нават не пра Смаргонь. Што цікава, адзін крытык у размове пра кнігу заўважыў, што хоць ён добра ведае гэты горад, Смаргоні ў кнізе так і не ўбачыў. А яе там і не мусіць быць.

Наўпрост пра нейкую Звышідэю Таня, канечне, не піша, яна проста расказвае гісторыі. Але ёсць пара эсэ, у якіх вушы ідэі вытыркаюцца. Гэта “Жыццё і

смерць кузурак" і "Касманаўты ў горадзе". Тут Таня апісвае свой літаратурны метад і фармулюе сваё разуменне Быцця (зноў жа, не наўпрост, апасродкавана, праз хаатычныя быццам бы назіранні; увогуле эсэ Скарынкінай нагадваюць танец, які *здаецца* імправізацыяй). "Блистательное сочетание маловыразительных частностей" – цытуе яна лекцыю Набокава пра гогалеўскага "Рэвізора", і гэтае ж азначэнне пасуе датычна сутнасці літаратуры, якую цалкам прыняла Таня.

### Сяргей Календа. "Акварыум"




Апошняя кніга Сяргея Календы наводзіць на думку пра мёртвага каня, з якога прыспеў час злезці: на жаль, нічога новага "Акварыум" не дадае – ні беларускай літаратуры ўвогуле, ні мастацкаму досведу самога Календы.

Нам кажуць, што "«Акварыум» завяршае трылогію, пачатую кнігай «Падарожжа на край ложка» і падхопленую «Часам панкі паміраюць»". Я мяркую, вы пагодзіцеся з думкай, што завяршэнне – гэта не проста колькасны прыдатак, а выключна важная справа. Калі размова ідзе пра трылогію, заключная кніга мусіць закрываць сюжэтныя лініі і даводзіць развіццё ідэі да лагічнага завяршэння; або знаходзіць удалую пастаноўку пытання, калі аўтар не мае адказу, а пісанне – сродак пошуку. Калі ёсць скразны герой, у яго мусіць быць выразная дынаміка, няважна, адмоўная ці якая яшчэ; а калі дынамікі няма, то так і мусіць быць задумана, гэта паказальна-ідэйнае фіяска, а не фіяска тэхнічнага характару.

Як вы маглі зразумець, нічога з пералічанага ў "Акварыуме" няма. Гэта не развіццё, а паўтарэнне сказанага. Нейкай выразнай ідэі ці задачы Календа не ставіў перад сабой і раней. Агулам "Падарожжа на край ложка" апісвае сталенне ў адзіноце, трагедыю сям'і і як яе бачыць і перажывае падлетак; сітуацыя, у якой адсутнасць блізкасці з маці і спробы яе вярнуць аднолькава балючыя. Сын і маці, юнак і яго спробы зразумець сябе і жыць з пачуццямі, якія не кантралюеш.

"Часам панкі паміраюць" гучыць не так адчайна, тут менш пачуццяў і больш сталага ўсведамлення сябе ў свеце. З'яўляецца большая схематычнасць: калі пасля "Падарожжа" помніцца агульная эмацыйная афарбоўка, настрой, то "Панкі" пакідаюць у памяці больш выразныя адбіткі – ратаванне сабачкі (адказнасць), "стасункі" юнака і аўтамабіля (свабода), ці гісторыя пра тое, як хлопцы нас...алі на аўтобус (назавем гэта бунтам). Ідэйны цэнтр кнігі – юнак сталее. Хаос знаходзіць структуру. З гэтага пункту гледжання "трылогія" – літаратура сталення, фармавання асобы.

"Акварыум" гэтае ўражанне перакрэслівае і разбурае нават тую структуру, якую насуперак творчаму хаосу Календы спрабуе сабраць крытык. Выдавец перабольшана назваў аповесцю экспрэсіяністкія накіды, з якіх аўтар мог бы сабраць пры належных высілках апавяданне. Хаця трэба прызнаць, што аўтар анатацыі здольны бачыць праўду: ён кажа, што "аповесць – складзеная з фрагментаў гісторыі каханняў і любові двух герояў, якія не зусім рэальна і кожны па-свойму глядзяць на сваё жыццё і на сваіх жанчын", а ўрэшце "два героі павінны сустрэцца, каб скончыць падарожжа, для пачатку новага ва ўласным жыцці".

Аўтар задумваў спаралеленую гісторыю герояў, якія, мяркуючы па апісанні, мусілі кантраставаць, прайсці праз выпрабаванне і скончыць перанараджэннем. Ініцыяцыя – структурны элемент прозы, якому гадоў больш, чым уласна прозе. Форму ён можа набыць любую (ад рыбалкі з татам у дзіцячым апавяданні да пераадолення смерці ў якім-небудзь рамане). Але ў любым выглядзе гэта момант ключавы, з ім мяняецца герой і твор.

У “Акварыуме” такі страшны суд мусіў адбыцца ажно двойчы. У нас ёсць Жан і Ян, абое ў стасунках, абое на раздарожжы. Чым яны адрозніваюцца? Мушу сказаць, нічым. А можа, так было задумана, гэта адзін герой, падвоены з прыхаванай аўтарскай мэтай?

Не. Больш за тое, гэты герой адносна папярэдніх яму “Панкаў” дэградуе, вяртаецца ў стан эмацыйнай няспеласці “Падарожжа на край ложка”.

Калі б я мела на мэце любой цаной парадаваць аўтара, я б сказала, што гэты тэкст герметычны і патрабуе высілкаў, каб яго зразумець. Але я мяркую, што аўтар сам дакладна не ведаў, што хоча сказаць. Тэкст атрымаўся цьмяны і недапечаны. Болевай кропкі ў “аповесці” папросту не існуе (акрамя экстралітаратурнай – завершыць трылогію і як мага хутчэй выдаць кнігу: як той герой (ужо не згадаю, Жан ці Ян), які “спяшаецца жыць”, яго ствяральнік спяшаецца напісаць).

Калі я казала пра экспрэсіўнасць напачатку, гэта трэба разумець не як адзнаку стылю, а як азначэнне метаду. Календа не звяртае ўвагу на псіхалагічныя матывацыі, увогуле не вытлумачае героя, проста апісвае станы. Часта экспрэсіўнасць неабходная для стварэння сугестыі – уцягнуць чытача ў максімальнае суперажыванне герою і пагрузіць яго ў мастацкі свет. Каб дасягнуць гэтага, трэба працаваць з кожным словам удвая больш. Календа не асабліва гэтым пераймаецца. Назваць плынню свядомасці выпадковыя фрагменты таксама не выпадае.

Калі ж вярнуцца да абяцанага пераломнага моманту ў жыццях гэтых, дапусцім, розных хлопцаў, ніводзін з іх не змяняецца. Мусіў, канечне, але аўтар не паклапаціўся пра тое, каб пераканаўча гэта выявіць. Каб не быць галаслоўнай:

“А потым Жан сядзіць на кухні, раніца, п’е каву, спаў усяго пяць гадзін і яшчэ не да канца асэнсоўвае, што толькі вярнуўся не з сутачнай камандзіроўкі, што нарадзіўся зноў гэтай ноччу, і вось яно, яго новае, іншае жыццё. І гэтае асэнсаванне напаўняе ўвесь мінулы дзень такой неймавернай колькасцю эмоцый, што ён ператвараецца ў паралельную рэальнасць, і той дзень, дзе кожная гадзіна мела зусім іншы сэнс, да канца не будзе спасцігнуты, бо гэта немагчыма, можна толькі павярхоўна ўспрымаць гэты дзень як дзень, які існаваў паралельна з другім Быццём”.

Так апісваецца стан пасля паваротнай падзеі. Як бачыце, следу няма – ёсць толькі апісанне таго, як след мусіў выглядаць.

Можна падумаць, што Сяргей Календа хоча заняць літаратурную нішу *young adult*. У такім разе эмацыйнасць будзе плюсам – пры ўмове, што аўтар усё-такі прызнае, што тэкст гэта прадукт, і ў яго мусяць быць акрэсленыя форма і задача. Калі мэты стаць выбітным стылістам у аўтара няма, можна больш увагі надаць сюжэту. Але заставацца на той жа пазіцыі – фіксаваць перажыванні разгубленага юнака, які знаходзіцца на пераходным этапе ад крыўды на свет і ўразлівасці да сталага разумення сябе і свету, – знаходзіцца на гэтай пазіцыі далей не мае сэнсу. “Акварыум” паказаў, што тэма сябе вычарпала і пачалася аўтаэксплуатацыя.

### Сяргей Абламейка. “Каліноўскі і палітычнае нараджэнне нацыі”




Кніга адрасаваная тым, хто пагодзіцца з тэзай: “Вялікая загадка беларускай гісторыі — нараджэнне Беларусі як краіны”. З гэтай фразы кніга Абламейкі пачынаецца, ад яе аўтар адштурхоўваецца ўвесь час, даследуючы Беларусь і беларусаў у звязку менавіта з такімі самаазначэннямі.

Абламейка правёў працу з дакументальнымі першакрыніцамі і папярэднімі работамі калегаў. Ён паслядоўна даказвае, што панятак “Беларусь” не быў навязаны нам расейцамі і не яны нас назвалі беларусамі – наўзамен ліцвінаў (дыскусіі на гэтую тэму дасюль жывыя).

Звернемся да кнігі: "Нярэдка кажуць, што «беларусы» і «Беларусь» — не саманазвы народу і краіны. Гісторыя, аднак, сьведчыць пра адваротнае. Менавіта гэтую назву ў XIX стагодзьдзі выбралі самі віленскія і наогул заходнебеларускія ліцьвіны і русіны, калі вырашылі выразна адрозьніць сябе ад балцкага насельніцтва гістарычнай Літвы на падставе сваёй (або сваіх продкаў) «рускай» мовы. Калі б не распаўсюджанасьць польскай мовы сярод эліты тагачаснага грамадзтва — нашым нацыянальным назовам мог стаць этнонім і палітонім «ліцьвіны». Але для польскамоўных пачынальнікаў беларускай ідэі ў XIX стагодзьдзі слова «ліцьвін» (Litwin) было сынонімам сёньняшняга слова «літовец» (балт, lietuvis). Пачынальнікі адчувалі патрэбу самаідэнтыфікавацца, аддзяліць сябе ад балтаў. Таму выбар быў зроблены на карысьць «Беларусі» і «беларусаў»".

Аўтар прыводзіць звесткі, што ўжо праз паўстагодзьдзя пасля паўстання беларусамі назвалі сябе ў афіцыйным перапісе "практычна ўсе сяляне і пераважная большасьць шляхты і арыстакратаў Меншчыны", сярод якіх – Гутэн-Чапскія, Скірмунты, Радзівілы, Ваньковічы і інш.

Таксама Абламейка даводзіць, што Кастусь Каліноўскі не проста паўстанец, а першы палітык, які быў беларусам, так бы мовіць, мэтанакіравана і паслядоўна, і, адпаведна, пераследаваў інтарэсы беларускага народа. Усё гэта – у кантэксце рэлігійнай барацьбы (забарона ўніяцкай царквы), процістаяння з Польшчай, якая не ўяўляла колішнюю Літву асобнай дзяржавай, праслоўных нюансаў – Каліноўскі адмаўляў наяўнасць шляхты ў Беларусі (пры тым што прадстаўнікі найстарых і знатных родаў адыграюць немалую ролю ў стварэнні беларускай дзяржаўнасці).

Але ці з'яўляецца гэтая інфармацыя вялікім адкрыццём? Для мяне – не.

Я хачу сказаць, што патэнцыйны чытач кнігі Абламейкі – беларускамоўны адукаваны чытач з базавымі, прынамсі, ведамі гісторыі, – не будзе ўражаны сцверджаннем, што Каліноўскі – беларус, і што ён адыграў ключавую ролю ў здабыцці беларусамі незалежнасці.

На мой погляд, заслуга Абламейкі ў структурызацыі матэрыялу, які й так успрымаецца як штосьці даўно сцверджанае і прынятае. Магчыма, гісторыкі ўбачаць у гэтай працы наватарства; мне ж як неспецыялісту падаецца, што аксіёму выдаюць за тэорыю, якую трэба даказаць.

Так званым "ябацькам" (ці рускамірцам) кніга магла б прынесці карысць пры дзвюх неверагодных умовах: яны кнігу прачытаюць і будуць здольныя яе ўспрыняць.

Цікава было б дазнацца пра ўражанні палякаў ад гэтай кнігі. Абламейка асобнай лініяй праводзіць процістаянне Каліноўскага з варшаўскім начальствам. То ён, "прымяніўшы фізічную сілу, выкінуў з пакою камісара Цэнтральнага нацыянальнага камітэту ў Вільні Нэстара Дзюлерана". То піша, што "нам пад рондам польскім не заўсім было добра". Палякі таксама не адставалі: калі ўрад Каліноўскага самаабвесціўся незалежным ад Варшавы, заявілі: "у выпадку непакоры іх імёны будуць абвешчаныя ў друку — інакш кажучы, выдадзеныя царскім уладам". Узорнае сяброўства.

У кнізе шмат цікавых эпізодаў, якія, аднак, падаюцца канспектыўна. Магчыма, Абламейка спяшаўся скончыць працу, каб беларусы займелі дадатковыя аргументы ў спрэчках з ідэйнымі ворагамі. Але сухому пераліку фактаў і цытат не стае мастацкай апрацоўкі. Я не маю на ўвазе, што дакументальныя рэчы трэба разбаўляць выдумкай. Я маю на ўвазе, што факт можна разгарнуць як гісторыю, паўнавартасны раздзел. Гэта быў бы не дэкларацыйны нон-фікшн з мэтай давесці, што Каліноўскі палітык і беларус, але больш-менш развітая карціна часу.

Напрыклад, Абламейка піша, што ў 1858 годзе ў Вільні адбыўся першы з'езд беларускіх пісьменнікаў – сабраліся Адам Кіркор, Уладзіслаў Сыракомля, Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч, Арцём Вярыга-Дарэўскі, Вінцэсь Каратынскі і "некалькі іх

маладзейшых калегаў”. Што яны рабілі? “Пісьменьнікі абмеркавалі становішча беларускай мовы, культуры і літаратуры, а таксама склалі вялікі і амбітны плян асьветнай, выдавецкай і літаратурнай працы. На думку ўдзельнікаў сходу, менавіта літаратура на беларускай мове магла аб’яднаць народ, які належаў да розных станаў і розных веравызнаньняў”. На гэтым усё. А патэнцыял фрагмента вялікі.

Або гісторыя Зыгмунта Чаховіча, чальца першага ўраду Каліноўскага, які пабываў на катарзе, вярнуўся і стаў апекуном юнага Івана Луцкевіча – выхаваў беларусам цэлага Янку Купалу. Ці вось яшчэ: праз чатыры гады пасля забойства Каліноўскага ў Санкт-Пецярбургу ўзнікла аб’яднанне арыстакратычнай моладзі “Крывіцкі вязок” – паўсотні “князёў, графаў, сыноў камэргераў імпэратарскага двара і генэралаў”. Адзін з удзельнікаў, граф Суліма-Савіч-Заблоцкі, эміграваў і “блізка кантактаваў” з Джузэпэ Гарыбальдзі.

Шкада бачыць, як прападае фактура, спрэсаваная ў два абзацы. Натуральна, я не хачу, каб атрымалася яшчэ адна “Гасцініца Бельгія” – рэч мілая, але фантазійная. Як годны прыклад мне бачыцца іншая кніга свабодаўскай серыі – “Падарожжа ў БНР” Сяргея Шупы, дзе няма “адсябеціны”, але ёсць мастацкая падача матэрыялу. Якраз яна выглядае на нон-фікшн; работа Абламейкі – навуковая.

Яшчэ адзін прыклад – “Загадка XIV стагоддзя” Барбары Такман. Даследчыца ўзяла за прыклад гісторыю аднаго французскага роду і праз яе расказала пра лакальныя ўнутраныя канфлікты Францыі, чуму, стасункі з Англіяй, тую ж барацьбу за незалежнасць, эканамічную сітуацыю і г.д. Словам, гістарычная панарама на дакументальнай аснове з мастацкай падачай. Якраз такой кнігі нам бракуе.

Асабліва калі падумаць пра цяперашніх першакласнікаў, якія праз дзясятак гадоў пачнуць задавацца пытаннямі, чаму яны беларусы, а не ліцвіны, чаму Беларусь лічыць сябе працягам ВКЛ і ў чым нашыя “сакрэты дружбы” з палякамі і расейцамі. Ім спатрэбіцца такая кніга, ім спатрэбіцца праўдзівая, цэласная і, што не менш важна, – займальная гісторыя.

Анатоль Брусевіч



...следам за буднямі заўсёды мусіць прыйсці
блаславёны дзень сузірання зробленай працы...

# Паміж святлом «ON» і цемрай «OFF»

## *Рэцэнзія на кнігу Стаса Ільіна*

***Стас Ільін. "On – off". Мінск: "Галіяфы", 2021.***

Чатыры гады таму ў мінскіх "Галіяфах" выйшла дэбютная кніга колішняга гарадзенца, а цяпер жыхара сонечнай Філадэльфіі Стаса Ільіна "Ветровое стекло". Назву дала аднайменная, даволі нетрывіяльная аповесць у форме дзённікавых запісаў, якія вядзе галоўны герой – беларускі эмігрант, вымушаны воляй лёсу апынуцца за акіянам, каб стаць там дальнабойшчыкам і сачыць за зменлівым светам праз шкло кабіны свайго грузавіка...

Сёлета ў тым самым выдавецтве падрыхтавалі да друку чарговую порцыю прозы ад ужо творча ўзмужнелага беларуска-амерыканскага пісьменніка, якім сёння выглядае С. Ільін, аўтар новай цікавай кнігі "On – off". Пад яе вокладкай чытача гэтым разам чакае яшчэ большая разнастайнасць – і жанравая, і тэматычная, і вобразна-эстэтычная. На трохсот сарака чатырох старонках тэксту размясціліся аповесць "Будзень" (займае каля 70% ад усёй кнігі), а таксама тры апавяданні: "Off", "Аўтастоп"




і “SWIFT”. Мова твораў па-ранейшаму руская (нагадаем, што ёсць у С. Ільіна і некалькі беларускамоўных часопісных публікацый), аднак разлічаная кніга, з усяго відаць, на былых суайчыннікаў, бо прынамсі толькі ім не спатрэбіцца сягаць па дапамогу ў беларуска-рускі слоўнік падчас вандроўкі па нявыдуманых вербальных прасторах паміж святлом “on” і цемрай “off”: ужо з самых першых старонак аўтар дае знаць аб сваім паходжанні, аб тым духоўным (як і геаграфічным) цэнтры, ад якога неўзабаве пачнецца няблізкі шлях яго героя. І гэтым цэнтрам выступае менавіта Беларусь, увасобленая ў невялічкай вёсачцы бабы Рэні (тут будучаму вандроўніку яшчэ школьнікам давялося пасвіць каровы), ва ўтульнай, хатняй Гародні, у сталічным Мінску, дзе некалькі гадоў віравала студэнцкае жыццё героя. Гэты цэнтр, гэты дом, парог якога аднойчы давялося пераступіць, увасоблены таксама і ў роднай мове, да якой і С. Ільін, і яго герой напэўна яшчэ вернуцца, роўна як Адысей на сваю Ітаку... А пакуль яна, мова, як спакой, як радзіма, ім толькі сніцца, часам ажываючы ў свядомасці (падсвядомасці?) у форме ўнутранага маналога.

З беларуска-рускімі слоўнікамі нібыта разабраліся: некаму яны спатрэбяцца, а камусьці і не. Зрэшты, у пэўныя крыніцы прыйдзецца, магчыма, зазірнуць, паколькі не ўсе англа-амерыканізмы, якімі С. Ільін шчодра аздабляе свой мастацкі дыскурс, могуць з лёгкасцю ўспрымацца кожным чытачом. Як не кожны будзе здольны абысціся без дадатковай даведачнай літаратуры, бо на старонках “On – off” спарадычна з'яўляюцца назвы розных гуртоў, фільмаў, кніг, фірм, арт-аб'ектаў, імёны творцаў, пераважна музыкантаў, прычым многія з якіх вядомыя хіба што толькі ў даволі вузкіх колах сваіх прыхільнікаў. Усё гэта, канешне, крыху ўскладняе чытанне, але затое дае магчымасць знайсці яшчэ адзін нечаканы ракурс, з якога аўтар прапануе зірнуць на жыццё героя-апавядальніка, чый вобраз, несумненна, поўніцца рысамі ўласнай біяграфіі пісьменніка. Другая па ліку кніга, дарэчы, уяўляе сабой не працяг першай, а хутчэй наадварот, мае ўсе шансы паслужыць своеасаблівым разгорнутым уступам да “Ветравога шкла”, дзе ўсё грунтуецца на той самай аўтабіяграфічнай аснове. Разам яны дэманструюць ладны кавалак жыцця і героя, і самога аўтара. А жыццё, як вядома, у кожнага чалавека складаецца ў асноўным з будняў. Ды што там чалавек – сам Бог, ствараючы наш свет, шэсць дзён не пакладаў рук і закончыў толькі “да сёмага дня ўсе дзеі Свае, якія Ён учыняў” (Быццё, 2:3)! Як бачым, канцэпт “будзень” спрадвеку звязаны з ідэяй пэўнага творчага працэсу, аб чым і Біблія сведчыць, і аднайменная аповесць С. Ільіна з кнігі “On – off” не прамінае распавесці.

Будні свайго героя гарадзенска-філадэльфійскі пісьменнік аб'яднаў у адзін вялізны 23-фрагментны “Будзень”. Кожны чарговы фрагмент і ў прасторы, і ў часе аддаляе ад згаданага вышэй цэнтра: беларускае бесклапотнае сельска-анельскае дзяцінства паступова змяняецца неспакойным юнацтвам, школьныя гады ў Гародні – вучобай ў Мінскім дзяржаўным лінгвістычным універсітэце, студэнцкія клопаты – турботамі маладога гастарбайтара ў старой добрай Англіі, а ўрэшце працай на іншым беразе Атлантыкі – у далёкай Амерыцы... Мяркуючы па тым, што аповесць скончана ў лютым бягучага, 2021 года, а самы першы будзень адсылае чытача недзе ў сярэдзіну дзевяностых мінулага стагоддзя, то кожны з 23-х фрагментаў хутчэй за ўсё можа сімвалізаваць адзін умоўны год жыцця героя. У любым выпадку, з чарговым новым фрагментам адбываецца не толькі яго “аддаленне”, але і заўважнае сталенне, трансфармацыя з апантанага прыгодамі хлапчука ў спакойнага, разважлівага мужчыну, які ведае сапраўдную цану і сабе, і іншым людзям, што апынуліся побач у аналагічнай крутаверці будзённасці.

Следам за буднямі заўсёды мусіць прыйсці блаславёны дзень сузірання зробленай працы. Але ў кнізе С. Ільіна замест гэтага прыходзіць “Off” – апавяданне, якое адразу ўзнікае перад вачыма па завяршэнні аповесці “Будзень”. І гаворка ў ім зусім не пра свята (ад слова “святое”), што па логіцы нібыта павінна адбыцца. Бо не забывайма: пісьменнік сутыкае нас з іншай зусім цывілізацыяй. Светасузіранне амерыканцаў, як высвятляецца, зусім не падобнае ні да заходнееўрапейскага, ні тым больш да беларускага. Толькі тут існуе выраз “day off” (дзень у адключцы), трапна характарызуючы менталітэт сярэднестатыстычнага жыхара Злучаных Штатаў, якому зусім не абавязкова духоўна перажываць, пераасэнсоўваць пройдзены этап працоўных будняў: дастаткова проста адключыцца. Быццам чалавек – нейкі прыбор ці робат. С. Ільін прыдумвае гэтай з’яве сваю цікавую метафару, параўноўваючы і амерыканцаў, і незлічоны легіён эмігрантаў з іншых краін з *“вечнымі лялькамі, якія прадалі душу Мефістофелю сучаснасці – грознаму сівабародаму, ці то вандроўнаму цыркачу, ці то чарадзею дзядзьку Сэму”*. Менавіта ён, дзядзька Сэм (персаніфікаваны вобраз ЗША), калі стамляецца *“тузаць за нябачныя ніткі, то тады бярэцца рукамі за вялізны рубільнік у падсобцы свайго тэатра, пераводзіць яго з рэжыму ON адпаведна ў OFF, і ўсе лялькі імгненна валяцца на падлогу”*... Апавяданне “Off”, такім чынам, служыць своеасаблівай філасофскай асновай для ўсёй кнігі, тлумачыць асноўныя законы, паводле якіх круцяцца жорны гэтага жорсткага свету і насуперак якім герою ўсё яшчэ ўдаецца заставацца ў гармоніі з самім сабой. Нездарма словы анатацыі да “On – off” былі ўзяты акурат з гэтага твору.

Прыгодніцкае апавяданне “Аўтастоп”, якое ў кнізе ідзе адразу за медытатыўным “Off”, яшчэ ў 2013 годзе надрукаваў альманах “Новы замак”. Дакладней, гэта быў адзін з варыянтаў аповеду, дарэчы, беларускамоўны. Працу ж над абноўленым “Аўтастопам”, як сведчыць надпіс на апошняй старонцы тэксту, аўтар завяршыў у красавіку 2014 года. Але, па-сутнасці, ні якіх асаблівых змен не адбылося, проста трошкі падправіліся, падшліфаваліся асобныя вобразы, каб выглядаць гарманічна на агульным мастацка-выяўленчым фоне кнігі. Так ці інакш, але ў выніку атрымалася сапраўды займальная гісторыя, змешчаная ў цесныя рамкі содняў, аднак да краёў напоўненая яркімі эмоцыямі героя – беларускага студэнта, які ўпершыню апынаецца далёка ад дома, на мяжы Англіі і Уэльса, дзе зарабляе грошы на зборы клубніц, а неяк у адзін з вольных ад працы дзён вырашае падацца з сябрамі ў горад Кардыф, але так, каб яшчэ і не патраціцца асабліва на гэтае “вар’яцкае падарожжа”...

Завяршаецца “On – off” апавяданнем “Swift”, сюжэт якога ўзнаўляе часы навучання галоўнага героя С. Ільіна ў школе для дальнабойшчыкаў аднайменнай амерыканскай кампаніі па грузаперавозках. Аўтар нібыта перакідвае своеасаблівы масток, якім звязвае новую кнігу з папярэдняй, аднак на хаду расшырае сэнсавыя межы твора, не жадаючы, напэўна, каб дадзены аповед ператварыўся проста ў “транзітны” тэкст. Таму і пачынаецца апавяданне як артыкул у тлумачальным слоўніку, прапануючы найперш пазнаёміцца з асноўнымі значэннямі англійскага слова “Swift”, а таксама з арыгінальнай аўтарскай расшыфроўкай абрэвіятуры СВИФТ: Самое Время Изменить Фортуны Течение. Як бачым, атрымаўся вельмі трапны, яскравы вобраз, які раскрывае не толькі псіхалогію героя, яго жаданне і адвагу крочыць насуперак плыні лёсу, але і жыццёвую філасофію самога пісьменніка: *Fortes fortuna adiuvat*, – так мовілі старажытныя рымляне.

Што ж, няхай і далей слаўная багіня лёсу і ўдачы не пакідае Стаса Ільіна! Пажадаем таксама аўтару, каб яго мастацкае натхненне яшчэ доўга заставалася ў рэжыме “on”, а ўсе спосабы заглыблення ў экзістэнцыю “off” насілі выключна творчы характар.

# Нашыя аўтары

**Брусевіч Анатоль** — паэт. Аўтар кніг паэзіі «Дуэль», «Падаю ў неба», «Апошні дзень», «Крылы», манаграфіі «Фактары беларускай культуры ў творчасці Адама Міцкевіча». Лаўрэат прэміі «Залаты Апостраф» (2017). Нарадзіўся ў 1977 годзе ў Гародні, дзе і жыве.

**Булавацкі Міхась** – празаік, паэт, перакладчык. Заснавальнік магілёўскай філіі аб'яднання «Мартыралог Беларусі», кіраўнік магілёўскай суполкі Беларускага ПЭН-цэнтру. З пачатку 90-х займаецца літаратурнай дзейнасцю, піша вершы, перакладае з рускай (у 1999 г. выйшла кніга У. Высоцкага «Я не падману» ў перакладзе М. Булавацкага). Аўтар шэрагу падручнікаў па матэматыцы і трыганаметрыі. Нарадзіўся ў 1947 годзе ў вёсцы Восы на Глушчыне. Жыве ў Магілёве.

**Глобус Адам (Адамчык Уладзімір)** — празаік, паэт, эсэіст, мастак, выдавец. Аўтар кніг паэзіі «Парк», «Скрыжаванне», кніг прозы «Адзінота на стадыёне», «Дамавікамерон», «Толькі не гавары маёй маме», «Post scriptum», «Браслаўская стыгмата», «Сшыткі», «Дом», «сУчаснікі» і інш. Нарадзіўся ў 1958 годзе ў Дзяржынску. Жыве ў Мінску.

**Грышчук Наста** – літаратурны крытык, журналістка. Скончыла Інстытут журналістыкі БДУ. Была загадчыцай аддзела крытыкі газеты «Літаратура і мастацтва», звольнілася праз цэнзурныя абмежаванні ў працы. З 2017 года – ліккрытык на фрылансе. Тэксты друкаваліся на «Радыё Свабода», у «Беларусском Журнале», на партале «Будзьма беларусамі», сайце Саюза беларускіх пісьменнікаў і інш. Нарадзілася ў 1991 годзе ў Лепелі. Жыве ў Мінску.

**Дранько-Майсюк Леанід** – паэт, празаік, эсэіст, перакладчык. Аўтар кніг «Вандроўнік», «Тут», «Над пляцам», «Акропаль», «Стомленасць Парыжам», «Гаспода», «Цацачная крама», «Анёлак і я», «Кніга для спадарыні Эл», «...Натуральны, як лінія небасхілу», «...Усе бачылі нястачу віна...», «Кветкавы край Беларусі (разам з А. Клешчуком), «Скарб» і інш. Лаўрэат прэміі «Залаты Апостраф» (2005). Нарадзіўся ў 1957 годзе ў Давыд-Гарадку. Жыве ў Мінску.

**Дубоўскі Валеры** – паэт, выдавец. Працаваў журналістам, кіраўніком у розных беларускіх перыядычных выданнях, дырэктарам выдавецтва «Беларусь». Аўтар кнігі вершаў «На пачатку маўчання». Нарадзіўся ў 1948 годзе ў вёсцы Хацькова на Шклоўшчыне. Жыве ў Мінску.

**Жуковіч Васіль** — паэт, празаік, перакладчык, крытык. Аўтар кніг «Паклон», «Мелодыя святла», «Як адна вясна...», «Твая місія», «Разняволенне», «У храме хараства і смутку», «Арабінавая ноч» і інш. Нарадзіўся ў 1939 годзе на хутары Забалацце на Камянеччыне. Жыве ў Мінску.

**Казакевіч Вечаслаў** – празаік, паэт. З 1993 года жыве ў Японіі. Прафесар славістыкі. Аўтар кніг вершаў «Праздник в провинции», «Кто назовет меня братом?», «Лунат», «Ползи, улитка!», «Жизнь и приключения беглеца», «Сердце-корабль», «Из вихря и луны», кніг прозы «Прославление заката», «Охота на майских жуков», «За мной придет Единорог» і інш. Нарадзіўся ў 1951 годзе ў пасёлку Бялынічы Магілёўскай вобласці. Жыве ў Таяме (Японія).

**Казько Віктар** – празаік, публіцыст, кінасцэнарыст. Аўтар кніг прозы «Добры дзень і бывай», «Суд у Слабадзе», «Высакосны год», «Цвіце на Палессі груша», «Выратуй і памілуй нас, Чорны бусел», «Неруш», «Дзікае паляванне ліхалецця» і інш. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1982), прэміі «Залаты Апостраф» (2013), прэміі імя Ежы Гедройца (2014). Нарадзіўся ў 1940 годзе ў Калінкавічах на Гомельшчыне. Жыве ў Мінску.

**Лазебная Анастасія** — празаік, паэтка, публіцыст. Творы друкаваліся ў абласным і рэспубліканскім друку. Аўтарка зборніка апавяданняў «Настальгія», кніг прозы «Камп'ютарны путанчык», «Пырскі» кнігі вершаў «Ты зразумей мяне такую...», твораў для дзяцей, сярод якіх казка «Неверагодныя здарэнні на неверагоднай планеце». Нарадзілася ў 1952 годзе ў вёсцы Куляшы Маладзечанскага раёна Мінскай вобласці.

**Лойка (Галубовіч) Вера** – празаік, перакладчыца. Скончыла Мінскі фінансава-

эканамічны тэхнікум. Працавала на «Беларусьфільме», Беларускім радыё. Вучылася ў Літаратурным інстытуце імя Горкага ў Маскве. Апавяданні друкаваліся ў газеце «ЛіМ», часопісах «Наша вера» і «Дзеяслоў». Аўтарка кнігі прозы «Апошні першы снег». Нарадзілася ў 1958 годзе ў вёсцы Батурынка на Міншчыне. Жыве ў Мінску.

**Някляеў Уладзімір** – паэт, празаік, эсэіст. Аўтар кніг паэзіі «Адкрыццё», «Вынаходцы вятроў», «Наскрозь», «Прошча», «Так», «Лісты да Волі», «Знічы кахання» і інш., прозы «Цэнтр Еўропы», «Аўтамат з газіроўкай з сіропам і без» і інш. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Янкі Купалы (2000), прэміі «Залаты Апостраф» (2008), прэміі імя Ежы Гедройца (2013), прэміі імя Наталлі Арсенневай (2017) і інш. Нарадзіўся ў 1946 годзе ў Смаргоні на Гарадзеншчыне. Жыве ў Мінску.

**Нячай Аліна** – перакладчыца. Студэнтка 3 курса факультэта англійскай мовы МДЛУ. Дыпламантка шэрагу гістарычных і краязнаўчых конкурсаў ды канферэнцыяў. Нарадзілася ў 2002 годзе ў г.п. Мір на Гарадзеншчыне. Жыве ў Мінску.

**О. Генры** (сапр. імя **Уільям Сідні Портэр**) – амерыканскі пісьменнік, празаік, аўтар папулярных навелаў, якія характарызуюцца тонкім гумарам і нечаканымі развязкамі. Нарадзіўся ў 1862 годзе ў Грынбара (Паўночная Караліна). Памёр у 1910 годзе ў Нью-Ёрку.

**Пятровіч (Сачанка) Барыс** — празаік. Аўтар кніг «Ловы», «Сон між пачвар», «Фрэскі», «Шчасьце быць», «Жыць не страшна», «Піліпікі», «Плошча», «Спакушэнне», «Спачатку была цемра», «Пуціна», «Ідзі адзін», «...Роўна і трошкі ўправа» ды інш. Нарадзіўся ў 1959 годзе ў вёсцы Вялікі Бор на Хойніччыне. Жыве ў Мінску.

**Равяка Яніна** – паэтка. Навучэнка Еўрапейскага гуманітарнага ўніверсітэта (спецыяльнасць «Медыя»). Дагэтуль год вучылася ў Карлавым універсітэце ў Празе. Нарадзілася ў 2001 годзе ў Мінску. Жыве ў Вільні.

**Слінка Віктар** — паэт. Аўтар кніг паэзіі «Апошні снег», «Штольні вясны», «Арахна». Лаўрэат прэмій «Гліняны Вялес» (2001), «Залаты Апостраф» (2005). Нарадзіўся ў 1972 годзе ў вёсцы Козікі на Берасцейшчыне. Жыве ў Мінску.

**Смякаева Кацярына** – перакладчыца. Студэнтка 2 курса факультэта англійскай мовы МДЛУ. Нарадзілася ў 2003 у годзе ў Бярозе на Берасцейшчыне. Жыве ў Мінску.

**Чыгрын Сяргей** — паэт, перакладчык, журналіст, краязнаўца. Аўтар кніг паэзіі «Шчырая Шчара», «Горад без цябе», «Камень Міндоўга» і інш., зборнікаў публіцыстыкі «Пакліканыя на родны парог», «Беларуская Беласточчына», «Тэатр у Слоніме». Аўтар шматлікіх артыкулаў з даследаваннямі жыццёвага і творчага шляху Я. Стаброўскага, Т. Лебяды, С. Хмары, Я. Пятроўскага, Г. Леўчыка і інш. дзеячаў беларускай літаратуры, гісторыі і культуры. Нарадзіўся ў 1958 годзе ў вёсцы Хадзявічы на Слонімшчыне. Жыве ў Слоніме.

# Contents

***POETRY***

**Uładzimir Niaklajeŭ.** Litwins. *A dramatic poem in two acts.*
**Vasil Žukovič.** Memento mori. *Poems.*
**Valery Duboŭski.** Čoŭ. *Poems.*
**Viktar Slinka.** ...Where the Heart and the Clock Stops. *Poems.*

***PROSE***

**Viktar Kaźko.** Not Food for Talent, but Sustenance. *A story.*
**Barys Piatrovič.** A Mutiny on Board the Ship Going from Nowhere to Nowhere. *From the selection "Speckar".*
**Adam Hłobus**. As he said, or The Faces of Proverbs.
**Mikhaś Bulavacki.** Seven Years. *A short story. (Continuation).*

***DEBUT***

**Janina Raviaka.** Non-Strikethrough Lines. *Poems*

***TRANSLATIONS***

**O. Henry.** While the Auto Waits. *Two short stories. Translated by Kaciaryna Smiakajeva and Alina Niačaj.*
**Večaslaŭ Kazakievič.** A Thread. *Two short stories. Translated by Vera Łojka.*

***THEATRE***

**Anastasija Łaziebnaja.** A Milliner from Paris. *A play in three acts.*

***NOTES***

**Leanid Drańko-Majsiuk.** Pages from the "Memory Book".

***WORDS***

**Siarhiej Čyhryn.** "One Must Not Let Their Soul Sleep..." *A talk to Mikhaś Kazłoŭski.*

***GEDROYC***

**Nasta Hryščuk.** Not a Short Text About the Gedroyc Short List: Notes By a Member of the Jury.

***BOOKRONCLE***

**Anatol Brusievič.** Between the Light «ON» and the Darkness «OFF». *A review to the book by Stas Ilyin "On – off".*

## Слова ад «Дзеяслова»

***Шаноўныя чытачы!***

На «Дзеяслоў» ***можна падпісацца***
ў любым паштовым аддзяленні Беларусі.

**Наш індэкс – 74813** (для індывідуальных падпісчыкаў),
**– 748132** (для ведамаснай падпіскі).

Чытайце «Дзеяслоў» таксама ў Інтэрнэце: **www.dziejaslou.by**




Да ведама аўтараў:
рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Рэдакцыя не нясе адказнасці
за выкладзеныя ў аўтарскіх тэкстах факты.

Пры перадруку
спасылка на «Дзеяслоў» абавязковая.

У «Дзеяслове» скарыстаныя фотаздымкі:
Анатоля Клешчука, Яўгена Коктыша, Уладзіміра Крука, Джона Кунстадтэра,
Сяргея Шапрана, з інтэрнэт-крыніцаў і архіва рэдакцыі.